Беларуская літаратура на вышыні, гэта лёгка бачна праз тэксты, якія мы цяпер ужо рэгулярна атрымліваем на скрыню. Нават болей: на Беларусі шмат пішуць, і ня толькі паэзію. Не, не зусім так, тут варта адзначыць, што літаратура, якая ствараецца маладым, сучасным пакаленьнем – дзёрзкая, свавольная, няхай месцамі сырая, але моцная, ганарлівая, амбітная. Літаратура, якая ідзе наперад і спрабуе не саступаць ніякім абставінам. І яшчэ: акрамя літаратуры, існуе цэлая гіерархія, цэлы сьвет выяўленчага мастацтва, які нібыта хаваецца, які наўмысна сышоў у маргінэз, сьвет, які добра пачуваецца ў цені. І тое, што ствараецца, што эвалюцыянуе ў галіне суплёту літаратуры й візіі – шчырае, экспэрымэнтальнае, эстэтычна прыгожае, хоць часам і належыць да "эстэтыкі пачварнага". Усё гэта нас вельмі хвалюе, таму мы зь вялікім імпэтам і любоўю да творчасьці, ня спаўшы, ня еўшы, ня ведаючы адпачынку, стварылі новы нумар Макулатуры!

У трэці нумар часопіса беларускае прозы Макулатура, сымбалічна названы "Без галавы", увайшлі як вядомыя беларускія пісьменьнікі – Уладзіслаў Ахроменка, Аляксей Талстоў і Сяргей Балахонаў, так і пісьменьнікі, якія былі залеглі на дно і ня друкаваліся колькі год – Югася Каляда. Таксама часопіс на сваіх старонках зьмясьціў шмат новых, цікавых аўтараў – Марк Давыдаў, Зміцер Жызнеўскі, Андрэй Пакроўскі. Макулатура амаль удвая пашырыла штат мастакоў, цяпер ілюстрацый нашмат болей, і гэта акурат пасуе для тых, хто зьвяртае ўвагу перадусім на выяўленчае мастацтва. Плюс аматарам перакладной літаратуры: часопіс пачаў друкаваць (упершыню!) раман Чарльза Букоўскі "Макулатура" ды працягвае – раман Іена Бэнкса "Асіная Фабрыка" (у гэтым нумары разьмешчаны часткі 4, 5 і 6). А яшчэ ў "безгаловым" нумары ёсьць неверагоднае "жывёльнае" апавяданьне Чарльза Джонсана "Ўсё пад кантролем" і шмат іншага, што варта чытаць, з чым варта знаёміцца.

*Сяргей Календа*
*Галоўны рэдактар*

# ЗЬМЕСТ

## Чарльз Букоўскі

# МАКУЛАТУРА

*Дрэннай літаратуры прысьвячаецца*

1

Я сядзеў у сваім габінэце, арэнда скончылася, і Маккелві ўжо пачаў працэдуру высяленьня. Стаяла пякельная гарачыня, кандыцыянэр не працаваў. Па маім стале паўзла муха. Я працягнуў руку й далоньню выключыў яе з гульні. Выцер руку аб калашыну, і тут зазваніў тэлефон. Я ўзяў слухаўку.

– Так?

– Сэліна чыталі? – спытаў жаночы голас.

Ён гучаў пачуцьцёва. У мяне даўно нікога не было. Гады.

– Сэлін, – сказаў я. – Хм-м.

– Я шукаю Сэліна, – сказала яна. – Ён мне патрэбен.

Такі пачуцьцёвы голас, мяне прама дрэнчыла.

– Сэлін? – сказаў я. – Дайце мне якія-небудзь зьвесткі. Пагаварыце са мной, лэдзі. Не маўчыце...

– Зашпіліцеся, – сказала яна.

Я паглядзеў на штаны.

– Як вы даведаліся? – спытаў я.
– Ня мае значэньня. Мне патрэбен Сэлін.
– Ён памёр.
– Неа. Знайдзіце яго. Ён мне патрэбен.
– А калі я знайду толькі косьці?
– Не, дурань, ён жывы!
– Дзе?
– У Галівудзе. Я чула, што ён круціцца каля кнігарні Рэда Калдоўскі.
– Дык чаму вы самі яго ня знойдзеце?
– Па-першае, я павінна быць упэўненая, што гэта насамрэч Сэлін. Я павінна ведаць гэта дакладна.
– Але чаму вы зьвярнуліся да мяне? У горадзе сотні дэтэктываў.
– Вас рэкамэндаваў Джон Бартан.
– А-а, Бартан, ну так. Паслухайце. Мне б які-небудзь аванс. І трэба сустрэцца з вамі асабіста.
– Буду ў вас праз некалькі хвілін, – сказала яна.
Яна павесіла слухаўку. Я зашпіліў прарэх. І чакаў.

2

Яна ўвайшла.
То бок, я хачу сказаць – так проста нячэсна. Сукенка абцягвала яе так, што ледзь ня лопалася па швах. Перабірае з чакалядкамі. А абцасы такія высокія, што змахваюць на хадулі. Яна ішла, як п’яны калека, клыпала па пакоі. Галавакружная раскоша цела.
– Сядайце, лэдзі, – сказаў я.
Яна села й закінула нагу на нагу, чорт ведае куды, ледзь ня выбіла мне вока.
– Прыемна бачыць вас, лэдзі, – сказаў я.
– Калі ласка, перастаньце тарашчыцца. Нічога новага для сябе вы ня ўбачыце.
– Тут вы памыляецеся, лэдзі. Можна даведацца вашае імя?
– Лэдзі Сьмерць.
– Лэдзі Сьмерць? Вы з цырку? З кіно?
– Не.
– Месца нараджэньня?
– Гэта неістотна.
– Год нараджэньня?
– Не спрабуйце кпіць...
– Проста хачу атрымаць якія-небудзь зьвесткі...
Я неяк асалапеў, стаў глядзець ёй на ногі. Ногі для мяне – перадусім. Гэта першае, што я ўбачыў, калі нарадзіўся. Але тады я спрабаваў вылезьці. З тых часоў я імкнуся ў адваротны бок, але безь вялікага посьпеху. Яна шчоўкнула пальцамі.
– Гэй, прачніцеся!
– Га? – я падняў вочы.
– Гаворка пра Сэліна. Памятаеце?
– Ну вядома.
Я разгінуў сашчэпку і краем паказаў на яе.
– Добра б чэк у аплату за паслугі.
– Вядома, – яна ўсьміхнулася. – Колькі вы бераце?
– Шэсьць даляраў у гадзіну.
Яна дастала чэкавую кніжку, штосьці надрапала там, вырвала чэк і кінула мне. Ён спланаваў на стол. Я падняў яго. Дзьвесьце сорак даляраў. Такіх грошай я ня бачыў з тых часоў, як адгадаў у экспрэсе ў Галівудскім парку ў 1988 годзе.
– Дзякуй, лэдзі...
– ...Сьмерць, – сказала яна.

– Так, – сказаў я. – А зараз трохі падрабязьней аб гэтым так званым Сэліне. Вы нешта казалі пра кніжную краму?

– Ён швэндаўся па краме Рэда, гартаў кніжкі... пытаўся пра Фолкнэра, пра Карсан Маккалерс, пра Чарльза Мэнсана...

– Швэндаецца па кніжнай краме? Хм...

– Так, – сказала яна, – вы ведаеце Рэда. Любіць выганяць людзей з крамы. Можаце выдаткавацьць там хоць тысячу даляраў, потым затрымаецеся на лішнюю хвіліну-другую, і Рэд скажа: “А ці не зваліць табе нафіг?” Рэд – добры чалавек, але з прыветам. Карацей кажучы, ён увесь час выкідае Сэліна. Сэлін ідзе ў бар Мусо й сядзіць там сумны. Праз дзень-два прыходзіць зноў, і ўсё паўтараецца.

– Сэлін памёр. Сэлін і Хэмінгуэй памерлі трыццаць два гады таму. Адзін, і праз дзень – другі.

– Я ведаю пра Хэмінгуэя. Хэмінгуэй у мяне.

– Вы ўпэўненая, што гэта Хэмінгуэй?

– О, так.

– Дык чаму вы ня ўпэўненая, што Сэлін – напраўду Сэлін?

– Ня ведаю. Якісьці ў мяне зь ім затор. Ніколі такога не было. Можа, я занадта доўга ў гэтым бізнэсе. І вось прыйшла да вас. Бартан вас хваліць.

– І вы мяркуеце, што сапраўдны Сэлін жывы? Ён вам патрэбен?

– Жахліва, малыш.

– Білейн. Нік Білейн.

– Добра. Білейн. Мне патрэбная пэўнасьць. Што гэта напраўду Сэлін, а ня нейкі недаробак. Занадта шмат іх разьвялося.

– Ці ня мне гэта ведаць.

– Дык прыступайце. Мне патрэбны лепшы пісьменьнік Францыі. Я доўга чакала.

Яна ўстала й выйшла прэч. Ніколі ў жыцьці я ня бачыў такога заду. Не паддаецца апісаньню. Не паддаецца нічому. Не перашкаджайце мне зараз. Я хачу аб ім падумаць.

### 3

На другі дзень я адмяніў свой выступ перад Гандлёвай палатай у Палм-Спрынгс.

Ішоў дождж. Столь працякала. Дождж крапаў скрозь столь – ПЛЯМ, ПЛЯМ, ПЛЯМ, І ПЛЯМ, І ПЛЯМ, ПЛЯМ, ПЛЯМ, ПЛЯМ, І ПЛЯМ, І ПЛЯМ, ПЛЯМ, і ПЛЯМ, і ПЛЯМ, і ПЛЯМ, ПЛЯМ, ПЛЯМ, ПЛЯМ...

Я саграваўся з дапамогай сакэ. Але як саграваўся? Да нуля градусаў. Вось мне 55 гадоў, а ў мяне няма гаршка, каб падставіць пад кроплі. Бацька папярэджваў мяне: скончыш тым, што будзеш спускаць у кулак на чым-небудзь чужым ганку ў Арканзасе. Ну, час яшчэ ёсьць. Аўтобусы туды адпраўляюцца кожны дзень. Толькі ў мяне ад іх запор, і там заўсёды храпе які-небудзь смуроднік са сьмярдзючай барадой. Мабыць, лепш заняцца справай Сэліна.

Сэлін – гэта Сэлін ці хто-небудзь яшчэ? Часам мне здавалася, што я ня ведаю нават, хто я такі. Добра, я Нікі Білейн. Але гэта не дакладна. Хто-небудзь крыкне: “Гэй, Гары! Гары Мартэл!” І я, хутчэй за ўсё, адгукнуся: “Так, у чым справа?” У сэньсе – я магу быць кім заўгодна, якая розьніца? Што ў імені табе маім?

Жыцьцё – дзіўная штука, праўда? У бэйсбольную каманду мяне заўсёды ўключалі апошнім – ведалі, што магу запуліць іх паршывы мяч к чортавай мацеры ў Дэнвэр. Зайздросныя тхары!

Я быў таленавіты, і цяпер таленавіты. Часам я глядзеў на свае рукі й бачыў, што мог стаць вялікім піяністам ці яшчэ кім-небудзь. І чым жа займаліся мае рукі? Чухалі яйцы, выпісвалі чэкі, завязвалі шнуркі, спускалі ваду ва ўнітазе й г. д. Прашляпіў я свае рукі. І мазгі.

Я сядзеў пад дажджом.

Зазваніў тэлефон. Я выцер яго насуха пратэрмінаваным паведамленьнем з Падатковага ўпраўленьня, падняў слухаўку.

– Нік Білейн, – сказаў я. Ці я Гары Мартэл?

– Гэта Джон Бартан, – раздалося ў слухаўцы.

– Так, вы мяне рэкамэндавалі, дзякуй.

– Я назіраў за вамі. У вас ёсьць талент. Трохі неадшліфаваны, але ў гэтым яго хараство.

– Прыемна чуць. Справы йдуць дрэнна.

– Я назіраў за вамі. Усё наладзіцца, трэба толькі пацярпець.

– Так. Чым магу служыць, містар Бартан?

– Я спрабую знайсьці Чырвонага Вераб’я.

– Чырвонага Вераб’я? Што яшчэ за птушка?

– Я ўпэўнены, што ён існуе. Проста трэба яго знайсьці, я хачу, каб вы яго знайшлі.

– Нітачкі якія-небудзь ёсьць?

– Не, няма, але я ўпэўнены, што Чырвоны Варабей дзесьці там.

– У гэтага Вераб’я ёсьць імя, ці як?

– У якім сэньсе?

– У сэньсе – імя. Ну, Генры або Абнэр. Або Сэлін?

– Не, гэта проста Чырвоны Варабей, і я не сумняваюся, што вы можаце яго знайсьці. Я ў вас веру.

– Гэта будзе каштаваць вам, містар Бартан.

– Калі знойдзеце Чырвонага Вераб’я, я буду плаціць вам сто даляраў у месяц да канца жыцьця.

– Хм-м... Слухайце, а можа, дасьцё ўсё наперад – авансам?

– Не, Нік, вы спусьціце іх на скачках.

– Добра, містар Бартан, дайце мне ваш нумар тэлефона, і я гэтым займуся.

Бартан даў мне нумар тэлефона й сказаў:

– Я вельмі на вас спадзяюся, Білейн.

І павесіў слухаўку.

Так, справы пайшлі на лад. Але столь працякала яшчэ мацней. Я строс зь сябе некалькі кропель, умазаў сакэ, скруціў цыгарэтку, запаліў, удыхнуў і закашляўся ад дыму. Потым надзеў свой карычневы кацялок, уключыў аўтаадказчык, павольна падышоў да дзьвярэй, адкрыў іх... Там стаяў Маккелві. У яго былі шырачэнныя грудзі й плечы, нібы падбітыя ватай.

– Твая арэнда скончылася, гніда! – раўкнуў ён. – Вымятайся адсюль нахер!

Тут я зьвярнуў увагу на ягонае бруха. Яно нагадвала мяккую гару гаўна, і мой кулак патануў у ёй. Маккелві сагнуўся напалову, я сустрэў ягоны твар каленам. Ён упаў, адкаціўся ў бок. Агіднае відовішча. Я падышоў, выцягнуў ягоны гаманец. Фотаздымкі дзяцей у парнаграфічных позах.

“Ці не забіць яго”, – падумаў я. Але замест гэтага ўзяў ягоную крэдытную картку “Залатая Віза”, штурхнуў яго ў зад і спусьціўся на ліфце.

Вырашыў пайсьці ў краму Рэда пешшу. Калі я на машыне, мяне вечна штрафуюць за няправільную паркоўку, а платныя стаянкі мне не па кішэні.

Я йшоў да Рэда ў прыгнечаным настроі. Чалавек нараджаецца, каб памерці. Што гэта значыць? Целяпаесься й чакаеш. Чакаеш маршруту А. Жнівеньскім вечарам чакаеш пару вялікіх грудзей у гасьцінічным нумары Лас-Вегаса. Чакаеш, калі загаворыць рыба. Калі сьвісьне рак. Снаўдаесься.

Рэд быў на месцы.

– Табе пашанцавала, – сказаў ён, – разьмінуўся з гэтым п’яніцай Чынаскі. Прыходзіў тут, выхваляўся сваёй новай сэрыяй марак.

– Гэта ладна, – сказаў я. – У цябе ёсьць падпісаны экзэмпляр “Калі я памірала” Фолкнэра?

– Вядома.

– Колькі каштуе?

– Дзьве тысячы васямсот даляраў.

– Я падумаю...

– Прашу прабачэньня, – сказаў Рэд.

Ён павярнуўся да чалавека, які перагортваў першае выданьне “Дамоў вяртаньня няма”:

– Калі ласка, пастаўце кнігу ў шафу й выбірайцеся да ліхаматары!

Гэта быў крохкі чалавечак, увесь сагнуты. І апрануты ў нейкі жоўты гумавы касьцюм.

Ён паставіў кнігу ў шафу і прайшоў міма нас да дзьвярэй; вочы ў яго былі на мокрым месцы. А дождж на вуліцы перастаў. Жоўты гумавы касцюм быў залішні.

Рэд паглядзеў на мяне.

– Можаш уявіць, некаторыя зь іх прыходзяць сюды, аблізваючы марозіва!

– Магу ўявіць сабе сёе-тое горшае.

Тут я заўважыў, што ў краме яшчэ хтосьці ёсьць. Ён стаяў у глыбіні. Я, здаецца, пазнаў яго па фатаграфіях. Сэлін. Сэлін?

Я павольна падышоў да яго. Зусім блізка. Ужо мог разглядзець, што ён чытае. Томас Ман. “Чароўная гара”.

Ён убачыў мяне.

– У гэтага хлопца праблема, – сказаў ён, падняўшы кнігу.

– Якая ж? – спытаў я.

– Ён лічыць нуду Мастацтвам.

Ён паставіў кнігу на паліцу і стаяў перада мной, падобны да Сэліна...

Я паглядзеў на яго.

– Гэта неверагодна, – сказаў я.

– Што?

– Я думаў, што вы памерлі, – сказаў я.

Ён паглядзеў на мяне.

– Я думаў, што вы таксама памерлі, – сказаў ён.

Мы стаялі й глядзелі адзін на аднаго.

Потым я пачуў Рэда.

– Гэй, ты! – зароў ён. – ВЫБІРАЙСЯ АДСЮЛЬ К ЧОРТАВАЙ МАЦЕРЫ!

Мы былі толькі ўдвох.

– Каму з нас выбірацца? – спытаў я.

– ТАМУ, ЯКІ ПАДОБНЫ ДА СЭЛІНА! ВЫБІРАЙСЯ АДСЮЛЬ К ЧОРТАВАЙ МАЦЕРЫ!

– Але чаму? – спытаў я.

– Я АДРАЗУ БАЧУ, КАЛІ ЯНЫ НЕ ЗЬБІРАЮЦЦА КУПЛЯЦЬ!

Сэлін, ці хто ён там, накіраваўся да выхаду. Я за ім.

Ён пайшоў у бок бульвара, спыніўся ля газэтнага кіёска.

Колькі памятаю, гэты кіёск стаяў там заўсёды. Я згадаў, як дваццаць ці трыццаць гадоў таму падчапіў там трох прастытутак. Я адвёў іх усіх да сябе дадому, і адна драчыла майму сабаку. Ім гэта здавалася пацешным. Яны былі п’яныя й пад наркатой. Потым адна прастытутка пайшла ў лазенку, звалілася там, разьбіла галаву аб край унітаза ды ўсё вакол заліла крывёю. Я падціраў за ёй вялікімі мокрымі рушнікамі. Потым уклаў яе ў ложак, пасядзеў з астатнімі, і нарэшце яны пайшлі. Тая, што ў ложку, прабыла яшчэ чатыры дні й чатыры ночы, выпіла ўсё маё піва й без канца казала аб сваіх двух дзецях ва ўсходнім Канзас-Сіці.

А гэты чалавек – Сэлін (?) – стаяў ля кіёска й чытаў часопіс. Падышоўшы бліжэй, я разгледзеў, што гэта “Нью-Ёркер”. Сэлін (?) паклаў яго на месца й паглядзеў на мяне.

– У іх толькі адна праблема.

– Якая?

– Яны проста ня ўмеюць пісаць. Ніводны зь іх.

Міма праяжджала пустое таксі.

– ГЭЙ, ТАКСІ! – крыкнуў Сэлін.

Таксі прытармазіла, ён падскочыў да машыны, заднія дзьверы адчыніліся, і ён улез.

– ГЭЙ! – закрычаў я. – Я ХАЦЕЎ У ВАС СПЫТАЦЬ!

Таксі прамчалася да Галівудзкага бульвару. Сэлін высунуўся з акна, паказаў мне сярэдні палец. І ад’ехаў.

Першы раз за дзясяткі гадоў я сустрэў у гэтых месцах таксі – гэта значыць, незанятае, без падарожнага.

Ну, дождж перастаў, але туга не праходзіла. Да таго ж стала халаднавата, і пахла так, як быццам хтосьці мокры сапсаваў паветра.

Я ўцягнуў галаву ў плечы й адправіўся да Мусо.

У мяне была крэдытная картка “Залатая Віза”. Я быў жывы. І, здаецца, нават стаў адчуваць сябе Нікі Білейнам. Я стаў напяваць матыўчык Эрыка Коўтса.

*Пекла такое, якім ты яго ўладкуеш.*

4

Я паглядзеў у слоўніку Вэбстэра. Сэлін, 1891-1961. На дварэ быў 1993… Калі ён жывы, значыць, яму сто два гады. Нядзіўна, што ЛЭДЗІ СЬМЕРЦЬ яго вышуквае.

А той, у кнігарні, выглядаў на сорак-пяцьдзясят. Ну ясна. Ён не Сэлін. Альбо ён прыдумаў, як перамагчы працэс старэньня. Узяць кіназорак: яны здымаюць скуру з заду й прыжыўляюць да твару. На заду скура моршчыцца пазьней за ўсё. Апошнія гады яны даходжваюць зь ягадзіцамі замест твараў. Пайшоў бы на гэта Сэлін? У каго ёсьць ахвота дажыць да ста двух гадоў? Толькі дурню. І з чаго б Сэліну захацелася жыць так доўга? Усё гэта – нейкае вар’яцтва. Лэдзі Сьмерць вар’ятка. Я вар’ят. Пілёты авіялайнэраў вар’яты. Ніколі не глядзі на пілёта. Падымайся на борт і замаўляй выпіўку.

Я паназіраў, як трахаюцца дзьве мухі, і вырашыў патэлефанаваць Лэдзі Сьмерці. Расшпіліў шырынку й чакаў адказу.

– Алё, – пачуўся яе голас.

– М-м-м, – сказаў я.

– Што? А, гэта вы, Білейн. Як прасоўваецца справа?

– Сэлін мёртвы. Ён нарадзіўся ў 1891 годзе.

– Статыстыка мне вядомая, Білейн. Слухайце, я ведаю, што ён жывы... дзесьці... і ў кнігарні мог быць ён. Вы што-небудзь высьветлілі? Ён мне патрэбен. Вельмі патрэбен.

– М-м-м... – сказаў я.

– Зашпіліцеся.

– Га?

– Дурань, я сказала: зашпіліся.

– А... Зараз...

– Я павінна дакладна ведаць, ёсьць ён ці няма яго. Я вам сказала: у мяне зь ім ня клеіцца. Псыхалягічны тормаз. Бартан рэкамэндаваў вас, сказаў, што вы адзін зь лепшых.

– А, так, дарэчы, я якраз цяпер працую на Бартана. Спрабую адшукаць Чырвонага Вераб’я. Што вы пра гэта думаеце?

– Слухайце, Білейн, разблытайце гісторыю з Сэлінам, і я вам скажу, дзе Чырвоны Верабей.

– Сапраўды, лэдзі? О, я для вас што заўгодна зрабіў бы!

– Ну напрыклад!

– Ну, забіў бы майго любімага таракана, адлупцаваў бы папругай маці, калі б яна была тут…

– Хопіць балбатаць! Я пачынаю думаць, што Бартан мяне разыграў. Бярыцеся лепш за справу. Альбо вы разблытаеце гісторыю з Сэлінам, альбо я за вамі прыйду.

– Адну хвілінку, лэдзі.

Слухаўка ў маёй руцэ маўчала. Я паклаў яе на рычаг. Ох. Акурат за мной яна зьявіцца без усялякіх тармазоў.

Мяне чакала праца.

Я пашукаў вачыма: ці няма дзе мухі, каб забіць.

Дзьверы расчыніліся, на парозе стаяў Маккелві й вялікая прыдуркаватая куча гаўна. Маккелві паглядзеў на мяне й кіўнуў на кучу.

– Гэта Томі.

Томі глядзеў на мяне каламутнымі вочкамі.

– Вельмі прыемна, – сказаў ён.

Маккелві ўсьміхнуўся мне жудаснай усьмешкай.

– Дык вось, Білейн, Томі тут з адной мэтай, і гэтая мэта – павольна ператварыць вас у аладку крывавага курынага гаўна. Так, Томі?

– Угу, – сказаў Томі.

Па выглядзе ён важыў кіляграмаў сто семдзесят. Ну, састрыгчы зь яго поўсьць – будзе гэтак сто шэсьцьдзесят. Я мілосна ўсьміхнуўся яму.

– Слухай, Томі, ты ж мяне ня ведаеш, праўда?

– Угу.

– Дык навошта табе мяне біць?

– Таму што містар Маккелві так загадаў.

– Томі, а калі містар Маккелві загадае табе выпіць тваё пі-пі, ты вып'еш?

– Ты ня блытай майго хлопца! – сказаў Маккелві.

– Томі, а калі містар Маккелві загадае табе зьесьці мамчына ка-ка, ты зьясі мамчына ка-ка?

– Га?

– Заткніся, Білейн, тут гавару я!

Ён павярнуўся да Томі.

– А ну-ка, разарві мне гэтага тыпа, як старую газэту, разарві яго ў шматкі ды пусьці нафіг па ветры, зразумеў?

– Я зразумеў, містар Маккелві.

– Ну дык чаго ты чакаеш, апошняй ружы лета?

Томі ступіў да мяне. Я дастаў са скрыні стала люгер і навёў на велічэзную тушу.

– Стой, Томас, або зараз тут будзе больш чырвонага, чым на ўсіх футболках стэнфардзкай каманды!

– Э, – сказаў містар Маккелві, – адкуль у цябе гэтая штука?

– Дэтэктыў без машынкі, усё роўна што кот з прэзэрватывам. Ці гадзіньнік бяз стрэлак.

– Білейн, – сказаў Маккелві, – ты лухту чаўпеш.

– Мне ўжо казалі. А цяпер скажы свайму хлопцу "тпру", ці я зраблю ў ім такое акенца, што кавун пройдзе!

– Томі, – сказаў Маккелві, – адыдзі назад і стань перада мной.

Томі падпарадкаваўся. Цяпер трэ было вырашыць, што зь імі рабіць. Гэта было няпроста. У Оксфардзе мне стыпендыю не плацілі. Біялёгію я праспаў ды ў матэматыцы ня вылучыўся. Але да гэтага часу прымудраўся застацца ў жывых.

Здаецца.

А пакуль што я здаў сабе нейкага туза зь нейкай зараджанай тальлі. Ход быў за мной. Зараз ці ніколі. Набліжаўся верасень. Вароны трымалі нараду. Сонца сыходзіла крывёю.

– А ну-ка, Томі, – сказаў я, – на карачкі! Жыва!

Ён паглядзеў на мяне так, як быццам ня вельмі добра чуў.

Я халодна ўсьміхнуўся яму й пстрыкнуў засьцерагальнікам.

Томі быў дурны, але не канчаткова.

Ён зваліўся на карачкі, страсянуўшы ўвесь шосты паверх, як землятрус у 5,9 бала. Мой фальшывы Далі ўпаў на падлогу. Той, што з падталымі гадзіньнікамі.

Дыбала, як Вялікі Каньён, Томі глядзеў на мяне зьнізу.

– А цяпер, Томі, – сказаў я, – ты будзеш сланом, а Маккелві будзе паганятым!

– Га? – сказаў Томі.

Я паглядзеў на Маккелві.

– Давай-давай! Залязай!

– Білейн, ты звар'яцеў?

– Хто ведае? Вар'яцтва адносна. Хто вызначае норму?

– Я ня ведаю, – сказаў Маккелві.

– Залязай давай!

– Добра, добра. Але ў мяне ніколі не было такіх непрыемнасьцяў з даўжнікамі.

– Залязай, срака!

Маккелві ўскараскаўся на Томі. Але зьвесіць ногі яму было цяжка. Ён ледзь не разарваўся ўздоўж.

– Добра, – сказаў я. – Цяпер, Томі, ты слон, і ты павязеш Маккелві па калідоры да ліфта. Прыступай!

Томі папоўз з габінэту.

– Білейн, – сказаў Маккелві, – я табе адплачу. Клянуся кушмаком маёй маці!

– Залупіся яшчэ раз, Маккелві, і я запхкну твой чэлес у сьмецьцеправод!

Я адкрыў дзьверы, і Томі са сваім паганятым папоўз з габінэту.

Ён папоўз па калідоры, а я, засоўваючы люгер у кішэню пінжака, намацаў там нешта – скамечаны лісток. Я дастаў яго. Мае пісьмовыя адказы на экзамене, калі я пераздаваў на правы кіроўцы. Усё пакрэслена чырвоным. Я праваліўся.

Я кінуў паперку за сьпіну й рушыў усьлед за маімі сябрамі.

Мы падышлі да ліфта, і я націснуў кнопку.

Я стаяў, напяваючы матыўчык з "Кармэн".

І раптам спамянуў, як даўным-даўно прачытаў у газэце пра сьмерць Джымі Фокса ў нумары нейкай запаганенай гасьцініцы. Такі бэйсбаліст – і памёр сярод клапоў.

Пад'ехаў ліфт. Дзьверы адчыніліся, і я даў Томі штурхаля. Ён упоўз у кабіну са сваім наезьнікам. Там стаялі трое, чыталі газэты.

Працягвалі чытаць. Кабіна пайшла ўніз.

Я спусьціўся па лесьвіцы. Ува мне было пятнаццаць кіляграмаў лішняе вагі. Трэ было зганяць.

Я налічыў сто семдзесят шэсьць прыступак і апынуўся на першым паверсе. Спыніўся ля тытунёвага кіёску, купіў цыгару й "Праграму бегавішчаў". Ліфт набліжаўся.

На вуліцы я рашуча акунуўся ў смог. Вочы ў мяне былі блакітныя, а туфлі – старыя, і ніхто мяне не любіў. Але мяне чакала праца.

Мяне, Нікі Білейна, прыватнага дэтэктыва.

5

На жаль, у гэты дзень мяне занесла на скачкі, а ўвечары я напіўся. Але час дарма не губляў, я мысьліў, аналізаваў факты. Усе былі ў мяне на руках. У любую хвіліну галаваломка магла вырашыцца. Гэта дакладна.

6

На другі дзень я рызыкнуў вярнуцца ў габінэт. У рэшце рэшт, які ж ты дэтэктыў без габінэту?

Я адчыніў дзьверы – і каго ж я бачу за сваім сталом? Не Сэліна. Не Чырвонага Вераб'я. Маккелві. Ён усьміхнуўся мне прыкра фальшывай усьмешкай.

– Добрай раніцы, Білейн, як яны пампуюцца?

– Чаму ты пытаеш? Хочаш зірнуць?

– Не, дзякуй.

Потым ён пачухаў свае й пазяхнуў.

– Ну, Нікі, мой хлопчык, твая арэнда аплачана на год наперад нейкім таямнічым дабрадзеем.

Лэдзі Сьмерць з табой гуляе, пачуўся голас у маёй галаве.

– Хто-небудзь са знаёмых? – спытаў я.

– Я гонарам маёй маці пакляўся нікому не казаць.

– Гонар тваёй маці? Яна гусіных шыек перамацала больш, чым любая птушніца!

Маккелві ўстаў з-за стала.

– Спакойна, – сказаў я яму. – Калі ня хочаш апынуцца ў сьметніку.

– Мне не падабаецца, што ты праяжджаеш па маёй маці.

– А што такога? Палова горада па ёй праехалася.

Маккелві выйшаў з-за стала мне насустрач.

– Яшчэ крок, – сказаў я, – і твая галава будзе дыхаць табе ў ачко.

Ён спыніўся. Калі мяне завядуць, я страшны.

– Добра, – сказаў я, – давай падрабязьней. Гэты дабрадзей... ён жанчына, ці як?

– Так. Так. У жыцьці ня бачыў такой красуні!

Вочы ў яго замасьліліся, зрэшты, яны заўсёды былі масьлёныя.

– Ну жа, Мак, падрабязьней, кажы далей...

– Не магу. Я абяцаў. Гонарам маці.

– Цьфу ты, – сказаў я. – Добра. Вымятайся, памяшканьне аплачана.

Маккелві зашоргаў да дзьвярэй. Потым азірнуўся на мяне праз левае плячо.

– Добра, – сказаў ён, – толькі ты тут ня пэцкай. Ніякіх вечарынаў, ніякіх картаў, ніякай фігні. У цябе яшчэ год.

Ён падышоў да дзьвярэй, адчыніў іх, зачыніў іх і толькі яго й бачылі.

*(Працяг у наступным, 4 нумары часопіса)*

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш.***
***Паводле: Pulp. Copyright © 1994 by Charles Bukowski. HarperCollins e-books. Adobe Acrobat eBook Reader. August 2007. ISBN 978-0-06-149262-4.***




## ЦЫРКУС

I

Куды вуліца гораду завядзе чалавека, які ня збочыць, не падымецца на прыступку трамвая, ня спусьціцца ў мэтро – а будзе крочыць напрасткі, мінаючы дом за домам? Вуліца выведзе чалавека за горад, у поле, у лес, да рэчкі й вясковых хатаў.

Так думае той гараджанін, які ніколі не спрабаваў прайсьці па вуліцы ад пачатку да самага-самага заканчэньня. Насамрэч вуліцы вялікіх горадоў закручаныя, як кішкі ў вантробах жыцьця, і заканчэньне вуліцы ёсьць ягоным, жыцьця, заканчэньнем.

Каторы год спрабавала Гражына Аліцыя выбрацца з гораду. Вось і цяпер ішла яна вуліцай Чыгуначнай, а разам зь ёй пэрыстальтыка жыцьця гнала наперад аўтамабілі, тралейбусы, лістападаўскі змрок і холад, і дробных, як мікробы, людзей у палітонах і куртках. І гэтым разам думала Гражына Аліцыя, што ёй ня стане часу прайсьці вуліцу да канца, – як пачула музыку.

Музыка тачылася струменьчыкам у плыні гармідару; Гражына Аліцыя спынілася, азірнулася ў пошуках крыніцы музыкі і ўбачыла лямпачкі.

Каляровыя шарыкі-лямпачкі асьвятлялі па пэрымэтры фанерную шыльду, на якой калісьці быў старанна вымаляваны надпіс “Circus”.

Такой дзіўнай шыльды Гражына Аліцыя ня бачыла даўно, а можа, і ніколі. Хто ж цяпер вырабляе шыльды з расфарбаванай фанеры, ды яшчэ прапільвае ў ёй адтуліны для ўкручваньня лямпачак?

Гражына Аліцыя паднялася па прыступках пад брыль будынку, каб бліжэй разгледзець дзіўны надпіс ля дзьвярэй. Ды й што там быў за будынак! Вялізны шэры куб, зь якога быццам выцягнулі адну з дэталек, каб зрабіць нішу ўваходнай групы. Можна зразумець памкненьні архітэктара да прыгажосьці нелягічнай формы – але колькі цяпер будынкаў зьнерухомелі ад страху ды так і стаяць па сёньня, штодня баючыся ўласнага зруйнаваньня.

Гражына Аліцыя стала ля дзьвярэй. Пад дзіўнай шыльдай знайшлася яшчэ адна, плястыкавай машыннай вытворчасьці, якая ўшчэнт касавала трывожную магію першай: "Унітарнае канцэртнае прадпрыемства "Цыркус Плюс", нумар і тэрмін дзеяньня ліцэнзіі, час працы; а на шкляных дзьвярах зь сярэдзіны былі прыклееныя афішы, адна зь якіх прывабіла Гражыну Аліцыю актуальнай датай. І назва вабіла: "Паноптыкум. Музычная тэатралізаваная праграма".

Сёньня выбрацца з гораду ніяк не выпадала, і Гражына Аліцыя пацягнула цяжкія дзьверы; тыя расчыніліся.

II

Мэмбрана дзьвярэй паслухмяна прапусьціла Гражыну Аліцыю ў хол. Мутна асьветленая прастора, замкнёная выцертымі плітамі гранітнай падлогі й ня раз фарбаванымі сьценамі, драбілася цёмнымі калідорамі наўпрост, налева і направа, а ў калідорах нутраны радар пеленгаваў шматлікія пусткі. Гражына Аліцыя адразу ўявіла, як можна зайсьці ў любую з гэтых вакуоляў і быць там бесперапынна няшчасным, плакаць, скуголіць ад няўцямнае бяды, сядзець на кукішках ля сьценкі, хаваць твар у калені і прыкрываць патыліцу далонямі.

Але на сьцяне, між стэндаў, залепленых схемамі ўцёкаў і выявамі тэхнагенных катастрофаў, вісела вялікая фанерная страла. Па пэрымэтры страла мела адтуліны, у якія былі ўкручаныя фарбаваныя лямпачкі. А на фанернай страле было напісана "Circus". Магчыма, падумала Гражына Аліцыя, калі пайсьці ў тым кірунку, то ў адным з калідораў знойдзецца пустка, пралом, шчыліна, сьвішч у трывалай тканіне жыцьця, дзе можна пачувацца шчасьлівым.

Хол быў перагароджаны пустацелымі трубкамі парапэту з турнікетам, а нябачнай кнопкай, што мусіла адкрыць турнікет, валодала цётка ў шкляной будцы. Цётка ў сьвятле настольнай лямпы сноўдала пруткамі, зь якіх зьвісала шэрая субстанцыя. Гражына Аліцыя, нямала ўсьцешаная сваёй здольнасьцю адаптавацца і веданьнем таемных правілаў жыцьця ў горадзе – напрыклад, як прайсьці за турнікет – дала цётцы крыху магічных паперак, і тая неахвотна падпарадкавалася магіі, націснула кнопку, пусьціла яе ў калідор.

III

Гражына Аліцыя асьцярожна пайшла па калідоры направа, сьціскаючы ў руцэ білецік; паднялася па лесьвіцы бяз вокнаў. Як раптам памякчэлая зямля ў лесе вяшчуе блізкае балота, так кілім, пасьцелены на другім паверсе, паглынуўшы гулкія крокі, абяцаў вывесьці Гражыну Аліцыю да таго, што мела назваю "Circus". І сьвятло ў гэтым калідоры памякчэла: яшчэ ня грэла Гражыну Аліцыю любоўю, але й ня труціла іртутнай варожасьцю, не патрэсквала пагрозьліва, як там, у холе. Таму Гражына Аліцыя амаль бяз страху прыадчыніла дзьверы, за якімі мусіла адбывацца дзея, – і не памылілася: чарговая цётка, якая пільнавала ўваход, уцягнула яе ўсярэдзіну, парвала магічны пропуск і паказала на вольныя месцы. Гражына Аліцыя асьцярожна села з краю: канцэрт ужо быў пачаўся.

Гражына Аліцыя акуратна сьцягнула паліто і разматала шалік; людзей у залі было небагата: парачкі, якія прыйшлі, абы пагрэцца, і людзі паасобку: мабыць, яны таксама, як Гражына Аліцыя, шукалі кароткага перапынку ў штодзённых уцёках; але што адбывалася на сцэне!

Вялікая жанчына, пругкая, як жэле, абцягнутае цёмна-сіняй вечаровай сукенкай, сьпявала раманс, вібруючы ўсім аб'ёмам свайго цела. На раялі ёй акампанаваў карузьлік; ягоныя ногі не сягалі пэдаляў, і правая дзёргалася ў такт. Акампаніятару можна было б даравацы ягоны памер; але салістка! На жэлейнае дэкальтэ сьпявачкі спускалася чорная зь сівізной барада.

Гражына Аліцыя, сузіраючы пералівы барады ў сьвятле сафітаў (барада нібыта выступала асобным нумарам), бясспрэчна вырашыла, што "Цыркус" – ня тое месца, дзе можна пачу-

вацца шчасьлівым, і чакала на заканчэньне нумару, каб сысьці, і прыцішвала нутраны страх, які ўжо сеў на шыю, зьвесіў ножкі і сьцягаў яе бізуном адрэналіну: прэч адсюль! Прэч адсюль!

“Паноптыкум! – раптам узгадала Гражына Аліцыя. – Канцэрт называецца “Паноптыкум”. Нас чакаюць жанчына-зьмяя, асілкі, фокусьнік і чалавек, які прамаўляцьме жыватом. А барада – бутафорская”.

Высновa аб бутафорскім паходжаньні жаночай барады прынамсі прагнала страх, і калі барадатая сьпявачка скончыла раманс і пачала жангляваць шарыкамі, Гражына Аліцыя ўжо вагалася, ці не аддаць даніну прыстойнасьці і застацца яшчэ на пару нумароў.

Жаданьне пакінуць залю амаль пераважыла, і Гражына Аліцыя памкнулася была да выхаду, як зайграла музыка, якая змусіла яе апусьціцца ў фатэль і глядзець на сцэну неадрыўна.

IV

Гучала тая самая музыка, якая змусіла Гражыну Аліцыю падняць вочы на вуліцы і ўбачыць фанерную шыльду. Гук ішоў з катрынкі, а круціў катрынку хлопец, які зьмяніў на сцэне карузьліка і барадатую сьпявачку рамансаў.

Балюча і соладка Гражыне Аліцыі зашчыміла сэрца, а стрункі бялявы хлопец з высокім ілбом і паголенымі скронямі адразу ўвасобіў усё неабдымнае і недасяжнае шчасьце, якое можна было прыдбаць, не выходзячы з гораду. Мэлёдыя катрынкі, узмоцненая акустыкай залі, запоўніла ўсё пад столь, як салёная вада – прабіты трум карабля. Барабаны і ролікі катрынкі круціліся і намотвалі на сябе ўсе нябачныя ніці, якія цягнуліся з сэрца Гражыны Аліцыі, прыкручвалі яе да катрынкі мацней і мацней. Высокі хлопец безуважна глядзеў у паўпустую залю паўпрыкрытымі вачыма, і Гражына Аліцыя толькі й марыла цяпер злавіць ягоны позірк, прызначаны ёй адной.

Бываюць такія людзі, якім анатамічная будова павекаў сама дадае позірку стомленасьці, грэблівасьці, таямнічасьці, а людзі прыпісваюць згаданыя якасьці іх характару. Высокі хлопец, якому пашчасьціла нарадзіцца прыгожым, анічога сам не зрабіў, адно выйшаў на сцэну і пазіраў у залю паверх галоваў; ён нават не сьпяваў, ня граў, толькі круціў ручку катрынкі; але ў Гражыны Аліцыі замкнула ўсе кантакты, і пабегла па коле шалёная хімічная рэакцыя.

Калі хлопец сыйшоў са сцэны, ненапружана кіўнуўшы публіцы, Гражына Аліцыя выцерла сьлёзы са шчокаў і пабажылася, што ня выйдзе з гэтай залі, пакуль гэты хлопец ня будзе ейны.

Дарэмна яна бажылася, дарэмна. І што ёй собіла? Як яна ўяўляла сабе выкананае жаданьне? Ці то вынесьці хлопца адсюль, перавязанага стужачкай, сабралася Гражына Аліцыя? Ці шлюбам пабрацца зь ім у грымёрцы, пад блаславеньне ўсіх вахцёрак? Ці то яна наўмысна абрала мэту, якой няможна дасягнуць?

Аднак Гражына Аліцыя рэзка памяняла маршрут дасягненьня шчасьця ды ўжо стаяла на сцэне, выкліканая фокусьнікам. І, цярпліва прычакаўшы, пакуль той выцягне зь ейнага носу ўсе манэткі, а з-за каўнеру – насовачкі, пакуль падорыць і адбярэ ўсе папяровыя кветкі, – сыйшла са сцэны ня ў залю, а за кулісы.

V

Гражына Аліцыя дарэмна баялася, што яе пагоняць з-за кулісаў: у вантробах сцэны на яе ніхто не зважаў, хіба што стараліся абмінуць тыя, хто рыхтаваліся да выхаду. Жанчына-зьмяя, гімнастка ў цялесным трыко, крыху пасунула яе, нават не зірнуўшы, і Гражына Аліцыя на імгненьне трапіла ў аўру блёстак і задушнай парфумы. Барадатая жанчына ў сіняй сукенцы, музыкі зь інструмэнтамі ў руках (акардэоны пераважвалі сваіх гаспадароў, кантрабасіст абдымаў кантрабас, як цяжарную жонку), дзяўчаты ў аднолькавых касьцюмах і з аднолькава прылізанымі валасамі – усе мягка штурхаліся, рухаліся па вядомых ім маршрутах, і толькі Гражына Аліцыя ўкручвалася ў чужое ёй жыцьцё пэрсонай нон-грата.

Цагляныя нетынкаваныя сьцены былі забраныя мэталічнай сеткай, з высокай столі спускаліся чорныя палотны, на падлозе грувасьціліся скрыні і дашчатыя шчыты, а на адной са скрыняў стаяла самотная катрынка. Гражына Аліцыя пайшла да яе, як жалеза да магніту.

Яна асьцярожна пагладзіла магічную скрыню па рабрыне, абмацала пальцамі ўзорчатую паверхню – і, як чароўная лямпа выклівае джына, так катрынка паклікала свайго бялявага гаспадара.

– Хочаш пайграць?

Хлопец са сцэны – які ён аказаўся высокі! – стаяў ля Гражыны Аліцыі, і немагчыма было зразумець: ці то ён усьміхаўся, ці то ягоныя губы аўтаномна складаліся ва ўсьмешку.

Гражына Аліцыя з ласкавага дазволу круціла ручку, сама ўтварала музыку, якая прывяла яе сюды, а гаспадар музыкі з такім паблажлівым гонарам стаяў побач, нібыта спрычыніўся да навучаньня новага музыкі.

– Хадзем з намі! – хлопец узяў Гражыну Аліцыю за руку, і ў той зайшлося сэрца, а сам глядзеў у іншы бок: адтуль клікалі, і ён падаваў знакі: маўляў, зараз, зараз.

– Ну хадзем жа! – не адпусьціўшы рукі, цяпер ён зазіраў проста ў вочы. – Хадзем, хадзем.

– А куды? – пацікавілася Гражына Аліцыя, выключна праформы дзеля: яна гатовая была ісьці куды заўгодна.

– У бібліятэку! – рагатнуў хлопец і ўжо мягка штурхаў яе наперад, абдымаючы ззаду за плечы. – Чытацьмем кніжкі. Потым кніжкі здамо, новыя возьмем і зноўку пачытаем!

Гражына Аліцыя, мала-мала не шчасьлівая, паслухмяна рушыла ў невядомае наперад, адчуваючы на плячох адбымкі жаданых рук.

У грымёрцы – як быццам усе памяшканьні за сцэнай называюцца грымёркамі – разьлівалі і пілі з такім выглядам, нібыта займаліся супольнай важнай справай, і віталі кожнага, хто ўвайшоў, як далучанага да сваёй рэлігіі. Жанчына-зьмяя ў махровым халаце паверх трыко, барадатая сьпявачка (Гражыну Аліцыю ўжо бралі сумневы, што барада бутафорская), іншыя артысты – ніхто й не пацікавіўся, каго прывёў так званы музыка, адно ахвотна пасунуліся, даючы ім месца на тапчане. Пажылы мужчына ў бэзавым фраку працягнуў ёй напоўнены плястыкавы кілішак.

– Што гэта? Гарэлка? – насьцярожана пацікавілася Гражына Аліцыя.

– Не, не гарэлка, – запэўніў яе хлопец, – але табе спадабаецца. Выпі!

– Выпі! – хорам паўтарылі ўсе прысутныя і запытальна паглядзелі на яе.

Гражына Аліцыя выпіла.

## VI

Калі Гражына Аліцыя прачнулася, у грымёрцы нікога не было. На туалетным століку гарэла няяркая лямпа. Куды ўсе падзеліся, чым скончыўся паход у мясцовую бібліятэку – Гражына Аліцыя, як ні намагалася, узгадаць не магла. Адзінае, што яна памятала, – няспынную весялосьць і насычаную словамі супольную гутарку – але якімі словамі? Пра што вялося? – ані гадкі. Яшчэ Гражына Аліцыя цьмяна прыгадвала, што хлопец, які прывёў яе, увесь час абдымаў яе за плечы і, здаецца, пару разоў пацалаваў ў шыю, а ўсе зьвярталіся да яго “Ежы Тадэвуш”. А вось ці назвала яна Ежы Тадэвушу сваё імя, Гражына Аліцыя ўспомніць не магла.

Яна асьцярожна паднялася з тапчану. Галава не балела, адно хацелася піць. Гражына Аліцыя надзела паліто і выйшла ў калідор: трэба было выбірацца навонкі.

Калідоры блыталіся, перацякалі адзін у іншы, і Гражыне Аліцыі давялося паблукаць, перш чым яна ступіла на мяккі кілім другога паверху; адтуль па знаёмай лесьвіцы спусьцілася ў хол, да вахты з турнікетам.

У холе нікога не было. У будцы вахцёркі не гарэла лямпа; з высокай столі тачылася нежывое сьвятло.

Турнікет, адключаны ад электрычнасьці, паслухмяна пракруціўся, гучна й працягла скрыпнуўшы; мэталічная трубка ахаладзіла руку. Гражына Аліцыя штурхнула дзьверы на вуліцу – тыя аказаліся замкнёнымі. Яна паспрабавала яшчэ раз, ведаючы, што гэта будзе марна.

Тут Гражыну Аліцыю ахапіў натуральны жах. Жах схапіў яе ззаду за шыю, запусьціў свае тонкія іклы пад скуру, пагражаючы ўкусіць як сьлед, калі яна варухнецца.

Адна ў пустым будынку з халоднымі сьценамі, у нежывым сьвятле – і што рабіць? Гражына Аліцыя сьцялася, гатовая заплакаць ад жаху й бездапаможнасьці, але сьлёзы высыхалі яшчэ ў вачох.

Праз хвіліну прыступ панікі аціх, і Гражына Аліцыя паспрабавала паводзіцца разважна. Карлікі з барадатымі жанчынамі не падпільноўвалі яе за рогам, ды й нават у супрацьстаяньні зь імі Гражына Аліцыя займела б фізычную перавагу.

Яна вырашыла вярнуцца ў грымёрку і перачакаць да раніцы, пакуль вернецца вахцёрка, тая ці іншая, адамкне дзьверы і выпусьціць яе навонкі.

Гражына Аліцыя зноўку паднялася на другі паверх, немаведама як адшукала грымёрку, тую ці ня тую, уладкавалася на тапчане і нечакана для сябе заснула.

VII

Гражыне Аліцыі здалося, што яна праспала сто гадоў. Прачнулася яна ад грукату ў дзьверы: грукацелі, пэўна, ужо і нагамі.

Яна не адразу прыгадала, дзе знаходзіцца, аднак усё было на сваіх месцах: і туалетны столік зь вялікім люстрам, і шафа, і нават крэсла стаяла там, куды яна яго заўжды адсоўвала.

Да грукату ў дзьверы дадаўся голас:

– Ты звар’яцела! Прачынайся! Паглядзі на гадзіньнік! Пра-чы-най-ся!

Грукат мацнеў, і дзьверы маглі не стрываць. Гражына Аліцыя пацёглася, заспаная, адмыкаць, з трывожным прадчуваньнем забытага чагосьці вельмі важнага.

У калідоры стаяла ўзрушаная дзяўчына зь вельмі знаёмым тварам – Гражына Аліцыя магла пабажыцца, што ведае яе імя, і адразу ж прыгадала: Мара; тая рабіла вялікія вочы і з дакорам ківала: ну як так можна?

– Ну ты звар’яцела, не? Як так можна спаць? Фабіян дазнаўся, што цябе няма, так крычаў! Казаў, што галаву адарве! Празь дзесяць хвілін пачатак, а ты сьпіш! Пабеглі! – Мара ўхапіла яе за руку.

– Стой, а ўмыцца? – запярэчыла была Гражына Аліцыя, але Мара толькі мацней пацягнула яе за сабой.

І сапраўды – Гражына Аліцыя таксама рушыла подбегам па калідоры – Фабіян ужо крычыць, і гэта нот гут; а калі ён абяцае адарваць галаву, то аднойчы мусіць спраўдзіць пагрозу.

Дзяўчаты ўжо стаялі, пашыхтаваныя, ля выхаду на сцэну; хтосьці працягнуў ёй касьцюм, і Гражына Аліцыя пачала сьпешна пераапранацца, адчуваючы патыліцай позірк Фабіяна, які пэўна мусіў быць тут. Раптам яна заўважыла, што менавіта нацягвае на сябе: гэта быў касьцюм голай жанчыны. Ганьба, ганьба: на грудзях цёмнымі кружочкамі былі схематычна пазначаныя смочкі, а ўнізе, у міжножжы – які сорам! – быў прышыты лапік чорнай тканіны. І дзяўчаты, якія засяроджана чакалі выхаду на сцэну, усе як адна былі апранутыя голымі.

На сорам часу не ставала: яе хутка ўціснулі ў шыхт, і артысткі, адна за адной, як парашутысты ў люк, пазрываліся на сцэну.

Апёк сораму паціху астываў: уяўна голыя мелі колькасную перавагу; засталася толькі трывожная неўтаймаваная няёмкасьць – якая, аднак, не зашкодзіла Гражыне Аліцыі таньчыць. Яна рухалася, як марыянэтка, а нябачныя вяровачкі самі падымалі і апускалі ейныя рукі і ногі ў вар’яцкім танцы.

Гражына Аліцыя зьдзіўлена і разгублена сузірала ўнутраным позіркам сваю памяць: яна ведала кожную зь дзяўчын у твар і па імені, баялася гневу галоўнага рэжысэра і ў адной асобе дырэктара Фабіяна, гатовая была пералічыць, нумар за нумарам, усю канцэртную праграму і яшчэ дзьве зь мінулых сэзонаў, трапляла ў такт музыцы, слаба чутнай на сцэне за грукатам ног, але – хоць ты праламі галаву звонку ці зь сярэдзіны – не магла, зусім не магла згадаць, што яна рабіла ўчора, заўчора і папярэдні тыдзень. А яшчэ – Гражыну Аліцыю гэта турбавала ці ня болей, чым будучы разнос Фабіяна – яна з усяе моцы жадала, каб Ежы Тадэвуш ня бачыў ейных скокаў.

Пад фінальны акорд Гражына Аліцыя спрытна скочыла ў кулісы – і паляцела на Фабіяна; ён, пэўна, наўмысна апранаўся ў цёмнае, каб зьлівацца з паўзмрокам. Фабіян грэбліва адсунуўся; і так! – ён быў злы, вельмі злы.

– Зойдзеш да мяне, – ён кароткім рухам абтрусіў лацканы пінжаку, нібыта запэцкаўся. – Вось проста зараз зойдзеш да мяне! – і імкліва зьнік у калідоры.

Дзяўчаты спачувальна глядзелі на Гражыну Аліцыю. Яна хацела была пераапрануцца, але калі Фабіян сказаў "зараз", то марудзіць не выпадала.

Дзьверы ў габінэт Фабіяна аказаліся на вышыні двух мэтраў – і ні прыступак, ні парэнчаў. Гражыну Аліцыю ахапіў звыклы бездапаможны адчай, як заўжды перад габінэтам начальніка; яна моцна замружылася, працягнула руку кудысьці высока – і ў наступную сэкунду стаяла перад сталом Фабіяна, вінавата панурыўшы галаву.

Фабіян быў такім тыповым дырэктарам, нібыта сапраўдныя гаспадары "Цыркусу" купілі яго ў краме. Не стары, але пастарэлы, ня тоўсты, але патлусьцелы, не алькаголік, але зь вечна чырвоным прыпухлым тварам, а рудыя ягоныя вусікі былі прыладамі для трансьляваньня гідлівасьці – і ён трансьляваў шчодра. Не было, карацей, падставаў уважаць яго за сапраўднага чалавека, толькі за функцыю.

Відаць, толькі Гражыну Аліцыю бянтэжыла тое, што яна стаяла перад начальнікам голая – дакладней, у касьцюме голай, а значыцца, голая двойчы; Фабіяна ж гэта не хвалявала ані. Ён крычаў, навісаў над сталом, варушыў гнюснымі вусікамі, а потым, калі скончыўся завод, раптам аціх і сказаў спакойна:

– Ладна, усё, ідзі. Не спазьняйся больш.

Гражына Аліцыя зьдзівілася: не раптоўнаму заканчэньню ярасьці, а свайму імунітэту: ёй не хацелася ні плакаць, ні помсьціць, ні выпраўляць паводзіны – адно толькі ня чуць гэтага больш ніколі ў жыцьці.

Перш чым адкрыць дзьверы, яна прымружылася, сягнула наперад, гатовая падаць з вышыні, аднак ня ўпала, а апынулася ў знаёмым да болю калідоры, па якім пабрыла ў свой пакойчык.

У грымёрцы Гражына Аліцыя сьцягнула гідкі касьцюм і села перад люстэркам. Адназначна, зь ёй адбывалася штосьці страшнае і незразумелае. Што было ўчора? А заўчора? А з тыдзень таму? Але найменшае намаганьне ўзгадаць сьцягвала Гражыну Аліцыю ў такія чорныя і вусьцішныя бездані, што дзеля захаваньня душэўнага спакою ці нават здароўя яна вымушаная была спыніцца. Прынамсі, некаторыя кропкі раўнавагі ейная памяць намацвала без намаганьняў. Гражына Аліцыя прысела, выцягнула ніжнюю шуфлядку туалетнага століка, запусьціла руку пад гурбу панчох і з самага дна дастала фотаздымак найлепшага, найпрыгажэйшага чалавека ў сьвеце – Ежы Тадэвуша.

## VIII

Тое быў ня проста фотаздымак мужчыны. Тое была мапа ейнага сусьвету. А патрэбу ў мапе Гражына Аліцыя цяпер мела моцную як ніколі. Нібыта бязадрасная энэргія любові Гражыны Аліцыі выпраменьвалася ў прастору і, толькі сустрэўшы перашкоду ў выглядзе Ежы Тадэвуша, набыла форму, зьмест і сэнс. Гражына Аліцыя цяпер была толькі тым, чаго кранаўся Ежы Тадэвуш; а калі сказаць праўду – то роўна наадварот: Гражына Аліцыя сама намацвала ўласнымі пачуцьцямі сусьвет, чыю б форму ён ні набыў, а вось рыхтык Ежы Тадэвуш ніякай Гражыны Аліцыі не кранаўся і кранацца намеру ня меў. На жаль. Але які сэнс мела б жыцьцё ў Цыркусе, як не было б там Ежы Тадэвуша? Гражына Аліцыя пяшчотна і ўдзячна пацалавала фотаздымак і, схаваўшы яго пад панчошны ворах, закрыла шуфлядку.

Каб зьмяніць паветра навокал на больш шчыльную і трывалую субстанцыю, Гражына Аліцыя ўзяла рушнік і пайшла мыцца.

Толькі ў распраналцы з трох'яруснымі мэталічнымі шафкамі яна зразумела, што зусім ня памятае, як выглядае тутэйшая душавая. І як яна дасюль дабралася? Нібыта дабрыла на пах застарэлай вільгаці, у якой танюткім атрутным струменьчыкам цьвеліўся хлорны дух.

Гражына Аліцыя, босая і заматаная ў рушнік, выйшла з распраналкі ў дзьверы зь сіняй трафарэтнай выявай кроплі, якая выцякала з трубы, – і другі раз за дзень яе апёк сорам. Такі неразбаўлены, канцэнтраваны сорам, хоць ты выразай зь яго кубамэтр і зьмяшчай эталонам у Палаце мераў і вагаў. У вялікім памяшканьні, значна большым за сцэнічны аб'ём, радамі стаялі ванны, ваннаў па дзесяць у шэрагу. Ля прыгалоўя кожнай з падлогі прарасталі трубы з кранамі на канцавінах. Хочаш мыцца – набірай ваду і мыйся, толькі што з табой адначасова могуць

мыцца яшчэ пяцьдзясят жанчын. Лазенка – калі можна ўжыць памяншальнае слова да ангару – была да таго ж хірургічна асьветленая, а сьцены і падлога абкладзеныя белай квадратнай кафляй. Дакладней, калісьці белай.

Пашыхтаваныя ванны, рытмічна натапыраныя краны – гэта нагадвала могілкі з надгроб'ямі ці крыжамі.

Дакладна, тут ня ведалі ні пра сорам, ні пра асабістую прастору. Гражына Аліцыя асьцярожна, бокам – цяжка было рухацца ў шчыльнай субстанцыі сораму – прасунулася да левай сьцяны памывачнага ангару: тут, за паўпразрыстымі, але дзьвярыма было штосьці кшталту душавых кабінак.

Першая была зачыненаю; у другой грувасьціліся швабры і стаяла вядро, накрытае закарэлай, бы накрухмаленай, дзяругай; у трэцяй і чацьвертай іржавыя трубы сканчаліся не кранамі, а абрубкамі, а падлога і сьцены былі ў скамянелых пацёках парудзелай вапны.

Давялося абіраць чысьцейшую ванну, класьціся ў гарачую жорсткую ваду сымбалічнай магілы.

Гражына Аліцыя старалася не падымаць галавы; не магла прыдумаць, як паводзіцца, калі зь ёй хтосьці павітаецца з суседняй ванны. Гарачая вада ўсё ж крыху разьняволіла яе; Гражына Аліцыя паклалася патыліцай на борцік, убачыла далёкую столь. Сьвятло трубчатых лямпаў ішло адтуль, пэўна, стагодзьдзямі. Можа, лямпы даўно перагарэлі, а сьвятло працягвае вымалёўваць кожную драбніцу памяшканьня. Аднастайны тужлівы малюнак столі здаўся Гражыне Аліцыі знаёмым, і гэта крыху супакойвала. Наагул, Гражына Аліцыя заўважыла, што збольшага памятае элементы свайго сьвету, і, мабыць, варта толькі супакоіцца, разьняволіцца – і нязмушана ўзгадаць, хто яна, як тут апынулася і навошта.

І адразу ці то зразумела, ці ўзгадала, што дзесьці побач ёсьць басэйн.

Яна заплюшчыла вочы. Вялікі аб'ём вады адчуваўся цяпер, як мора за шыхтамі дамоў у курортным горадзе. Гражына Аліцыя ўсхвалявалася. Сапраўды, калі за сьценкаю – басэйн, і яна гэта памятае, а не ўяўляе, – то памяць можна аднавіць. Яна вылезла на падлогу, заматалася ў рушнік і, не счакаўшы нават, пакуль спусьціцца вада, каб абмыць па сабе ванну, рушыла да непрыкметных дзьвярэй у дальнім куце ангару.

Перад дзьвярыма яна счакала сэкунду – а раптам ёй прымроілася? – але ўзялася за ручку, пакрытую вечным кандэнсатам, і сягнула за парог.

Басэйн быў на месцы.

Цёмны і закінуты, аднак напоўнены вадой, басэйн быў рыхтык такі, як яна ўяўляла. Шэсьць дарожак, адасобленых белымі паплаўкамі, дзьве вышкі, тумбы для прыжкоў і лаўкі ўздоўж сьценаў. Ваду не абнаўлялі, пэўна, даўно, і яна стаяла нерухома над зьзелянелым дном.

Гражына Аліцыя села на борцік і апусьціла ногі ў ваду. І трубчатыя лесьвіцы, і тумбы – усё было знаёмым. Відаць, яна тут плавала, ад борціка да борціка. Два вялікіх гадзіньнікі, адзін насупраць аднога, паказвалі розны час і, пэўна, стаялі. Таму, як доўга яна прасядзела тут, ажно пакуль не адбылося нешта, сказаць было цяжка. А адбылося наступнае.

Дзьверы па той бок басэйну адчыніліся, зь іх выйшаў Ежы Тадэвуш. Не зірнуўшы на Гражыну Аліцыю, спрытна даў нырца ў глыбіню і паплыў, рухаючы моцным маладым целам, як рыба ці дэльфін.

Гражына Аліцыя імгненна адчула сябе голай, хоць тканіны на ёй было шматкроць болей, чым на Ежы Тадэвушы; аднак функцыі рушніка і плавак розьняцца кардынальна. Гражына Аліцыя не знайшла нічога лепшага, як сьпешна ўцячы.

## IX

Посьпехі Гражыны Аліцыі ў аднаўленьні памяці нельга было назваць бліскучымі, аднак невялікі прагрэс назіраўся. Што праўда, узгадалася збольшага тое, на што варта было б забыцца: Гражына Аліцыя дэтальна аднавіла ўсю гісторыю дачыненьняў зь Ежы Тадэвушам. Дакладней, гісторыю адсутнасьці дачыненьняў. Ежы Тадэвуш хадзіў паўз яе і ў лепшым выпадку прыязна вітаўся.

Заставаліся яшчэ праца і сябры. Лепшай сяброўкай выявілася Мара – тая, што прыбегла будзіць Гражыну Аліцыю той чорнай раніцай, калі яна прачнулася з зацертай памяцьцю. Мара была, як лялька: маленькая, з пухлымі губкамі і валасамі такімі кучаравымі, што ёй цяжэй за ўсіх было зацягваць іх у гульку перад кожным выступам. Затое толькі варта было выцягнуць шпількі – і валасы самі складаліся ў выкшталцонае ўчасаньне, дзеля якога Гражыне Аліцыі давялося б усю ноч спаць на бігудзі. Сваю лялечнасьць Мара ўважала за памылку прыроды, хмурыла бровы і закусвала губы, каб выраз твару адпавядаў ейнай сур'ёзнай натуры. Аднак выходзіла ўсё адно пацешна.

Праца назаляла Гражыне Аліцыі найбольш. Яна штодня задавалася пытаньнем: як можна было дайсьці да такога жыцьця, каб штодня дрыгацца на сцэне перад публікай у касьцюме голай жанчыны і называць гэта "нармальнай працай" на той падставе, што твой начальнік і калегі ня бачаць у гэтым нічога дзіўнага ці ганебнага. "Ты што на працы робіш?" – "Ды так, гойсаю перад людзьмі ў чым маці нарадзіла, нічога асаблівага!"

"Геніяльны" тэатральны нумар нарадзіўся, канешне, у неспасьцігальных нетрах фантазіі Фабіяна, і ён ім вельмі ганарыўся. На рэпэтыцыях Фабіян тлумачыў, што "нумар раскрывае прыхаваную прыроду чалавека, паказвае яго такім, які ён ёсьць". А калі аднойчы Гражына Аліцыя рэзонна пацікавілася мэтазгоднасьцю касьцюма і спытала, ці не прасьцей было б выходзіць на сцэну проста голымі, Фабіян, насуперак чаканьням, ня стаў крычаць, а проста паведаміў Гражыне Аліцыі, што яна бессаромная вар'ятка і што калі яна мае жаданьне таньчыць голай, то хай робіць гэта ў іншым месцы, а "Цыркус" – прыстойная ўстанова.

Гражына Аліцыя спрабавала была правесьці падрыўныя работы з дапамогай Мары, але тая не павялася.

– Што значыцца "прыстойна, не прыстойна"? – Мара нават абурылася. – Гэта твая праца, і рабі яе, калі ласка, добра! Ня будзеш таньчыць у голым касьцюме – будзеш таньчыць у іншым, а якая між імі прынцыповая розьніца? Зрэшты, куды ты падзенесься з тэатру?

Вывесьці гэтае пытаньне з шэрагу рытарычных і намагалася Гражына Аліцыя – але тут яе заўжды чакала поўная, абсалютная параза.

– А гледачы? Куды яны дзяюцца пасьля канцэрту? – спрабавала яна дапытацца ў Мары, але сутыкалася з скрайнім непаразуменьнем.

– Ды паглядзі ты на гэтых гледачоў! – аднойчы не стрывала Мара. – Ну ты сапраўды звар'яцела. Фабіян, хоць і дурань дурнем, але і той заўважыў.

На наступны дзень пасьля дзіўнай рэплікі сяброўкі Гражына аліцыя сапраўды паспрабавала ўгледзецца ў тых, хто сядзеў у залі падчас ейнага танцу – і ўбачанае так агаломшыла яе, што яна зьбілася, зблытала рухі і прапусьціла адзін такт. Фабіян, пэўна, ужо вібраваў ад злосьці і гідоты, але ўбачанае ўсхвалявала Гражыну Аліцыю значна больш.

У залі сядзелі акторы зь іншай трупы, буфетчыцы і вахцёркі; а больш – нікога! Гражына Аліцыя сама часьцяком глядзела з залі выступы калег; але чаму, чаму яе ніколі не дзівіла, што побач няма незнаёмых гледачоў?

А яшчэ ў першым шэрагу сядзеў Ежы Тадэвуш і, склаўшы рукі на грудзях, паблажліва ўсьміхаўся.

Пасьля канцэрту Гражына Аліцыя зачынілася ў сваёй грымёрцы і не выходзіла. Калі Мара прыйшла клікаць яе на вячэру, то Гражына Аліцыя ўдала, што сьпіць.

Аднак яна не змагла б заснуць, нават калі б ня спала перад тым суткі. Думкі Гражыны Аліцыі блыталіся і наскоквалі адна на адну, як шызафрэнічныя развагі Фабіяна, і не падпускалі яе да важнай, вельмі важнай высновы, якая б дазволіла адказаць на адно, галоўнае пытаньне…

Але якое пытаньне было найгалоўнейшым? – Гражына Аліцыя цяпер ня ведала. І замест таго, каб канчаткова разабрацца з тэатрам, у якім няма гледачоў, Гражына Аліцыя пастанавіла заняцца ўдасканальваньнем свайго жыцьця тут. Паставіць мэты. Дасягнуць іх. Давесьці ўсім, што. Што?

Гражына Аліцыя спыніла нэрвовае хаджэньне па пакоі і цяжка абаперлася рукамі на туалетны столік.

– Я больш ня буду таньчыць голая! Ці я – ня я!

Зь люстэрка на яе глядзела прыгожая маладая жанчына з пагаслымі вачыма.

Назаўтра (спэктаклю не было) Гражына Аліцыя адважна рушыла да Фабіяна. Гэтым разам дзьверы ў ягоны кабінет былі вузкімі і нізкімі, як лаз у сабачую будку; давялося запаўзаць на каленях.

Гражына Аліцыя прабралася да стала начальніка і хутка, каб не згубіць адвагі, выдала:

– Я адмаўляюся ўдзельнічаць у нумары! Я больш ня выйду на сцэну ў гэтым гадзкім касьцюме! Альбо давайце новы спэктакль, альбо звальняйце мяне з “Цыркусу”.

Фабіян ляніва павярнуўся да яе разам з фатэлем.

– Я цябе клікаў? Ці ты сама прыйшла? – адрывіста пралаяў ён.

– Я прыйшла сама, – не здавалася Гражына Аліцыя.

– Дык вось, – пераможна абвясьціў Фабіян, – я цябе выклікаў! Рыхтую новы нумар. Усё ўжо зацьверджана. У цябе галоўная роля. Будзеш Каралевай Неба. Сёньня рэпэтыцыя. А цяпер ідзі адсюль!

X

На прэм’еру “Каралевы Неба” сабраўся ці ня ўвесь “Цыркус”. Але Гражына Аліцыя гэтага ня бачыла. Яна сядзела пад сцэнай, пакрытай сіняй тканінай з нашытымі зоркамі, па якой таньчылі дзяўчаты ў сініх трыко з нашытымі зоркамі; і толькі напрыканцы нумару Гражына Аліцыя прасоўвала ў прарэзы тканіны галаву і рукі, і два рабочых сцэны пачыналі падымаць яе; Гражына Аліцыя прыгожа вадзіла рукамі і пранікнёна й бязадрасна пазірала па-над галовамі; а рабочыя падымалі яе вышэй, яшчэ вышэй, і вось ужо сіняя тканіна неба нацягвалася пругкімі шатамі, гучалі фінальныя акорды, дзяўчаты рабілі апошнія па, а Каралева Неба Гражына Аліцыя, стоячы на плячах у хлапцоў, думала, ці надзейна тыя яе трымаюць.

– Гражына, гэта посьпех! – Мара кінулася віншавальна абдымацца ці не на самой сцэне. – Гэта несумненны посьпех!

Мара, як належыць сяброўцы, не зайздросьціла Гражыне Аліцыі, а радавалася за яе.

Пасярод ночы, калі ўжо даўно разыйшліся дзяўчаты (адзначалі прэм’еру ў грымёрцы “Каралевы Неба”), Гражына Аліцыя раптам прачнулася ў дзіўным лёгкім стане. Ці то ўзрушаная прэм’ерай, ці задаволеная ўласным посьпехам – але яна нечакана перастала пакутваць па Ежы Тадэвушы. Той нават не прыйшоў на прэм’еру – але цяпер Гражыну Аліцыю гэта не засмучала. Як у прамоіну тумана глядзіць чысты белы твар поўні, так шчыльная мітусьня няўцямнага жыцьця Гражыны Аліцыі разышлася па шву, і ў прарэх пайшлі роўныя, незатлумленыя думкі.

Гражына Аліцыя паднялася з ложку. Хто яна? Што яна тут робіць? Чаму так моцна кахае малазнаёмага Ежы Тадэвуша – настолькі моцна, што дзеля ягонай увагі дазволіла ўблытаць сябе ў вар’яцкія танцы, якія розьняцца хіба касьцюмамі? Які неверагодны, несумненны посьпех – памяняць касьцюм! – і застацца тым самым блазнам на пацеху няяснай публікі. А яшчэ гэты Ежы Тадэвуш… Што яна рабіцьме зь ягонай увагай, калі атрымае? Ці, можа, уяўнае каханьне – аб’язны манэўр? Нагода не надаваць увагу самой сабе? Не адказваць на страшнае, страшнае пытаньне: хто я? Як я сюды трапіла?

Гражына Аліцыя спынілася перад люстрам. Яе зноў ахапіў жах. Жах стаяньня перад прорваю, якая шырыцца пад нагамі. Вялікая спакуса цягнула яе да фотаздымка Ежы Тадэвуша – гэтага замяняльніка сусьвету, фата-марганы, звыклага і такога роднага самападману. Але цяпер Гражына Аліцыя пэўна зразумела, што ніколі ня выйдзе з Цыркусу, калі не сягне ў гэтую чорную бездань.

– Хто я? – спытала Гражына Аліцыя ў люстра.

– Хто я? – сынхронна адгукнулася стомленая жанчына насупраць.

Дакладна, гледзячы на сябе, дазнацца пра штосьці немагчыма.

XI

Памывачны ангар, нягледзячы на гіпэрбалізаваную публічнасьць, аднак даваў прастору для самоты: у вадзе Гражыне Аліцыі думалася лепей, чым ва ўласным ложку: не было рызыкі заснуць і спакойна праспаць усю ноч.

Гражына Аліцыя абаперлася патыліцай аб борцік, заплюшчыла вочы і, калі ўваччу пагасьлі адбіткі лямпаў, пакінуўшы яе ў поўнай цемры, зноўку задала сабе пытаньне, якое штурхала яе ў прорву, як інструктар парашутыстаў у люк: “Хто я?”

Спачатку прыйшлі простыя відавочныя адказы: “Я працую ў тэатры”; “Я люблю Ежы Тадэвуша”. А калі разьлюбіць Ежы Тадэвуша, кінуць працу ў тэатры? Што застанецца ад Гражыны Аліцыі? Страх рабіў дыханьне перарывістым, але яна імкнулася прайсьці далей. Не аглядаць мінулае, не прадказваць будучыню – самавызначыцца на бягучы момант.

“Я – той, хто ляжыць у ваньне і бачыць столь”. Гэтых дзьвюх акалічнасьцяў у бягучы момант пазбавіцца было немагчыма. Дык няўжо столь і вада, якія абмяжоўвалі яе зрок і дотык, і ўтваралі Гражыну Аліцыю? І няўжо яна зьнікала, калі заплюшчвала вочы? А хто тады працягваў задаваць пытаньні зь сярэдзіны?

Гражына Аліцыя, лежачы ў вадзе з закрытымі вачыма, адчувала скурай шурпатае дно ванны. Гэта быў яшчэ не адказ, але свабодны палёт у прорву. Каб не зацягнулася прамоіна ў тумане штодзённых клопатаў, ёй трэба было апынуцца там, дзе яна яшчэ не была.

Пульсуючыя хвалі зацертай памяці, якія перад тым падсунулі ёй падрабязнае відовішча басэйна, цяпер вынесьлі на бераг ейнай сьвядомасьці яшчэ адно месца.

Дзьверы, лесьвіцы і калідоры ўсплывалі ў памяці за сэкунду да таго, як Гражына Аліцыя рабіла да іх крок: яна імклівa, ці ня подбегам, рушыла па надоечы ўзгаданым маршруце, і той паслухмяна выпростваўся, як вызваленая спружына. Яшчэ адзін пралёт угору, яшчэ адзін калідор, чарговыя дзьверы… І ўсё – у цемры, у паўзмроку, навобмацак, вышэй і вышэй – ажно пакуль апошнія расхінутыя дзьверы ня вылілі на Гражыну Аліцыю моцны паток начнога халоднага паветра: яна была на даху.

У апошні момант, калі яна ступала на выедзены ветрам і дажджом рубероід, Гражына Аліцыя збаялася, што даху ня будзе. Страх уцялесьніўся, але не дарэшты: будка, празь якую Гражына Аліцыя трапіла на дах, была абнесеная сеткай Рабіца, утвараўшай клетку, дзе маглі вольна стаць два чалавекі. На самім жа пляскатым даху, які распрасьціраўся на чатыры бакі, маглі зьмясьціцца некалькі футбольных палёў.

Гражына Аліцыя абмацала клетку па пэрымэтры: сетка была намёртва прыварaная да жалезных рабрынаў. Гражына Аліцыя ўчапілася ў сетку, прыціснулася да яе шчакой. Патрывожаная застарэлая іржа запахла соладка і млосна. Сьвежым паветрам зь непрывычкі цяжка было дыхаць, вецер са сьвістам і гудзеньнем пралятаў скрозь перашкоду ў выглядзе клеткі.

Але праз колькі хвілінаў Гражына Аліцыя паабвыклася, выраўняла дыханьне, суцішыла сардэчную калатнечу і разабрала за шумам ветру і ўласнай крыві ўвушшу няроўны, але няспынны голас горада, які быў дзесьці ўнізе. Пра існаваньне горада даваў знаць нерухомы электрычны золак, які бляклым жоўтым водблескам ляжаў на шчыльных начных аблоках.

– Эй, – нясьмела вымавіла Гражына Аліцыя, ледзь раскрыўшы губы.

Маленькае слова ўпала ля ног, нікім ня ўзятае.

– Эй! – гукнула Гражына Аліцыя крыху больш гучна.

Слова, падхопленае ветрам, пакацілася па даху.

– Э-ге-гей! – Гражына Аліцыя закрычала на поўную моц. Э-э-эй, хто я-а-а, э-э-эй!

Словы панесьліся прэч, каб зьнікнуць і ніколі не вярнуцца.

Цяпер Гражына Аліцыя ператварылася ў таго, хто стаяў на даху і ведаў пра вялікі горад. Дах не прынёс адказу на пытаньне, адно толькі пашырыў ейную вязьніцу да неверагодных памераў.

З даху Гражына Аліцыя спускалася крыху спустошаная раскідваньнем словаў на вецер, але поўная рашучасьці падаць у прорву да самага дна. Яна шукала такое месца, дзе не было б нічога, дзе нічога б не падказвала Гражыне Аліцыі, кім яна ёсьць.

У Цыркусе ўсе ўжо спалі; як найменей, пазачыняліся ў пакоях і чакалі сканчэньня ўмоўнай ночы. Ва ўласнай грымёрцы Гражыну Аліцыю ўводзіла ў зман люстра; яна была сунулася ў каморку, дзе захоўваліся швабры зь вёдрамі, – але станавіцца швабрамі і вёдрамі ёй хацелася менш за ўсё; і Гражына Аліцыя вырашыла залезьці ў шафу.

Яна зграбла ўсе адзёжкі і, губляючы па дарозе плечыкі і паяскі, кінула ўсю гурбу на ложак, а зьверху анучавай гары лягло яе чорнае паліто. Штосьці гэтае паліто мелася ёй сказаць.

У прадчуваньні чарговага адкрыцьця Гражына Аліцыя нацягнула паліто і павольна павярнулася да люстра.

“Паліто, – асьцярожна, каб не спужаць палахлівую вяртлявую здагадку, падумала Гражына Аліцыя, – калі я апошні раз выходзіла ў паліто? КУДЫ я апошні раз выходзіла ў паліто?”

Яна сунула руку ў кішэню і павольна выцягнула складзеную ўчацьвера тонкую зжаўцелую паперчыну; разгарнула яе.

“Унітарнае канцэртнае прадпрыемства “Цыркус Плюс” – было набрана ўверсе петытам, а далей, загалоўнымі літарамі: ““Паноптыкум. Музычная тэатралізаваная праграма”, і яшчэ ніжэй: “шэраг 15, месца 8”, і дата, напісаная ад рукі шарыкавай сіняй ручкай: “21.11.2011”.

Гражына Аліцыя глядзела на ўласную далонь зь білетам, напалову прыкрытую рукавом паліто, і ўзгадвала, як калісьці… камусьці… паказвала гэты білет… каб прайсьці… у “Цыркус”… Турнікет!

Гражына Аліцыя ўпала на калені, не выпускаючы білету, які цяпер быў пропускам на адваротны бок, нашарыла пад пыльнай шафай адзін бот, потым другі бот, нацягнула іх, мала не зламаўшы маланкі, і вылецела прэч.

На лесьвіцы яна запнулася і паляцела б у пралёт, але пасьпела ўхапіцца за парэнчы, парваўшы, відаць, зьвязкі: болем працяла ажно ўвесь хрыбетнік; у холе яна пераскочыла турнікет, як спрынтэр (у будцы, здаецца, нікога не было), і пратараніла здаровым плячом незакрытыя – дзякуй богу! – дзьверы.

Яна бегла па начной вуліцы – жывой, сапраўднай вуліцы – ажно пакуль не задыхнулася; страшна ныла рука, але Гражына Аліцыя не зважала. Яна сагнулася і, упёршы рукі ў калені, адпачывала, як марафонцы на фінішы. Пагоні не было.

Гражына Аліцыя, аднавіўшы дыханьне, выпрасталася і азірнулася.

Якое боскае сьвятло выпраменьвалі ліхтары! Якой даўгой, вялікай была вуліца Чыгуначная! Якія цудоўныя, разнастайныя дамы стаялі паабапал дарогі!

Гражына Аліцыя ўдыхала і выдыхала халоднае паветра сасьмяглым ротам. Не, яна яшчэ ня ведала, кім яна ёсьць. Але адказ быў побач. Памяць мусіла вярнуцца неўзабаве. Прынамсі, Гражына Аліцыя ведала, дзе мэтро.

Яна ўмаялася, пакуль дабрыла да станцыі. Пашкоджаныя зьвязкі давалі пра сябе знаць: плячо ныла нясьцерпна. Празрыстыя дзьверы мэтро былі яшчэ замкнёныя на мэталічныя штыры, і Гражына Аліцыя ўладкавалася на кукішках побач зь дзьвярыма, каб на яе трапляла цёплае паветра: холад нарэшце прабраўся да скуры і лез глыбей і глыбей.

Гражына Аліцыя закрывала калені крысом паліто, дыхала ў складзеныя далоні. Наверсе зрэдзьчас гула начная электрычка, прадаўжаючы прастору на ўсю працягласьць чыгуначных каляінаў. Страх зноўку авалодаў Гражынай Аліцыяй: яна ня ведала, куды ехаць. Памяць не вярнулася.

Нарэшце прысьпеў час, і цётка ў сінім халаце, якая даўно назірала пакуты Гражыны Аліцыі са сваёй будкі, адамкнула дзьверы і, кіраваная чалавечай салідарнасьцю, махнула рукой на дзяўчыну: маўляў, праходзь так!

Гражына Аліцыя, прайшоўшы за турнікеты ў тым прагале, дзе ходзяць дзеці і міліцыя, толькі тады здагадалася, што ня мае ані жэтонаў, ані грошай, ані мэты паездкі.

У пустым вагоне, без спадарожнікаў, яна даехала да станцыі перасадкі і, зусім засмучаная, пайшла па даўгім пераходзе, зусім без спадзеву, што іншая лінія кудысьці яе завязе.

Пераход, тым часам, не скончаўся, затое звузіўся і пацямнеў. Праз два павароты Гражына Аліцыя пачула знаёмы гук: так гулка зьвініць поўнае вядро, калі яго перасоўваюць па падлозе; затым – плёскат вады і рытмічнае шорганьне; а яшчэ праз колькі крокаў швабра, абматаная дзяругай, ткнулася ў мыскі ейных ботаў: Пятроўна мыла падлогу.

– Што ня сьпіш? – Пятроўна ўдавала абуранасьць, але хто ж будзе баяцца Пятроўны?

– Ня сьпіцца, – буркнула Гражына Аліцыя. – Добрай раніцы, цёця Маша.

– Эх, дзеўка, – раптам спачувальна прамовіла прыбіральніца ў сьпіну Гражыне Аліцыі, якая панура сунулася па памытай падлозе, ледзь перастаўляючы ногі. – Замуж табе трэба, бо ты перасьпелая! Чалавек хіба жыве адзін? Памірае ён адзін, а жыць разам трэба! Паслухай мяне, дурную!

– Ага, – паслухмяна пагадзілася Гражына Аліцыя, абы не спрачацца. – Зараз во пайду выйду, толькі пасплю пару гадзінак.

Пятроўна дадала яшчэ нешта на адрас сучаснай моладзі, але Гражына Аліцыя не ўслухоўвалася. Калідорам яна выйшла ў хол, толькі ня справа, адкуль выбягала, а зьлева. Выходзіць, прабегла па коле. Толькі руку пашкодзіла. Як цяпер выступаць?

Пакуль Гражына Аліцыя падымалася наверх, яна ціхенька падвывала, а ў грымёрцы ўпала на ложак і загарлала: ад бездапаможнасьці і безвыходнасьці.

Даліся ёй у знакі гэтыя ўцёкі! Ды й куды, навошта? Тут ейны дом, праца, сябры і – тут яе скаланула новая хваля плачу – Ежы Тадэвуш! – і да раніцы яна курчылася, дрэнна сплючы, у новым кашмары, так недарэчна падкінутым ёй зычлівай Пятроўнай: у кашмары Ежы Тадэвуш абдымаў сваю нявесту і шчасьліва ўсьміхаўся. Ясна, не Гражыну Аліцыю.

## XII

За абедам у сталоўцы Гражына Аліцыя слаба адбівалася ад спробаў Мары высьветліць гісторыю траўмаванай рукі. Прыхаваць траўму выявілася немагчымым – рука была праваю, і, калі ў чарзе да раздачы Гражына Аліцыя, узяўшы талерку, раптам скурчылася і войкнула, а суп разам з талеркай аказаўся на падлозе, Мара жаночай інтуіцыяй дапяла, што справа ў чымсьці сур'ёзным. Блытаныя тлумачэньні Гражыны Аліцыі толькі распальвалі цікаўнасьць, і Мара не дала веры звычайнаму падзеньню зь лесьвіцы.

– Гэта ж зь якой хуткасьцю трэба было бегчы! – з праніклівасьцю, якая бянтэжыла, заўважыла Мара. – І галоўнае – куды?

І тут боль, шматкроць мацнейшы за пацёпваньне ў руцэ, выліўся з сэрца Гражыны Аліцыі і спаралізаваў яе: па праходзе ішоў Ежы Тадэвуш, лёгка абдымабчы за талію фанабэрлівую прыгажуню, акрабатку Ліяну. Ліяна нарэшце знайшла абгрунтаваньне для сваёй фанабэрыі, а Ежы Тадэвуш, роўна як у начным кашмары Гражыны Аліцыі, шчасьліва ўсьміхаўся. Відавочна, ён ня раз пасьпеў прыабняць Ліяну значна мацней, чым цяпер.

Мара перахапіла позірк сяброўкі. Яна даўно і небеспадстаўна ўважала Ежы Тадэвуша за прыгожага мудака, ведала пра бяду Гражыны Аліцыі і раіла зьвярнуць увагу на больш годных кандыдатаў.

– От жа курвель, – пракамэнтавала яна, але хутчэй зь сяброўскай салідарнасьці, бо нічога злачыннага і ненатуральнага ні Ежы Тадэвуш, ні ягоная новая сяброўка не нарабілі.

Гражына Аліцыя тым часам вярнула сабе здольнасьць рухацца і нават размаўляць. Балела ёй страшна. Прытым яна ірацыянальна была ўпэўненая, што сама стварыла сёньняшнюю бяду: калі ўночы ўявіла яе падрабязна, ва ўсіх дэталях.

– Мара, што за пошасьць? Усё, чаго я баюся, адразу спраўджваецца, варта толькі ўявіць, – паўшэптам прастагнала Гражына Аліцыя – і тут лыжка супу назаўжды згубіла шанец трапіць да яе ў рот.

Боль раптам пачаў сыходзіць, як зьліваецца вада з ванны: бясшумна, але няўхільна. Боль сыходзіў, як бруднапенная вада, і зносіў з сабой і каструбаватую "любоў" да Ежы Тадэвуша, і яшчэ шмат рознай брыдоты.

– Я ўсё ведаю, – сказала Гражына Аліцыя і паклала лыжку на стол.

Мара таксама перастала есьці. Яна са зьдзіўленьнем сачыла за сваёй сяброўкай, якая, відаць, звар'яцела.

Гражына Аліцыя пайшла да раздачы і, мякка расштурхаўшы чаргу, паставіла на паднос шэсьць талерак супа і рушыла між сталоў, трымаючы паднос на выцягнутай левай руцэ.

– Гражына, табе дрэнна? – асьцярожна, як размаўляюць з хворымі, спытала Мара ў сяброўкі, калі тая параўнялася зь іхным столікам. – Ты не баісься суп праліць?

Гражына Аліцыя пераможна і загадкава ўсьміхалася.

– Ведаеш, калі я разалью суп? Калі я пачну баяцца яго разьліць! Мара, гэта сон! Я проста сплю, Мара! А ў маім сьне – усё так. Як я хачу! Гэта ня ванна і стол вызначаюць мяне – гэта я ствараю ванну і стол тым, што думаю пра іх!

Гражына Аліцыя зь нечаканым спрытам паставіла паднос на стол і выйшла са сталоўкі. Перш чым сысьці з Цыркусу, ёй хацелася зрабіць адну справу.

Дзьверы кабінэта Фабіяна нарэшце былі на належным месцы. Гражына Аліцыя ўвайшла не пагрукаўшы.

– Фабіян, ты – тлусты парсюк! – сказала яна і адразу пашкадавала, бо начальнік абхапіў галаву рукамі і заплакаў.

Але гэта ўжо было неістотна. Гражына Аліцыя спусьцілася па знаёмых сходах у знаёмы хол, такі цяпер нястрашны, і выйшла на вуліцу; а там буяла зелянінай лета і так цёпла грэла сонца, так цёпла…

XIII

Гражына Аліцыя прачнулася ад таго, што яе мякка, але настойліва краталі за плячо.

– Няўжо такі нецікавы канцэрт быў, – абражана сказала білетэрка, але злосьці ў голасе не было: пашкадавала, відаць, дзіцё, якое намаялася і заснула.

– Ой, ой, прабачце, – Гражына Аліцыя пачала сьпешна зьбірацца.

Яна заснула ў нязручнай позе і адляжала на падлакотніку ўсю правую руку; цяпер там бегалі мурашкі.

– А ў вас была жанчына з барадой?

Білетэрка зноўку пакрыўдзілася:

– Што вы кажаце такое. У нас рамансы выконваюць.

Гражына Аліцыя выйшла ў лістападаўскі, цяпер ужо позьні вечар і пазайздросьціла сабе прысьнёнай: тая Гражына Аліцыя, прынамсі, трапіла ў лета.

Сон быў такі імклівы і моцны, што не адпускаў Гражыну Аліцыю яшчэ доўга. У мэтро яна села ў куце – ехаць было з канца ў канец – і прынялася перабіраць дэталі сну, адну за адной, шукаючы адпаведнікаў у рэальным жыцьці.

Вычварэнскі памывачны ангар – гэта лячэбныя ванны ў Еўпаторыі, якія справілі на яе, васьмігадовую, страшнае ўражаньне: у санаторыі яе залічылі да дзяцей і накіравалі ў агульную дзіцячую працэдурную: і якіх пакутаў ёй тады каштавала распрануцца да трусоў і залезьці ў ванну пад позіркамі аднагодкаў і старэйшых, між якімі было і пару хлопчыкаў! Гражына Аліцыя ажно сьцепанула плячыма ад гідлівасьці.

Бессаромны танец у голым касьцюме – гэта распаўсюджаны сюжэт, які вандраваў са сну ў сон, як і дзьверы, у якія няможна ўвайсьці, але пільна трэба.

Басэйн – гэта "Дэльфін" за школай, у якім яна даплавалася да нейкага юнацкага разраду і вошай. Вошай вытруцілі за раз сьмярдзючай вадкасьцю, але ад вялікага спорту Гражыну Аліцыю адвярнула назаўжды.

Астатняе таксама можна было раскласьці па палічках памяці, але адкуль узяўся гэты, як яго, Ежы?

Раптоўная здагадка змусіла расьсьмяяцца Гражыну Аліцыю на ўвесь вагон. Людзі азірнуліся, але хутка адвялі вочы. "Ежы Тадэвуш" быў адным зь першых "буржуйскіх" манэкенаў у Менску. Яго, не пазьней за дзевяноста сёмы год, паставілі ў Цэнтральным, і школьніца Гражына Аліцыя паўжартам называла яго "найпрыгажэйшым мужчынам у сьвеце". З суседняй вітрыны тужліва пазіралі на дасканалага бландзіна дзьве аднолькавыя дзявулі, і гэтая троіца ілюстравала тыповую жыцьцёвую сітуацыю яшчэ доўга, ажно пакуль прыгажуну не прымалявалі бараду, чым сапсавалі яго незваротна і выкінулі, відаць. А самотныя старыя дзеўкі стаяць дагэтуль.

Гражына Аліцыя пасьміхнулася. "Дык вось ты дзе, прыгажунчык! Так ты і не дастаўся нікому".

Сон, канешне, выйшаў незвычайны. (Відаць, пад рамансы заўжды добра сьпіцца.) Але найбольш Гражыну Аліцыю дзівіла здольнасьць мозгу самастойна, бязь ейнага ўдзелу, выбудоўваць лягічныя ланцугі. Дрыгацца голай на сцэне перад людзьмі – якая дакладная мэтафара ейнай працы. А як цікава сон інтэрпрэтаваў ейную гульню "Выйсьці з гораду"! Замкнуў

горад у такое маленькае кола ў межах аднога будынку. А, не, яшчэ мэтро…Гражыне Аліцыі таксама ня раз сьнілася мэтро, зь якога нельга выйсьці навонкі.

Цягнік прыехаў на канцавую станцыю. Гражына Аліцыя ішла па пераходзе да аўтобуснага прыпынку, і раптам пераход здаўся ёй задаўгім. Гражына Аліцыя наўмысна прыцішыла крок, каб падоўжыць дзіўнае, як у сьне, адчуваньне; насамрэч яна не баялася застацца назаўжды ў пераходзе. Ейнае кола было значна большае. Гражына Аліцыя дакладна ведала, што яе вязьніца – агромная і падрабязная, выраблена сумленна, перапоўненая каханьнямі і любовямі да ажыўшых манэкенаў; яе вязьніца мела выхад у горад, выхад з гораду, выхад на вакзал, выхад да мора, сотні розных басэйнаў і санаторыяў, начных электрычак і ранішніх параходаў… У ейнай вязьніцы былі і лета, і зіма, і сябры, і праца: шмат, шмат featureрознага і цікавага, каб надоўга, назаўжды забыцца на пытаньне, якое абрыне яе ў чорную прорву бяз дна: хто ты, Гражына Аліцыя?



## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

### Шклянка

Я нарадзіўся ў гранёнай шклянцы, з якой тата і Венедыкт Ерафееў пілі “Ханаанский бальзам”. Яны пакінулі шклянку на гаўбцы, за ноч у ёй назбіралася дажджавая вада, у якую а шостай раніцы ляснула маланка. Атрымалася жэлепадобная субстанцыя, якую тата паклаў у адмысловую формачку, пачакаў трошкі, пакуль зацвярдзее, а потым перадаў тое, што атрымалася, маме. Тая паклала формачку ў мікрахвалёўку і пайшла сабе займацца сэксам з татам.

Калі яна вярнулася на кухню, я быў ужо гатовы. Месцамі падгарэлы, адна ручка даўжэйшая за другую, галава ўся бугрыстая, але ў прынцыпе даволі ладны і прыгожы. Я бегаў па мікрахвалёўцы, спрабаваў выбіць галавою дзверы, але ў мяне нічога не атрымлівалася. Я крычаў, што хачу кніжку і сіську, але ў мамы былі маленькія сіські, а кніжак дома ўвогуле не назіралася, адныя фарбаванкі, але хіба гэта можна назваць кніжкамі? Да таго ж мовы маёй тады ніхто не разумеў, таму мне далі проста лыжку і суп, гарохавы суп з брыкета Лідскага завода па вытворчасці гарохавых супоў у брыкетах. Еш, сынку, сказала маці і зноў пайшла займацца сэксам з татам.

**пра андрэя**




я раскажу вам гісторыю. значыцца так, жыў-быў хлопчык, яго звалі антонам, але насамрэч ён быў андрэем. што за хуйня, запытаеце вы. спакойна, не хвалюйцеся, зараз усё патлумачу. проста ягоныя бацькі вельмі хацелі антона, але ў іх нарадзіўся андрэй. нічога, сказаў тата. нармальна, перажывем, пагадзілася мама. ну і што, што андрэй, ніхто ж пра гэта не ведае, мы проста будзем выхоўваць яго як антона. і яны пачалі выхоўваць андрэя як антона, накуплялі яму розных энцыклапедый па гісторыі, геаграфіі і рэлігіязнаўстве з вялікай колькасцю ілюстрацый, пачалі вадзіць у тэатры, оперы і балеты. вазілі сына ў еўропу, у Парыж, паказвалі луўр, кармілі багетам і круасанамі. карацей, займаліся як маглі ягонай эстэтычнай адукацыяй. але антон быў усё ж такі андрэем. гэтая ўся хуята, музеі, выставы і тэатры, вечарыны паэзіі і іншы кал яго зусім не цікавілі, яму больш падабаліся ровары, футбол, біццё суседскіх вокнаў, піздзілкі з аднакласнікамі, нюханне клею па будоўлях, піццё піва з кулькоў па лесапаркавых комплексах і начных вакзалах, паленне “саюза” і іншай срані на лесвічнай пляцоўцы разам з дзядзем андрэем, суседам з 65-ай. урэшце бацькі здаліся. ладна, сказаў тата, ладна, сказала мама, з нашага сына не выйшаў антон, бо ён самы сапраўдны андрэй, але ўсё ж такі ён наш сын, мы яго любім, тут ужо нічога не зробіш, добра яшчэ, што андрэй, а не нейкі там сяргей, сяргей – гэта ўвогуле гаўно рэдкае.

**Бытавая нумералогія**

Кожны раз перад іспытам Шлёмік п’е “Аліварыю-дзясятку”, апоўначы клікае на шару і кладзе канспект пад падушку. Але сёння ўсё пайшло не так. Ён доўга не мог заснуць, бо суседзі, пачуўшы ягоную традыцыйную мантру “шара, прыйдзі”, раззлаваліся і паўночы грукалі ў дзверы. Таму ён праспаў, збіраўся на іспыт у спешцы і, вядома, забыўся пра канспект, які на іспытах кладзе на калені, бо кажуць, гэта таксама прыносіць удачу. Яшчэ ён забыў пагаліцца і памыцца. У краму ён таксама ўжо не паспяваў, таму быў вымушаны набыць піва ў шапіку, але “Аліварыі-дзясяткі” там не было. Заставалася толькі “Балтыка-8”. Таксама нічога, падумаў ён, але раптам зразумеў, што, акрамя ўсяго іншага, забыў яшчэ і грошы, грамадскія грошы, за якія ён павінен набыць кветкі выкладчыку, што, згодна з павер’ямі старажытных славянаў, зноў жа прыносіць удачу. Ён назбіраў неяк на “Балтыку-3” й сумны пайшоў ва ўніверсітэт. Пакуль Шлёма піў піва на ганку Храма Ведаў, у кабінет зайшлі 12 чалавек і ён быў вымушаны ісці наступным. Білет ён выцягнуў, вядома, 13-ты, які прынцыпова ніколі не рыхтаваў, бо лічыў сябе надзвычай удачлівым... Заставалася адзіная надзея: у 11:11загадаць жаданне, але ўсе адказвалі надта хутка, таму Шлёма трошкі не дачакаўся і быў вымушаны ісці адказваць за тры хвіліны да чароўнага часу. Ад хвалявання ён назваў Яўгенію Валер’еўну Валерам Яўгеньевічам дый увогуле пераблытаў, што здае. Шлёму адправілі на восеньскую пераздачу і пазбавілі стыпендыі.

– Штосьці сёння нейкі нешчаслівы дзень, – сказаў ён, калі выйшаў з кабінета.

– Але ж нічога. Пашанцуе ў каханні, – сказала Наташа і пацалавала хлопца ў шчаку.



**Без галавы**

Аднойчы я пайшоў у школу без галавы. Кажучы шчыра, гэтае аднойчы, пасля таго аднойчы, здаралася ўжо не аднойчы і не двойчы, і нават больш, чым тройчы. Гэта ператварылася спачатку ў добрую традыцыю, а потым ужо і ў звычку, ад якой немагчыма пазбавіцца нават з дапамогай спецыяльных пластыраў.

Ведаеце, часам, бывае, прачнешся а сёмай і думаеш: можа, лепей яшчэ паўгадзіны паваляцца, зэканоміўшы час на сняданку, галенні і водных працэдурах?.. Менавіта ў адну з такіх раніц гэта і здарылася. Я ўстаў з ложка, а галава засталася ляжаць на падушцы. Яна так салодка спала, што вы б самі не адважыліся абудзіць яе. Я накрыў галаву коўдрай, каб не замерзла, і пагладзіў па шчацэ. Няхай яшчэ паспіць, падумаў я. Пасля скіраваўся на кухню, наліў у шыю два кубкі гарачай кавы і пайшоў апранацца. Усё было як звычайна, апроч таго, што капялюш я не надзяваў, бо навошта капялюш, калі галаву ты пакінуў дома.

Сёння на вуліцы часцяком можна сустрэць чалавека без галавы. Гэта нават не ўспрымаюць як фізічны недахоп. Людзям без галавы ўжо не саступаюць месца ў трамваі, без галавы не пра-

едзеш па ільготным талоне за палову кошту. Раней ўсё было інакш, на мяне азіраліся, паказвалі пальцам, нават адзін раз праверылі дакументы.

Праз усю гэтую ўвагу на першы урок я, вядома, спазніўся. Гэта была матэматыка, якую я вельмі не любіў, а яна адказвала мне ўзаемнасцю.

Клас у нялюдскіх пакутах вылічваў значэнне дыскрымінанта.

– Ты спазніўся на дзесяць хвілінаў. Дзённік на стол, – сказала настаўніца, нават не паглядзеўшы на мяне.

– На жаль, я забыў яго.

– А галаву ты не... – фразу яна скончыць не здолела, бо мой выгляд яе, напэўна, вельмі здзівіў.

Так, вучань без галавы – гэта зусім не тое, што вучань з галавою…

Яна моўчкі загадала мне ісці на месца, махнуўшы рукою ў бок маёй парты, дзе я ўжо трэці год сядзеў з завучкай і шасцёркай Наталкай Прайгерман, якую з невядомай прычыны кахаў, а яна, у адрозненне ад матэматыкі, аніяк не жадала адказваць мне ўзаемнасцю.

Мой першы дзень без галавы праляцеў, як адно імгненне. І вось я ўжо зноў ля свайго ложка, а галава так і ляжыць на падушцы. Я пагладзіў яе па шчацэ, лёг побач і ў хуткім часе заснуў.

З тых часоў усё болей навучэнцаў нашай школы пакідалі свае галовы ў хаце. Гэта з цягам часу ператварылася ў нешта кшталту моды. Дырэкцыя спрабавала змагацца, але, як і ў выпадку з джынсамі, барацьба скончылася безвынікова. Адзінае, што яны здолелі зрабіць, дык гэта прымусіць усіх насіць на грудзях бэджык з іменем, прозвішчам і групай крыві.



Васіліса Паляніна-Календа

**Найпраўдзівейшыя гісторыі з жыцця белліту**

1

Прыходзіць неяк малады літаратар у кавярню і кажа:

– Мне, калі ласка, кекс і гарбату.

– Нету у нас никаких горбатых кексов, – адказвае яму афіцыянтка і ўжо збіраецца сысці.

– Как это нету, как это нету, что вы такое говорите, вот у вас в меню написано “кекс – 2120 рублей” и “чай – 1560 рублей”, – абураецца вядомы малады літаратар. – Дайте мне немедленно книгу жалоб и предложений.

– Калі ласка, – кажа яму афіцыянтка, працягвае таўшчэзную чырвоную кнігу і сыходзіць.

Малады літаратар губляецца, не ведае, што яму рабіць, раптам дастае з кішэні пісталет і страляе сабе ў скроню.

2

Прыходзіць неяк Валянцін Акудовіч у кавярню і кажа:

– Мне, калі ласка, фуагра са слівамі і смажаную алычу з бруснічным сіропам.

– У нас няма, – адказвае яму афіцыянтка.

– Не, гэта мяне няма, а вы не мысліце, – мовіць ёй Валянцін Акудовіч, – бо калі б вы мыслілі, то зразумелі б, што не бывае ніякіх фуагра са слівамі і смажанай алычы.

Афіцыянтка разгублена глядзіць на філосафа, раптам пачынае плакаць.

– Ну нічога, нічога, – кажа ёй Валянцін Акудовіч, – не сумуйце, а лепей прыходзьце да мяне ў Беларускі Калегіюм – я навучу вас мысліць. Ён працягвае афіцыянтцы сваю візітоўку і выходзіць з кавярні.

3

– А ты ўпэўнены, што ім будзе цікава даведацца пра мяне, – пытае Адам Глобус Сяргея Балаханава перад пачаткам урока ў шостым класе.

– Канечне-канечне, ты пойдзеш на ўра, – адказвае яму Балаханаў, – у мяне ё хітры план..

– Добры дзень, дзеці, а слабо вам нацягнуць прэзерватыў на глобус, – пытае Балаханаў.

– А што такое глобус? – здзіўляюцца дзеці.

– А вось зараз даведаецеся... Пане Адаме, заходзьце, – кажа Балаханаў і сядае за стол. Дзеці сядзяць моўчкі, Адам Глобус сціпла выходзіць да дошкі і ўсміхаецца.

4

Прыходзіць неяк Андрэй Хадановіч у рэстаран, азіраецца па баках, ці няма каго знаёмага. Здаецца, няма. Ён кліча афіцыянтку і кажа:

– Голубушка, будьте добры, драники со сметаной, двойную порцию, черепаший суп и свинное ухо с жареной алычой и брусничным сиропом.

– Андрэй Валер’евіч? – здзіўлена кажа афіцыянтка.

– Где? где? что? Нет-нет, я не Андрей Валерьевич, вы меня с кем-то путаете, это не я... – паэт стрымгалоў вылятае з-за стала і кідаецца ў акно. Добра, што рэстаран на першым паверсе.

**Дзень Перамогі**

– Мой дзед у танку гарэў, – сказаў Іван і высока падняў галаву.

– А мой – у крэматорыі, – мовіў Шлёма сумна.

– А мой – у бункеры, – адказаў Фрыдрых, закрыў твар рукамі і заплакаў.

– Ну нічога, нічога, будзе табе... – пачаў супакойваць сябра Іван, – нашчадкі яго ніколі не забудуць.

– Гэта ўжо дакладна, – адзначыў Шлёма і сышоў з пясочніцы разам з усімі сваімі формачкамі.



**Ідэальная пара**

Ганна-Марыя і Жан-Поль пазнаёміліся ў клубе ананімных алкаголікаў для тых, каму за 30. Яны адразу зразумелі, што створаныя адно для аднаго. У іх было шмат агульнага. Жан-Полю падабалася тое, што падабалася Ганне-Марыі. Аднолькавыя любімыя рэжысёры, пісьменнікі, паэты і музыканты. Агульныя любімыя расліны, жывёлы і птушкі. Адныя і тыя ж любімыя гарады. Абодва былі лінгвістамі-перакладчыкамі і абодва не працавалі па спецыяльнасці. Абодва пісалі вершы і добра малявалі. Нават любімы колер быў у іх аднолькавы – жоўта-зялёны. Здаецца, не было на свеце людзей, больш падобных, чым гэтая пара. У хуткім часе яны вырашылі пажаніцца.

– Толькі я хачу захаваць сваё дзявочае прозвішча, бо вельмі пяшчотна стаўлюся да яго, яно мне вельмі падабаецца, да таго ж я надта люблю сваіх бацькоў і вельмі іх паважаю, хоць яны і мудакі. Я не магу проста так адмовіцца ад іх прозвішча, – папярэдзіла Ганна-Марыя свайго каханага, калі яны пайшлі рэгістравацца ў ЗАГС. – Ты ж не пакрыўдзішся, Жан-Польчык?

– Я – не, – мовіў Жан-Поль, – але вось мае бацькі, яны, пэўна, не зразумеюць гэтага, бо яны таксама вельмі ганарацца сваім прозвішчам, і калі ты ад яго проста так адмовішся, яны, магчыма, возьмуць і не прыйдуць на вяселле, дый увогуле парвуць з намі ўсе стасункі, бо яны тыя яшчэ мудакі, але я іх вельмі люблю і хачу, каб у нашых будучых дзяцей было шчаслівае дзяцінства, з бабулямі і дзядулямі, разумееш.

– А ведаеш што, давай тады я вазьму тваё прозвішча і ў той жа час захаваю сваё, двайныя прозвішчы, кажуць, сёння ў модзе.

– Так, двайныя прозвішчы – гэта файна. У меня самога двайное, Брайт-Гагарын.

– Чаму ты раней ніколі не згадваў пра гэта? – запытала Ганна-Марыя.

– Ды ты ніколі не пытала...

– Ведаеш, каханы, мне трэба табе штосці сказаць... Я падманула цябе, калі сказала, што мае прозвішча Рубінштэйн... Насамрэч я Павіч-Чырвоная.

– Значыць, ты хочаш стаць Павіч-Чырвонай-Брайт-Гагарынай Ганнай-Марыяй Абдул-Саідаўнай... па-мойму, гэта нейкі абсурд...

– Абсурд. Але ж мы персанажы пісьменніка-абсурдыста Андрэя Пакроўскага, нам, можна сказаць, яшчэ пашанцавала, добра хоць, што ён пісаў гэтае апавяданне цалкам цвярозы і не для конкурса абсурдных апавяданняў “Чацвераногая варона”, добра хоць, што ён не ўкладваў табе ў вусны свае думкі. Скажы дзякуй, што ён не падарыў табе сваё аблічча і светаадчуванне, тады б мы ніколі не сустрэліся і не пакахалі адно аднаго, а так бы і засталіся проста наведвальнікамі клуба ананімных алкаголікаў для тых, каму за 30, дзе ён нас упершыню і сустрэў...

– Ты вельмі мудрая жанчына, Ганна-Марыя, ты маеш рацыю і прыгожыя сіські, – сказаў Жан-Поль сваёй нарачонай і пацалаваў яе ў вусны ля дзвярэй ЗАГСа.

Яны жылі доўга і шчасліва і памерлі ў адзін дзень. У дзень свайго вяселля. Ад палёнай гарэлкі.




**Аист**

На першым узі Марыі сказалі, што ў яе будзе ровар. Як ровар, здзівілася яна. Ну вось, самі паглядзіце, раздражнёна вымавіў лекар і павярнуў манітор да жанчыны. Нешта не вельмі на ровар падобна, недаверліва сказала Марыя, углядаючыся ў экран. Ну паглядзіце, вось рама, вось тут пачынаюць расці колы, вось зародак руля, вось маленькія фары, карацей, добры ровар, развіваецца як след. Марыя нейкі час памаўчала, а потым сабралася з сіламі і запытала, а гэта горны ці шашэйны. Ну, пакуль цяжка сказаць, рама яшчэ не да канца сфармавалася, прыходзьце праз 8 тыдняў, скажам больш дакладна, вы, галоўнае, не хвалюйцеся, пакуль усё ідзе як трэба. Галоўнае, зараз больш гуляйце, ешце гранаты, фінікі, хурму, часцей бывайце на свежым паветры, піце салідол, ну, карацей, вы і самі ўсе добра ведаеце.

Марыя выйшла з кабінета, на калідоры яе чакаў муж. Ну што, запытаў ён, хто там, хлопчык ці дзяўчынка. Пакуль невядома, адказала Марыя, рама яшчэ... Якая рама, здзівіўся муж... Лепей сядзь, дарагі, сказала Марыя і паклала руку на плячо мужу, карацей, не ведаю, як гэта атрымалася, але лекар сказаў, што ў нас будзе ровар... Некаторы час ён маўчаў, потым занёс руку, каб ударыць жонку, але стрымаўся і моўчкі пайшоў па калідоры да выйсця. Марыя закрыла твар рукамі, села на лаву ля нейкай пузатай жанчыны, тая абняла яе і яны разам заплакалі. Цяжарныя вельмі добра разумеюць адна адну.





**Апошні тралейбус**

Недзе аб адзінаццатай ночы мяне абудзіў грукат у дзверы. Адчынена, пракрычаў я скрозь сон. У кватэру ўвайшлі трое, усе ў скураных куртках з надпісам “Racing”, усе невялікага росту. Яны памахалі нейкімі пасведчаннямі ў чырвоных вокладках у мяне перад тварам, прыветна ўсміхнуліся і выцягнулі мяне за лыткі, у адных майтках, з-пад цёплай коўдры. Пайшлі, сказалі яны, прыйшоў твой час. Можа, хоць кавы пап’ем на дарожку, прапанаваў я. Няма часу, адказалі начныя госці і паказалі ў бок дзвярэй. Я ішоў басанож уздоўж распісаных, брудных сценаў пад’езда, па бруд-



ных, абпляваных, абванітаваных прыступках, па дывану з бітага шкла, недапалкаў і кала. Ля пад`езда, насуперак маім чаканням, нас не чакаў варанок. Трэба спяшацца, сказалі яны, хутка адыходзіць апошні тралейбус, калі спознімся, нас пазбавяць прэміі, таму варушы памідорамі. І мы вельмі шпарка пабеглі да прыпынка, ледзь паспелі, заскочылі ў апошні тралейбус, і той паімчаў, бы касмічны карабель, скрозь цемру начнога горада. Недзе праз два прыпынкі ў тралейбус зайшлі кантралёры. У маіх спадарожнікаў былі пажыццёвыя праязныя, якія ім выдалі на працы, у мяне ж талончыкаў не было, бо я ж не прыдурак цягаць талончыкі ў майтках. Мае начныя госці паехалі далей, паспелі ў час і атрымалі прэмію. Мяне ж знялі з маршрута, выпісалі квітанцыю на штраф у памеры 0,2 базавыя велічыні і адправілі дамоў. Недзе пад раніцу я вярнуўся, зайшоу ў пад'езд і зноў пайшоў басанож, у адных майтках, уздоўж распісаных сценаў, па дыване з недапалкаў, ванітаў, семкавага шалупіння, бітага шкла і кала. Я адчыніў дзверы, зайшоў у кватэру, залез пад коўдру і зноў заснуў.

**Under Control**

Гарадзенскія кантралёры – самыя злаябучыя кантралёры на свеце. Іхнія дзеянні непаслядоўныя і нелагічныя, таму суцэльна непрадказальныя. Гарадзенскія кантралёры працуюць у самых неспрыяльных для чалавека ўмовах: а шостай раніцы, калі гарадскі транспарт толькі пачынае свой рух, па начах, калі ты на рагах неяк цягнешся дадому, нават у Дзень горада, калі шчаслівы і п'яны народ вяртаецца ў свае спальныя раёны пасля салюта. Кантралёры стаяць на варце ў пякельную спёку, калі ўсе нармальныя людзі ўвогуле сядзяць дома і грамадскім транспартам асабліва не карыстаюцца. Яны, як дзяды Мазаі, чакаюць сваіх зайцоў на прыпынках, калі на вуліцы жахлівая залева, а ў горадзе абвешчанае штармавое папярэджанне. Гарадзенскія кантралёры, гэтыя псы антынароднага рэжыму, адбітыя на ўсю галаву, атрымліваюць заробак талончыкамі на праезд і квіткамі спортлато. Гэтыя людзі жорсткія і бязлітасныя, калі ты трапіш у іхныя чэпкія лапы і ў цябе раптам не знойдзецца грошай, каб выплаціць штраф, яны схопяць цябе пад рукі і пацягнуць да кампостэра, каб... пракампаставаць тваю ніжнюю губу. Калі яны злавілі мяне ўпершыню, было вельмі балюча, лілося шмат крыві, мой кот, калі яго кастрыравалі, лямантаваў, пэўна, цішэй, чым я тады. У другі раз было ўжо не так балюча і крыві было паменей, у трэці раз я амаль нічога не адчуў, а ў чацвёрты губа адвалілася ўвогуле. Гэтыя тварыны паднялі яе, паклалі ў маленькі пакецік і сказалі, што я змагу выкупіць губу ў аўтобусным парку нумар адзін, калі назбіраю дастатковую колькасць грошай. Але з маімі прыбыткамі, пэўна, мне так і давядзецца хадзіць без ніжняй губы, з гэткай пячаткай Каіна на абліччы.

**Значак**

Я шпацыраваў па Нямізе, вяртаўся з карпапартыйнай вечарыны на сядзібе БНФ, арганізацыі, сталым членам якой быў яшчэ мой дзядуля, ён ў гады вайны працаваў калабарантам і паклаў, як мовяць сведкі, каля ста партызанаў і трох мірных жыхароў, што хавалі на гарышчы танк. Калі "чырвоныя камунякі" ўсё ж такі перамаглі, мой дзед сышоў у лясы і хаваўся там ажно да 1991 года, тады яго знайшлі і падаравалі кватэру ў цэнтры Менска, якую, праўда, у 1995 канфіскавалі, і дзед зноў сышоў у лясы, але гэтым разам ён у іх ужо не хаваўся, а працаваў на лесапавале, а вольны час бавіў за кратамі, дзе харчаваўся і кватэраваў за дзяржаўны кошт.

Якім чынам я трапіў з Новамашэраўскага праспекта, дзе месціцца наш офіс, на Старамашэраўскі, мне дакладна невядома, таксама я не памятаю, што мы святкавалі, колькі пілі і з кім. Пэўна, прапівалі чарговы замежны грант, які гэтым разам папрасілі аддаць адразу алкаголем. На Нямізе ж адзначалі чарговае, ужо штомесячнае свята горада, на якое гэтым разам звезлі вязняў з навакольных турмаў, на хвілінку мне нават падалося, што я бачыў сярод іх майго дзядулю, але гэтая фата-маргана хутка знікла. Былі там і выдатнікі-пэтэвэшнікі, і сябры варожай нам арганізацыі, вядомай як БРСМ. Я важна йшоў па праспекце, несучы ля самога сэрца значак, на якім было напісана "За свабоду", і спяваў песні, спрабуючы перакрычаць шматтысячны натоўп і папулярную музыку з велізарных рэпрадуктараў. Да мяне падышлі людзі ў цывільным з прыветнымі ўсмешкамі і двума шарыкамі: чырвоным і зялёным. Яны папрасілі

даць пакарыстацца значкам, які я даверліва аддаў і пайшоў далей. Апасля, праз шмат гадоў, я пабачыў яго ў музеі КДБ побач з плоймай джынсавых і чорных стужак, тэрмасаў, бутэлек гарэлкі і парнаграфічных часопісаў замежнай вытворчасці.

Калі я наступным ранкам ачуняў і не знайшоў ля сэрца сваёй гордасці, я вельмі здзівіўся і пачаў пакутліва згадваць падзеі учорашняга дня. Перад вачыма з'явіліся твары маіх выпадковых знаёмых, што пазычылі ў мяне значак. Дзякуючы характэрным асаблівасцям іхнага аблічча я прыйшоў да высновы, што гэта былі прадстаўнікі спецслужбаў. Калі я расказаў пра сваю трагедыю на наступнай карпапартыйнай вечарыне, мяне выключылі з партыі і сказалі, каб без значка не вяртаўся. Я не ведаў, што рабіць. У мяне пачаўся запой. Калі я прапіў свой апошні грант, у мяне з'явіўся план, які я спаліў.

Я кінуў універсітэт, асабліва не шкадуючы пра гэта, бо зусім нядаўна здаў дзяржіспыт і быў пераведзены на пяты курс. Наступнай восенню я проста не з'явіўся на заняткі, а пайшоў у ваенкамат і запісаўся ў марскія коцікі, але праз недарэчную памылку замест коцікаў трапіў у свінкі, куды мяне з радасцю ўзялі, бо ім якраз былі неабходныя спецыялісты ў вобласці лінгвістыкі і перакладу эканамічных і грамадска-палітычных тэкстаў. Ва ўніверсітэце ж думалі, што я прадаў радзіму і з'ехаў мыць амерыканскі посуд, фарбаваць амерыканскія платы, атрымліваць амерыканскія тыпсы, красці амерыканскія шмоткі з амерыканскіх супермаркетаў і маркетаў паменей.

Пасля прысягі нас павялі рабіць ганаровыя наколкі, і тут мяне ледзь не папалілі, бо знайшлі на маёй спіне велічэзную выяву "пагоні". Яе мне зрабілі бывалыя апазіцыянеры з беларускамоўнага сёмага "Э", калі я вучыўся ў шостым класе.

– Што гэта за хуйня на кані? – запытаў у мяне сяржант.

– Гэта Будзёны, – адказаў я, каб не выкрыць сябе, і зрабіў хвалісты рух лапаткамі, а "Будзёны" на маёй спіне памахаў мячом у адказ.

– Добра, тады запішам цябе ў кавалерыю. Вас навучаць змагацца з няўзброенным ворагам у гарадскіх умовах.

Мая служба прайшла як адзін дзень, і праз 18 месяцаў я вярнуўся дадому ў блакітным берэце са сланечнікам. Пасля арміі я без цяжкасцяў здаў уступныя іспыты (стральбу, падцягванне і гісторыю Беларусі) у акадэмію МУС, дзе з мяне павіны былі зрабіць дыпламаванага мусара. Пасля сканчэння акадэміі мяне размеркавалі ў КДБ, бо я вельмі добра страляў і падцягваўся.

На сёмы дзень маёй працы да нас дайшла інфармацыя, што апазіцыя мае нейкія новыя значкі і налепкі, якіх яшчэ няма ў нашым музеі. Акрамя гэтага Сяргей Міхалок, што жыве цяпер на Гандурасе, са спецслужбамі якога мы, на жаль, не маем дамоўленасцяў, нейкім неверагодным чынам закінуў у нашу краіну стос кружэлак з нейкімі надзвы-



чай абразлівымі песнямі, што сёння актыўна развучвае апазіцыя. Мы атрымалі заданне канфіскаваць некалькі экзэмпляраў новых значкаў і налепак для музея, знішчыць кампакт-дыскі з песнямі Міхалка, а за кампанію самога спевака і ўсіх, хто паспеў развучыць ягоныя песні. Каб справакаваць апазіцыю на актыўныя дзеянні, мы вырашылі зладзіць Дзень горада.

Святкаванне йшло як заўсёды, мы запусцілі ў неба колькі чырвона-зялёных дырыжабляў, паветраных шароў і змеяў. У паветра паднялася сельгаспадарчая авіяцыя і пачала палiваць горад чырвоным і зялёным дажджом пестыцыдаў. Па галоўным праспекце, якому нарэшце вярнулі аўтэнтычны назоў Гаупштрассэ, на ружовых камбайнах ехалі трансвестыты, а на блакітных трактарах гомасэксуалісты везлі лесбіянак, што падкідвалі ўгору чырвоныя і зялёныя ружы. З гарадскіх фантанаў замест вады лілося піва “бобров”. Ансамбль “сябры” ладзіў свой традыцыйны open-air ля палаца рэспублікі. Усім было весела, акрамя яе. Яна ішла па Новамашэраўскім праспекце, пераступаючы цераз п’янтосаў, што з апошніх сіл павыпаўзалі з фантанаў, і уварочвалася ад чырвона-зялёных блазнаў, што прапаноўвалі сцяжкі і “савецкую беларусію”. Яна ішла з боку Новамашэраўскага праспекта і неяк хісталася. Яна спрабавала перакрычаць шматтысячны натоўп і музыку з велізарных рэпрадуктараў, яна нешта спявала. Я падышоў бліжэй і зразумеў, што гэта песні з новага альбома Міхалка. Памылкі быць не магло – бэнээфаўка.

Я акружыў яе з усіх бакоў, але, пабачыўшы твар, анямеў. Гэта была яна, Алена... Апошні раз я бачыў яе на той злашчаснай карпапартыйнай вечарыне, калі мяне выключалі з партыі. Я яе некалі вельмі кахаў, але ж партыю я кахаў болей. Божухна, Божа, я зусім забыўся на тое жыццё, я зусім забыўся, дзеля чаго вучыўся ў акадэміі МУС і пайшоў працаваць у КДБ. Зараз... зараз я ёй усё раскажу, яна зразумее, яна дапаможа, яна... яна...

– Але.. – хацеў пачаць я размову, але... але...але атрымаў ад Алены нажом у сэрца, ля якога я некалі насіў значак “за свабоду”, з-за якога маё жыцьцё радыкальна змянілася, з-за якога я тут вось ляжу... у крыві... у чырвонай крыві і зялёных штанах. “Будто кто-то мне в кабацкой драке саданул под сердце финский нож...”, гэта быў яе любімы верш. Яна часцяком чытала яго мне, калі мы заставаліся адны і ніхто не мог пачуць, як мы размаўляем па-расейску...

Праз некалькі хвілінаў да Алены падышлі людзі ў цывільным, хутка сарвалі з яе ўсе ейныя значкі і нават джынсавую стужку і ўцяклі ў невядомым кірунку. Алена не вытрымала гэткай ганьбы, хутка нанесла сабе два ўдары: ад дыяфрагмы да пупка першы і ад правай да левай рабрыны другі. Яна ляжала ў некалькіх кроках ад мяне... у крыві... у чырвонай крыві і белай сукенцы.




**Экзістэнцыяльнае**

У мяне на воку ячмень, у роце рэжацца зуб мудрасці, гэтай ноччу я амаль не спаў, баяўся прысніць, што памёр у сне і не прачнуся. На пары трэба было да паловы на дзявятую, я спазніўся, быў вымушаны сядзець на першай парце і рабіць усё магчымае, каб лектарка не заўважыла, як я сплю з адкрытымі вачыма і пры гэтым яшчэ раблю выгляд, што вяду

канспект. У маім жыцці нічога не наладжваецца, ні табе спадчыны ад далёкага малазнаёмага сваяка, ні працы, ні драгдылераў, ні канцоў света. Карацей, настрой апошнія некалькі дзён (ці гадоў?) ніжэй плінтуса. Адзінае, што ў гэтым жыцці радуе, дык гэта мой сябра ровар, сёння мы з ім паехалі катацца, спачатку завіталі "На фантаны", набылі сабе Янку Апдайка ў нейкай стромнай вокладцы, потым уздоўж Партызанскага праспекта папілілі ў Чыжоўку. Калі я ўжо ўдосталь накатаўся і збіраўся педаліраваць дамоў, заўважыў на праезджай частцы старую ваенную біклагу колеру хакі, спыніўся ля яе, пачаў разглядаць, раптам яна варухнулася, потым з біклагі вылезла галава, потым хвост і чатыры лапы. Калі я нахіліўся, каб падняць дзіўную біклагу, яна пабегла, добра, што я быў на ровары, не тое б уцякла.

Калі я паказаў сваю знаходку Віялеце, яна сказала, што ніякая гэта не біклага, а чарапаха. І сапраўды, чарапаха, зразумеў я, калі прыгледзеўся. Тады я падумаў, Андрэй, чувак, чарапах проста так на вуліцы не знаходзяць, паглядзі, як ты жывеш, так жыць нельга, трэба выпраўляцца, трэба паспець, трэба паспець...

**Імя**

Віялета хоча назваць чарапаху Дружком, але я кажу ёй, што аніводная чарапаха, якая сябе паважае, не адгукнецца на такую нягеглую мянушку. Аніводная чарапаха, пачуўшы "Дружок", не кінецца на шыю гаспадару, каб вылізаць ягоны твар, і тым больш ніколі не прынясе яму тэпці ў зубах. Карацей, гэта нейкая дурацкая мянушка. Тады, можа, Жучка, прапануе Віялета, а што, давай, кажу. Жучка – зусім іншая справа, Жучка – гучыць.

**Цяжкое пытанне**

А кім будзе ваша чарапаха па веравызнанні, цікавіцца мама. Напэўна, каталічкай, гаворыць Віялета, бо я ж спадчынная каталічка. А што б ты параіў, Галляш, пытаю я. Як IT-спецыяліст, які верыць толькі ва ўсемагутную навуку і легалізацыю марыхуаны, кажа ён, магу параіць вам занесці жывёліну ў Акадэмію навук, дзе яна спакойна прыме атэізм. Але пры чым тут легалізацыя марыхуаны, пытаю я. А што, ты супраць, здзіўляецца Галляш. Ты ж сам ведаеш, кажу. Ну дык і ўсё, мовіць Галляш.

Калі б у мяне быў чарапаха, я б зрабіла яму абразанне, кажа нам Надзея, калі мы расказваем ёй пра дылему. Хіба гэта магчыма, пытаю я. Тра-та-та, кажа яна, ты не ўяўляеш, на што здольная сучасная хірургія, асабліва за дзвесце баксаў. Але нашая чарапаха – дзяўчынка, Жучка, разумееш. Тады не ведаю, кажа Надзея.

Зрабіце з яе лепей будыстку, сказаў нам Віктар, калі мы зайшлі да яго ў госці, няхай пазнае дзэн і ўсё такое. А што такое дзэн, пытаю я. А хуй яго ведае, мовіць Віктар, давай яшчэ лепей вып'ем. Давай, кажу я. "Дзэн-н-н-н-нь", звіняць кілішкі.

Зрабіце з чарапахі суп, умешваецца ў гутарку Пятровіч, не, лепей папяльніцу, папраўляецца ён пасля таго, як чарапаха насрала яму на далонь...

Не ведаю, кім будзе нашая чарапаха, але веравызнанне, здаецца, не мае асаблівага значэння, бо нахрана ўсе гэтыя пасярэднікі ва ўзаемаадносінах з Богам? Галоўнае, каб з яе вырасла харошая чарапаха, а гэта залежыць ужо толькі ад яе самой і добра збалансаванай дыеты.

**Ёль**

У ісландцаў існуе павер'е, што на трынаццаты дзень пасля Раства, у Ноч усіх начэй, калі апошні з Дзедаў Маразоў сыходзіць у горы да наступнага года, па хатах ходзіць Ёльскі кот і правярае, ці абзавяліся гаспадары новаю вопраткаю з воўны. Тыя небаракі, што не паспелі, рызыкуюць трапіць у няласку да ката, ён можа зрабіць гаспадарам нейкую шкоду, насцаць у куце, забраць святочную вячэру ці з'есці кагосьці з дзяцей, таму вязанне сярод ісландцаў такое папулярнае.

Апошні раз я бачыў Ёльскага ката недзе месяц таму, ён заваліў да мяне а трэцяй ночы, ад яго моцна несла каньяком і цыгарэтамі. Не здымаючы ботаў, ён адразу рушыў на кухню, там

кінуўся да імбрыка і спустошыў яго. Спатоліўшы смагу, кот адразу палез у сервант, дзе ў мяне ляжыць люлька і тытунь. Ну, расказвай, прамовіў ён, пускаючы клубы дыму мне ў твар, як жыццё-быццё, што новага. Вось, кажу, Віялета звязала камізэльку з вярблюджай поўсці, вельмі цёплая. Кот усміхнуўся, ты ж разумееш, што на самой справе мне похуй на гэтыя рэчы з воўны, на самой справе мяне цікавіць, ШТО НОВАГА, чаго ты дасягнуў за апошні год, што змянілася ў тваім жыцці, чаму ты навучыўся, што збіраешся рабіць далей, мы, здаецца, ужо не першы раз сустракаемся, ты ж сам добра ведаеш, што легенды не трэба разумець літаральна. Ну, здаецца, нічога новага, усё як і раней, адказаў я сумна. Ну тады даруй, прамовіў кот, зняў майткі, сеў у куце, зрабіў сваю брудную справу і выскачыў у фортку.






*З кнігі “Кантынэнтальны сьнядaнак”*

## КОТКА

У гатэль прыехала канадзкая каманда па хакеі, прыехала на тыдзень. У канадцаў наперадзе як мінімум тры матчы. На рэцэпцыі ўсіх хуценька разьмеркавалі па нумарох, акрамя аднаго яўнага рэтрасэксуала, форварда, які быў жудасна нязграбна апрануты, з празрыстай усьмешкаю й поглядам татальнай абыякавасьці да ўсяго, што адбывалася навокал. Затрымка зь ім здарылася праз тое, што гатэль па сваіх унутраных законах забараняе пастаяльцам утрымліваць у нумарах жывёл.

Забарона была строгаю й кантралявалася дырэкцыяй. Але Ўэйн, так звалі спартсмэна, адказаў, што адмаўляецца тут спыняцца, пакуль не “прапішуць” ягоную котку – амаль міжнародны скандал: канадцы адмаўляюцца гуляць, котку адмаўляюцца прапісаць, жах…

Ды колькі той коткі было, але яна была ангельскаю, пародыстаю і каштавала пяцьдзясят тысяч фунтаў, мела сваю ўласную клетку і валізу на колах зь ежаю, пігулкамі, вітамінамі, цацкамі, штучнымі мышамі-забаўлялкамі, адфільтраванай вадой для пітва, мела сваю касмэтыку й колькі вопраткі, а таксама экалягічна чысты пясок для туалета. Котка мела багажу больш, чым гаспадар.

Уэйн ледзьве ня плакаў, скардзіўся, што ў яго толькі яна і ёсьць, адзіная яго падтрымка, і яму не патрэбныя ані прастытуткі, ані іншы біяматэрыял, які толькі ствараe атмасфэру прысутнасьці. Уэйн казаў, што якія б грудзі ні прасьвечваліся праз выразы ў кофтах і саколках

жанчын, яны не заменяць яму ягоную котку, якая аддае ласкі ўтрая болей і нічога за гэта не патрабуе. Сябры й таварышы па хакейным клюбе яго добра разумелі, яны падарожнічалі толькі з фотакарткамі любімых, альбо, на скрайні выпадак, здымалі напружаньне ў цягліцах праз набыты сэкс альбо рукою з крэмам.

На рэцэпцыі дзяўчыны перапужана лыбіліся, ня ведалі, куды падзець свае рукі й свае целы падалей ад знэрвованага хакеіста, пакуль не зьявіўся дзённы мэнэджар Карней Эдуардавіч і, разлаваны, што безь яго ня могуць рашыць такія простыя справы, з ходу падкінуў адну карункавую ідэю.

Котку запісалі як прастытутку, то бок, як "лэдзі ў нумар", і гэта вырашыла ўсе праблемы, Уэйн адразу праплаціў тыдзень пражываньня сваёй коткі па сорак эўра за дваццаць чатыры гадзіны і зьнік у ліфце разам з коткаю, клеткай і кацінай валізаю.

І ўсё было б файна, але аднойчы пакаёўка Наста, прыбіраючы ў нумары хакеіста, раптам не знайшла коткі! Гэта мусіў быць трэці міжнародны скандал у хакеі за два дні. "Лепей бы я цябе не знайшла, курва! – раўла на яе Міхаліна, галоўны мэнэджар. – Ды як ты знойдзеш мне пяцьдзясят тысяч фунтаў за котку!? Га? Прыбярэш усе нумары ў Беларусі?!"

Наста кінулася шукаць па гатэлі котку, пухнатую жывёлку колеру пляжнага пяску, уся дзённая зьмена, шкадуючы дзяўчо, кіскала па паверхах, зазірала ў самыя нетыповыя месцы, усе сьпяшаліся, пакуль канадзкая каманда ня вернецца ў гатэль. Безвынікова… Пакаёўка Наста, заплаканая, счырванелая, з апухлым тварам, пайшла ўвечары дадому, гатовая чакаць начнога званку, калі Ўэйн вернецца, вырашыць пакарміць котку, а там…

Так яна бедная й заснула, знэрваваная, забыўшыся перапрануцца, скруціўшыся эмбрыёнам пад ваўняным пледам, выпіўшы бутэльку валяр'янкі.

За ноч Насту ніхто не пабудзіў па тэлефоне са сваркамі й ганьбаю. Котка сама выпаўзла з-пад ложку, пад якім амаль суткі хавалася, напалоханая ранішнім пыласосам.

Акрамя коткі, Уэйн любіў толькі прадукцыю Apple, ён быў шалёным прадстаўніком новага руху – мак-нацы, і спачатку ўвесь тыдзень фатаграфаваў котку на свой iPhone, а потым, апошняй раніцою, перад ад'ездам, калупаючы яечню з кантынэнтальнага сьняданку, ён у макбуку посьціў усё гэтае сэнтыментальнае лайно зь любімай коткай у Фэйсбук, дзе пісаў у статусе, што жыў тыдзень у Мінску з коткаю, якую аформілі зь ім як прастытутку. Уэйн так і не даведаўся пра тое, як шукалі ягоную пухнатую жывёлку колеру сонечнага пяску і як Наста піла ноччу валяр'янку.

## СЦЭНАРЫСТКА

У ружовай рэстарацыі на трэцім паверсе гатэлю, зачыненай для ўсіх, акрамя пастаяльцаў, сёньня насычаны графік: другі дзень запар здымаюць нейкі бязглузды расейскі сэрыял пра мянтоў… Дзея адбываецца падчас абеду ў пажадана цалкам невядомай для гледача прасторы, галоўныя героі – ён (мяркуючы па ўсім, забойца) і ён (мяркуючы па ўсім, бязьвінны, але чамусьці гэтаму ніхто не дае веры)… Сцэнар тупы й просты – падстава ў забойстве бязьвіннага чалавека… Здымаюць усё ў Менску, бо ў Беларусі зьняць сярэдненькі расейскі фільм альбо сэрыял у пяць разоў таньней, чым у расейскай глыбінцы, дзе кошты накручваюць тоўсты губэрнатар і дурны мэнталітэт.

З аднаго боку тут, на здымачнай пляцоўцы, паўсюль адчуваецца эканомія спонсарскіх грошай, ад танных плястыковак і запаранай кавы "Жокей" у тэрмасах да непадрыхтаванага пэрсаналу, а з другога боку, усе вакол паводзяць сябе, як барчукі са сваім імпэрыялізмам. Так і хочацца плюнуць ім у твар, маўляў, якога хуя вы такія выпячаныя, спадарства, калі столькі гонару, чаму тут ладзіце свае "кіношкі"?!

Па ўсіх законах эканоміі, сцэнарыста выпісваць з Масквы ня сталі, хопіць галоўных акцёраў, якія абыходзяцца, як цэлы полк масоўкі для ваеннага фільма, таму сцэнарыста шукалі

ў Менску. І знайшлі. Галіна Фэліксаўна адпісала сцэнар па пляне, як мае быць, выклалася выдатна, хутка, чыста, прафэсійна й на тыдзень раней за тэрмін. Галоўны рэжысёр запрасіў яе на здымачную пляцоўку, трэба было пабачыцца, пагутарыць, пазнаёміцца, расплаціцца, і гэта, як аказалася, было памылкаю ад самага пачатку…

У рэстарацыі зьявілася жанчына невядомага ўзросту ў чорным ваўняным кажуху, у хустцы, з чырвоным тварам, з саплямі на верхняй губе, зь вялікімі чырвонымі вачыма, позірк якіх блукаў па прасторы. Яна зрабіла колькі крокаў у бок апэратара й спынілася каля актораў, крочыла яна цяжка, хада ў яе была напорыстая, ногі тоўстыя, круглыя, як ружовыя калёны ў рэстарацыі, абутак быў стаптаны й хутчэй нагадваў штосьці самаробнае, спадніца ледзь праглядала чорным краем з-пад кажуха, у адной руцэ яна трымала чорную торбу, а ў другой шэрыя варэнкі, якімі час ад часу дакраналася да сьлязьлівых вачэй і носу, зь якога няспынна цяклі зялёна-празрыстыя соплі. Галіна Фэліксаўна ва ўсёй прыгажосьці й неадэкватнасьці.

Як яна патрапіла ў гатэль, як прайшла праз ахову, як паднялася ў рэстарацыю?! На гэта даў дабро мэнэджар па тэлефоне, ён толькі прыйшоў на працу й меў загад пускаць праз цэнтральны ўваход усіх асобаў, якія задзейнічаныя ў працэсе кіназдымкаў, так было прасцей, бо ня трэба выпісваць аднаразовыя пропускі, таму ахоўнік, вядома, спачатку сумняваўся, што рабіць, даць жанчыне пад сраку альбо паказаць, дзе ліфт на трэці паверх…

Жанчына крыху пастаяла, пераступаючы з нагі на нагу, паглядзела, прымружыўшы вочкі, на актораў і апэратара, села за суседні стол і паставіла сваю чорную торбу на пустую талерку. А трэба дадаць, што, акрамя апэратара, двух актораў і асыстэнта рэжысёра, у рэстарацыі было каля трыццаці чалавек масоўкі, якія елі, пілі й гутарылі, ня лічачы гатэльных афіцыянтаў, якія побытава падыходзілі да сваіх роляў, і гэта было файна для сэрыяла, так бы мовіць, натуральна, працэс яго стварэньня йшоў поўнаю хадою…

Галіна Фэліксаўна спачатку гучна замовіла вады бяз газу, перапыніўшы актораў, потым празь невялічкую паўзу – эспрэса й попельніцу, і села чакаць замову…

– Дык што гэта тут такое?! – абурыўся рэжысёр, ускокваючы са свайго месца, – хто такая?! Што, блядзь, за самадзейнасьць?!

Галіна Фэліксаўна назвалася й прадставіла сябе як сцэнарыста, смачна высмаркаўшыся ў насоўку.

Рэжысёр паглядзеў на Галіну раззлавана, але ніякай цікавасьці ў ягоных вачах не чыталася, за сваё жыцьцё ён розных алігафрэнаў бачыў, асабліва ў сьвеце літар і фарбаў, таму моўчкі адлічыў патрэбную суму й папрасіў сцэнарыстку пасьля кавы сысьці праз “кантрольна-прапускны пункт” і больш ніколі, ніколі не зьяўляцца перад ягонымі вачыма, нягледзячы ні на што, нават на яе талент пісаць сцэнары.

Галіна Фэліксаўна скончыла з каваю, папіла вады, папаліла й выправілася да ліфта, але выйшла не на нулявым паверсе для пэрсаналу, каб крочыць у бок КПП… Яна спыніла ліфт на першым і зьнікла сярод наведнікаў лобі-бара, заняўшы месца ў прыцемку, у куце барнага стала.

– Я, разумееце, шаноўны, я вось хварэю, а то ж, усе мы хворыя, але пра гэта ня ведаем, вось як. Так, хворая, алергія ў мяне амаль на ўсё, што існуе ў сьвеце, часта бывае: як возьме мяне ацёк Квінкэ, дык ледзь “хуткая” пасьпявае, таму мне трэба пробы рабіць… – сцэнарыстка гучна, таропка прагаворвае словы, яна так жадае, каб бармэн выслухаў яе да канца, каб прыслухаўся, каб пашкадаваў, што не заўважае, як часта паўтарае адно і тое ж. – Вы мне мо крыху больш каньяку падліце, вы не саромейцеся, я тут кіно здымаю, я каньяк на падрапанай руцэ разатру і, калі ніякіх прыкметаў алергіі ня выявіцца, буду яго піць, – і яна носам шморгае, соплі ганяе, губа ніжняя трасецца, нібыта вось зараз расцягнецца і жанчына пачне плакаць. – Ну калі ласка, у мяне грошы ёсьць, вы не хвалюйцеся, насамрэч кожны з нас можа захварэць, усе мы носім у сабе бактэрыі й вірусы, усе мы патэнцыйныя мерцьвякі, – Галіна Фэліксаўна сьлязьліва скуголіла і церла на запясьці мінэралку, чакаючы, калі пададуць каньяк.

Праз хвіліну перад ёй зьявіўся кубак з чайнай вадкасьцю сямігадовай вытрымкі. Сцэнарыстка плюхнула алькаголем на запясьце й пачала драпаць руку, пакуль не праступіла колькі

кропель крыві. Бармэн, звалі яго Юра, шмат чаго бачыў у сваім жыцьці, але ўсё адно аслупянеў і ўтаропіўся на руку жанчыны, скура якой была чырвоная. І тут Юра ня вытрымаў і папрасіў жанчыну разьлічыцца й зьнікнуць зь ягоных вачэй. Сцэнарыстка заенчыла, але далей зь ёй не цырымоніліся…

Галіна Фэліксаўна яшчэ два разы трапляла на лобі-бар, ахоўнікі мяняліся зьменамі й ня ведалі яе, дзённы мэнэджар Карнэй Эдуардавіч выводзіў яе днём, начны – Хасан – ноччу, галоўны мэнэджар меў зь ёй размовы, а таксама адміністратары рэстарацыі, ахова, бармэны Юра, Вова, Кастусь і Андрэй, але яна магічным чынам трапляла ў гатэль, сядзела, церла каньяк на руках, пускала соплі, часам пачынала плакаць, аднойчы яе сапраўды разьдзьмула, як балёнік, калі яна пакаштавала маленечкую чакалядку, якая была пакладзеная на бірдэкель як падаруначак для кліентаў гатэлю й рэстарацыі.

Аднойчы Галіна патрапіла ў спа-цэнтар і адтуль – у салён-цырульню… Гэта быў гамон… Фарбы… Усе фарбы для валасоў яна размазала па руках, запэцкала сваю адзежу й сядзела так на канапе перад стэндам рэцэпцыі, чакала алергічнай рэакцыі, ацёкаў і ўсяго самага горшага, плакала, распавядала скрозь стогны й сьлёзы пра тое, што ўвесь сьвет хворы, ён памірае, настае Армагедон… Яна напалохала наведнікаў салёну, хтосьці, як толькі прыходзіў па запісе, бачыў такую карціну й адразу сыходзіў; Віталь, цырульнік, проста схаваўся ў сваім пакоі для пэрсаналу, Антон, другі майстар, глядзеў на сцэнарыстку з такім спужаным выглядам, быццам пабачыў сьмерць, і не варушыўся, яму адначасова было цікава, чым усё гэта скончыцца.

Галіна Фэліксаўна чакала й чакала, яна нарэсьце патрапіла ў тое атачэньне, дзе яе мусяць слухаць, трываць, бо яна патэнцыйны кліент, яна па ўсіх правілах мае рацыю ва ўсім!

Ніхто з супрацоўнікаў цырульні ў спа яе ня ведаў і ніякіх распараджэньняў гнаць яе ў шыю ад начальства ня меў і таму не чапаў, бо халера ведае, хто яна такая, можа быць, яна звар'яцелая жонка якога нафтавіка, і калі яе кранеш, то потым проста так не адкруцісься… Але адначасова нікому не патрэбны быў тут мярцьвяк, калі здарыцца сапраўды які ацёк Квінкэ… Так, Квінкэ й да пабачэньня…

Камэры ўсё фіксавалі, усе рухі, і ў гэтым выпадку, нават калі яна сама сабе напэцкала фарбаў на рукі й разадрала скуру, цырульнікаў і адміністратараў маглі пакараць за бязьдзеяньне…

Галіна Фэліксаўна пасядзела так гадзіну, папіла кавы, супакоілася, заўважыла, што яшчэ жывая й ніякай алергіі не выявілася, толькі кроплі крыві засохлі, дык яна ўзяла й пакрыўдзілася і запатрабавала кнігу скаргаў. Бо што гэта за абслугоўваньне такое!? Паклікала Віталя, каб той пафарбаваў ёй валасы. Зразумела, Віталь, як і Антон, адмовіўся.

Адміністратарка не разгубілася, набрала нарэсьце ахову. Хасан быў на месцы праз хвіліну і ажно падскочыў, калі пабачыў гэтую вар'ятку. Хасан ненавідзеў, калі на ягонай зьмене псавалі ягоную(!) працу, й не трываў такіх жанчын, празь якіх ён губляў выдатных кліентак гатэлю. Галіна Фэліксаўна ўяўляла сабой наймацнейшую антырэкляму гатэлю. За Хасанам хвастом цягнуўся тоўсты галоўны ахоўнік Піліп Андросавіч.

Гэта было падобна да невялікага забойства. Сцэнарыстка крычала, круціла вачыма, ускідвала галаў да столі, кідалася ў розныя бакі, адмаўлялася апранаць кажух, крычала пра грошы й пра тое, што яна жадае фарбаваць сівыя валасы й кожны з нас носіць у сваім целе цэлы пакунак вірусаў і бактэрый, і кожны з нас можа падохнуць ад ацёка Квінкэ, проста карыстаючыся новымі духамі альбо зьеўшы мармэляд, яна білася й кідалася ўсім, што траплялася пад руку. Але шлях ёй у гатэль закрылі назаўжды, скаргаў яна не пісала, але нават калі б пакінула штосьці ў "Кнізе скаргаў", анічога не адбылося б, нават паветра не скаланулася б – штат юрыстаў міжнароднай кампаніі гатэляў такі вялікі, што адзін чалавек, які ідзе супраць, ня воін у гэтым полі.

Галіна Фэліксаўна, напэўна, вар'ятка, але хто з нас не без шызафрэніі, і пад канец гэтага кароткага "гатэльнага" апавяданьня большасьць ужо разважае пра сваё цела, разглядае яго як зьмесьціва вірусаў і бактэрый… Яшчэ крок, і мы будзем па-за мяжою "нармалёвасьці", такой спрэчнай катэгорыі.

Сцэнарыстка й па сёньня атрымлівае замовы на сцэнары, але толькі на паштовую скрыню… Лепш зь ёю ня бачыцца. І амаль кожны галоўны герой, прапісаны ейнымі ўласнымі рукамі, хаця б аднойчы кажа ў той ці іншай сэрыі: “Мы ўсе цяжка хварэем, але пра гэта яшэ ня ведаем. Мы ўсе – зьмесьцівы вірусаў і бактэрый, і нас чакае выбух”.

## ХАЎСКІПІНГ

Самая няўдзячная праца ў гатэлі – гэта праца пакаёвак. Пакаёўкі – адзіныя, хто сапраўды бачаць чалавека, які ён ёсьць насамрэч. Кажуць, каб зразумець узровень культуры чалавека, трэба паглядзець, як ён сьнедае альбо абедае ў самоце. Менавіта калі чалавек застаецца самнасам, ён раскрываецца як асоба. Мне прыгадваецца знаёмы, які, нават пры мне, ня еў, а жэр, як сьвіньня, раскідваў паўсюль ежу, пэцкаўся, рыгаў, а калі неабходна было, гучна й смачна выпускаў газы. Я думаў, цікава, як ён сябе паводзіць на самоце, калі нікога няма, напэўна, нават і гадзіць, не адыходзячы ад ежы.

Пакаёўкі – самыя пакутныя з пэрсаналу. Часта гэтым жанчынам здраджваюць нэрвы, і яны ў лепшым выпадку звальняюцца, у горшым, баючыся застацца бяз працы, – знаходзяць супакой у алькаголі.

Ну а як тут не зап’еш, калі пасьля чарговага пастаяльца неабходна:

Прыбіраць шафу, у якую ён усю ноч сцаў, альбо адціраць у нумары тэлефон ад лайна, альбо здымаць брудныя майткі з каганцоў; адціраць хімічнымі сумесямі ваніты з канапаў, мяняць на ложку прасьціну, сапрэлую, сьмярдзючую прасьціну, а часам яшчэ са сьлядамі месячных, тут ужо ня йдзе гаворка пра тое, што пакаёўкі вымушаныя адскрабаць з-пад сталоў ня толькі прылепленыя жуйкі, але й высахлыя сроплі, доўгія зялёна-белыя соплі, месцамі зь цьвёрдымі казяўкамі; падмятаць падлогу пасьля вячэраў, прыбіраць посуд, выціраць пыл, які на дзевяноста адсоткаў складзены з адлушчанай скуры пастаяльца; пыласосіць паўсюль выпалыя валасы з галавы, з лабка, з-пад пахі; адмываць рукамыйнік пасьля дэпіляцыі, галеньня, падстрыганьня пазногцяў; адшкрабаць адусюль кроплі тлушчу, зубной пасты, крыві, мачы; зь люстэркаў выціраць плямкі з-пад выціснутых прышчоў з твараў і сьпінаў; мыць вокны пасьля дажджу звонку, знутры – выціраць тлустыя адбіткі пальцаў…

Праца пакаёвак – гэта цяжкі, невыносны абсурд падціраньня лайна за іншай чалавечай істотай, таму нядзіўна, што пакаёўкі пачынаюць піць на працы. Пакаёўкі ня могуць, як, напрыклад, афіцыянты, бармэны альбо бэлбоі, атрымліваць звыш заробка чаявыя ці падзарабляць якім іншым чынам. У пакаёвак стандартны аклад, самы малы з усіх пасадаў у гатэлі, і гэта, пашчырасьці, – несправядліва.

Пакаёўкі засталіся адзінымі ў сучасным сьвеце, пасьля нацыстаў і скіноў, хто ненавідзіць людзей паводле нацыянальнасьцяў, бо яны даўно ўжо вызначылі, што самыя бязглуздыя, нахабныя й брудныя з пастаяльцаў – гэта туркі, рускія, ліванцы, катарцы і італійцы, пасьля іх нумары трэба гадзінамі адмываць, а самыя чысьценькія нацыянальнасьці, якія ня толькі культурныя, але й па-вар’яцку акуратныя, пэдантычныя, – гэта англічане, канадцы, палякі й літоўцы… І адзіныя, хто паводле іхнага рэйтынгу часта не трапляе ні ў адну катэгорыю і захрасае недзе паміж, гэта – украінцы й шатляндцы. Украінцам пакаёўкі не прабачаюць застольляў, а шатляндцам не прабачылі аднога чэмпіянату па футболе, калі тыя, прыехаўшы на двое сутак падтрымаць родную краіну, адурэўшы ад такіх нізкіх коштаў на алькаголь, потым два тыдні запар пілі й разбэшчвалі беларусак, а тое, што яны пакінулі пасьля ў нумарох, цяпер сталася адным вялікім мітам, легендаю, чуткамі, сарванымі нэрвамі й рэкамі сьлёз пакаёвак.

Аднойчы адна з пакаёвак, Валя, выявіла для сябе, што калі пастаялец гатэлю высяляецца з нумара, то між яго ад’ездам і разьлікам часта застаюцца колькі гадзін, калі міні-бар у нумары яшчэ не аднавілі і ўсе гэтыя плястыкавыя і шкляныя бутэлечкі яшчэ залічаныя за пастаяльцам. Валя даўно ўжо вырашыла, што людзі, пасьля якіх яна, пакутная, прыбірае, пакідаючы дома недагледжаных дзяцей і мужа, вінныя ёй хаця б колькі грамаў якаснага алькаголю. Так Валя ўдала



выпіла за чужы кошт тройчы за два тыдні, і ёй спадабалася.

Адным сонечна-пукатым днём Валя выявіла ў нумары літровую пляшку ўіскі “Рэд Лэйбл”, выдатны ўіскі, годны – традыцыі, рэцэптура, смак, гонар, прывабны гарбатны колер, пах, м-м-м… Яна вырашыла, што пастаялец зьехаў і проста пакінуў пляшку.

Увечары мужчына роў на ўвесь першы паверх, скардзячыся Хасану, начному мэнэджару, які толькі што заступіў на працу й яшчэ ня цалкам разумеў, у чым справа, спрабуючы разьляпіць вочы пасьля дзённага сну:

– Я ўсё разумею! – крычаў, зрываючыся на хрып, мужчына. – Я ўсё разумею!!! Але не разумею вось гэтага!!! – і мужчына трос у руках амаль пустую бутэльку ўіскі. – Я перад выхадам з нумару пакінуў бутэльку “Рэд Лэйбл”!!! Прыходжу!!! А там амаль няма вадкасьці ўнутры!!! Гэта што за такое!!! І гэта пяць зорак?!

Мужчына роў, як паранены лось, скуголіў, успамінаў увесь мацюкальны лексыкон, які калісьці чуў альбо ўжываў за жыцьцё. Мужчыну ня так прынцыпова было, што хтосьці выпіў яго ўіскі, з кожнай поры яго скуры вылівалася злосьць на людзей, а галоўнае, зьнішчальная злосьць на тое, што ён сёньня ноччу прайграў у казіно сто тысяч эўра…

Што рабіць?! Трэба тэрмінова даведацца, хто і якім чынам так пазьдзекваўся з цнатлівай пляшкі!!! Даведаліся – пакаёўка Валя. Знайшлі яе, адсачыўшы па камэрах, яна спала ў кладоўцы для прыбіральшчыц на пятым паверсе. Пабудзілі, пачалі на яе раўсьці: Ха-



сан сваё балбоча, незразумелае, намяшанае англіцызмамі, русізмамі й беларусізмамі, расфарбаванымі акцэнтам – па-турэцку, Піліп Андросавіч на свой лад штосьці рыкае, Міхаліна ўскідвае роспачна вочы – гвалт, цырк, вайна, эпапея… Валя нічога не разумее…

Пакаёўка глядзела на трох начальнікаў, глядзела на іх заспанымі вачыма, варочаючыся ў бруднай бялізне, спрабуючы ўстаць, нарэсьце ўстала, паціснула плячыма й прамовіла:

– Блін, я не разумею, чаго вы так крычыце?! Я ж пакінула там у бутэльцы амаль палову! Што ён, сквапны такі, ці што?!

Валю хацелі адразу звольніць, але яе працу высока цаніла галоўны мэнэджар Міхаліна, якой Валя непасрэдна падпарадкоўвалася. Міхаліна забараніла Амару Аль Айамару яе звальняць, сказала, што тая мае ня толькі траіх дзяцей, але й у дадатак вышэйшую біялягічную адукацыю, і трэба даць ёй другі шанец. Але Хасан вырашыў усё па-іншаму, і на ягоны загад камэрамэны, альбо ахоўнікі, якія працуюць у габінэце прагляду камэр, на працягу месяца сачылі за Валяй.

Выявілася, што кожны дзень пакаёўка да абеду, млява перасоўваючы свой вялікі столвалізу з мыючымі сродкамі, рушнікамі й анучамі, амаль не працуе, яна, як прывід, то праходзіць праз камэру й зьнікае, то стане на адным месцы й стаіць, ці то жывая, ці то не… Потым а першай Валя сыходзіць на абед, але не ў сталоўку для супрацоўнікаў, яна, пакідаючы гатэль, цягнецца кудысьці і ўжо праз паўгадзіны вяртаецца й жвава працуе да вечара, сьмяецца, хутка носіцца сюды-туды па сваім паверсе, адмывае нумары, гутарыць з пастаяльцамі, усьміхаецца начальству, амаль “супрацоўнік месяца”!

Хасан вырашыў прасачыць за ёй у абед, куды яна ходзіць і адкуль у яе бяруцца сілы на працу… Ён, ня спаўшы ноч, застаўся ў гатэлі да абеду, і вось якую карціну ён пабачыў.

Абед. Валя выходзіць зь мясцовай крамкі «Віно-гарэлка», у руках – бутэлька нуль сем таннага віна, зварочвае ў суседні двор, адкаркоўвае бутэльку, выкідае вечка адразу ў сьметніцу, боўтае ў бутэльцы вадкасьць, каб тая закруцілася супраць гадзіньнікавай стрэлкі, падымае ўгару і, як сказаў бы Венечка Ерафееў, як піяністка, артыстычна ўскідвае галаву й залівае ў глотку адразу да паловы бутэлькі віна. Прарабляе ўсё гэта Валя хутка, роўна восем вялікіх глыткоў… Напаўпустая бутэлька яшчэ раз ускідваецца ўгару і, асушаная, ляціць усьлед за вечкам.

Валя сядае на лаўку й запальвае… Так яна сядзіць дваццаць хвілін… Чакае, калі пахмельле здымецца й знойдзецца моц на працу да вечара, а там не за гарой чарговы фаўст таннага віна.

У гэты ж дзень Валю звольнілі з працы, пазбавіўшы яе адразу прэміі й адсоткаў за перапрацоўку, налічыўшы ёй на картку толькі заробак за тыдзень. Хасан быў вельмі задаволены, што так спраўна й ладна спрацаваў.




*З кнігі "Музы і сьвіньні"*

## ЯК УЛАДЗІМІР МУЛЯВІН ЗЛАДЗІЎ КАНЦЭРТ ДЛЯ ВІЦЕБСКІХ БАМЖАЎ

### I. "Эўтэрпа", музыка.

Для савецкага чалавека існаваў толькі адзін паказчык здароўя: можна яму выпіваць, ці нельга.

Кіраўнік "Песьняроў" Уладзімір Мулявін быў савецкім чалавекам, і выпіваць яму забаранялася катэгарычна – прынамсі, пад канец жыцьця. Кар'ера маэстра ўкладалася ў традыцыйную формулу "гастроль – парткантроль – алькаголь". Гэтае пякельнае спалучэньне і выпаліла ягонае нутро, рыхтык бязьлітасны вагнямёт – сьвяточную клюмбу, так што на руінах мулявінскага арганізма буяла адно бадыльлё з трамбозаў, псыхозаў ды цырозаў. Дактары дазвалялі яму хіба што любавацца пляшкамі, але ж выпіваць – крый Божа!

Але музыка сам прысьпешваў свой скон. Варта было Мулявіну толькі глянуць на пляшку, як ён адразу ж пачынаў яе рэфлекторна піць. Ён піў усё, што траплялася на вочы: памяркоўнае піва, добрае віно, шляхотны каньяк і лютую гарэлку. Ён жлукціў зранку, удзень, увечары, а таксама уначы. Сытуацыю ўскладняла чарговая мулявінская жонка, якая падступна нашэптвала: ты, маўляў, геній, табе можна ўсё!

Як вынік, Мулявін няўхільна дэградаваў. Па хуткім часе ад Вялікага Песьняра застаўся адно пазнавальны вобраз: вусы "падковай", бліскучая лысіна, кранальны маркотны тэнар…

Хранічна падпіты Муля існаваў сваім уласным жыцьцём, а ягоны вобраз – сваім, спакваля ператвараючыся ў гэткі беларуска-савецкі брэнд, кшталту Брэсцкай крэпасьці, партызанаў і трактароў. Гэты вобраз і прадстаўляў Беларусь на размаітых музычных сьвятах аж да пачатку дваццаць першага стагодзьдзя.

Так было і ў 1999 годзе, падчас “Славянскага базару” ў Віцебску.

Прыяжджаюць Мулявіны на гэты самы базар увечары, засяляюцца ў здымную кватэру. Маэстра пасьля цягніка выглядае абстынентным хамяком: шкляныя вочы, раскаардынаваныя рухі, затарможаная мазгавая дзейнасьць. Карацей, клясычная беларуская млявасьць і абыякавасьць.

Жонка раскладае транты і квохча: ды Валодзечка, ды табе адаспацца трэба, ды наперадзе дзень цяжкі! Што – крышачку бухнуць перад сном? А вось хрэнушкі, заўтра канцэрт, зноў са сцэны звалісься! Абяцаеш ня піць? То і добра! Распранайся, кладзіся і баінькі. Пяшчотна цалуе мужа ў лысіну, накрывае коўдрай і сыходзіць на экскурсію па віцебскіх крамах, прытым прадбачліва зачыняе пакой звонку на ключ. Што цалкам слушна: Валодзечка па-цёмнаму да гастранома не ўцячэ, дый былыя сябры-лабухі, што таксама выступаць прыехалі, не палезуць да яго высьвятляць адносіны.

Шчоўкае замок, цокаюць і аддаляюцца абцасы. Мулявін падымаецца з ложка і дэпрэсіўна хмыкае: ды што, маўляў, гэтыя бабы ў мастацтве разумеюць? Напружваецца, каардынуецца, дастае з заначкі пляшку, на донцы каторай яшчэ плёхаецца грамаў сто сорак гарэлкі. Засяроджана скручвае корак, каламутным вокам аглядае інтэр’ер, спрактыкавана прымяраецца каўтануць проста з рыльца. Але ў апошні момант вырашае, што жлукціць у задушлівым пакоі, сярод аблушчаных шпалераў і абшарпанай мэблі, супярэчыць ягоным мастацкім перакананьням. Ён чалавек творчы, яму трэба паэзія і прыгажосьць, і пажадана такія, каб зьмяняліся калейдаскопам. І таму адзінае прыдатнае месца для эстэтнай выпіўкі перад сном – гаўбец.

Маэстра накідвае на голыя плечы пінжак, суе пляшку ў кішэню і сунецца на вольнае паветра. Выпівае пад занюх, аглядае вечаровыя краявіды. З глыбокага космасу цнатліва падміргваюць зорачкі, поўня сыпле срэбным пылам на паснулыя шаты, і густое цьмянае паветра патыхае гаркотным водарам начнога квецьця. Ён дбайна дасмоктвае з рыльца, аджывае і натхняецца: у жыцьці, аказваецца, заўсёды знойдзецца месца для лірыкі і рамантыкі! І тут музыка вельмі дарэчна згадвае, што ў другой заначцы, здаецца, ёсьць яшчэ адна пляшка са ста грамамі. А можа, нават і са ста дваццацю!

Штурхае дзьверы гаўбца… не адчыняюцца! Зноў штурхае – зноў не адчыняюцца. Нэрвова цісьне плячом. Дзьверы пружыняць і не адчыняюцца. І музыка нарэшце разумее, што шпінгалет выпадкова зашчоўкнуўся, і ён апынуўся ў палоне.

Так што давядзецца стаяць на гаўбцы ажно да прыходу жонкі…

А на падворку тым часам халаднее. Ад Дзьвіны дзьме пранізьлівым, з хмаркі кропае вільготным, голае цела ўкрываецца гурковымі пупышкамі. Палонны дробна калоціцца, інстынктыўна суе рукі ў кішэні. І выпадкова знаходзіць там колькі купюраў. Рахуе і разумее, што гэтага дастаткова яшчэ на адну пляшку. Тым больш нэонавая шыльда “начніка” спакусьліва сьвеціцца ў якіхсьці ста мэтрах адсюль.

Пэрспэктыва наладзіць працяг банкету грэе душу і падымае настрой. Мулкі стан недапітасьці правакуе мазгавую дзейнасьць. Мулявін прымяраецца, ці зможа ён зьлезьці з гаўбца. Невысока, другі паверх усяго, але ж спускацца не дазваляюць узорст, камплекцыя і каардынацыя, а дакладней, яе адсутнасць. Карацей, тут без дабрадзея-“ганца” не абыйсціся!

Музыка напружана мружыцца ў паўцемру, выглядаючы патэнцыйных памагатых. А віцебскі двор тым часам жыве звыклым гарманальным жыццём. Гопнікі жлукцяць піва, дзеўкі сьпяшаюцца на блядкі, вулічны кот шчасьліва храбусьціць памыйным пацуком.

Ці не пад самым гаўбцом – колькі сьмецьцевых кантэйнэраў, каля каторых дзелавіта корпаюцца нейкія сюрэалістычныя пэрсанажы, якія пры больш пільным разглядзе аказваюцца бамжамі.

– Алё, мужык, – просіць Мулявін клышаногага мужчыну нявызначанага ўзросту. – Можна цябе папрасіць да гастранома зганяць? Зараз грошы ў цырагэтнай пачцы скіну.



Клышаногі нетаропка адкладае цэляфанавы пакет са шклатарай, лянотна задзірае голаў і прымае падкрэсьлена незалежную позу.

– А ты хто такі, каб я для цябе па бухло ганяў? Бач – працую!

Кіраўнік “Песьняроў” становіцца ў найвыгодным ракурсе – так, каб сьвятло з пакою клалася яму на твар.

– Хіба не пазнаў? Я заўтра на “Славянскім базары” сьпяваць буду, прыходзь, кантрамарку дам!..

Бомж факусуе зрок, супастаўляе мулявінскія вусы і пуза з двухсэнсоўна-крымінальным назовам галоўнага музычнага фэсту краіны і недаверліва ўдакладняе:

– Міхаіл Круг?

Мулявін ад злосьці ажно скрыгоча зубамі і грызе вус… Добра, што яшчэ Філіпам Кіркоравым не аблаялі!

Ды ён – цэлая музычная эпоха ў адной асобе! Ён сапраўдная зорка, хаця і рэліктавая, ягонымі дыскамі ўвесь гэты Віцебск замасьціць можна! Яму ж, стоячы, апладавалі генэральныя сакратары, каралі і міліярдэры, у яго нават амэрыканскі прэзыдэнт Джымі Картар аўтограф прасіў! Ды што там нейкі Картар?! Сам Джон Ленан прызнаўся, што “Песьняры” – найлепшае, што ён чуў у сваім жыцьці!

І тут нейкі сьмярдзючы галадранец…

– Ды Мулявін я, Мулявін! Зь “Песьняроў”! – абурана выдыхае Мулявін. – Той самы!

– Як гэта Мулявін?! – не дае веры бамж. – Ён жа даўно памёр…

Пакуль кіраўнік “Песьняроў” адбудоўвае ў галаве жорсткае абвяржэньне і паўторную просьбу зганяць па бухло, пад бальконам зьяўляецца яшчэ адзін бамж, з агідным тварам і крымінальнымі манэрамі.

– Мулявін, кажаш? – агрэсіўна шчэрыцца ён на гаўбец. – Па-ціпу на “Славянскі базар” з таго сьвету прыехаў… Ты што – за лохаў нас трымаеш? За свой базар папанятках адкажаш?

Дакумэнтаў у кішэнях мулявінскага пінжаку няма. Апошняга “песьняроўскага” дыска з выявай саліста – таксама. Так што адказаць няма чым. Але ж абурэньне ў ягонай душы ўжо палае пажарам, і згасіць гэты пажар можна адно гарэлкай…

Тым часам валацуга з крымінальнай пысай нечакана выдае вельмі слушную прапанову.

– Алё, я зараз гітару табе перадам. Як збацаеш што-нібудзь зь “Песьняроў” – зганяем у краму. Як не – шыбы паб’ем. Згодны?

Маэстра мужна глынае крыўду, ніжа плячыма і… пагаджаецца. А што яму яшчэ застаецца?

Як тое ні дзіўна, але галадранцы вельмі хутка прыносяць гітару. Відавочна не “Stratocaster”:




пабітая дэка, абцёрты грыф, раскудлачаныя струны… Няйначай, на сьметніку знайшлі. Мулявін расплятае на гаўбцы капронавы шнур для бялізны, спускае канец долу…

– Што вам выканаць? – змрочна пытаецца ён, настройваючы інструмэнт.

– А што хочаш, – літасьціва дазваляюць бамжы.

З гаўбца чуваць шоргат і стрыманы кашаль. Але ўжо праз колькі хвілінаў фіялетавае сутоньне поўніцца дробным гітарным пераборам, і вечаровы двор працінае маркотны тэнар:

*Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая,*
*Чаму так горка, не магу я зразумець…*

Каля сьмецьцевых кантэйнэраў робіцца нязвыкла ціха. Бамжы розных узростаў, полаў і ступені маргінальнасьці вылазіць на сьвятло і паглядаюць на Песьняра, рыхтык пацукі на гамельнскага флейтыста.

Мулявін акуратненька кладзе апошні акорд. Клышаногі валацуга разгублена шкрабе патыліцу:

– Супада-ае… Можа, і сапраўды Мулявін? Карацей, мужык, скідай бабло, зараз зганяем. Табе што – чарніла ці гарэлкі?

– А як у цябе лавэшак мала, дык дабавім! – добразычліва дадае галадранец з агідным тварам. – Можа, яшчэ і закускі якой хочаш?

Пакуль эстэтызаваная басота-галота бяжыць да “начніка”, маэстра нечакана натхняецца і ўжо без усялякіх заявак слухачоў працягвае канцэрт зь песень сваёй маладосьці – ад “Касіў Ясь канюшыну” да “Александрыны”.

І выкананьне гэтае цудадзейным чынам зьмяняе старога, сьпітага і паўзабытага ўсімі музыку. Голас маладзее, твар ільсьніцца, вочы блішчаць… Адбываецца тое, што наркаманы называюць “прыходам”, лабухі – “драйвам”, а псыхолягі – мастацкім афэктам Творцы.

Пад гаўбец ціхенька падцягваецца астатняя дваравая публіка: гопнікі, блядзі і нават участковы мент. Усе слухаюць засяроджана і ўдзячна, і гэта наводзіць на філязофскія думкі пра душэўнае ачышчэньне і ўсеабдымны катарсіс.

Па хуткім часе з боку “начніка” зьяўляюцца і бамжы-дарбадзеі. Прытым клышаногі яшчэ здалёк пераможна ўздымае па-над галавой пляшку гарэлкі, а агідны дэманструе ладны кавалак ліверкі. Праціскаюцца праз натоўп, сынхронна задзіраюць падбародзьдзі і з глыбокай пашанай паведамляюць:

– Вось, купілі ўсё, што ты хацеў, і нават больш. Скідай вяроўку, зараз пляшку ў пакет пакладзем, падымеш.

Мулявін прыгладжвае лысіну, круціць вус, лашчыць гітарны грыф. Мружыцца і выдае нечакана:

– Ды ну яе на хрэн, тую пляшку. А давайце я вам лепш яшчэ што-небудзь сьпяю!

# ЯК БЕЛАРУСКІЯ ХАРЭАГРАФІСТЫ ПАКАРАЛІ НАХАБНАГА МАСКОЎСКАГА ГАМАСЭКА

## II. “Тэрпсыхора”, танец

Прынята думаць, што сярод балеруноў ці не палова – гомасэксуалісты. Гэта нахабная і беспардонная хлусьня: гамасэкаў у сучасным харэаграфічным асяродку значна больш.

А як жа балетнаму хлопчыку не сапсавацца, калі ад самога дзяцінства ён мае справу выключна зь дзявочым целам? І прытым – цалкам прафесійна: “падтрымкі” напоўаголеных партнёрак, групавухі ў гран-па, дуэтныя танцы, а нярэдка – і агульныя распранальні…

Вынікі абсалютна прадказальныя: па хуткім часе пекнае дзявочае цела набрыдае так, што ад яго ажно ванітуе! Яшчэ ў чатырнаццаць гадоў балетнаму хлопчыку мо і цікава патрымаць аднагрупніцу за кволую цыцку, у шаснаццаць ён яшчэ згодны пакласьці партнёрку ў свой ложак, а вось на заканчэньне харэаграфічнай вучэльні нават самая прыгожая дзеўка ўзбуджае яго куды менш, чым гінекалагічны рыштунак – загадчыка жаночай кансультацыі.

Ну ня можа небарака глядзець на ўсіх гэтых прыгажунь у балетных пачках. Намацаўся ўжо маленькіх лебедзянятаў, нацягаўся тых спатнелых курыц уласнымі рукамі…

Але ж ёсьць, ёсьць у беларускай балетнай харэаграфіі і праўдзівыя мужчыны, і сапраўднае самаахвярнае каханьне!

На пачатку васьмідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя менская харэаграфічная вучэльня месьцілася на вуліцы Чарвякова, акурат непадалёк ад службовага ўваходу ў Тэатр Опэры і балета. Гамасэкаў сярод навучэнцаў практычна не было: збачэнскія тэндэнцыі Ніжынскага і Нурыева яшчэ не сапсавалі цнатлівую сьвядомасць беларускіх харэографаў.

На адзін з чарговых выпускаў прыяжджае ў менскую харэаграфічную вучэльню немалады маскоўскі танцор, народны артыст СССР, па сумяшчальніцтве – знакаміты на ўвесь тагачасны Саюз пэдэраст. Ён мае прымаць іспыты, ад яго шмат чаго залежыць. Ходзіць па рэпітыторыях, сядзіць у балетных клясах, наведвае ўсе касьцюмаваныя “прагоны”: прыглядаецца да выпускнікоў.

А хлопцы-харэографы на касьцюмаваных “прагонах” танчаць пераважна ў клясычных аблягальных трыко. Маскоўскі гамасэк глядзіць на ўсё гэта і ажно млее ад захапленьня: якая гармонія формаў, якая дасканаласьць плястыкі!

Натуральна, хлопцы пачуваюцца ад тых паганых позіркаў, не раўнуючы як вясковыя кабанчыкі перад нагостранай швайкай.

Па хуткім часе зьбірае гэты знаны маскоўскі гомасэксуаліст самых прыгожых харэаграфістаў-натуралаў. Вжыкае па пазногцях манікюрнай пілачкай, самазакахана паглядае ў люстэрка і ненавязьліва так прапануе: заўтра выпускны канцэрт, я ж з вашымі выпускнікамі і выпускніцамі фрагмэнт “Спартака” Хачатурана буду танчыць, дык вельмі хацеў вас, вас, вас, і яшчэ вось вас, маладыя людзі, запрасіць пасьля канцэрту ў госьці, ва ўтульны нумар гатэлю “Плянэта”. Ды не, што вы, проста пагаворым, я вам пра традыцыі ленінградзкай Ваганаўскай вучэльні распавяду, менавіта там я ўсяму і навучыўся… Няўжо ня ведаеце пра гэтыя традыцыі? Што, сур’ёзна? Якія ж вы ў сваім Менску правінцыялы, чэснае слова!..

І хціва так, паскуда блакітная, пасьміхаецца, бо разумее: адмовіць яму, народнаму артысту і сусьветнай зорцы, ніхто з маладзёнаў не наважыцца.

Хлопцы ў роспачы зьбіраюцца ў скверы імя Парыскай камуны, што каля Опэрнага. Настрой, натуральна, паганы, нехта бяжыць па пляшку “Партвэйна-72”, і пад цурчэньне віна маладыя натуралы пачынаюць адбудоўваць пляны супрацьдзеяньня.

– А давайце проста пашлем яго на хуй! – легкадумна прапануе адзін.

І адразу змаўкае, бо разумее па тварах сяброў: паслаць народнага артыста СССР, карыфея і лаўрэата проста “на хуй” не атрымаецца. Па-першае, ён, пэўна, і так тамака бывае штодня, а па-другое, ад яго залежыць далейшы лёс хлопцаў: рэкамэндацыі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, разьмеркаваньне, нават вызначэньне прафэсійнай здатнасьці.

– Можа, з нашай старажоўскай шпаной перагаварыць, каб яны гэтаму казлу рукі-ногі паламалі? – непаліткарэктна прапануе другі. – Скажаем, што “блакітны” – яго на горкі яблык і адмяцеляць! Нам карысьць, шпане радасьць…

Такая сымпатычная прапанова, на жаль, не ўхваляецца, бо хлопцы адразу пралічваюць: пакрыўджаны імгненна здагадаецца, чыіх рук справа. І тады гамбец усёй харэаграфічнай вучэльні.

– Кажуць, нейкія прастытуткі ў той "Плянэце" ёсьць, – талерантна мяркуе трэці. – Значыцца, павінны быць і прастытуты. Можа… скінемся ды купім яму такога на ноч? Няўжо не дамовімся?!

Падобны крэатыў таксама не праходзіць. Гэта зь інтэлігентным эўрапейскім геем кшталту Элтана Джона можна было б неяк дамовіцца. А з паскудным маскоўскім підарасам – ну ніяк!

Карацей, нявыкрутка поўная. І хлопцы-натуралы цяпер выдатна разумеюць тых дзяўчатак, якіх яшчэ нядаўна брутальна цягнулі да ложка. Толькі народнаму гамасэку СССР ня скажаш, што, маўляў, "галава баліць", што "месячныя пачаліся", што "давай у іншы раз"… Віно заканчваецца, і хлопцы вышкрабаюць з кішэняў апошнюю драбязу, бо да закрыцця крамы застаецца зусім мала. А запрашэньне ў "Плянэту", ад якога немагчыма адмовіцца, роўна праз суткі, і гадзіньнік усё цікае і цікае…

І тут адзін хлопец, якому заўтра на выпускным канцэрце танчыць па-дэ-дэ з "Дон Кіхота" Мінкуса, вельмі дарэчы згадвае: яго ж дзяўчына ў тым самым эпізодзе са "Спартака" выконвае партыю Эгіны! Харэаграфічны эпізод, між іншым, называецца вельмі красамоўна: "Оргія ў Краса". Адмоўнага пэрсанажа Марка Ліцынія Краса, як і мае быць, танчыць хцівы маскоўскі пэдэраст. Што неяк і сымбалічна: сэксуальныя збачэнствы ня толькі Трэцяму Рыму ўласцівыя, але ж і Першаму Рыму таксама.

– І што зможа твая Эгіна? – паблажліва пытаюцца натуралы-харэаграфісты. – Масквіч жа зь меншасцяў, на прыгожую дзеўку і глядзець ня стане. Нават калі яна танчыць старарымскую куртызанку Эгіну.

Дон Кіхот нешта абдумвае і сьвятлее з твару. У голасе гучыць надзея, і з кожным словам усё мацней і мацней:

– Учора яны акурат разам "Оргію" рэпэтавалі, дык мая дзяўчына заўважыла, як ён…

…Наступным вечарам у залі Дзяржаўнага Акадэмічнага тэатра Опэры і Балету – клясычны карпаратыў "для сваіх". У залі выключна бацькі выпускнікоў, выкладчыкі і ўся вучэльня. Першае адзьдзяленьне выступаюць малодшыя клясы. Дзяўчынкі танчаць фрагмэнты зь "Лебядзінага возера" Чайкоўскага. Публіка ў залі палітычна пісьменная і ідэйна сьпелая, разумее, якая гэта сур'ёзная дзяржаўная справа: нядаўна адзін Генэральны сакратар ЦК КПСС памёр, потым другі, неўзабаве і чарговы скапыціцца, праўдзівыя "гонкі на лафэтах" да крамлёўскага мура. Што ж тады па тэлевізіі паказваць? Зноў Плісецкую? Трэба і нацыянальныя кадры выхоўваць!

Навучэнцы народнага факультэту зухавата дэманструюць "Лявоніху" і "Крыжачок" – ажно масьнічыны сцэны гнуцца!

Наш хлопец-натурал бліскуча выконвае сваю партыю Дон Кіхота, нэрвова пазірае за кулісы. За кулісамі, здаецца, усё гаразд. І сяброўка ў сцэнічным касцюме старарымскай куртызанкі яму гэта на мігах паказвае. Маўляў – не аддам цябе, любы, на разьдзярбан гнюснаму пядрыле, рукі-ногі яму зламлю і яйцы паабрываю!

Гучаць воплескі. Апускаецца заслона. Публіка, натуральна, не разыходзіцца. Шаргацяць праграмкамі, вывучаюць усе тытулы маскоўскага госьця і нецярпліва чакаюць на галоўную страву вечарыны: народны артыст СССР, Лаўрэат Дзяржпрэміі, саліст Вялікага Тэатру ў ролі Краса. І як жа нашыя на тле такой зоркі будуць глядзецца?

У Старажытным Рыме, кажуць, няўдахаў-гладыятараў ільвам з тыграмі скармлівалі. А тут, калі кепска станчыш, пашлюць такога гладыятара ў самы занядбаны калгас Лельчыцкага раёну Гомельскай вобласьці харэаграфічны гурток арганізоўваць. Усё залежыць адно ад народнага артыста…

А за заслонай па сцэне ходзіць той самы народны артыст з каляровай крэйдай і крэмзае на дошках сцэны нейкія таямнічыя знакі.

Зрэшты, знакі гэтыя толькі для недасьведчаных таямнічыя, а не для харэографаў. Сцэна незнаёмая. Маштабы яе "ў ногі", як кажуць балеруны, ня ўбітыя. Зь якога менавіта месца "перакідное жэтэ" распачынаць, каб у памеры сцэны ўпісацца? Куды потым адысці,

каб аператыўная прастора для бліскучага антрашэ засталася? Выраз "танчыць ад печкі" не такі ўжо і бессэнсоўны: яшчэ падчас "прагону" масквіч запрыкмеціў на сцэне нейкія зручныя для вока сучкі і расколінкі, і цяпер гэтыя абапорныя пункты дбайна пазначае крэйдай.

Заслона нарэшце падымаецца. На сцэне – знакаміты сталічны гамасэк у старарымскім рыштунку. У руках Краса – плястмасавы меч, які ён фалічна і пераможна ўздымае па-над галавой. Імпэршчына ва ўсім сваім вычварэнскім бляску. Становіцца гэты масквіч у другую пазыцыю, глядзіць сабе пад ногі, імкліва разганяецца ў звышэфэктным па…

І са страшэнным грукатам валіцца ў аркестравую яміну, проста на фаготы і кантрабасы.

Усе, натуральна, кідаюцца глядзець, бо відовішча рэдкае. Старарымскі рабаўладальнік, вораг свабоды, братэрства і натуральных полавых зносінаў боўтаецца сярод разбітых пюпітраў, бы паранены Чапаеў у рацэ Ўрал. А аркестранты, на галовы каторых гэты падарунак зваліўся, шлюць яму такія шалёныя праклёны, якія б, напэўна, прымусілі збляднець і адхіснуцца нават Пецьку з Анкай-кулямётніцай!

І тут да аркестравай яміны выбягаюць нашы Дон Кіхот з Эгінай. І на праклёны аркестрантаў накладаецца адна толькі фраза:

– Ну што, стары підар, дапрыгаўся?

Гэта Эгіна па наводцы Дон Кіхота незаўважна для ўсіх павыцірала на сцэне тыя значкі, што народны артыст маляваў, і хуценька накрэмзала іншыя – усяго толькі на паўмэтра бліжэй да аркестравай яміны…



## ТАНЮШКА

Што адбылося ў тралейбусе па дарозе з лядовага палацу, Таня не магла растлумачыць. Міліцыянт, малады чалавек з дзвюма зорачкамі на пагонах, хацеў падрабязнасцяў. Але іх у дзяўчыны акурат і не было. Усё здарылася вельмі нечакана ў чарадзе звычайных рэчаў. Таня ехала з трэніроўкі разам са знаёмым хлопцам Раманам. Яны размаўлялі, жартавалі, фатаграфавалі адно аднаго. Раптоўна заднія дзверы тралейбуса расчыніліся. Дзяўчына не паспела нават падумаць, што гэта памылка няўважлівага кіроўцы. Раман, які сядзеў насупраць яе, уваднасчас падляцеў з месца ў паветра і шалёна залямантаваў. Невядомая сіла імкліва пацягнула яго вонкі. Небарака крычаў, прасіў аб дапамозе і літасці, чапляўся за парэнчы. Але марна. Апынуўшыся па-за тралейбусам, ён знік. Здранцвелая ад пачатку здарэння Таня бяздзейнічала, не здолеўшы ў сваім ступары заўважыць рэакцыю іншых пасажыраў і кіроўцы. Лейтэнант недаверліва пазіраў на дзяўчыну, нібы намагаўся адным выглядам схіліць яе да больш уцямных паказанняў. Але Таццяна Блонская ўпарта маўчала.

З апорнага пункту міліцыі Таню забрала мама. Аксане Львоўне давялося трохі паскандаліць у межах закону, але праз пяць хвілін і яна, і дачка сядзелі ў таксі, едучы дадому. “З табой заўжды нешта здараецца”, – заўважыла матуля, горнучы да сябе сваё збянтэжанае дзіця. Дзіця за свае шаснаццаць гадоў сапраўды неаднойчы трапляла ў дзіўныя сітуацыі. У чатыры гады Таня сышла з дзіцячага садка. Пасля ўсеагульнага перапуду яе знайшлі на стромым беразе кар’ера, дзе яна сядзела і цікавала за ўзлётнай паласой блізкага аэрапорта. Калі Тані было

дзесяць, з перасоўнага чэшскага звярынца ўцёк тыгр. Дзяўчынка прыйшла са школы дадому з паласатым звяругам, быццам з безабаронным кацяняткам. Калі Тані споўнілася дванаццаць, каля яе ўпаў слуп лініі электраперадач. Яна нават не заўважыла гэтага, захоплена чытаючы кнігу. Між гэтымі здарэннямі адбылася яшчэ цэлая плойма больш дробных, але не менш прыкметных, улучна з амаль поўнай адсутнасцю сяброў. Зрэшты, Танюшка, як любіла яе называць мама, ніколі не прымала іх блізка да сэрца: ну, здарылася, дык здарылася. Але знікненне Ромы яе вельмі ўзрушыла, і ўвесь час яна вярталася ў думках да здарэння з ім.

Наступным днём Таня смела пайшла ў школу, хаця здагадвалася, што і аднакласнікі, і вучні з іншых класаў, і нават настаўнікі (як жа ж без іх!) будуць старанна ўжываць розныя спосабы перамыўкі яе касцей. Ужо ў вестыбюлі яна адчула на сабе задужа цікаўныя позіркі. За спінай чуліся досыць аднатыпныя перашэпты. Але дзяўчына прымушала сябе ніяк на гэта не рэагаваць і толькі ў асобных надта дакучлівых выпадках паказвала чарговаму шаптуну фак. А шапталі ж featureрознае. Шапталі, што Блонская сама спрычынілася да знікнення свайго знаёмца. Шапталі, што яна нават магла забіць таго прыгожага хлопчыка ці то з рэўнасці, ці то з сатаніцкіх перакананняў.




Падчас вялікага перапынку Таня ў звыклай самоце сядзела на лаўцы ля кабінета гісторыі і вазёкалася з айфонам. На калідоры стаяла гамарня. Крычалі і бегалі дзеці малодшых класаў. Дзяжурны настаўнік спрабаваў кагось угаманіць. Раптам з усёй гэтай куламесы намалявалася палкая брунетка ў кароткай спадніцы. Блонская не адразу яе заўважыла і атрымала добрую поўху ад азвярэлай адзінаццацікласніцы.

– Ну, што, сучка?! Куды ты яго збэйсала? Зусім звесці ад мяне не выйшла, дык вырашыла прыкончыць? Га?! – раз’юшана гарлала тая.

– Ды ідзі ты к чорту! – апамяталася Таня, зразумеўшы сэнс прэтэнзіі. – Я не збіралася яго зводзіць, бо мяне вывернула б ад адной думкі, што ён цалаваўся з такой малпаю, як ты.

Яе словы падлілі смалы ў агонь, і брунетка вырашыла паўтарыць удар. Аднак Блонская перахапіла яе за руку і адштурхнула. Танін айфон паляцеў долу, упаўшы пад ногі нападніцы. Таццяна падрыхтавалася да абароны. З іншага краю калідору да іх бег абураны дзяжурны настаўнік. Аднак бойка не займела працягу. Нешта падкінула брунетку ў паветра і маланкава выпхнула ў расчыненае вакно, за якім адзінаццацікласніца растварылася, як цукар у вадзе. Калідор аціх. І толькі нейкая маляўка спытала ў іншай маляўкі: “Гэта з-за аўдыёнаркотыкаў?”

Як ні стараліся, цела дзяўчыны, што вылецела ў вакно, у школьным двары не знайшлі. Версія пра звышмоцны парыў ветру не вытрымлівала крытыкі. Школа стаяла на вушах. Адміністрацыя і настаўнікі глыталі валідол ці пілі валяр’янку.

– Ты зноў мне нічога не скажаш? – спытаў у Блонскай знаёмы лейтэнант.

– Я зноў вам скажу, як яно было. Але растлумачыць, чаму яно так было, не змагу, – прызналася дзяўчына.

Паказанні ўсіх сведак былі аднатыпнымі. Міліцыя засталася незадаволенай. Лейтэнанту вельмі не хацелася бачыць у тым, што здарылася, паранармальную з’яву. Ён старанна вывучыў усе зводкі па горадзе за мінулы тыдзень, марна спрабуючы знайсці нешта падобнае. Адкідваючы верагоднасць містыкі, ён вылучыў працоўную версію. Згодна з ёй нехта – маньяк?! – выкарыстоўваў моцны калектыўны гіпноз, ствараючы ў сведак адпаведныя карцінкі, каб самому тым часам беспакарана звесці ахвяру. Але гэтая версія не давала адказу на пытанне: чаму гіпатэтычны злачынца віўся каля Тані, гэтай спарадычнай інтравертки, як ахарактарызаваў яе школьны псіхолаг? Пільна патрабавалася дадатковая інфармацыя.

Таццяна адчайна намагалася прааналізаваць акалічнасці знікненняў. “Іх аб’ядноўваю толькі я. А гэта занадта эгаістычна, каб быць ключом да разгадкі”, – пасля доўгіх разваг зрабіла яна самакрытычную выснову і паклалася спаць, каб упершыню за многія гады ўбачыць трывожныя сны. Сніла Рому. Ён натхнёна гаварыў пра анёлаў, як ён звычайна гаварыў пра рэчы, што яго захаплялі. Сніла безыменную брунетку, якая з манернай незадаволенасцю гламурнай

тэлевізійнай лярвы крытыкавала іншапланетнікаў. Уласнай прысутнасці ў сне дзяўчына не адчувала, што толькі абцяжарвала ўражанні ад высненага, а па абуджэнні спарадзіла нязводны боль галавы.

Аксана Львоўна, вярнуўшыся ўранні з суткавага дзяжурства, дазналася са словаў дачкі пра здарэнне ў школе і прапанавала ёй застацца дома. Таня запярэчыла: “Мне трэба хаця б ілюзія прасторы”. Мама ўсміхнулася, пацалавала дачушку і адпусціла на заняткі.

У школе ад Блонскай шарахаліся, як ад пастаялкі лепразорыя. Не віталіся. Не сядалі побач. Але і не шапталіся асабліва. Ілюзіі прасторы ў школе дзяўчынка так і не знайшла, таму адпрасілася ў класнага кіраўніка дадому. Ужо ў аўтобусе Таню адолела ўражанне, што нехта за ёй сочыць. Яна сілілася перахапіць няўлоўны позірк, але ён так проста не даваўся. Па дарозе ад прыпынку да хаты адчуванне пераследу ўзрасло. Зразумець, хто з людзей за спінай высочвае яе, было не цяжка. Дзяўчына наўмысна паблукала, каб адарвацца ад невядомага дзядзькі і адначасова разгледзець яго, пасля затаілася за кустоўем і дрэвамі невялічкага скверыка. Пераследнік збянтэжана стаяў на дарожцы і сутаргава ціскаў кнопкі мабільніка. Блонская дастала айфон, скіравала яго на незнаёмца, адрэгулявала камеру на максімальнае набліжэнне і выбрала дадатковую функцыю паляпшэння якасці здымка. Шчоўк! Вуліца напоўнілася дзікім крыкам шпега, якога цягнулі няўгледкі, каб неўзабаве распусціць у паветры.

“Гэта ён, айфон, ва ўсім вінаваты!” – з адной думкай бегла Таня дадому. Не турбуючы маму, якая адсыпалася пасля працы, яна шмыгнула ў свой пакойчык, уключыла кампутар і палезла ў інтэрнэт. Забіўшы ў пошукавік усе лічбы і літары мадэлі айфона, яна атрымала шмат спасылак. Пераважна яны вялі на дзіўную навіну пра партыю шэрых кітайскіх айфонаў, выробленых з рэштак касмічнага карабля, што разбіўся ў Тыбеце. Дзяўчына нервова рагатнула: нават у пагоні за новым гаджэтам яна прымудрылася ўкляпацца ў гісторыю! “А там, дзе зараз Ромік і гэтая грымза, напэўна, вельмі цікава”, – мройна падумала яна і безразважна паспрабавала зрабіць сэлфшот. Аднак жаданага эфекту не атрымала – ніхто і нішто не падкідвала яе ўгору і не цягнула прэч з хаты.

Блонская не паспела расчаравана ўздыхнуць, як у вітальні пачуўся грукат і праз колькі секундаў у пакой уварваліся спецназаўцы. Адзін з іх загадаў ёй пакласці рукі за галаву і бесцырымонна абшукаў. Потым разам з соннай Аксанай Львоўнай у пакой зайшоў лейтэнант.

– Знік наш супрацоўнік. Ёсць падставы меркаваць, што да знікнення прычынілася вашая дачка, – тлумачыў ён.

Жанчына паматляла галавой, ціха папярэджваючы прыхадняў:

– Вы дарэмна прычапіліся да маёй дачушкі. Вы не ведаеце, што гэта за дзіцё.

– Калі вы хочаце сказаць, што яна малалетняя маньячка са звышнатуральнымі гіпнатычнымі здольнасцямі, то вы мяне не здзівіце, – гыркнуў следчы, дастаючы наручнікі. – Скажыце лепш, дзе трупы зніклых? Супрацоўніцтва са следствам будзе ўлічана, нягледзячы на ваш саўдзел у злачынствах і іх пакрыванне.



Таня з трывогай паглядзела на маму. Тая гучна засмяялася ў твар агаломшанаму міліцыянту і сказала:

– Ніякіх трупаў няма. Кагось забралі анёлы. Кагось іншапланетнікі. Усё залежыць ад асабістых заслугаў. А Танюшка з маленства прыцягвае незвычайнасці. Яе такой зрабілі. Як кампрамісны варыянт. Каб спыніць адвечную вайну. Каб абодва бакі апекаваліся ёй. Я толькі выканаўца іх волі. Я не магла забраць у дачушкі цацку, зробленую з абломкаў нябеснага дому, у якім яна нарадзілася…




Дзяўчына з жахам утаропілася на маму.

– Мяне дастаў гэты цырк, – буркнуў лейтэнант і памкнуўся накінуць кайданкі на Таню.

Пакойчык азарыўся сляпучым святлом. Сцены зніклі. Усе нема застылі. Святло вырынула з сябе дзве шаблонныя постаці – магутнага крылатага вершніка анёльскага войска і вялікагаловага гетмана іншапланетнай касмічнай флатыліі. Яны абмяняліся між сабой невыразнымі жэстамі, пасля чаго ўсе міліцыянты на загад іншапланетніка рушылі ў святло. Анёл па-бацькоўску ўсміхнуўся спалоханай дзяўчынцы, узяў са стала айфон і моўчкі знік у белі. Вялікагаловы злёгку пакланіўся і прапаў разам са святлом.

Таня нерухома стаяла пасярод пакоя. Аксана Львоўна абняла яе і прашаптала на вуха: "Ты ўсё адно мая". Дзяўчынка прытулілася да мамы і папрасіла больш нічога не тлумачыць. Зазвінеў хатні тэлефон. Жанчына нехаця выпусціла дачку з абдымкаў і пайшла падняць слухаўку. Дачка напружылася ў чаканні. Мама хутка з'явілася ў дзвярах і ціхім змоўніцкім голасам сказала: "Цябе тут нейкі Раман пытае. Сказаць, што ты дома?"

*2011 г.*




## GAYA EXPRESS

Так Тэнзін празваў сабаку. Ён чамусьці вырашыў, што чатырохлапы бегае, нібы тая ракета. Маўляў, пакінеш яго на хвіліну без увагі, а той ужо пасьпее зганяць у Гаю, перацерці там са сваімі ды вярнуцца назад. Такі вось звышымклівы. Тэнзін у той год быў увогуле не абыякавы да сабакаў. Хваляваўся. Лішні раз пачэсваў якому поўсьць за вухам. Відаць, такая схільнасьць была выкліканая знаёмствам з адной брытанскай лэдзі, якая таксама падзяляла гэтую заклапочанасьць і пацьвярджала яе справай. Тут паўсюль іх шмат, валацужных ды галодных. Пераважная большасьць са скуранымі захворваньнямі і паразытуючымі арганізмамі ва ўнутраных органах. У гэтым няма нічога страшнага, пакуль не зьвяртаеш увагі. Ніхто ніколі нават ня думаў пра гэта – дохнуць і дохнуць, што возьмеш зь нячыйнай жывёліны. А пасьля прыехаў новы эўрапейскі турыст ды вырашыў перайначваць, ратаваць. Яны пісалі звароты ў арганізацыі па абароне правоў жывёлаў і ва ўсялякія іншыя, спрабавалі зьбіраць сродкі. Тэнзін рабіў усё, што мог, наколькі ставала часу, наколькі дазваляла праца. Gaya Express бегаў з супляменьнікамі, корпаўся ў гурбах сьмецьця, відаць, нават не падазраваў, што ў яго цяпер ёсьць імя ды добразычліўцы. Сабака пазяхаў ды расьцягваўся на сонцы проста пасярод ходнікаў. Тысячы ног, крыкі ды бясконцая музыка, што неслася з хрыпаватых дынамікаў гандляроў дыскамі ды сувэнірамі, – гэта ніколі яго не засмучала.

А так усё ішло як заўжды, як стагодзьдзі дагэтуль. Зьмены, якія мы ўносім у расклады працы біялягічных мэханізмаў, па-ранейшаму застаюцца незаўважанымі намі. Магчыма, іх

памятаюць камяні, сьцены культавых пабудоваў, ступы. Але хіба ў іх спытаеш? Людзі застаюцца зь людзьмі ды нікуды ня могуць ад гэтага падзецца. Жыхары сваіх жыцьцяў, мы сядзелі тады з Тэнзінам на плястыкавых зэдліках ля яго шапіку ды цягалі гарбату. Мясцовы сьнежань халадзіў ногі, але яму было далёка да таго, што рабілася недзе на поўначы. Невядома, што нас тут трымала. Падавалася, яшчэ зусім нядаўна ў нас былі нейкія інтарэсы, нейкія мэты, якіх хацелася дасягнуць. Тут жа яны ўсе раптам нівеляваліся. Тэнзін хацеў зьехаць. Як і ўсе нармальныя людзі, ён хацеў зваліць адсюль назаўжды. Ён быў аўтамэханікам ды запэўніваў, што досыць неблагім. Быў бы ня супраць працаваць дзе ў Эўропе ды дасылаць бацькам грошы. Ён марыў услых, пацягваў гарбату і аўтаматычна вызначаў у натоўпе патэнцыйных пакупнікоў. Дома, на поўначы, у яго не было працы ў гэты сэзон. Узімку там увогуле не было нічога, дарогі не працавалі, большасьць маладога насельніцтва па-просту перасоўвалася на поўдзень, чапляючыся за любую магчымасьць зарабіць. Толькі гэта была зусім ня мара, а простая неабходнасьць. Пра нашыя неабходнасьці мы ўжо стаміліся церці, такія размовы зазвычай гучалі, як нейкія прыніжэньні, прабачэньні. Тэнзін здымаў пакой у ашраме. З матуляю і яшчэ адным сябручком. Яны спалі на матрацах на падлозе, там жа гатавалі, ды ўсё, што заўгодна. Да скрайнасьці простыя людзі. Калі ня ўлічваць характэрнай тут для ўсіх ад нараджэньня прадпрымальніцкай хітрасьці. Яны прыяжджалі на некалькі месяцаў. Маці круціла просьценькі гандлярскі бізнэс. Тэнзін сядзеў ад сьвітанку да заходу ды туліў традыцыйную біжутэрыю свайго народу, а таксама ўсялякае спажывецкае: шапкі, шкарпэткі, бялізну. Маці вельмі за яго хвалявалася, маўляў, вырас, а што рабіць, ня ведае, боўтаецца, ды заняцца яму няма чым.

Гарбата пляскалася на дне шклянак, сонца пачынала грэць і пазбаўляла неабходнасьці хутацца ў воўну. Можна было разьвітацца з раніцаю, казаць "пабачымся" ды займацца кожны сваімі справамі. Так яно й здаралася штодня цягам некалькіх тыдняў, ды падавалася, што час тут зусім ня дзейнічае.

У той год Тэнзін захапляўся сабакамі. Уважліва слухаў тую рэлігійную лухту, якую залівала яму ў вушы брытанская лэдзі, і часам яго можна было пабачыць за тэматычнай кніжкай. Увогуле ён хлопец добры ды чулы, папросту становішча, у якое мы трапляем, пакідае на нас нейкі ледзьве заўважны адбітак, нібыта ставіць маленькую пячатку ў ліцэнзіі на права ўзаемадзейнічаць з дасябепадобнымі. Карыстацца агульнай мовай. Дакумэнт захоўваюць дома ды ні ў якім разе ня носяць у кішэні. Зрэшты, у ім няма ані сэнсу, ані якой адметнасьці. Ува ўсіх такія ж самыя. Наўрад ці Тэнзін мог нарабіць каму шкоды, напэўна і сам быў у захапленьні ад сацыяльнай актыўнасьці па дапамозе чатырохлапым, ад нейкай новай, невядомай дагэтуль дзейнасьці. Быў у добрым шоку ад той упэўненай у сваіх памкненьнях жанчыны ды, можа, яшчэ крыху ад таго, што хоць такім чынам Эўропа набліжалася да яго. Той яшчэ аматар пафантазіяваць.

Цяпер я адчуваю сябе інакш. Мінула столькі часу, што можа падацца, што ўсё ўжо зусім перайначана, і што яшчэ крыху, ды сустрэнь мы адзін аднога на гэтых вуліцах, дык маглі б і не пазнаць. Ніякага сумневу, што яшчэ праз колькі год мы ператворымся адно ў цьмяную гісторыю, якую без напружаньня ўжо й не дастанеш з памяці. Я не пытаў Тэнзіна, ці памятае ён Пола. Пола-гімнаста, хлопца аднекуль з паўднёвых межаў усё той жа Эўропы. Не бяруся з дакладнасьцю сказаць, ці сапраўды ён быў Полам, ці ў бясконцых шэрагах знаёмстваў я выдумаў яму гэтае новае імя ды новую гісторыю. Ператварыў яго папярэдняга, такога, якім яго ведалі сваякі, сябры, зрэшты, мы самі, у некага дзіўнага ды арыгінальнага, у таго ўяўнага, з кім цікава было б падтрымліваць дыялог. Збольшага гэта ўсё лухта і непатрэбныя сэнсавыя вычварэнствы. Магчыма, я памыляюся, ня слушна аднаўляю заархіваваную інфармацыю. Зь іншага боку, нічога страшнага ў падобнай недакладнасьці няма, безь яе ў любым выпадку не абысьціся. Гэта згубіць усялякі сэнс, як толькі выдуманыя хронікі пасьпяхова заменяць сабою гісторыю, як толькі Пол назаўжды застанецца Полам ды пазбавіцца ўсіх сваіх папярэдніх ды наступных гісторый, калі ён будзе вядомы толькі як Пол-гімнаст, малады чалавек, што таксама ўпісваўся ў ашраме, той, хто залазіў на дах ды выконваў практыкаваньні, а ў вольны час (які ніхто не лічыў) дапамагаў мясцовым настаўнікам асвойваць незнаёмае мастацтва графічнага дызайну. Настаўнікі слухалі ды былі радыя, што атрымалі сабе яшчэ аднаго дурня-сьняжка. Яны папросту сцаліся ад радасьці, калі да першага далучыўся й другі, можа яшчэ больш дзеўбануты.

Насамрэч, гэтыя людзі былі настаўнікамі толькі напалову. У іх была і школа, і вучні, адзін зь іх нават быў дырэктарам і меў нешта накшталт офісу. Але мэтай было неяк зарабіць, аднекуль узяць баблос на бухло, новыя пакрыўкі для байку, на нешта там яшчэ. Праца настаўніка дазваляла атрымліваць гэта толькі праз пошук фундатараў. Яны развучвалі ролі ды выходзілі ў цэнтар, мяшаліся з натоўпам гандляроў прадметамі культу, пілігрымаў ды такіх жа бізнэсоўцаў, як яны самі. Падкотвалі да сьняжкоў-разяваў з прапановаю наведаць іх школу, нібыта незнарок. Тут усе размовы пачынаюцца незнарок ды на пустым месцы. Яны расказвалі пра дзяцей, пра кепскае становішча, пра недахоп фінансаваньня ды настаўнікаў. У рэшце рэшт падкідвалі прапанову павалянторыць, пазаймацца зь дзецьмі. Можна было расчуліцца ды пайсьці зь імі, каб там расчуліцца яшчэ больш. Вёска, выгляд будынку школы ды саміх навучэнцаў узьдзейнічаў на выпешчаных у стэрыльных добраасьветленых клясах эўрапеоідаў ня горш за фотаздымкі ахвяраў тэракту. Толькі тут табе яшчэ давалі магчымасьць неяк выправіць сытуацыю, паспрыяць. Гэта якраз было патрэбна. Яны падавалі ўсё зь неахайным сумам, суправаджалі ўсьмешкамі ды разнастайнымі ветлівасьцямі, абы толькі рыбка не саскочыла. Зрэшты гэта й была іх праца, іх хлеб. Іншай працы ў навакольлі не вадзілася.

Дзіпак быў яшчэ вельмі малады. Прыгожы юнак зь вялікімі вачыма ды нязмушанай усьмешкай селяніна. Ён элементарна ўціраўся ў давер ды мог бы зь лёгкасьцю зрабіць кар'еру па ўзоры капіталістычных функцыянэраў у галіне грамадзкіх камунікацый, калі б, канешне, не тупіў і меў бы больш фантазіі. Роўна настолькі, каб не займацца той жа таннай фігнёй, якой займалася добрая палова мясцовых. Ягоны сябручок нават пазычыў байк, дзеля таго каб Дзіпак запэўніў новых сяброў у лепшых намерах ды звазіў на моташпацыр, агледзець гістарычныя мясьціны непадалёку. Што яшчэ патрэбна гэтым ідыётам, як не гістарычныя мясьціны ды ланч у аўтэнтычнай вясковай сям'і? Гэта было ўжо пасьля таго, як мы з Полам некалькі дзён правялі зь дзецьмі, што ледзьве на шматкі нас ад шчасьця ня дралі. Ім было пофігу, чым іх грузяць дзядзькі, базавай ангельскай ці маляваньнем. Канешне, ад гэтых заняткаў пахла поўнай прафанацыяй, і чым далей, тым больш. Справа ў тым, што сярэднестатыстычны эўрапейскі розум папросту ня можа сабе ўявіць, што нехта ў стане вярзьці лухту цягам некалькіх дзён, выдумляць калясальныя праэкты, кшталту будаўніцтва новых навучальных плошчаў, больш за тое, паказваць раздрукаваныя пляны, даведкі з камітэту па адукацыі штату ды ўвогуле займацца ўсім гэтым толькі дзеля таго, каб тлусты турык вёўся ды адчыняў лапатнік. Шмат вольнага часу. Павальнае беспрацоўе.

Што ні кажы, добрыя яны былі хлопцы. У іх сапраўды была школа, былі дзьве прыгожыя маладыя настаўніцы, сапраўдныя, без разводу. Былі навучэнцы і былі праблемы. Была зайздрасьць, сьляпая ды безгрунтоўная, выкліканая мітычным вобразам заходняга чалавека, у якога ўсё добра дый чаго няма, дык гэта праблем. Гэтая міталёгія стымулявала іх непаўнавартаснасьць, пачуцьцё таго, што ім недадалі шчасьця, ды прагу здабыць яго іншым шляхам.

Ад усяго гэтага было неяк брыдка і сорамна. Сорамна й за іх, і за сябе. Тое ўсьмешлівае сяброўскае прыніжэньне, што шчыра выпраменьваў Дзіпак, нараджала нейкі цень адказнасьці. Быццам толькі тое, што ты прыйшоў здалёк ды адрозьніваесься культурнымі стэрыятыпамі і колерам скуры, ужо абавязвала цябе да спачуваньня ды клопату. Гэта своеасаблівы мікс сацыякультурнай спэкуляцыі ды пабытовага расізму. Калі цябе называюць братам ды адначасова настойваюць на непераадольнай адлегласьці. Мякка ды з усьмешкай, па-свойску. Напэўна гэта быў першы раз, калі я адчуў сорам за сваю эўрапейскасьць. Натуральна, што ўсё гэта лухта, што ніхто з нас не абіраў ані месца, ані самога факту свайго нараджэньня. Тым ня менш. Я глядзеў у вочы школьнікаў, у гэтыя бязьмерна жывыя ды рухавыя вочы ды адзначаў у іх просты й недвухсэнсоўны разьлік. Яны былі гатовыя пабіцца за пацертую аўтаасадку, якой я выпраўляў ім у сшытках малазразумелыя словы. Іх інтарэс палягаў у надзеі. У надзеі на тое, што, судатыкаючыся з гэтым белым дзядзькам, яны судатыкаюцца з сапраўдным жыцьцём, з тым, якога нават у фільмах не паказваюць, быццам бы атрымліваюць шанец перанесьціся падалей адсюль, нарадзіцца наноў у тым казачным краі, дзе цукеркі смачнейшыя. Дзе тэлевізары з мульцікамі, дзе ня трэба баяцца атрымаць па вуху ад нецьвярозага бацькі. Яны хацелі надзеі, хацелі памяняцца, хацелі ператварыцца ў мяне і прачуць усю радасьць жыцьця. Самае цікавае, што мы

самі іх гэтаму навучылі, самі раставілілі націскі ды вызначылі прыярытэты, самі стварылі для іх ілюзію звышлюдзей з захаду, з краю дабрабыту й радасьці.

Гэты сорам, ад якога кепска пахне, як і ўсялякае адмоўнае ды непрыемнае пачуцьце, зьнікае адразу ж, як толькі губляюцца раздражняльнікі. Як толькі дзеці застаюцца ў вёсцы, а дзіўны эўрапейскі містар пакідае іх краіну.

Мінула яшчэ ня шмат часу, ды ўзгадкі сьвежыя. Да таго ж я зноўку тут, няхай навакольле цяпер куды больш звыклае да прадказальнае. Днямі Дзіпак сустрэў мяне ў цэнтры ды палез абдымацца, абліў з ног да галавы сваім радасным узбуджэньнем. Канешне. Я прыняў яго запрашэньне наведаць школу, пра сябе матывуючы гэта цікаўнасьцю ды тактоўнасьцю. На наступную раніцу зь неахвотаю мінаў двор старога кляштару, праціскаўся скрозь маленькія дзьверцы ў браме ды адзначаў пра сябе, што раблю зусім ня тое. За брамай былі сходы да ракі. Вялізнае старое дрэва, што яшчэ ў тым годзе ўпрыгожвала бераг, цяпер ляжала сьпілаваным. Ідучы па дне – узімку тут усё перасыхае – імкнуўся лішняга разу не сустракацца позіркам з мінакамі, запавольваў хаду, пазьбягаючы выпадковых спадарожнікаў. Гурбы сьмецьця, яміны, адкуль мясцовыя бралі пясок, рэдкая расьліннасьць. Выпадковыя постаці ў пяску, кілямэтар да таго берагу да вёскі, дзе жывуць тыя, хто называе мяне братам ды любіць ледзьве ня больш за жыцьцё. Непаразуменьне ў вачах сялян. Тут такія ня ходзяць. Вёска. Брудныя дзеці й старыя, каровы, пытальныя інтанацыі невядомай мовы. Я адказваю ўсьмешкай, цісну руку малым, ігнару, калі навязьлівасьць робіцца крытычнай. Наўрад ці такіх, як я, тут уважаюць за людзей, гэта хутчэй здарэньні, сытуацыі, наборы характарыстык, манекены, упрыгожаныя вопраткай, нешта неадэкватнае. Форма жыцьця мала рэалістычная, больш нагадвае нечую фантазію. Людзі ды жывёлы. Яны накачаюць мяне сорамам вымытых, прадэзінфікаваных рук ды прымусяць вываліць сэрца разам са зьмесьцівам кішэняў, якія ніколі ня ведалі дзірак. Сёньня я куды больш цынічны. На падобныя рэалізмы файна вядуцца нэафіты, але ўсё адно нешта скубецца ўнутры. Так і падмывае супрацьпастаўляць, гуляць на кантрастах. Жанчыны, што зьмешваюць салому з каровіным лайном ды вырабляюць з гэтага ляпёшкі, якія роўнымі шэрагамі прыляпляюць пасьля да сьценаў будынкаў ды дрэваў. Трэба, каб тыя падсохлі на сонцы. Такая тэхналёгія вырабу паліва, на якім тысячагодзьдзямі гатуюць ежу. Мімаволі я ўзгадваю водар гарачай кавы за тысячы кілямэтраў адсюль, белізну філіжанак, крохкія кубікі цукру на сподачку. Сьмяюся ды адзначаю характэрнасьць сваёй мімікі. Твары навучэнцаў ды настаўнікаў. Яны зьмяніліся. Быццам гэты нязначны час паздымаў зь іх некалькі слаёў фарбы, папрацаваў наждачкаю ды зубілам. Яны цяпер такія ж бляклыя, як і твары служыцеляў ашраму…

Я ня стаў распытваць ашрамскіх пра тое, як яны тут увесь гэты час. Выцягнуць зь іх штосьці акрамя простых адказаў немагчыма, больш за два словы на чужой мове ім не зьвязаць. Ім, зрэшты, і ня трэба. Іх дзеці зусім не такія, як на тым беразе ракі. Малыя тут радыя, што іх кормяць ды даюць дзе спаць. У сваёй маўклівасьці і дзеці, і дарослыя выглядаюць своеасаблівымі партрэтамі. Яны пазіраюць на цябе ды ўсьміхаюцца, наважваюцца нарэшце што-небудзь сказаць, але калі разумеюць, што атрымліваецца фігня, сарамліва апускаюць вочы. Я хацеў быў распытаць іх пра Дуаркаджы, але зь першай хвіліны зразумеў усю марнасьць гэтага. Яны б не адказалі па сутнасьці. Усе як адзін, яны лічылі яго вар'ятам ды не хацелі слухаць. Дуаркаджы быў тут некім накшталт гуру, галоўным чалавекам у гэтых сьценах. Зусім стары, але пры тым не маразматык, ён трымаўся годна ды ніяк не выяўляў прызнакаў хваробы. Гэта быў той чалавек, сустрэча зь якім ня можа не застацца ў памяці, ня можа не пакінуць адбітку. Ён быў напэўна адзіным у гэтай мясцовасьці, размова з кім пакінула па сабе нешта глыбока станоўчае. Неяк, ужо праз некаторы час пасьля таго, як мы з Полам-гімнастам прапісаліся ў нашым пакоі, адзін зь мясцовых раптам пагрукаў у дзьверы ды сказаў, што Дуаркаджы хоча перацерці з гасьцямі. Ён толькі напярэдадні вярнуўся з Бамбею, дзе быў на нейкай сходцы. Я крыху хваляваўся, быццам трэба было размаўляць зь якім кіраўніком ці шэфам. Усё апынулася троху інакш.

За паўгадзіны ён выклаў нам свае пазыцыі ў сьціслай форме, ды не было ў іх ані ценю гоніва. Ён расказваў пра Гандзі, які неяк дапамагаў тут дзецям, наведваючы свайго сябручка, папярэдніка і настаўніка Дуаркаджы. Расказваў пра тое, як, калі яшчэ быў маладым эмігрантам з Пакістану, бачыў тут Марціна Лютэра Кінга, "чалавека маўклівага ды простага". За ўсю гутарку ён ні разу нічога ў нас не папрасіў, больш за тое, ня раіў гэтага рабіць ні пры якіх абставінах.

Гэты чалавек сапраўды быў з тых, хто прачынаецца рана ды есьць няшмат. Ён наракаў на будыстаў, што моляцца каменнаму Будзе, ды дзяліўся тым, што зьбіраецца казаць у сваёй прамове на Манламе, куды яго запрасілі. Дуаркаджы было цалкам паралельна веравызнаньне нягледзячы на тое, што ён быў народжаны хінду. Больш за тое, зьяўляючыся хінду, ён уголас казаў, што Гандзі забіў ніякі не мусьлім, а просты індуісцкі фанатык, абражаны рэлігійнай цярплівасьцю Махатмы.

Дуарка Сандрані сказаў: “Мы заўжды забіваем найлепшых. Ісус, Гандзі, доктар Кінг, іх забілі папросту за тое, што яны былі добрымі людзьмі. Ніякіх іншых прычынаў”.

Калі мы разьвіталіся і пайшлі да сябе, то былі папросту размазаныя. Нічога новага стары не сказаў, толькі паўтарыў нашыя думкі. Гэта напэўна і ёсьць прафэсіяналізм настаўніка. Мы сядзелі ды маўчалі, пераасэнсоўвалі ды зьдзіўляліся ўпарадкаванасьці. Пасьля Пол сказаў:

– Ведаеш, я тут падумаў… А хто яго тут зьменіць? Ён ужо не малады, а навокал нікога. Ён сапраўды для іх стары маразматык, што харчуецца адно малаком ды рысам, ня ходзіць туды, дзе ўжываюць алькалёіды. Ён сапраўды ненармальны. Што будзе тут пасьля таго, як ён пойдзе?

Мы маўчалі. Не было чаго казаць. Першы раз за ўвесь гэты час здарылася штосьці сапраўды сур’ёзнае, тое, што больш не паўтарылася.

Тэнзін ня вёў такіх гутарак, але гэта нічога не мяняла. У той год ён больш цікавіўся сабакамі. Мы сустракаліся а палове на пятую, яшчэ да сьвітанку. Ды перад тым, як пайсьці па коле ў зычаньнях міру ды гармоніі, набывалі крыху малака. Там было дрэва, мэтрах у пяцідзесяці ад іншага, больш папулярнага дрэва, пад якім некалькі тысячагодзьдзяў таму небезьвядомы тыпок пераключыўся на нэйтралку. Зрэшты, гэта яно і было асновай мясцовага мікракосму, і відаць будзе яшчэ доўга. Тое дрэва, да якога ішлі мы з Тэнзінам, ня мела аніякай звышнатуральнай каштоўнасьці. Зазвычай вакол яго, як і паўсюль тут, тусілі манахі, мантрагонілі ды самавыяўляліся. У карэньні дрэва была нара, дзе пасяліўся сабака, паедзеная інсэктамі матуля з пяцьцю шчанюкамі. Тэнзін ведаў іх усіх па імёнах. Кожны дзень ён прыносіў ім ежу ды лекі, ды тым самым палягчаў сытуацыю са сваім сумленьнем. Шчаняткі, варта было адчуць ім пах малака, адразу вылазілі з-пад каранёў, недалекатна пасоўвалі адно аднога, тыцкаліся ружовымі насамі ў місу, часам перакульвалі яе. Матуля зазвычай хавалася, даводзілася ці вывабліваць яе, ці папросту выцягваць. Пакуль сабакі елі, Тэнзін апрацоўваў пашкоджаную скуру лекамі. Інсэкты траплялі глыбока, праядалі плоць ды часам дасягалі ўнутраных органаў. Тады сабаку заставалася нядоўга.

Пасьля, робячы некалькі колаў, мы сядалі піць гарбату, ды Тэнзін, хлопец даволі гаваркі, расказваў пра дом у гарах, пра сям’ю, пра Тыбет, месца, куды не было аніякіх шанцаў вярнуцца. Тады ён выглядаў даволі жвавым ды ўзбуджаным. Цяпер ягоны твар таксама згубіўся ў фарбах, як, відаць, і ўсе нашыя фізыі.

Раніца. Жабракі высаджваліся ўрадок. Было падобна, што ў іх там нешта накшталт нарады. Сонныя тыбецкія кабеты, гандляркі гарачым хлебам ды момо. Гарбата ў руках манахаў за паўгадзіны да сьвітаньня. Я не пытаю Тэнзіна, ці памятае той імёны сабакаў, ды ўвогуле, ці ведае пра іх нешта. Цяпер у карэньні нікога няма. Тэнзін запальвае ды скардзіцца на звычку. Ён расказвае, як нейкі час таму трапіў у аўтааварыю. Разьбіўся на байку. Ён добрых два месяцы праваляўся ў шпіталі з пашкоджанымі ныркамі. Думаў ужо, што пасунецца, але выпала інакш. Толькі два месяцы ў палаце зь сінякамі. Аднойчы ён прачнуўся, а чалавек на суседнім ложку – не. Тэнзін расказваў, што пасьля аварыі неяк перамяніўся, зрэшты, мог і не расказваць, гэта было заўважна. Усе ўвесь час зьмяняюцца. Хто больш, хто менш. Толькі разам з тым ня могуць пазбыцца нечага такога, што ёсьць асновай канструкцыі пэрсанальнага сьвету. А так – колькі заўгодна зьменаў.

Мы гутарым, скочам па тэмах, узгадваем старога манаха, што разводзіў на бабло вэстэрнаў ды паўночных, а сам жыў у апартамэнце. Стары таксама, як і многія ў гэтым сьвеце, спэкуляваў на рэлігійных пачуцьцях. Мы сьмяемся ды згаджаемся, што справа цалкам бессэнсоўная. Тэнзін кажа, што быццам бы бачыў некага падобнага да таго кхенпо днямі. Чалавек раздаваў стольнікі ўсім ахвочым. Мне падаецца, што ён гэта выдумаў. Добра, калі ёсьць хіба нейкая фантазія, гэта сьведчыць на тое, што пакуль маюцца ўсе шанцы суцяшацца самастойна.

Сярод тысячаў мясцовых сабакаў мне ніколі не пазнаць Gaya Express. Ці дапамаглі яму лекі ды хлеб, што ён атрымліваў штораніцы. Я спрабую ўявіць яго рудыя вочы ды перакінуць мост, вынайсьці хіба якія яшчэ зьмены акрамя блякласьці ды парэпанасьці нашых твараў. Гэта ўсё толькі камічнае пытаньне часу ды яшчэ крыху – пытаньне любові, таксама ня менш сьмешнае. Няма сэнсу шукаць падабенстваў ды выводзіць розьніцы. Відаць, усё надзвычай проста. Gaya Express зваліў. Пакінуў хлопцаў за іх гарбатай і гонівам. Укаціў на сваіх звышхуткасьцях прэч ад зямлі прасьвятленьня ды яе адксэраных герояў.




## СТЫД, ОМРАЧАЮЩИЙ ПО УТРАМ ЗАПАХ КРАСОК И КИСТИ

Я весь разбит и высушен, все шаления выходного дня не прошли мне даром. Пеняй сам на себя, сказал мне невидимый мистер совесть, которого я не особо уважаю. Никуда не пойду, по крайней мере, шляться по улице и лакать спиртное. Я – безработный. Причём вполне пропащий человек, работать не желаю да и делать ничего особого не умею. Таланты отсутствуют напрочь. Вот уже полгода, как я не получил ни одной месячной зарплаты и не попытался проявить элементарных усилий. Впрочем, подобие усилий было, но это, категорически заявляю, яйца выеденного не стоило.

Чем же заняться, чтобы самостоятельно оплачивать коммунальные счета, штрафы за безбилетный проезд и распитие спиртных напитков в общественных местах, кушать хотя бы раз в день на обед горяченький наваристый супчик? Руки марать не охота, человек я в себе замкнутый и общаться с коллегами не умею – грублю, цокаю языком или молчу, не поддерживаю никаких доверительных бесед за чаем, веду себя отшельником или пугалом-посмешищем. Только и всего. Будни изящно коротаю замкнутым одиночеством, книгами и пластинками. Выходные дни, по классике, выпивкой и непутёвыми компаниями. Впрочем, притоны у себя в квартире не устраиваю. Ради моей бабули. Она живёт со мной с самого детства. Денег мне не даёт, но иногда кормит и помогает духовно. Естественно, пилит, недовольная моим затяжным тунеядством, но из дома не гонит, терпит. С марта по ноябрь я практически не вижу бабулю. Как она сама мне заявляет, свою непреклонную старость доживает на даче. В дачном посёлке я ни разу так и не побывал, это очень далеко и скучно. Тем не менее, приглашать шумные ком-

пании и кутить с ними, пугая молодую пару с грудным ребёнком сверху и алкоголиков снизу, в бабулино отсутствие я себе не позволяю…

Так и сегодня, к вечеру слегка отошёл от похмельных судорог, но видеть никого не хочу.

Мобильного у меня нет. Потерял бухой, когда возвращался с выставки, еле добрался тогда до дому. Жаль, ведь новый появится хрен пойми когда…

А вот услышать воскресным вечером галдёж стационарного дискового аппарата в комнате ну никак не ожидал. Наверное, бабуле звонят тупоголовые приятельницы-сплетницы.

– Алло, Женька!

– Оу, привет!

– Это Юля! Я на вокзале. Почему ты меня не встретил? Мы же договаривались с тобой вчера. Я картины привезла.

– Извини, милая, совсем забыл. Из головы как-то вылетело.

– Так, давай быстрее дуй на вокзал, мне домой нужно, а тут ещё с твоими картинами вымораживаться. Короче, поторапливайся!

Как можно было забыть про неё и про картины. Осёл! Хорошо, что жили мы в пяти минутах от железнодорожного вокзала. Я схватил серую летнюю куртку, хотя заводной март ещё толком не отошёл от зимних проводов. Куртка запачкана. Побелка, вино, разводы от какой-то липкой херни! Ладно, времени нету. Плюнул на рукав в разводах, слюну размазал ладонью, сойдёт как-нибудь. К тому же обувь смотрится не лучше. Ничего страшного, всем наплевать, как я буду выглядеть тёмным вечером на вокзале.

Юлька стояла возле главного входа под часами. Наш городской вокзал походит на архитектурный гибрид базарного павильона и послевоенного заводского барака. Ночью его здание напоминает пушкинские и гоголевские полустанки. Юля, среди этого убогого вокзала и тёток с клунками и клетчатыми запыленными чемоданами, была настоящим украшением, если бы не квадратный свёрток и огромных размеров серая грушеподобная мешковина, за которыми девочку практически не было видно.

– Держи! – весело протянула Юлька. Через секунду освободилась от немыслимого груза, и я смог заметить её всю, а также сияющее, как ёлочная игрушка, румяное личико в пушистом капюшоне. Правда, за картинами уже было сложно разглядеть самого меня.

– Ой, бедная моя! Я совсем запамятовал про вас, – кивнул я на девочку и на картины.

– Да ладно, просто пришлось упрашивать одну знакомую, чтобы она покараулила их, пока я добралась до таксофона.

– Спасибо тебе огромное! Ещё раз извини. Ну, как там всё прошло?

В столице проходила небольшая восточная выставка. Я тоже передал несколько работ, так как организатор Дима Фенечкин очень настаивал на моём участии.

– Дима, что я тебе – эзотерик, востоковед? Нафига моя писанина на выставке? – кричал я, ничего не понимая по пьяни.

– Да успокойся же ты, осёл! Слушай сюда, твои картины… Они. Они. Они гениальны! Там будет столько полезных людей, которые обязательно их оценят. А тематика азиатских стран – это так, фикшн…

– Чего?

– Да ладно! Тебя во что бы то ни стало должны заметить!

В общем, на саму выставку мне попасть не пришлось. Приятель Дьяков завёз четыре картины в художественный салон Фенечкина за неделю до начала той выставки. Я же, по договорённости, должен был явиться в последний день закрытия, чтобы показаться среди столичных арт-светил и забрать свои работы из павильона. Заключение происходило в субботу. Тот же Дьяков одолжил мне на билет туда и обратно, но все деньги по неосторожности, воодушевлённый поездкой и собственной значимостью, я пробухал в пятницу, ещё до обеда, чем изрядно рассердил и раздосадовал Фенечкина, а за одно подорвал свою, и без того сомнительную, репутацию среди андерграундного блядского бомонда.

Навязчивую идею добираться стопом я категорически отверг. Да и как назад на попутке довезёшь моё необъятное творчество? Пришлось торчать дома, а забрать картины – выручила Юля, у неё имелись там какие-то дела.

– Ну, как, как, – простонала Юля. – Скажу честно, туда я не заходила. Позвонила твоему Фенечкину, и он с каким-то шкетом притащил через задний ход твою мазню! На вид оба до ужаса стрёмные, Фенечкин не то расстроен, не то напуган. Короче, не всё там у них в порядке. Сели мы со шкетом в машину. Он меня до самого вагона подбросил. Вежливый такой, но всю дорогу молчал.

– Ну, понятно, спасибо тебе большое ещё раз, сестрица! Ты сейчас куда?

– Ой, а мне домой уже нужно. Недавно матушка звонила. И автобус мой скоро.

– Всё тогда, пока! Спасибо, что довезла их в целости и сохранности.

– Да ничего страшного. Мне не «влом» было же. До скорого.

Юлька внезапно исчезла в толпе приезжих пассажиров. Исчезла её лучезарность вместе с предновогодним настроением. Это ранней весной-то!

Я поковылял в гордых раздумьях и с тяжкой ношей в свою конуру. Больше всего на свете в данный эпический момент мне захотелось провести Юлю до остановки. Не виделись около двух недель, наверное. Да и было о чём поболтать. Ничего страшного. Юле всего шестнадцать. Признаться, мне она нравилась, но слишком много внимания я старался девочке не уделять. И совсем не в том дело, что это несерьёзно – крутить романы в таком возрасте, вернее из-за большой разницы в возрасте. Нет. Скорее я замечал в ней чистую, скромную, невинную маленькую девочку, в то же время не по годам взрослую и понимающую. Я много раз сомневался, поддерживать ли с ней какие-либо отношения, но необходимое чувство спокойствия так и переполняло меня, когда я находился рядом с этим милым и невероятным человеком…

Хорошо, что я никуда не поехал. Всё правильно, что я пропил те злосчастные деньги. Захмелел, отравился дешёвым бренди, остался ночевать у товарища на другом конце города, подвернул ногу. Главное только не присутствовать на выставке абсурда и страха. Нужно поскорее избавиться от них. ЭТО НЕ МОЁ!!!!

– О-па-па! Какие люди у вокзала! Крошкин. Женёк! Здарова!

Я шуганулся. Задумавшись, совсем забыл, что вокруг меня что-то может происходить. Передо мной стоял мой пожизненный собутыльник Грин. Длинный, тощий, неопрятно патлатый и, вдобавок ко всему страшному, мой друг детства, панк! Из-за тёплой любви к несмышлёному Грину, именно в тот роковой час я не смог просто так от него отвязаться

Мрачное кожаное пальто, вязаный хромыми дерзкими петлями серый шарф, берцы, прошагавшие все автомобильные трассы планеты. Грин улыбался во весь рот, ёжился от поднадоевшей прохлады и харкал при каждом слове под ноги. Впрочем, у Грина через каждые три слова проскакивал мат.

– Ты чё, нах? С картинами? А чё, нах, это за баба с гадюками и жабами?

Я спрятал холсты в мешок. Похлопал Грина по сутулой спине, протянул ему свёрток, взвалил на себя мешок кофейных фермеров и спокойно сказал:

– Добрый вечер, Грин! Надеюсь, ты не против оказать мне честь донести их до дома.

– Без пизды, мужик!

Грин всех называл мужиками, даже собственную жену.

Мы шли и молчали, снова начал накрапывать дождь. Грина я не видел сто лет. Он не сидел на месте, стопом мог сигануть в любую точку на карте – в Россию, в Украину, в страны Евросоюза. Ничто его не держало, даже женитьба. Этот человек ни перед кем не отчитывался, никогда не оповещал, куда он направляется и как долго будет отсутствовать.

Мы частенько молчали с ним, шагая по дороге. Такого рода путники, как Грин, при долгой ходьбе уходили в себя. Или дикие мысли омрачали его рассудок, или он прислушивался к звукам дороги: железной, песчаной, лесной, шоссе, автобанов, коротких тропинок, ступеней, извилин и тупиков. Не знаю. Я привык к его молчанию.

Мы дошли до дома. К моему удивлению, Грин заговорил:

– Слушай, Крошкин. Заноси свои опасные невротъ..ные картины и давай, нах, прогуляемся. Ты это… не подумай, что у меня какие-то там еб..ные проблемы или я чего-то хочу от тебя. Нет. Мне не нужно, там, выговориться перед тобой или ещё чего. Ты ж меня знаешь. Просто… Просто, когда я подошёл сейчас к лавке, я понял, что с тобой что-то не то. Ты так смотрел на них, что мне показалось: тебе, мужик, чёртовски хуёво. Пошли немножко прогуляемся.

Встретим старых друзей. Мы тут с Сироткиным через десять минут на перекрёстке забились. Выпьем, проветримся. Может, жопами на приключения какие нарвёмся, а?

Ещё больше я удивился своему согласию. Не я, другой человек, создатель мерзостных картин (даже после нашей встречи почему-то забылась идея об их неминуемом уничтожении), тихонько и вяло выговорил:

– Окей, Грин. Одну минуту, подожди здесь. Покури пока.

В квартире вековое уныние. Хотя бабуля уже вернулась с дачи. Из её комнатушки доносился звук вечерних новостей. Свет выключен. Экономия, из-за которой я чуть не заработал инфаркт, когда накануне резко, ничего не подозревая, открыл двери туалета, где в темноте видавшая виды бабушка спокойно сидела верхом на унитазе. Войдя в собственную, заваленную всяким хламьём, комнату, не разуваясь, я оставил картины у стены возле кровати. Это чтобы по-быстрому справиться и не выдавать себя. Бабуля начнёт просить меня не болтаться по вечерам, спрашивать, что я кушал, и рассказывать про своих чудаковатых старых подружек. Такое длится долго. Я с удовольствием терплю эту церемонию, но не сейчас, некогда.

Витоса Сироткина мы и вправду встретили на перекрёстке рядом с Белагробанком. Витос работал токарем на заводе электротягачей; работа сложная, для выносливых парней. От нас с Грином он отличался лишь прохождением службы в армии и фанатичной верой в Господа Бога. Библию Витос цитировал, словно святой. Хотя, вернувшись после службы, почувствовав вселенскую тоску и несправедливость жизненных передряг, Сироткин потерял всякий интерес лезть вверх и сознательно начал деградировать в стихийных пьянствах и распутной жизни. Впрочем, восемь заповедей из десяти он соблюдал как пить дать. Это спасло его от уголовщины, от женитьбы и потери рассудка. Увлекался Витос в основном историей военного оружия, что не мешало ему любить и не убивать.

– Здарова, Грин! Здарова, Жека! – все его жесты добры и просты. Похлопать по плечу, обнять, дружески поцеловать.

– Ну что!? Тут у меня такие планы навернулись.

И Сироткин начал рассказывать про то, что в пятницу получил зарплату, про какую-то знакомую тёлку с завода, которая бухает у подруг, и они зовут к ним. Я сначала не слушал этого чела, но когда мы зашли в магазин и Витос принялся покупать кучу ветчины, копчёной колбасы, сычужные сыры да четыре бутылки водки в придачу, меня начали терзать назойливые сомнения.

– Слушай, братан, мы действительно идём сейчас на флэт к твоей знакомой?

– Жека, конечно, идём, они звали, чтобы я с друзьями подваливал. Усёк?

Мы подходили к подъезду, но меня всё равно одолевали странные сомнения насчёт задуманной вечеринки, вечеринки, где мы втроём – званые, но странные гости.

На пятом этаже вовсю гремело «киркоровым» и бабскими хихиканьями, даже не хихиканьями, а ржаками кобыл на ферме, где до пенсии работала моя бабуля. Из соседней квартиры несло рассольником и котлетами. Наверное, муж вернулся из командировки или со второй смены, а жена, уже собравшаяся ложиться спать, вынуждена разогревать кастрюлю на подиуме гефестовской электроплиты.

Дверь распахнулась. Женщина лет тридцати пяти, в домашнем старом халате, из которого предательский торчал кружевной голубой бюстгальтер, пьяная, качалась в стороны, пытаясь ухватиться руками за что-нибудь, только бы не упасть к нам под ноги.

– Ой! Мальчики?! Девкииииии! К нам мальчики! Ык!

На её вопль сбежалась вся квартира, вернее те дамы, которые нас сюда заманили.

– Ох, какие у нас сегодня мальчикииииии! ЫК! – синхронно вымолвили две подружки помладше, примерно мои ровесницы. Они обнимали друг дружку за талии. Девушка слева была небольшого роста, с накрашенными глазами гуманоида, подстрижена под мальчика, даже чёлка косая с мелированием. Правая, её подружка, ну просто типичный школьный изгой: ожиревшая, в очках с тройными стёклами, конопатая, тоже пьяная.

– А нам с Наташкой мальчики сегодня не нужны. Правда, зайчик мой? – и начала целовать «эмо-пацанку» взасос.

Где мы? Что это такое? Крокодилятня или страусиная ферма?

Впрочем, барышни, слегка растрёпаные от шикарного торжества, о чём свидетельствовал их стол из соседней комнаты, наряжены были не дурно. Стандартные рыночные шмотки, но праздничные, с блёстками, не считая халата хозяйки.

– Витька, а чего ты не сказал, что к нам такия патлатики придут? – заверещала хозяйка, я сразу сообразил, что это сироткиновская заводская знакомая Лена.

Мы с Грином переглянулись. Действительно, вид у нас был далеко не кавалерский, но обличье и состояние этих дам на одной лесенке с нашими не стояли. Витя, напротив, одевался постоянно по энбэпэшному строгому трауру – во всё чёрное, как Виктор Цой.

– А вы из какой группы, из НИРВАНЫ, что ли? – пропищала «подстриженный мальчик».

– Всё, давайте, давайте, заходите! Мы вас заждались, давайте уже! Разувайтесь, раздевайтесь. Вот и тапки вам всем... – хозяйка прикрыла свой халат и приступила к своим непосредственным обязанностям.

– Слушай, Жека! Я вообще по-другому это всё представлял! Я не знал, клянусь, не знал, что так выйдет, – зашептал мне на ухо Сироткин.

– Чёрт с ними, Витос, ничего не поделаешь. Некрасиво как-то уходить…

Витя пожал плечами и напялил чёрные кожаные тапки. Настроение у него явно ухудшилось.

А вот Грину всё было пофиг. Не успели мы снять с себя одежду, а он с невозмутимым видом уже сидел в зале за столом, окружённый крокодильим, но женским вниманием.

– Мы тут ветчинки к водке прикупили, давайте я порежу пока, – заявил Грин. – Хозяйка, дай нож!

Вообще-то Грин любит свою жену. Слов не передать, как любит. Мы все знали, как он ухаживал за ней в своё время. Лепил огромные сердечки-снеговики под окнами в январе; на День Святого Валентина договаривался с друзьями из разных стран, чтобы они звонили Лиле (жене Грина) на рабочий номер и поздравляли её на всех языках мира; ездил с ней в дождливый весенний день на рыбалку, а чтобы она не промокла до нитки, кутал будущую супругу в брезентовый плащ… Самые изящные уроки ухаживания за девушками мы всегда брали у Великого Учителя Грина – автостопщика, анархиста и тунеядца по жизни.

Но сейчас (сейчас уже десятый час) Грин не был похож на скромного, молчаливого семьянина. Он принялся элегантно заводить ужасный механизм запрятанной бомбы.

Витос расположился около Лены, одной рукой по-дружески обняв её, второй – разливая водку по стопкам.

– Ну, будем живы!

Я уселся рядом с Сироткиным и Грином, остальные, кроме Халата, маячили напротив. Взгляд мой мгновенно охватил весь зал и стол. Такое я видел часто. Замызганная хрущёвка с проходными комнатами, наполненными бабскими пуфиками и салфетками. Круглый, застеленный льняной скатертью держатель блюд, запотевших рюмок, салатниц и бутылок. Так, проехали, нового здесь ничего не увижу. Я стал смотреть на потолок, мне было до жути некомфортно. Если руки я задействовал в удержании вилки и рюмки с водкой, то глаза мои просто не знали, куда себя деть, лишь бы подальше от такого бытового страха. Хорошо бы впасть в прострацию и, как робот, механически выполнять свои функции – кушать и выпивать.

– Э! Ты, чё? – закричала на меня Мальчик. – Так вот, значит, как! Значит, вы с нами не хотите разговаривать! Мы, мол, вам не ровня. Испугались? Рабочий класс, трудяги заводские. А вы что тут, интеллигентных кровей выискались?

– Извините меня, пожалуйста. Я просто очень робкий и необщительный человек.

– Так, вам, значит, с нами неинтересно?! – продолжала неугомонная Мальчик.

– Наташа, хватит мужиков отпугивать, – на помощь пришла Халат. – Давайте лучше познакомимся!

Толстуху звали Олей, Мальчика, как мы уже знаем, Наташей. Со слов Витоса я понял, что Лена Халат являлась их «рабочей мамой» – мастерицей цеха. Вот так тусовочка!

– А вы? Вы чем занимаетесь, Евгений? – снова раздражительно кричала Мальчик.

– Ничем, – вздохнул я.

– Как, вообще ничем?

– Да. Вообще ничем!

– Как интересно… Беззаботный человек!

– А вы, Андрей, тоже ничем не занимаетесь? – реплика адресована Грину.

Грин держал на коленях плюшевого игрушечного Чебурашку, я таких в детстве боялся и не позволял себе оставаться с этим чёрноглазым страшилой наедине. Где Грин успел так одомашничать? Игрушки на коленях маленького ребёночка, смех!

– Нет! Я работаю, – неуклюже залепнул Грин. Я знал, что сказанное – истинная ложь.

– А где работаешь? – толстуха улыбнулась во весь рот, заполненный через один гнилыми зубами, и стремновато подмигнула Грину. Обычно подмигивают с помощью однократного прищуривания одного глаза, с верхним движением соответствующей щеки. Но Оля подмигнула всей своей оловянной мордой и пышнозадым телом!

– Я работаю на стройке строителем, – скороговоркой выпалил Грин. Я чуть не поперхнулся непрожёванным куском ветчинки.

Его уже никто не слушал, все углубились в новую порцию выпивки и салатов. Но вот сама беседа как-то не клеилась. Витос незаметно тискал Халат, завораживая ушко женщины неприличными предложениями. Толстая и Мальчик болтали о своём, заводском. Грин рассматривал чужие фотки на дешёвой цифровой камере, которые сняли, судя по всему, до нашего «пришествия».

– Единственная маааааааааайааааа!!! Светом озарённаяяяяя!!!

Халат мигом вырвалась из объятий поддавшего Витоса к магнитофону.

– Ой, как мне надоел этот Филя!!! А давайте устроим дискотеку или поедем во Дворец Культуры на танцы. Там сегодня вечер «Кому за тридцать»… Поехали, я ещё водки возьму и всем таксон поставлю!!

– А что, мы старые, что ли?? – басанула конопатая Оля.

– Ну, причём тут старые, просто я хочу песни моей бурной молодости. «Ветер с моря дул» или чего там… Поехали. – Халат начала обижаться, что никто не разделяет её предложение.

– Витька, ну скажи им, дуракам.

– Да ладно! Лена, нах куда-то ехать. Нам и здесь с вами, красавицами, очень нравится! – залепил Грин. – Давайте лучше устроим дискотеку дома!

– Так. Всё! – заорала хозяйка квартиры. – Играем в бутылочку. Мальчик целует девочку, девочка мальчика. Играют все.

– Бутылочка! Бутылочка!

Кажись, удивить меня было уже нечем. Вшестером уселись на пол в круг. В центре пустая пивная полторашка.

– Только не отказываться и не мухлевать! – кричала Халат.

Первым крутанул Грин. Прямиком на Олю. Я заметил, как его неестественно передёрнуло. Толстушка, напротив, по-щенячьи обрадовалась и завизжала от восторга. Словно корова, обнимающая телёнка, с жирным причмокиванием и облизыванием, так она целовала. Мне стало жалко Грина, казалось, в одно мгновение его могут придушить в таких нескромных объятиях. Второй и третий раз Грину снова не повезло. На пару опять попадалась Пышная. Но он героически терпел. Олю, наоборот, с каждым поцелуем тянуло к земле. Её очки куда-то пропали, обнажив невидимое нам до сих пор косоглазие, а при поцелуях на уголке губ ехидно выделялись слюни.

У меня закружилась голова, и началось неприятное помутнение. Бутылочка вертелась, как волчок в передаче про знатоков. Вокруг происходила фантасмагория тел, лиц, дерзких поцелуев, аплодисментов и дьявольского гогота. Настроение летало между небом и землёй. Я не мог определить, нравится ли мне происходящее, но и убежать прочь из этого притона совсем не хотелось.

Я ничего не понимал. Память вернулась ко мне в момент, когда я артистично сосался с Халатом, гладя её внушительные ягодицы. Изо рта Лены пахло, на удивление, не перегаром и чесноком, а домашним уютом и теплотой топлёного молока.

– Мама!?

Я вырвался из крепких рук Халата. На пороге в комнату стояла девочка. Ну, прям ровесница моей подруги Юли! Такая же милая, с детским наивным личиком, правда, одета в хипстерский прикид: коричневый свитер с рогатыми оленями, потёртые джинсы-бананы, чашечки-наушники (с Бобом Диланом в айподе, как пить дать), кеды Converse.

– Доча!? Знакомься, доча, это… мои коллеги по работе, – Лена изрядно напугалась.

– И эти – коллеги? – девочка указала на меня, Грина и Сироткина.

– Так, доча! Ты ничего не видела. Поняла меня? И отправляйся живо делать уроки!

– Хорошо, мамочка! – заулыбалась доченька и моргнула. Клянусь, она глядела в мою сторону. – Я ничего не скажу папе. Если ты мне купишь новый ноутбук.

Халат отправилась с девочкой в соседнюю комнату. А все прочие сидели на ковре с открытыми ртами. Все, кроме Толстой. Она легла на кушетку и, приоткрыв один косой глаз, принялась подражать звукам храпа африканской слонихи.

– Я пойду, – сказал Витос. – Рано вставать на смену завтра…

Сказал и вмиг выбежал из квартиры.

В зал влетела Халат, правда уже без халата, а в мини-юбке и дочкином молодёжном свитере.

– Всё. Я с ней договорилась. Она у меня умница. Ну, что? Едем на дискотеку на такси? А где Витька?

– Я больше не могу этого выносить! – заорал на неё Грин. – Что за дерьмо!? Почему наши люди и европейцы, словно индейцы и завоеватели во главе с Колумбом? Где наша культура, где элементарная эстетика? Мы живём в ЖОПЕ! В Большой Огромной Жопе!!! Я – космополит, но вынужден находиться в этой задрыпаной несусветной империи, сидеть в нищете социально-рыночного развитого государства!

Лена заплакала, но ничего не предприняла, наверное, у неё случилась истерика от криков пьяного Грина.

Мальчик испугано прижалась ко мне:

– Чего он? Совсем, что ли, дурачок?

– Не обращай внимания, Наташа, – я взял девушку за руку. – Пошли лучше ко мне.

Оставлять друга я не боялся, потому что знал, Грин пять минут повопит и сам начнёт плакать. Ничего плохого он не натворит и, скорее всего, отправится к жене.

Когда мы с Наташей тихонько, словно серые мыши, проникли ко мне в квартиру, было уже за полночь. Бабуля спала крепким, не характерным для её возраста сном. Зашли в мою комнату и закрылись. Я включил светильник. Первый вопрос, который задала Наташа, прозвучал строгим животным условием:

– А гандоны у тебя есть?

– Презервативы в смысле? Есть.

Три часа ночи. Мы лежали без одеяла абсолютно нагие. Я гладил Наташу, смотревшую на потолок.

– Странно у тебя тут… – Наташа зевнула. – Спать хочется, а мне скоро на работу вставать. Нужно ещё домой забежать. В душ.

– Странно то, что мы сегодня, именно в этот день, с тобой встретились. Эта ваша попойка с коллегами…

– Они не коллеги. Ну, мы с одного завода, как бы. Но я работаю в другом цеху. В красильном. Аппаратчицей. После техникума туда занесло. Ну и что? Мне нравится там. Скоро старшей аппаратчицей стану. Сдам на разряд. Лям двесте оклад, премиальные. Зая? Слушай, а почему ты так говоришь, мол, «именно в этот день»?

– Да всё просто. Не бери в голову, – прошептал я. – Я уже несколько месяцев никого не встречал да из-дому практически не выходил.

– Ни фига себе! Ты чё, больной?! – забеспокоилась Наташа.

Промолчал. Я не знал, что делать дальше. Моя любовница, не умолкая, лепетала про свой завод, красильный цех (меня начал преследовать запах краски от её волос), про свою жизнь, родителей, новую квартиру, будущее. Всё это до ужаса не интересно. Внезапно я понял, что это не её волосы пахнут краской, а мои картины…

Пора трезветь и выгонять ночную гостью.

– Тебе же скоро на работу. Может, тебя проводить?

– Зая, а поставишь мне таксон?

– Никаких такси. Денег нету. Ты говорила, что живёшь тут рядом, через квартал. Одевайся, я проведу.

Шагали мы молча. В темноте дикого морозного утра. Я докурил последнюю сигарету из пачки, забыв оставить половину Наташе.

– Вот мы и пришли. Я тут живу.

– Ага. Ну, всё. Я пошёл…

– Ты, это, зая, заходи, что ли… Только заходи… Мы ж ведь не прощаемся?! Вот я тебе номерок свой записала, – Наташа протянула мне бумажку с номером мобильника.

– Пока, Наташ.

Девушка скрылась в подъезде высотного дома. Скомканная бумажка полетела в ближайшую урну.

Бабуля уже проснулась и готовила на кухне картофельные оладушки.

– А, это ты! – как ни в чём не бывало, задорно сказала она. – Завтракать будешь?

– Не-а, бабуля, я посплю малёк.

– Ну хорошо, я на рынок скоро пойду за яйцами.

Я лежал на кровати, держа в руке кисть. Думаю, не стоит говорить, что мне было до ужаса стыдно. В первую очередь перед бабушкой. Неужели она ничего не слышала за стенкой этой ночью? Или наоборот, слышала, но не подала виду. А может, только порадовалась за меня и грезит внучатами. Не знаю.

Стыдно было и перед Юлей, хотя я ей ничем не был обязан. Этот чистый и послушный ребёнок стоял на вокзале с моими картинами… Верная подруга, весёлая и приятная собеседница. Неужели и она неизбежно пройдёт, в один безобразный момент, через такую приставучую и похотливую грязь?! Наверное.

Хотя я уже с полчаса как открыл форточку, в комнате царил запах краски. Запах картин и Наташиного цеха. Запах неприкрытого стыда и никчёмности. Нужно закрыться от всего мира, целыми днями писать живописные полотна, и тогда этот запах никогда не покинет мою монастырскую келью, мою берлогу.




## УСЁ ПАД КАНТРОЛЕМ

Сярод усіх вартаўнічых сабак Сіэтла Бэркэлі лічыўся адным з найлепшых. Ён быў ня самы разумны, затое вельмі надзейны. Ён паходзіў са шляхетнага роду нямецкіх аўчуганаў (верагодна, са Шварцвальду), меў шырокія плечы ды чорныя дзясны і важыў больш за некаторых людзей. Бэркэлі вартаваў заакраму Тыльфарда, у якой прадаваліся хатнія жывёлы. Ён сядзеў за шклянымі дзьвярыма крамы, назіраючы за мінакамі, што мітусьліва беглі ўздоўж Першай авэню, ці разглядаючы валацугаў, якія часьцяком спалі па начох ля пад'ездаў. Часам, калі ў клетках усё было ціха, Бэркэлі таксама засынаў, залюляны вуркатаньнем акварыюмаў. Яму сьніўся надзвычай смачны абед, які ён аднойчы атрымаў, ці маленькая пудзяліха, зь якой ён некалі фліртаваў – яна належала інструктарцы аэробікі (якая, між іншым, сама была далёка не сьвятая) і жыла на той жа вуліцы, у адным з суседніх дамоў. Але, нягледзячы на сваю схільнасьць да фантазіяваньня, Бэркэлі заўжды быў напагатове: ён вельмі сур'ёзна ставіўся да сваёй працы. Больш за тое, ён заўсёды дакладна ведаў, дзе знаходзіцца, што і навошта робіць (рыса, якую маюць далёка ня ўсе людзі, як, напрыклад, спадар Тыльфард – сапраўдны Кашчэй, які зьяўляўся загадкай для Бэркэлі). Здаралася, што спадар Тыльфард жорстка абыходзіўся з жывёламі ў краме ці дражніў іх: ён успрымаў іх не як жывых істотаў, а як крыніцу прыбытку. Тым ня менш, вандалы ці злодзеі яшчэ ані разу не прарываліся ў краму Тыльфарда, і Бэркэлі, усьведамляючы свой талент вартаўніка (аднак не выхваляючыся ім), заставаўся верным свайму гаспадару (хоць той і не заслугоўваў гэтага) і быў упэўнены, што нікому ніколі ня ўдасца прабрацца ў краму.

Зачыняючы краму, спадар Тыльфард, які жыў сам (як большасьць злыдняў), заўжды правяраў клеткі, пакідаў жывёлам мінімальны запас ежы і даваў адзін крэкер Бэркэлі. Сабака шторазу спадзяваўся, што Тыльфард пагладзіць яго па галаве ці пагуляецца зь ім – то бок, хоць як-небудзь выкажа сваю прыязнасьць і прадэманструе, што ён цэніць Бэркэлі, – аднак такое ня здарылася ніколі. Спадар Тыльфард меў акуляры з тоўстым шклом ды віскліві голас, быў упартым, нястрыманым, самотным пьяніцам, які, забываючыся па старасьці, часам ставіў свае боты ў халадзільнік. А аднойчы (Бэркэлі моршчыўся пры гэтым успаміне), падчас сваёй чарговай папойкі Тыльфард запхнуў Пэрсідзкага ката ў міксэр. Збольшага гаспадар займаўся тым, што піў і глядзеў тэлевізар – яшчэ адна рэч, прызначэньне якой Бэркэлі ня мог зразумець. Не аднойчы ён блытаў страляніну, якая гучала з экрану, з сапраўднымі стрэламі. Гэтая памылка была даволі натуральнай, бо ніхто ніколі не тлумачыў Бэркэлі, што гвалт зьяўляецца для некаторых пацехай. Чуючы страляніну, Бэркэлі ўсчынаў так шалёна брахаць, што дрыжэў увесь дом, таму Тыльфард выкідаў сабаку на двор. Даволі хутка Бэркэлі кінуў чакаць ухваленьня ад гаспадара і не адрываўся ад выкусваньня блох за прылаўкам, нават калі чуў бразганьне ўваходных дзьвярэй.

Аднойчы Тыльфард зачыніў краму рана: Бэркэлі заўжды інстынктыўна адчуваў час. Ён пратрусіў да цёмнай кладоўкі і сьцяў зубы – ягоная міска была па-ранейшаму пустой.

– Гэй, Бэркэлі, – мовіў Шымпанзэ, чыя клетка месьцілася побач з кладоўкай. – Што гэта дзеецца? Тыльфард ня выдаў нам ежы!

Бэркэлі дагэтуль не асабліва цікавіўся Шымпанзэ і зазвычай яго ігнараваў, бо той быў яму непрыемны. Шымпанзэ ўвесь час паводзіў сябе, нібы клоўн: каб выклікаць сьмех, ён хапаўся за свае геніталіі, кідаўся экскрэмэнтамі і кпіў зь іншых жывёлаў – адным словам, вытрыбеньваўся як толькі мог, каб расьсьмяшыць Ігуану, Жабу, Папугу і Сіямскага ката. Часам Шымпанзэ нават перадражніваў самога спадара Тыльфарда. Гэта ў яго атрымлівалася добра, хоць такія пародыі пужалі Бэркэлі: ён лічыў, што Шымпанзэ гуляе з агнём і адкрыта зьневажае таго, хто іх усіх корміць. Аднак гэтым разам і сам Бэркэлі быў зьдзіўлены раптоўным зьнікненьнем Тыльфарда.

– Ня ведаю, – адказаў ён Шымпанзэ, – але гаспадар мусіць вярнуцца.

– Як жа! Давай паспрачаемся! – прапанаваў Шымпанзэ, высунуўшы галаву праз краты клеткі і трымаючыся за іх, нібы вязень, якіх паказваюць у фільмах.

– Што ты вярзеш?

– Ну падумай сам: Тыльфард хворы. У дохлых гупі ў акварыюме морды і тое сымпатычней за ягоную былі! Ты калі-небудзь чуў пра эмбалію лёгкіх? – запытаў Шымпанзэ, потым надзьмуў шчокі, пачаў хутка-хутка дыхаць і ўрэшце, закаціўшы свае чырвоныя вочы і скуголячы, паваліўся на падлогу сваёй клеткі.

Бэркэлі гэты нумар зусім не расьсьмяшыў. Змрочна зірнуўшы на Шымпанзэ, сабака пратупаў да ўваходных дзьвярэй і скруціўся побач з парогам, чакаючы на машыну Тыльфарда. Шмат машынаў розных марак і памераў праязджалі тым суботнім вечарам побач з крамай, але Тыльфард так і не зьявіўся. Не прыйшоў ён ні наступным ранкам, ні наступным вечарам.

На другі дзень ня толькі Шымпанзэ, але ўсе зьвяры, птушкі і рыбы ў краме мітусіліся ў сваіх клетках ды акварыюмах і патрабавалі ад Бэркэлі тлумачэньня. Гэта была шалёная какафонія: вакол Бэркэлі пішчэла, вішчэла, сьвісьцела, раўло, мяўкала, вухкала, сычэла ды рычэла. Справа ў тым, што Тыльфард сабраў у сваёй краме ўсіх, каго можна – ад дзіцянят алігатараў да перапялясых рыбак даніё. Ягоная крама зьяўлялася сапраўднай фэдэрацыяй, якая яднала дзясяткі розных культураў і чые жыхары жывёлы адрозьніваліся адзін ад аднаго яркай індывідуальнасьцю (прынамсі, так яны сьцьвярджалі). І вось цяпер уся гэтая фэдэрацыя культураў разьдзірала паветра шалёным крыкам, пырскаючы дзясяткамі меркаваньняў, патрабаваньняў і прэтэнзіяў. У Бэркэлі расколвалася галава, ён ледзь чуў сам сябе ў гэтым гармідары.

– Супакойцеся! Паверце мне, ён вернецца! – зьвярнуўся Бэркэлі да жывёлаў.

– Дос-с-сыць ужо гэтай лухты! – прасычэла адна з трох зьмей. – Шшшымпанзэ кажа, шшшто Тыльфард памёр. Паўсссстае пытаньне: шшшто нам ў гэтай сссытуацыі рабіць?

Зьніякавелы, Бэркэлі зірнуў у бок уваходных дзьвярэй. Ягоны пусты жывот бурчэў, як апантаны. Прывесьці да ладу свае думкі каштавала Бэркэлі вялікіх высілкаў.

– Калі мы здолеем пратрымацца яшчэ…

– Але мы галодныя! Мы ўсе сканаем да таго, як стары Тыльфард вернецца! – крыкнула Жаба.

Сярод усеагульнага тлуму, крыку ды ляпаньня крылаў, празь якое паўсюль, нібы канфэці, лётала пер’е; сярод злоснага блёханьня плаўнікоў, празь якое з акварыюмаў на падлогу вылівалася вада, адзін Шымпанзэ сядзеў ціха ды назіраў за тым, што адбываецца, пачухваючы сваё падбародзьзе – акурат філёзаф. Дачакаўшыся паўзы ў крыку, ён зноўку высунуў галаву праз краты сваёй клеткі і мовіў:

– Бэркэлі, ня злуй, але, па-мойму, відавочна, што існуе толькі адзін выхад з сытуацыі.

Голас Шымпанзэ быў спакойны і роўны, як у дасьведчанага адваката, які выступае ў судзе.

– Ты пра што? – запытаўся Бэркэлі.

– Выпусьці нас, – сказаў Шымпанзэ. – Адчыні клеткі.

– Не!

– Але мы ў крытычнай сытуацыі, – Шымпанзэ ўздыхнуў, акурат як стары стомлены яшчар, які жыў у краме; стваралася ўражаньне, нібы рашэньне, якое ён прапанаваў, непакоіла яго самога. – Трэба дзейнічаць сьмела і радыкальна. Ты адказваеш за нас, пакуль Тыльфарда няма. А гэта значыць, што ты мусіш нас карміць. Аднак ты ня здатны гэта зрабіць, ці ня праўда? Я – адзіны сярод вас, у каго ёсьць рукі. Разумееш, у нас усіх розныя таленты і здольнасьці, і калі ты нас выпусьціш, мы зможам аб’яднаць высілкі. Я магу адкрыць пакункі з кормам!

– Праўда? – зглытнуў сьліну Бэркэлі.

– Але, – Шымпанзэ жвава паварушыў пальцамі на руках, а затым і пальцамі на нагах. – Аж нехта мусіць адчыніць засаўку на маёй клетцы: я сам не магу да яе дацягнуцца. Пёс, я прашу цябе быць дэмакратычным! Трымаць нас пад замком – гэта сапраўдны фашызм!

Зьвяры ўхвальна загулі і, падхапіўшы выгук Шымпанзэ, пачалі голасна дэклямаваць: “Сва-бо-ду!” Аднак уся існасьць Бэркэлі супраціўлялася гэтай ідэі. Ён уяўляў, які можа ўсчацца хаос, калі выпусьціць на волю так шмат розных жывёлаў, якія не заўжды ўжываюцца паміж сабой. Апроч таго, крама была зусім малая, зь нізкай стольлю, і нават адному Бэркэлі было часьцяком складана знайсьці сабе месца сярод усіх прылаўкаў, клетак, прыстасаваньняў ды цяжкіх акварыюмаў, якія бурчэлі, выпускаючы бурбалкі.

Варыянтаў непрыемнасьцяў, якія маглі б здарыцца, калі б Бэркэлі выпусьціў жывёлаў з клетак, была, безумоўна, процьма. Але відавочным было і тое, што калі ён іх ня выпусьціць, яны ўсе памруць з голаду. Апроч таго, Бэркэлі не хацеў, каб яго клікалі фашыстам. Ён лічыў несправядлівым, што Шымпанзэ назваў яго так пры іншых жывёлах, зрабіўшы зь яго кепскага героя. Бо фашысты апошнім часам не ў пашане.

Дзейнічаючы насуперак сваёй інтуіцыі, Бэркэлі падняўся на заднія лапы і, молячыся пра сябе, каб гэта ўрэшце сталася верным рашэньнем, зубамі адкінуў засаўку на клетцы Шымпанзэ. Той не варухнуўся. Нейкі час ён глыбока ўцягваў носам паветра, а потым асьцярожна выйшаў з клеткі, падняўся на поўны рост і, пацершы свае кашчавыя рукі, пачаў прытанцоўваючы адчыняць усе клеткі.

– Ты і Тарантула выпусьціш? – грэбліва зморшчыўся Бэркэлі.

Шымпанзэ халодна паглядзеў на яго праз плячо:

– Ты мусіш бліжэй зь ім пазнаёміцца, ня будзь такім занудам.

Бэркэлі мімаволі сьцяўся, калі Тарантул, якога замовіў, але так і не забраў з крамы нехта пад псэўданімам “Анёл зь пекла”, няўклюдна выпаўз са свайго кантэйнэра. Бэркэлі лічыў, што той нагадвае сапраўдную халеру на лапках, а зусім не жамяру. “Будзь справядлівым! Ён нармальны, як і я… Мы ўсе аднолькавыя!” – пераконваў сам сябе Бэркэлі.

Ён бездапаможна назіраў, як Шымпанзэ перакульвае домік мурашоў і выпускае птушак і як потым уся хеўра зьвяроў, аб’яднаная прадчуваньнем супольнай сьветлай будучыні, паўзла, тупала, скакала, кульгала, ляцела ды бегла ў бок кладоўкі па ежу. І толькі старая, ссохлая Чарапаха не жадала есьці. Больш за тое, яна нават не хацела, каб Шымпанзэ яе вызваліў, і ўкусіла яго за пальцы, калі той паспрабаваў адчыніць яе клетку. Ніхто ня быў зьдзіўлены такімі паводзінамі Чарапахі. Год таму яна зьбегла з крамы, але пасьля тыднёвай адсутнасьці нейкім дзіўным чынам сама вярнулася. Яе позірк быў вельмі разгублены, быццам Чарапаха стала сьведкаю апакаліпсісу ці, наадварот, нараджэньня новага сьвету. Яна не размаўляла ўжо год.

Скруціўшыся ў сваім панцыры і зрэдку едучы́, Чарапаха жыла ў краме Тыльфарда, аднак ніякім чынам ня ўдзельнічала ў яе жыцьці. Нават сам Бэркэлі ставіўся да Чарапахі зь недаверам.

Бэркэлі, у сваю чаргу, згубіў апэтыт. Ён марудна патупаў да ўваходных дзьвярэй. Каля крамы акурат ішла нейкая жанчына, і ён пачаў адчайна брахаць, спадзеючыся, што яна спыніцца. Аднак прачытаўшы шыльду, на якой было напісана “АНЕНЫЧАЗ” (прынамсі, такі надпіс бачыў Бэркэлі знутры крамы), кабета пакрочыла далей. Падціснуўшы хвост, Бэркэлі пацягнуўся назад у кладоўку, спадзеючыся на лепшае. Аднак тое, што ён там убачыў, ніяк ня ўпісвалася ў стандарты мірнага відовішча.

Шымпанзэ, як і абяцаў, адчыніў пакункі і скрыні з кормам. Але калі жывёлы, якія дагэтуль жылі ў краме Тыльфарда паасобку, напхаліся ў вузкую кладоўку і пачалі есьці разам, яны раптоўна ўсьвядомілі, што мала хто зь іх можа цярпець блізкае суседзтва са зьвярамі іншага віду. Гастранамічныя звычкі адных жывёлаў перабівалі апэтыт іншым. Так, напрыклад, птушкі з жахам высьветлілі, што рэптыліі лічаць яйкі найсмачнейшым ласункам, і абурана зьляцелі. Рэптыліі, якія ганарыліся тым, што зьяўляюцца халаднакроўнымі, і мелі дужа выкшталцоныя крытэры прыгажосьці, галоўным зь якіх быў стан і выгляд лускі, не маглі трываць ліпкую гарачыню, якая сыходзіла ад целаў сысуноў, і адмаўляліся есьці побач зь імі. Сысуноў, у сваю чаргу, гэта цалкам задавальняла: яны, салідарныя ў гэтым пытаньні з Шымпанзэ, не давяралі дзіўным істотам, якія нарадзіліся зь яйка, і лічылі, што тыя стаяць на ніжэйшай, у параўнаньні зь імі, прыступцы эвалюцыі. Сысуны жэрлі ўсё, што ім траплялася на вочы: птушыны корм, сухарыкі для сабак і нават корм для рыбак.

– Гэй, не чапайце гэта! Рыбам таксама трэба паесьці – яны ж ня могуць пакінуць свае акварыюмы, – сказаў Бэркэлі.

Шымпанзэ зьдзіўлена паглядзеў на Бэркэлі, потым задумліва зірнуў на прыгаршчу корму, заціснутую ў кулак… І закінуў корм сабе ў рот.

– Гэта іх праблема! – мовіў ён.

Недзе ў глыбінях Бэркэлі пачаў нараджацца вібруючы брэх. Ён паступова рос, і калі Бэркэлі выпусьціў яго вонкі, гэта быў ужо галосны рык – настолькі пагрозьлівы, што Шымпанзэ падскочыў мэтры на паўтара. Ён кінуў Бэркэлі пакунак з кормам для рыбак:

– Ладна, ладна. Во, дай ім. Але запомні адно, сабака: ты таксама сысун. А станавіцца на бок іншых і бараніць іх ад сваіх – гэта ненатуральна.

Бэркэлі адвярнуўся ад Шымпанзэ, трымцячы ад абурэньня і агіды. Узяўшы ў рот пакунак з рэшткамі корму, ён накіраваўся да вялізных, памерам з чалавека, акварыюмаў. Ён раскідаў корм сярод марскіх канькоў, перапялясых даніё ды мэдузаў, якія рытмічна пульсавалі, нагадваючы малыя сэрцы. Да Бэркэлі падплыла Залатая рыбка. Яе голас дрыжэў, плаўнікі нэрвова трымцелі, і ўвогуле яна мела зьбянтэжаны выгляд.

– Што за халера адбываецца? Дзе спадар Тыльфард? – запыталася яна.

– Сышоў, – адказаў Бэркэлі, намагаючыся прамаўляць як мага спакайней.

– Назаўжды? – прашаптала Рыбка.– Бэркэлі, мы чулі, што казалі іншыя, яны замораць нас голадам!

– Не! Я вас абараню! – паабяцаў Бэркэлі.

Залатая рыбка з палёгкай выпусьціла бурбалкі, аж раптам зноўку запанікавала:

– А што калі Тыльфард ня вернецца ніколі?

Бэркэлі павесіў галаву. Гэтая думка была занадта жахлівай, каб яе абмяркоўваць. Ён сказаў больш для свайго супакаеньня, чым для супакаеньня Рыбкі:

– Ну як жа? Гэта ягоная крама. Ён мусіць вярнуцца!

Залатая рыбка паглядзела, не міргаючы, сваімі круглымі вачыма ў вочы Бэркэлі:

– Але калі ўявіць, што Шымпанзэ кажа праўду і Тыльфард усё-ткі памёр? Тады, атрымліваецца, крама належыць нам?

– Еш сваю вячэру.

– Бэркэлі, чакай!

Цяпер пёс не на жарт расхваляваўся. У адчаі ён зноў вярнуўся да ўваходных дзьвярэй і пранізьліва, жалобна заскуголіў, закінўшы галаву (акурат як воўк, намаляваны на пачатковай выяве ўсіх мультфільмаў “Ўорнэр Бразэрс”, чый сылюэт адбіваецца на тле поўні). Сэр-

ца Бэркэлі сьціналася пры думцы, што Тыльфард памёр ці проста пра іх забыў і што, калі ім ніхто не дапаможа, яны таксама ўсе памруць. Так, Бэркэлі пераняў ад Тыльфарда даволі шмат, захоўваючы ў памяці свае дрэсыроўкі, калі ён быў яшчэ шчанюком. Аднак сякога-такога разуменьня дысцыпліны і здольнасьці падтрымліваць парадак не ставала для таго, каб добра сачыць за крамаю, падтрымліваць сярод зьвяроў мір і, самае галоўнае, клапаціцца пра іх, як гэта рабіў гаспадар.

Бэркэлі ніколі не ўспрымаў сябе як лідара. Ён не любіў прымаць рашэньні, але супакойваў сябе тым, што затое можа аб'ектыўна ацаніць любую сытуацыю. Бэркэлі ня быў героем, як Стары Ельлер ці легендарны Гэлерт[1], і, мацаючы зубамі свае рэбры, ён спрабаваў вызначыць, наколькі ён схуднеў ад хваляваньня. На пяць? А мо й на дзесяць кілё?.. Бэркэлі прыкрыў вочы сваімі чорнымі лапамі і ціха заплакаў ад бясьсільля, адчуваючы, як у ягоным жываце, нібы халодны мярзотны сьлімак, варушыцца страх.

Потым, крыху супакоіўшыся, Бэркэлі глыбока ўдыхнуў. У ім нарадзілася надзея: гаспадар ня мог памерці. І Шымпанзэ ніколі яго ў гэтым не пераканае. Тыльфард, пэўна, проста зьехаў некуды па справах і чакаў па вяртаньні знайсьці сваю краму ў такім жа стане, у якім ён яе пакінуў – а можа нават і ў лепшым. Крама мусіла функцыянаваць спраўна, як стары швайцарскі гадзіньнік, які аднойчы завялі і які працягвае цікаць. Бэркэлі сьцяў зубы так моцна, што ягоная скіўіца рыпнула. Ён звузіў вочы: зло ані разу не прабралася ў краму звонку, і, далібог, Бэркэлі не дазволіць яму разбурыць краму знутры.

Але ён ня мог быць паўсюль адначасова, і сытуацыя пагаршалася з кожным днём. Расколіны зьяўляліся паўсюль і часьцяком, як падавалася Бэркэлі, у самых нечаканых месцах. Па ўсёй падлозе ляжалі экскрэмэнты, немагчыма было прайсьці, каб не ступіць у лужыну. Вакол лёталі агідныя зялёныя мухі, хутка крама стала поўная лічынак. Хамякі перагрызьлі ў кладоўцы электрычныя правады; Жаба падхапіла полавую інфэкцыю. Рыбкі, хай сабе і найлагоднейшыя зь істотаў, узмацнялі напружаньне, патрабуючы кругласуткавай аховы. Яны тлумачылі гэта тым, што зьяўляюцца неканкурэнтаздольнымі ў барацьбе за ежу, бо прывязаныя да сваіх акварыюмаў; а ўвогуле, рыбы, калі на тое пайшло, прадстаўляюць сабой найстаражытнейшы від: жыцьцё нарадзілася ў вадзе, і, адпаведна, рыбам яшчэ ўсе вінныя.

Паміж жывёламі абвастрылася спрадвечная крэўная варажнеча і старыя сваркі, якія, здавалася, былі даўно забытыя. Сіямскі кот стаў неяк дзіўна паглядаць на Бэркэлі, і кожны раз, калі той заходзіў у пакой, пакідаў яго. Бэркэлі на ката не зважаў, спадзеючыся, што той рана ці позна кіне свае выбрыкі. Аднак Сіямец проста чакаў зручнага моманту: аднойчы, калі Бэркэлі не было побач, ён згвалціў Зайчыху. Верагодна, калі б ад гэтай сувязі нарадзілася дзіцё, гэта была б цалкам новая істота – зайкот: з пругкімі лапамі зайца і даўгімі кашэчымі вусамі. Такога ў краме Тыльфарда яшчэ дакладна ня бачылі.

Зайчыха ўспрыняла здарэньне вельмі блізка да сэрца. Спачатку яна шмат плакала (што, у прынцыпе, зразумела: стаць ахвяраю згвалтаваньня – вельмі непрыемны досьвед); аднак яе журба хутка выйшла з-пад кантролю, і Зайчыха, заблукаўшы ў ёй, як дзіцёнак у цёмным лесе, пачала падбухторваць усіх саміцаў крамы прынцыпова не ўступаць у зносіны з самцамі. Бэркэлі баяўся ўмешвацца, бо Зайчыха сказала, што гэта не ягоная справа і што ён такі ж гад, як і астатнія. Спачатку Бэркэлі – з чырвонымі ды апухлымі ад бяссоньніцы вачыма – прасіў у Зайчыхі хоць нейкіх тлумачэньняў, а потым, зразумеўшы безнадзейнасьць сваіх спробаў, запатрабаваў, каб яна ўрэшце спыніла свае падбухторваньні.

– Кладоўка на палову спустошаная, – паведаміў Бэркэлі Шымпанзэ на пяты дзень. – Калі мы не пачнем рацыянальна разьмяркоўваць ежу, мы хутка памрэм з голаду.

– Ежа ёсьць заўсёды, – адказаў Шымпанзэ.

Нешта ў ягонай інтанацыі насьцярожыла Бэркэлі.

– У сэньсе? – запытаўся ён.

Падміргнуўшы, Шымпанзэ паказаў вачыма на акварыюмы.

– Нават ня думай набліжацца да рыбак! – пагрозьліва мовіў Бэркэлі.

---

[1] *Імёны сабакаў, галоўных герояў кніг "Стары Ельлер" (аўтар—Фрэд Гіпсан) і "Сабака Гэлерт" (аўтар—Сабін Барынг-Гоўлд).*

Шымпанзэ стаяў нездалёк, зь нянавісьцю ўтаропіўшыся ў Бэркэлі, які ашчэрыў зубы, ахоплены раптоўным моцным жаданьнем укусіць Шымпанзэ. Аднак стрымаўся, ведаючы, што, зрэшты, ён – Бэркэлі – тут галоўны і ўся ўлада над крамаю належыць яму, бо ў яго найвялікшыя зубы. Так, як ні прыкра гэта было яму ўсьведамляць, Бэркэлі разумеў, што яго адзіная перавага і адзіны козыр у справе падтрыманьня парадку ў краме і кантролю над сытуацыяй – гэта ягоная вага. Яны ўсе яго баяліся. То бок паслухмянасьць жывёлаў у краме вымяралася іх страхам перад вялізнымі лапамі Бэркэлі, і нічым іншым. Гэтая думка непакоіла ідэалістычнага Бэркэлі: няўжо сапраўды ўсё ўрэшце вырашаецца тымі, у каго вастрэйшыя іклы ды большыя кіпцюры?.. Тым ня менш, бязьмежная нахабнасьць Шымпанзэ выклікала ў вялікага Бэркэлі слабасьць у нагах.

– Пёс, – сказаў Шымпанзэ, чухаючы ў сябе пад пахай, – ну ты ж мусіш некалі паспаць!

Бэркэлі так і зрабіў. Пасьля гадзінаў стаяньня на варце ў краме; пасьля спробаў супакоіць Зайчыху і пераканаць яе не пазбаўляцца ад зайкота (бо Зайчыха пагражала зрабіць аборт); пасьля перамоваў з птушкамі, якія зьбіліся ў адзін кут, сьцьвярджаючы, што рэптыліі задумалі няладнае; пасьля апрыскваньня Жабы лекамі (бо яе хвароба перакінулася і на Ігуану) – пасьля ўсяго гэтага Бэркэлі лёг ля ўваходных дзьвярэй і праваліўся ў неспакойны сон. Ён сквапна паглынаў хвіліны летуценьняў, перад ягонымі вачыма праплывалі старыя добрыя дні; ён уздрыгваў і павіскваў. Спачатку Бэркэлі сьніў, як перыць суседзкую маленькую францускую пудзяліху – гэта было непаўторна, ён нібы кахаўся з маланкай: яны так добра рухаліся разам. Потым яму сьнілася дзяцінства, калі найвялікшай праблемай было ўзгадаць, дзе ён зарыў ежу, сьцягнутую са стала Тыльфарда, ці неўпрыкмет зьбегчы ад сваёй маці, якая заўжды казала, што ва ўсіх сабакаў халодныя насы, бо яны спазьніліся ў Ноеў каўчэг і ім давялося вандраваць, седзячы ля парога, дзе моцна дзьмула. Сон Бэркэлі, як і ўсе сны, пераліваўся з адной выявы ў іншую, кожная зь якіх была ясьнейшая і ярчэйшая за папярэднюю.

Калі Бэркэлі ўжо амаль прачнуўся, перад ім раптам разгарнулася яшчэ адна сэрыя сну. Цудоўна апрануты, з капелюшом-кацялком на галаве і палкай у руцэ, прыязна ўсьміхаючыся Бэркэлі (Бэркэлі быў у гэтым упэўнены), Тыльфард шырока адчыніў дзьверы крамы. Гэтае дзеяньне суправаджалася павевам ветру і ўспышкай яркага незямнога сьвятла, якое заліло ўвесь пакой, паглынаючы нават самыя маленькія цені. Усе міжсобныя сваркі, бойкі ды мітусьня паміж жывёламі імгненна спыніліся. Ніхто ня сьмеў варухнуцца. Жывёлы замерлі, нібы рыбы, што замерзьлі ў лёдзе, ці птушкі, якія завісьлі ў плыні спадарожнага ветру. Празрыстае сьвятло, якое зьзяла з-за сьпіны гаспадара, было такім яркім, што асьляпляла, размываючы сылюэты зьвяроў. Яно разьядала ўсе адрозьненьні паміж імі, і здавалася, што кожная з жывёлаў зьяўлялася кавалачкам гэтага старажытнага сьвятла, якое нейкім чынам увасобілася ў фізычную форму. Хоць, зрэшты, распаданьне сьвятла на розныя формы было звышабсурдным, бо гэта вяло да немінучых пакутаў, азначаючы аддзяленьне аднаго ад аднаго і нараджэньне ілюзіі індывідуальнасьці... Але раптам сьвятло зьнікла, і Бэркэлі застаўся сам-насам з гаспадаром. Той нахіліўся, пагладзіў Бэркэлі па галаве і лагодна сказаў (акурат як некалі Бог Самуілу): “Малайчына!” Гэта быў верх радасьці для Бэркэлі, ён зноўку заскуголіў у сьне, потым пачаў перабіраць лапамі і нават некалькі разоў задаволена рохкнуў, нібы парсюк. Раптам гаспадар прашаптаў: “Тэльма”. Гэта было дужа недарэчнае слова – нават улічваючы, што яго кажа Тыльфард, нават прамоўленае ў сьне. Бэркэлі павёў вушамі. “Тэльма”, – паўтарыў Тыльфард. Зьбянтэжаны, Бэркэлі быў падумаў, што гаспадар усё-ткі пераблытаў слова, жадаючы сказаць нешта больш адпаведнае, прароцкае – кшталту: “Гэта была твая асабістая бітва на Эльбе…” Тут Бэркэлі абудзіўся. Вакол яго лётаў Папуга, гістэрычна махаючы крыламі і крычачы:

– Стрэльба! Шымпанзэ ўзяў стрэльбу!!

Яшчэ не канчаткова ачомаўшыся ад сну, Бэркэлі агледзеў затуманенымі вачыма прылавак. Пакой плаваў у дыме, які спарадзіла страляніна ў кладоўцы; паветра не хапала. Як толькі Бэркэлі мог забыць пра стрэльбу “Сьміт і Ўэсан”, набытую Тыльфардам пасьля таго, як у Сіэтле адбылася сэрыя крадзяжоў экзатычных птушак з заакрамаў? Цяпер стрэльба была ў руках Шымпанзэ. Бэркэлі адчуў, як па ягоных нагах цячэ цёплы струмень. Шымпанзэ уладкаваў стрэльбу паміж касавым апаратам ды плястыкавымі ашыйнікамі для сабак і ашчэрыў свае

жоўтыя зубы ў шырокай хцівай ўсьмешцы – нібы сэнатар Кангрэсу, які толькі што даў дабро на ажыцьцяўленьне тактыкі выпаленай зямлі[2].

– Адбяры ў яго стрэльбу! Ты абяцаў бараніць нас, Бэркэлі! – верашчаў Папуга.

Цягам некалькіх бясконцых сэкундаў Бэркэлі стаяў на ватных нагах, амаль па калена ў лайне, азялелы ад гнілога паху заняпаду; ён ячшэ ня цалкам абудзіўся і пачуваўся на мяжы сну, ягоная поўсьць была вільготнай – ён узмакрэў, калі сьніў французскую пудзяліху… Цяпер, калі Шымпанзэ ўзяў стрэльбу, балянс сілаў зьмяніўся: Бэркэлі больш ня меў перавагі. Ён мог перамагчы Шымпанзэ толькі ў тым выпадку, калі б адабраў у яго стрэльбу. Прыцiснуўшыся да зямлі і пагрозьліва гыркаючы (прынамсі, спрабуючы гучаць пагрозьліва, каб заглушыць галоснае тахканьне ў сваіх грудзёх), Бэркэлі абышоў прылавак і, наблізіўшыся да касавага апарата, сьцяў сваё цела ў спружыну, рыхтуючыся да атакі… І скочыў. Пакуль ляцеў, ён уяўляў сабе, што пякельны агонь і дым вакол яго – несапраўдныя, як тыя, якія ён бачыў па тэлевізары.

Акрываўленага, зламанага, нягнуткага, Бэркэлі адкінула назад, нібы пустую плястыкоўку. Ён упаў на клетку з Чарапахай. Бэркэлі ляжаў зусім ціха, не варушачыся; ён не адчуваў сваіх ног. Цёмна-барвовая кроў сьцякала на падлогу, пульсуючы ў такт з сэрцабіцьцём Бэркэлі. Ён дробна дрыжэў, з прыкрасьцю думаючы пра тое, што ён быў заснуў надоўга.

Па пакоі распаўзалася полымя; у цёмным, адключаным акварыюме брухам дагары плавалі рыбкі; саміцы разадралі Сіямскага ката на шмацялькі; пярэстыя яшчары былі паглыбленыя ў высмоктваньне яйкаў канарэек. Карціну ўсеагульнага гніеньня завяршаў Тарантул, які задумліва поўзаў па трупах Жабы ды Ігуаны.

Раптоўна Бэркэлі адчуў, як у клетцы пад ім заварушылася Чарапаха, прачышчаючы горла пасьля доўгага маўчаньня. Пэўна, толькі ў яе, зь яе панцырнай амуніцыяй, і быў шанец перажыць увесь гэты гармідар. Мружачы вочы, якія выядала дымам, і ўжо губляючы прытомнасьць, Бэркэлі намагаўся распавесьці пра свой сон:

– Мы маглі б пратрываць: нас шмат чаго яднала… Госпадзе, мы ж усе, зрэшты, зьвяры!..

– Менавіта: зьвяры! – змрочна мовіла Чарапаха, зьзяючы вачыма са свайго панцыру, зь якога, нібы зь пячоры, адгукнулася рэха: “Зьвяры-ры-ры…”

***Пераклала з ангельскае мовы Дар’я Вашкевіч. Паводле Janet Burroway. “Writing Fiction: A Guide to Narrative Craft.” Sixth edition. Longman, 2003. Аповед “Menagerie” p.p. 344-350***

[2] *Тактыка выпаленай зямлі – зьнішчэньне рэсурсаў пры адступленьні.*




## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ

Кожны дзень ад світання да заходу я працую капірайтэрам, то бок ствараю рэальнасць за грошы. Стаць пісьменнікам я хацела яшчэ ў дашкольным узросце, калі мае вершы пра сонца і мячык публікаваліся ў нейкіх газетах і часопісах. Але хто б мог падумаць, што пісаць я буду па той бок дабра і ліха, стоячы за карцінай, якую малюю для тых, хто ў гэтай карціне жыве. Часам на мяне накатвае чорная меланхолія з нагоды маёй недатычнасці да стандартнай пагоні за таварамі і паслугамі, і я прымушаю сябе паверыць у чароўную сілу прыправаў, пра якія зараз пішу. Я іду ў краму і куплю за адзін даляр кавалачак рэчаіснасці. Але паспрабаваўшы яго на смак, я зноў радуюся, што я – Вялікі Архітэктар Сусвету рэкламы і інфармацыі. Ці хаця б бледная цень сапраўдных архітэктараў, якім аднойчы знясуць галаву за неасцярожнае слова, а мне, трыксцеру, нічога за гэта не будзе.

"Губернатор городского округа Химки призвал западных инвесторов вкладывать деньги в инновационные технологии", ці "Частная компания осуществляет полный цикл движения товара от оформления заказа до момента погрузки". У той час, калі я складаю генплан развіцця горада, які ніколі ў жыцці не бачыла, губернатар п'е гарбату з млекем і цукрам (як у дзяцінстве бабуля ў вёсцы гатавала) і разважае пра будучыню даручанай яму Богам вобласці: "На пасаду загадчыка святла пасадзім сваяка жонкі, адмяраць гарачую і халодную ваду людзям даверым пляменніку (няхай вучыцца складаць і памнажаць, у жыцці спатрэбіцца), а таго, кіраўніка фонда спорту і турызму – растраляць! А, не, растраляць нельга, ну тады – у ссылку! Хай едзе ў Маскву, там яго хутка навучаць дзяліцца. Каго ж за-

мест яго? Трэба патэлефанаваць у “Баявое братэрства”, няхай прышлюць кагосьці сталага і без дзяцей”.

Губернатарам быць цяжка, заўжды трэба сачыць, каб усё ў дом, усё ў сям’ю. Калі горад абкрадае адзін чалавек – то гэта значна танеей, такім чынам, у яго гонар яшчэ паставяць помнік. Ці ён сам паставіць. Ці яму пастаўлю я, запісаўшы гэта ў генплан развіцця даверанага мне падмаскоўнага “округа”, які я ніколі ў жыцці не бачыла. Тут дзірка ў інфраструктуры – на цэлы мікрарайон няма дзіцячага садку. Тут небяспечна пераходзіць аўтастраду – пабудуем мост. І увогуле, трэба пракласці веладарожкі, пагадзіцеся, губернатар. Не? Генплан зацвердзіце, але ў фізічнай рэальнасці з’явіцца только помнік вашай асобе? Ну, ніхто і не здзіўлены, дзякуй за своечасовую аплату і магчымасць уявіць сабе дойлідам далёкіх Хімак. Да новых сустрэч.

Частка маёй працы складаецца з напісанная фантастычных апавяданняў. Напрыклад, калі мне замаўляюць артыкул “Як прэзідэнт Гандураса эфектыўна супрацоўнічае з …”, ну, дапусцім, з Чырвоным Крыжом. Ці не, хай будзе з жыллёва-камунальнымі службамі Расеі. Ці чымсьці сярэднім паміж Чырвоным Крыжам і ЖЭСамі Расеі. То бок, акрамя таго, што ніяк не супрацоўнічае, тым больш эфектыўна, хімера Чырвоны Крыж-ЖЭС Расеі сама па сабе з аднаго боку горш за прэзідэнта Гандураса, а з другога калі штосьці палезнае і робіць, то прэзідэнт Гандураса ніяка дачынення да гэтага не мае.

І вось я вылаўліваю з гэтай багны негатыўных водгукаў на працу Чырвонага Крыжа-ЖЭСа Расеі адзін пазітыўны факт, а пасля звязваю ўзнікненне гэтага факту з доблесцю і велікадушнасцю прэзідэнта Гандураса. “Прэзідэнт Гандураса аказаў падтрымку сацыяльна значнай ініцыятыве жыллёва-камунальнай арганізацыі Чырвоный Крыж”. І далей – тэкст на паўтары старонкі, галоўнае – пазбегнуць аргументаў і фактаў і наліць вады. Прыгэтым уся каралеўская конніца, уся каралеўская раць выдатна ведае, што прэзідэнт Гандураса – мудак, і жыллёва-камунальны Чырвоны Крыж – мудак, але крышку меншы. Навошта, пытанне, кіраўніку бананавай рэспублікі замаўляць мне хвалебныя фантастычныя аповеды? Я бачу толькі адну прычыну. Прэзідэнт Гандураса – вельмі высакародны чалавек, які стварае для мяне магчымасць адточваць сваё майстэрства.

***

Аднойчы быў такі эпізод. Я шукала працу на фрылансе, спачатку пераборліва і ўдумліва, а праз пэўны час проста пакідала стандартны тэкст кшталту “зраблю для вас усё за пэўныя грошы” пад кожнай аб’яўкай. З вольнымі пісьменнікамі заўсёды так – сёння плацяць паўтары тысячы эўрасаў за паўтары гадзіны працы, а заўтра праект закрываюць і ты застаешся сам-насам з чыстай творчасцю. На танныя замовы пагаджацца не дазваляе прафесійнае сумленне, і месяц альбо два даводзіцца сядзець без працы і пісаць для знаёмых ці ў глянец, як кажуць, для душы. Калі зноў трапіцца слушны кліент, які заплаціць ад 10-15 даляраў за 1000 знакаў з прабеламі, кідаеш усё і вяртаешся да канвееру прадажных навін. Капірайтэры, якія дасягаюць найвышэйшай кропкі кіпення, альбо выходзяць з падполля да офісаў прэстыжных навукова-папулярных часопісаў ці студый больш-менш цікавага тэлебачання, альбо адкрываюць уласныя агенцтвы прафесійнага кантэнту, куды нанімаюць на працу крэатыўных рабоў. Маючы дзесяць “нераў” і пяць стабільных заказчыкаў, можна жыць на віле ў Таскане ці Пхангане. Асабліва калі наняць капірайтэраў (дарэчы, тэрмін гэты даўно страціў свой творчы сэнс) на Беларусі, гатовых з радасцю працаваць за 1-3 даляра за 1 кілазнак, а з маскоўскіх кліентаў браць тыя ж 10 умоўных адзінак віртуальных грошай.

Дык вось, у адным з такіх прамежкавых станаў да мне звярнуўся хлопец. Яго аб’ява на сайце гучала так: “Необходим специалист для написания текста, хорошо воспринимаемый поисковыми роботами. Текст должен быть интересным, понятным и без воды. Плачу хорошо”. Я пакінула свае кантакты і кошт, каб ён не спіраўся на цану і стукаўся ў аську, толькі калі можа нармальна плаціць. Мае кошты не самыя высокія, калі б я працавала ў маскоўскай капірайтэрскай агенцыі, вядома, зарабляла б у два разы больш нават незалежна ад праектаў. Але сярод фрылансераў абсолютная большасць пагаджаецца на працу за кап’ё і псуе ўмовы на рынку. Хлопец дабавіўся у мэсэнджэр і адразу перайшоў да справы:

– Пані зараз цалкам вольная?

– Так.

– Кароче, – пісаў ён з жахлівымі граматычнымі і сінтаксічнымі памылкамі, а маё ўяўленне малявала нахабнага маскаля, які за бацькоўскія грошы купіў порш каен, кардыган, вузкія споднi і акуляры D&G (цікава, усе гэтыя моднікі, асабліва тыя, што з раёну і па паняццях, ведаюць, што Дольчэ і Габана – палюбоўнікі, нетрадыцыйнай арыентацыі?). – Есть одна тёлка, она учится в универе “Еще Один Платный ВУЗ Для Неудачников”. Надо обосрать ее и сам универ. Компромат есть, фотки там, переписка из Вконтакта. Сможете?

Ці змагу я. Ці змагу я напісаць матэрыял для некалькіх блогаў пра тое, як нейкая Лена з Маскоўскага ўнівера – каза, у інтымных стасунках з прарэктарам па гаспадарчай дзейнасці, пасля заняткаў яны займаюцца непатрэбствам на дзяржаўных партах, а пазней студэнтка атрымлівае пяць па ўсіх прадметах, а перш за ўсё па этыцы і эстэтыцы? Ці здолею я адыграцца на Лене за ўсіх хлопцаў універа, якім яна не дала? Ці змагу я паквітацца з усімі ненавіснымі прыватнымі навучальнымі ўстановамі з унутранай карупцыяй і тупымі выкладчымі ў асобе Маскоўскага Ўніверсітэта рагоў і капытоў? Вядома, змагу! Слова – гэта страшная сіла, за якую плацяць па 10 даляраў за абзац. Прытрымайце краі вашых сукенак, ледзі, мы прабіраемся праз пекла.

Са мной Лене пашанцавала. Мае будысцкія погляды не дазволілі мне ні ўзяць брудныя грошы, ні павярнуць зброю супраць яе. Я нават нічога не сказала маскаліку, акрамя “не”, і, напэўна, ён знайшоў іншага выканаўцу, можа, гэта яму нават танней каштавала. На маім сумленні ёсць плямы ад мноства рэчаў, але ўжо калі я прадаю свой талент, то на добрыя справы.

***

Узімку да мяне звярнуліся падазроныя асобы: мент высокага рангу і чыноўнік з расейскага рэгіёну. Гэтыя з усіх бакоў небяспечныя і завочна непрыемныя людзі захацелі зрабіць – увага! – прытулак для коцікаў! Ага, для тых, якія “мі-мі-мі”. Для гэтага ім спатрэбіўся блог апантана ўзніклай валанцёрскай арганізацыі. Мне прапанавалі прыдумаць канцэпцыю, лагатып, дызайн блога, фармат падачы матэрыялу. Як кожны грамадзянін сваёй краіны, я недаверліва стаўлюся да паліцыі і іншых унутраных органаў. Таму я адразу спытала – гэта такі спосаб сабраць грошы? Бо ўнізе кожнага паста павінен быў стаяць адрас для пераліку пэўных сум. “Не”. Я з усіх бакоў патлумачыла, што мая праца будзе ў некалькі раз эфектыўней, калі я буду ведаць праўду. “Не, мы сапраўды хочам пабудаваць прытулак для коцікаў”.

Ну добра. Натхнёная гуманістычнай ідэяй (упершыню мая праца цалкам супадае з маімі поглядамі), я аддана шукаю ў гугле кранальныя фотаздымкі. Ствараю шчырыя тэксты пра тое, як пасля смерці каты і сабакі трапляюць на Вясёлкавы мост, дзе чакаюць сваіх гаспадароў. Пішу пра тое, як кожны можа дапамагчы бяздомным коцікам – пералічыць грошы, стаць валанцёрам ці зрабіць перапост. Апавядаю пра шчаслівых катоў, якія калісці знайшлі свой дом. Кожную раніцу шукаю у замежных блогах цікавыя гісторыі і метады збору сродкаў для арганізацыі прытулку. Паволі надыходзіць час справаздачы, калі мы павінны выкласці жывы прыклад нашай місіянерскай працы за сабраныя грошы.

– Калі будуць фотаздымкі з рэйдаў да дваравых коцікаў? – пытаюся ў кліента.

– Сёння! Абяцаю! Нарэшце! Абавязкова! Ура! – крычыць ён мне ў скайп. Даволі экспрэсіўны чыноўнік, трэба прызнаць. Прыязджаў да мяне ўзімку ў швэдары лімоннага колеру ды з маленькім нэтбукам у чырвоным футарале. Звычайныя менчукі ў шэрых пухавіках глядзелі на яго, як на ёгіна, які забыў апрануцца. А ён проста сеў у самалёт, прыляцеў, выклікаў таксоўку, прыехаў да мяне ў кавярню паразмаўляць яшчэ раз пра коцікаў і з’есці дранікаў, потым вярнуўся ў таксоўку, якая яго гадзіну чакала, даехаў да аэрапорта і паляцеў. Але абяцаў вярнуцца.

Карацей, здымкі ён прыслаў, але знятыя на айфон у цёмным двары, калі адзіная котка, якую ён пакарміў, ківала галавой у такт руху сківіц. Прасцей кажучы, на здымку была размытая пляма. І гэтую пляму я павінна была паказаць чытачам як прыклад таго, куды ідуць іх грошы. На самой справе грошай там было мала, і такую дробязь маскоўскі кліент дакладна не заныкаў,

але сам факт! Ніхто ж не ведае, можа мы ўжо ладдзю сушы на гэтыя ахвяраванні купілі і з'елі. Давялося мне браць корм для стэрылізаваных котак ад маёй хвастатай морды і ісці ў родны двор да сытых тоўстых катоў, за гонар пакарміць якіх кожны дзень змагаюцца ўсе суседскія бабулькі.

Праз месяц праект прыкрылі. Кліент сказаў, што яны не збіраюць дастаткова грошай, каб нават плаціць мне. "А што вы хацелі, – думала я, – каб за квартал сабраць прыхільнікаў новай фундацыі без рэкламы, з адным толькі блогам жж?" Ды я працавала б задарма, калі б мне дазволілі. Але ў мяне забралі ўсе паролі і адмовіліся размаўляць на гэтую тэму. Замест гэтага кліент прапанаваў мне пісаць пра эканамічнае штосьці_там_як_заўжды і паўтары тысячы даляраў, і з вобласці мімімі нашы адносіны перайшлі ў цалкам сур'ёзнае русла. Усё, што добра пачынаецца, мае і свой канец.

***

Калі пішаш на розныя тэмы, пазнаеш многае знутры. Капірайтар жыве па-за дыскурсам "купляй маю шаверму", і калі набывае сачысты гамбургер, то не таму, што ён быццам бы палезны, а таму, што ён вельмі смачны, нягледзячы на ўсю сваю ненатуральнасць. Капірайтар ведае, што тавар, які рэкламуецца, – адстойны. Што ўсе пазітыўныя каментары на форумах і станоўчыя водгукі ў Інтэрнэце – набытыя. Што кіраўнікі ні слова не кажуць самі, а ўсё чытаюць па напісаных пісьменнікамі паперках. Што часта важныя аналітычныя артыкулы па эканоміцы і палітыцы пішуць хатнія гаспадыні, якія зусім не разбіраюцца ў эканоміцы і палітыцы. Кіраўнік рэгіёну дае грошы Вельмі Моднай піяр-агенцыі. Агенцыя даручае напісаць прамову для кіраўніка менш моднай піяр-агенцыі, кладучы ў кішэню палову грошай. У рэшце рэшт прадстаўнік з Самай Нямоднай піяр-агенцыі прыходзіць да звычайнай хатняй гаспадыні, якая піша натхнёную прамову на паўтары старонкі за 20 баксаў. Потым простыя смяротныя слухаюць словы кіраўніка рэгіёна і дыскутуюць на тэму таго, што ён сказаў пра інавацыі і інвестыцыі. Кіраўнік мае трох палюбоўніц і котак.

У такіх абставінах можна лёгка забыцца на сумленне і згубіць уласныя сацыяльныя і палітычныя погляды. Тваё бачанне грамадска значных праблем – белы аркуш, на якім ты пішаш тое, за што табе плацяць. Сам ты сядзіш на пустэльнай скале і назіраеш, як плывуць аблокі. Натуральны дзэн сучаснымі метадамі. І вось у маю самадхі адначасова трапляюць два кліента. Адзін – стваральнік ліберальнага партала ў стылі адкрытага блога, а другі – уладальнік нацыяналістычнага рэсурса, які фінансуецца з заходніх фондаў буйной карпарацыі. Карпарацыя набыла кавалак расейскага лесу ў самым сэрцы нацыянальнага запаведніка. Цяпер яны сапсуюць там усё свежае паветра сваімі бульдозерамі і пракапаюць катлаван да самага пекла. Не кажучы ўжо пра выруб леса для будаўніцтва дарогі да месца прамысловай здабычы чарговай эканамічна выгаднай хуйні. Мне трэба напісаць артыкул ад імя абуранага грамадзяніна-ліберaста на тэму "Як вам не сорамна, рабаўнікі зямлі рускай" і артыкул "Карпарацыя стварае працоўныя месцы для беспрацоўных у вобласці". Я ўжо два тыдні працую на гэтых рэсурсах, на вуліцы лета, і у мяне дваццаць ў вачах. Таму я з лёгкасцю блытаю матэрыялы месцамі, закрываю комп і кладуся адпачываць на сіесту. Спёка…

Капірайтэру-фрылансеру нельга крыкнуць "Я вас звальняю!" Па-першае, яго ніхто афіцыйна на працу не ўладкоўваў і нават кантракт з ім не падпісваў. Нават у вочы, часцей за ўсё, яго ніхто не бачыў. Па-другое, я заўжды працую за аванс, калі грошы ўжо ёсць на маім рахунку. Канешне, бываюць і казусы, калі ты яшчэ дакладна не вырашыў, што будзеш працаваць, а кліент бах! – і пералічыў грошы. І кажа, маўляў, не маю віртуальнага рахунку, каб вярнуць аплату. Пішы. Але аванс – бяспечная штука, без якой мая памылка магла каштаваць мне значна больш.

Калі я прачнулася, у мяне мігалі два акенцы мэсэнджэра. Мае артыкулы выбухнулі з сілай атамнай бомбы. За тую гадзіну, калі яны віселі на сайтах, рэйтынг ускочыў да самых нябёс. У каментарах вяліся баталіі на тэму карупцыі і здрады радзіме. Ліберастаў абвінавачвалі ў прадажнасці, нацыяналістаў хвалілі за крытыку ў адрас іх тайнага спонсара. Мяне шукалі абодва кліента, каб скрыжаваць паміж двума пляцоўкамі і прасіць перапісаць артыкул з публічнымі

выбачэннямі. "Усё, з гэтай хвіліны толькі балет і кераміка", – вырашыла я. Гэта значыць, ніякіх прадажных артыкулаў, палітычных тэм, сацыяльнай адказнасці, грамадзянскай пазіцыі і іншых сумных рэчаў. Толькі коцікі і нейтральныя матэрыялы пра навуку і мастацтва.

Але праз дзень абодва кліента запатрабавалі мяне назад. Як жа так, лічыльнік наведванняў усё круціцца і круціцца, трэба хутка падхапіць гэтую хвалю карыстальніцкага энтузіязму і выціснуць з яе максімум рэйтынгу! Масы патрабуюць новага хлеба і срача, нам патрэбна правакацыя, нам патрэбны народны гнеў, мы – драпежныя рэптыліі, якія сілкуюцца чалавечымі эмоцыямі! Калі ласка, вярніцеся назад, мы ЗАПЛАЦІМ.

***

Не ведаю, як выглядаюць стандартныя дамовы паміж кліентам і капірайтэрам у буйных агенцтвах, але яны напэўна павінны існаваць, каб засцерагчы аўтара ад заказчыка. Я працую па прынцыпе "пакупнік заўсёды мае рацыю" і ўношу ў тэкст усе дурныя праўкі, якія просіць зрабіць кліент. Вам кажуць: "Напішыце артыкул пра карысць нашага крэму для абутку. Не забудзьцеся дадаць, што ў склад уваходзяць вітаміны групы B, абалоніна і мікраэлементы". Пасля таго, як тэкст здадзены, прыходзяць каментары заказчыка: "На падставе чаго вы сцвярджаеце, што скураны абутак трэба мазаць крэмам?", альбо "У склад крэму не ўваходзяць вітаміны і мінералы!", альбо "Мы не можам сцвярджаць, што крэм сапраўды карысны". Мала таго, што яны хочуць пахваліць свой прадукт, не патрапіўшы пад закон аб рэкламе, гэта значыць усю экспрэсію пацвердзіць фактамі, якія нічога не пацвярджаюць, таму што крэм іх – поўнае лайно. Яны яшчэ блытаюцца ў паказаннях, адмяняюць свае ж праўкі і, калі гэта буйны вытворца, лаюцца паміж сабой і зрываюць усе тэрміны. За рэдактуру і лішні час ля кампутара вам, вядома, заплацяць, але пачуццё, што вы працуеце з ідыётамі, усё роўна застанецца.

Калі б мне прапанавалі правесці ў сярэдняй школе ўрок на тэму "Кім я хачу стаць, калі вырасту", я б адмовілася. Капірайтэраў цяпер практычна столькі ж, колькі фатографаў, але толькі адзінкі могуць напісаць сапраўды складны тэкст. Не тое каб мне было крыўдна за прафесію ці я баялася канкурэнцыі з боку будучых спецыялістаў, але маса капірайтэраў, якія працуюць за капейкі і выдаюць бяздарныя артыкулы, псуе рынак. Ды і каб стаць добрым капірайтэрам, трэба класці тэкст, як цэглу на будоўлі, а не чакаць мімалётнага натхнення, ствараючы немагчыма выдатныя паветраныя тэксты, якія нахуй нікому не патрэбныя. Як па мне, працаваць дызайнерам інтэр'ераў альбо арт-мэнэджэрам значна больш па-хіпстэрскі. Але калі душа просіць перайсці на цёмны бок сілы слова, то будзьце гатовыя капаць, пілаваць і ляпіць без выходных і святаў. Таму што калі вы пазнаеце смак, вам пачнуць сніцца сны пра прыдатныя да крэма для абутку эпітэты і метафары, а аднойчы сонечным днём вы зразумееце, што некалькі кілаграм добра напісаных слоў – гэта і ёсць ваша мара аб самарэалізацыі. Выварочваючы словы і сказы, вы нарэшце раскрыеце сваю Самасць. І хоць гэта не так рамантычна, як паэзія ці ўвогуле літаратура, кожны шчаслівы толькі тады, калі ўрабляе ўласны сад.




## НАРЦЫСЫ

І архіатакуючы на чале сваёй архісьвіты,
архікароль пранёсься ў цемрадзі ночы!
*Вітальд Гамбровіч*

1

Журботны аповед на тры дзеі з эпілёгам. Без прэтэнзіі на высокую мастацкасьць ды прачуласьць. Апавядальнік – падкрэсьлена цынік, унутры якога жыве і памнажаецца пустэча. Яно ж ведама: гора тым, хто носіць… etc. Апавядальніку замінае чуб і акуляры. Зразумела, аповед – з сумнай фінальлю: багата крыві, патасу. І прасьвятленьне галоўнага героя ў дарозе, пад лязгат рэек. Дарэчы, Ідылія. Такі нішто сабе бульба-хорар, толькі ня бульба й ня хорар саўсім.

Уласна кажучы, спадзеў мастака ў юнацтве на стварэньне шэдэўру. Кампіляваньне собскіх думак са скрадзенымі зьнекуль цытатамі, высокая насычанасьць тэксту нізкапробнымі мэтафарамі. Высокі стыль. Рэдкаўжывальныя беларускія словы.

Магчыма.

Наратар – знаёмы галоўных пэрсанажаў. Ён сядзіць ля помніка Дзяржынскаму і прамаўляе словы ў пустэчу Менску. Ім ніхто не цікавіцца, у руках – загорнуты на 105-ай старонцы томік Пруста.

2

Пра любоў, натуральна.

Яны сустракаліся даволі доўга, напаўняючы дні кветкамі, уздыхамі, сонечнымі промнямі і недарэчнымі, несамавітымі абяцаньнямі. Яна звалася Маргарыта, як у безгустоўных замежных раманах, і мела сьветлыя вочы. Агулам яна была непрыгожая. Так сталася. Затое яна ўмела вышываць і вышыла яму на майцы невялікі надпіс “кахаю”. Так банальна, затое чырвонымі ніткамі.

Усё, што атачала іхнае жыцьцё, выпала і не магло брацца пад увагу; абое былі перакананыя, што жыцьцё – атрута, якой трэба пільна сьцерагчыся. Ён ведаў, недзе ўнутры ён адчуваў, што жыцьцё – тло, лоўля дзьмушак, і што меў рацыю Эклезіяст. але кніг ён не чытаў, лічыў гэта пустым заняткам. галоўнай ягонай ідэяй было пераадоленьне Фройда. ён лічыў, што чалавек мае давесьці, што чалавечы розум можа пераўзысьці абвешчаную ўсемагутнасьць зьвярынага лібіда. пераўзысьці, што праўда, пакуль не атрымлівалася, нездарма ж яны так часта шукалі ціхае бязьлюднае месца, загадзя ўдзень аддаючыся сваім пакрыёмым мроівам на лекцыях: вядома, яны – студэнты, і вучацца ў танным каледжы, не маючы ў жыцьці пэрспэктываў. гэта вагомы момант сюжэту, думкі герояў часта зварочваюцца ў гэты бок – у бок туманнае далечыні, скрушнае будучыні.

так, каханьне-любоў. але нехта ўжо вар’яцее, у ягоных вачох дамы паступова робяцца пачварнымі драконамі, а хворае ўвааброжэньне творыць па начох, у зануднай цішы правінцыйнага гораду Н., паляваньне валькірыяў. гэты нехта, а покуль ня будзем казаць, хто, ужо драпае велькімі, даўно ня стрыжанымі пазногцямі скуру другога да крыві, ужо надкусвае плячо другога, ужо расьцярушвае нясмелыя першыя цыдулкі з прызнаньнямі, блукаючы ў прыпадку па начным горадзе. вар’яту мрояцца выбухі, ён бачыць страшныя сны і сьпяшаецца скочыць у ваду.

ён спрабуе скончыць жыцьцё самагубствам і скача ў ваду з моста. але ўсё ня так лёгка – гэта жыцьцё, дзетка. падаючы, ён бачыць мілоснага курдупеля-коціка з чарговага кашмару… справа ў тым, што рака была неглыбокая. і гэты нехта робіцца калекам. паралюш на ўсё жыцьцё.

3

у тым, каб пісаць даўгія занудныя апавяданьні, ё свой чар: яны ствараюць уражаньне дзіўнае паўнаты мыслі, асэнсаванасьці быцьця і мэтанапоўненасьці чалавечых учынкаў. напраўду ўсё складаней. але, як бы тое ні было насамрэч – бо маё папярэдняе напраўду трэба разглядаць толькі як выклічнік, што ня мае ўласнае сэмантыкі, адно адцяняе ходу мысьляў – жыцьцё заўжды працягваецца далей.

і вось той, каторы быў зусім нармальны, стаіць перад дылемай: ён можа кінуць таго першага, каторы паралізаваны ляжыць у шпіталі

але ж ён ня ведае што той вар’ят і ня цяміць такім чынам усёй жудкае глыбіні катастрофы ў якую патрапіў ён сядзіць у сваім маленькім здыманым за 10.5 даляраў на месяц пакойчыку на гарышчы чатырохпавярхоўкі ці то пары позьняга Міколы II ці то раньняга Ёзэфа Сталіна і мяркуе-ўважае над тым як жыць далей на шалях ляжаць маральныя аргумэнты проці аргумэнтаў практычна-ўтылітарных бо жыць з чалавекам што пакутуе на паралюш цяжка

ён ходаецца сам з сабой увесь дзень надыходзіць ноч а ён не ўставаў з крэсла ня ведае як быць далей неўтаймаваная бура ў галаве сапраўды ня можа вызначыцца і тут ён разумее што як бы ён ні хаваўся за высокімі словамі –

*(гэта Яспэрс. клясычная пагранічная сытуацыя)*

усё адно: ён у палоне памяці, дзеля яго маральныя аргумэнты роўныя тым самым утылітарным, а ён жа верыў, верыў у чалавечнасьць і высокія ідэалы раньніх нямецкіх рамантыкаў

спляжыўшы такім чынам собскія перакананьні пасьля ночы якую ён бавіць за бясконцымі келіхамі спачатку зь віном потым з гарэлкай пакутуе ад страшных прароцтваў дзіўнотаў і галюцынацыяў ён здаровы з патэнцыйна шчаслівай будучыняй прыходзіць пад гмах шпіталю

ірве з клюмбы кветкі каб мець прыстойную нагоду заходзіць у палату там ляжыць у забыцьці паралізаваны ён ставіць кветкі ў вазу сядае і колькі хвіляў сядзіць потым ідзе на вакзал

момант мусіў быць напоўнены дзеяньнем рухаюцца машыны моцны вецер чутныя гукі цягнікоў людзі сьпяшаюцца штурханіна гвалт нечакана праясьняецца што месца дзеяньня менск і што рудыя валасы гэтага некага асабліва моцна рудзеюць менавіта ў гэты дзень але ўсё сканчваецца квіток набыты і ён роспачна апошні раз паглядае на Вежы Гораду з прыступак сіняга вагону

а ў ягоных мысьлях: “меў рацыю гэты ірляндзец: вот бы все мы вдруг стали кем-то еще”.

**эпілёг**

*Я люблю тебя, жизнь.*
*RockerJocker*

сэнс аповесьці (а па шчырасьці хацелася б каб аповед незаўважна зрабіўся па-быкаўску вялікай дыхтоўнай аповесьцю з мноствам станоўчых і адмоўных герояў зь нечаканымі паваротамі сюжэту etc.) палягае ня ў здрадзе собскім перакананьням якую зьдзяйсьняе адзін з закаханых герояў а ў лёсе таго вар’яту бо ён сапраўды вар’ят

у эпілёгу мусіла казацца вось што

расплюшчыўшы вочы, хворы бачыць мэдсястру, кветкі ў вазе (тут – наколькі дазваляе інтэлект творцы – мэтафара: зморшчаныя, сьсівелыя нарцысы), і стол, і крэсла, – а за вакном шчабечуць вераб’і і лётаюць бязмэтна шызыя галубы, у пакоі праз адчыненую фортку пануе водар восеньскай лістоты і сьвежага дыму, і хворы думае, што нейк неўпрыкмет надышла восень, што нарцысы даўно зьвялі, і што ён, хворы, саўсім нічога ня помніць: ня помніць свайго імя, што зь ім здарылася, і чаму ў куце сядзіць вялізны жывы капялюш. ён дзіка рагоча, і ад дрымоты абуджаецца мэдсястра: яна робіць яму ўкол морфію. ён пакутуе на страшныя болі ў нагах.

ён памірае. гэта агонія і катарсыс, ведама ж. як вышэйшая самахвярнасьць, хай сабе і не ўсьвядомленая.



## КУСТ

Я – куст. Не настоящий, конечно, не подумайте обо мне ничего такого… Ладно, расскажу обо всем по порядку.

Я был обычным ребенком: в школе учился неплохо, периодически был даже отличником. Летом, после выпускных экзаменов, все мои одноклассники поступили в университеты (я учился в престижной школе, мне всегда говорили об этом), а я отправился в путешествие, которое продолжается и по сей день. Просто поехал, куда глаза глядят. Деньги, разумеется, закончились очень быстро и неожиданно – пришлось работать. Ни о какой карьере я и не думал – для карьеры нужно всю жизнь сидеть в одном городе, завести жену, детей и собаку, я же этого не хотел – меня ждали новые открытия – страны, города, люди, океаны. За семь лет я объехал уже полмира.

В Португалии по утрам собирал мидии на берегу и продавал их на рыбном рынке, в Штатах ремонтировал крыши, в Аргентине мыл посуду в индийском ресторане. После этого, кстати, поехал в Индию на полгода. Там можно было не работать – сэкономленных 500 баксов хватило, чтобы объехать всю страну. Уезжать, правда, пришлось автостопом и не попрощавшись – последний месяц я жил на окраине Мумбаи в палатке, которую поставил на участке одного довольно богатого индуса. С его разрешения, конечно. Так вот, однажды вечером этот придурок нажрался и принялся избивать свою жену за то, что она, якобы, спит со мной, когда он уезжает в Дели на какие-то переговоры. Взбесился он не на шутку – я даже из своей палат-

ки слышал, как жена умоляла его успокоиться, не бить ее больше и подумать о детях. Потом я услышал, что он намерен убить меня. Ревнивый самец! Короче говоря, я собрал свои негустые пожитки и сделал ноги. Может я и трус, но мне в тот момент не хотелось умирать молодым, особенно из-за какой-то страшной усатой бабы и ее мужа-отморозка.

Так вот, скитался я по миру, пока не оказался здесь, в Мюнхене. Самый гнилой город из всех, где я бывал, – кругом одни миллионеры, сосиски и пиво, которое пьют ведрами. Непьющему вегетарианцу здесь делать нечего. Была бы моя воля – свалил бы немедленно.

Но все началось в прекрасном Берлине, там я провел прошлое лето – сначала мыл окна бизнес-центров на Потсдамской площади, а потом влюбился в фокусницу из цирка-шапито. Это была любовь с первого взгляда – трюки ее были по-детски просты, но перед магией движений и взгляда устоять я не смог. Через неделю переехал к ней – теперь я жил в автоприцепе в центре города.

Ингрид, так ее звали, удалось внушить мне, что я творческая личность и что мыть окна, хоть и на высоте сотни метров, – низко. На следующий день я уже стоял не двигаясь у Бранденбургских ворот в образе скульптуры – с ног до головы выкрашенный в бронзу (моя фокусница помогла с костюмом и гримом), с каменным лицом. Туристы во мне души не чаяли – японцы не могли оторвать своих камер, а русские предлагали выпить на брудершафт. Зарабатывал я меньше, чем мойкой окон, но вера в искусство компенсировала финансовые потери.

Закончилось лето, а вместе с ним и гастроли цирка в Берлине – артисты ехали в родной город Ингрид, Мюнхен. Здесь мы стали жить с ее родителями в трехкомнатной квартире недалеко от центрального вокзала. Мать ее меня сразу полюбила – пекла по воскресеньям пироги и помогала первое время деньгами. А вот папаша больше любил баварские народные праздники и пивнуху через дорогу – пил он обильно и часто, поэтому и умер в начале октября, буквально через месяц после нашего приезда. Ингрид в депрессии и трауре вступила в секту и уехала в Сибирь, сказала, что навсегда. А я остался с ее убитой горем матушкой в трехкомнатной квартире возле вокзала. Мне хотелось как можно скорей уехать из города, но оставить ее одну в таком состоянии я не мог – все-таки она была добра ко мне.

Пироги по воскресеньям она больше не пекла, вместо этого я водил ее в Английский сад на прогулки и пытался найти ей ухажера – одинокого пенсионера, можно даже инвалида.

Чтобы заработать денег, я продолжал заниматься уличным искусством – костюм у меня остался, краску купил в строительном магазине. Но в один холодный осенний день меня избил мой коллега и конкурент в одном лице за то, что я стою в таком же образе, что и он, на якобы его территории, так он мне объяснил. Я попытался вести дискуссию, но в итоге просидел две недели дома с переломом челюсти.

Нужно было придумать что-то новое. Проанализировав СМИ и настроения в обществе, я решил изображать зеленый куст как символ защиты окружающей среды. Купил кислотно-салатовую ткань, краску, солнечные очки в зеленой пластмассовой оправе и искусственные цветы.

И вот теперь я сидел целыми днями, не двигаясь, недалеко от Мариенплатц, облаченный в костюм куста с выкрашенным в зеленый цвет лицом. Договорился с хозяином ближайшей кнайпы, что буду использовать служебный туалет в качестве гримерки и, собственно, туалета. Часто видел парня, который меня избил – он привлекал намного больше японцев, чем я. Вообще, честно говоря, дела мои шли плохо – меня почти никто не замечал, все проходили мимо. Но я не отчаивался и надеялся на зиму, когда все кругом будет серое, а я буду выделяться на фоне унылого пейзажа.

Зимой дела действительно пошли в гору – вокруг меня вечно толпились дети и их родители, озабоченные предстоящим Рождеством. Теперь я мог откладывать деньги на продолжение моего путешествия. К началу весны я мог позволить себе следующие три-четыре месяца спокойно разъезжать по миру, не задумываясь о новом источнике доходов. Я готов был в любую минуту свалить отсюда, но мать Ингрид чувствовала себя все хуже и хуже – ее мучила бессонница и мигрень. Она часто плакала, по вечерам просила сидеть в ее комнате, пока не заснет. Иногда это продолжалось до рассвета, и потом я не мог работать днем, потому что мне самому нужно было отдохнуть. Ей было страшно оставаться одной. Когда я уходил работать,

она часто устраивала истерики – боялась, что я уйду и не вернусь, брошу ее. Тогда она сидела целыми днями у окна и наблюдала за детьми на игровой площадке, наверное, вспоминала свое послевоенное детство.

С приходом весны люди снова перестали меня замечать. А однажды поздно вечером произошел отвратительный инцидент: сидя на своем ящике в костюме куста, я задремал – следствие очередной бессонной ночи с матушкой Ингрид, а проснулся оттого, что какой-то конченый подросток мочился на меня! Пока я сообразил, что происходит, этого кретина и след простыл. Догнать его шансов у меня не было, так что я в бешенстве сбросил с себя обосцанный костюм и со слезами на глазах в последний раз побежал в свою «гримерку». Кое-как отмылся в маленькой раковине, вытерся бумажными салфетками и пошел в аптеку.

Я твердо решил немедленно покинуть этот город. План созрел в моей голове в момент. Я купил две упаковки снотворного и поспешил домой. Мамаша Ингрид уже ждала меня у двери. Она приготовила мне ужин – разогрела спагетти, которые я вчера сварил для нее, и уселась со мной за стол. Я молча поел и предложил ей чаю перед сном. На кухне я высыпал обе упаковки снотворного в ее чашку с чаем. Через десять минут она отключилась. Я собрал свои вещи, ее деньги, приложил палец к ее дряхлой шее – пульса не было, и пошел на вокзал.

Сейчас сижу на перроне, пью кофе с ванильным сиропом и курю. Через 14 минут мой поезд отправляется во Франкфурт. Оттуда полечу в Стамбул – я еще никогда не был в Турции.




## ПЕКИНСКАЯ КАПУСТА

– И не забудь о пекинской капусте!

– Не забуду!

Свет в коридоре гаснет, дверь захлопывается, Анфиса остается одна. Она танцует над салатницей, бежит к раковине, моет помидоры, напевает себе что-то под нос. Красный перец нарезан, крабовые палочки разморожены. Осталось нашинковать капусту. Анфисе приятно, что мама доверила ей сделать салат. Этим летом Анфисе стукнуло девять, и девочка стала чувствовать себя старой.

– Я старая, – говорила Анфиса, вертясь у зеркала. – Я очень старая, как баба Кира.

Баба Кира жила с Анфисой в одной квартире и слышала все причуды внучки. Обычно баба Кира подходила к Анфисе сзади и трепала ее кудряшки:

– Ну, какая же ты старая! Ты еще ма-а-а-аленькая!

– Нет, – топала ножкой Анфиса. – Я не маленькая! Это ты маленькая, а я старая. Ма-лень-кая! Ма-лень-кая! – прыгала вокруг бабушки Анфиса и по-ребячьи кривлялась.

Впервые родители забеспокоились, когда Анфиса стала разговаривать во сне. Сквозь тишину ночи из детской доносился монотонный речитатив:

– Я старая, старая, старая, старая, старая, старая, старая, старая, старая…

Голос не выражал эмоций. Он был абсолютно сухим, отрешенным и безразличным, словно в девочке работала голосовая компьютерная программа.

А тут еще подкачал дедушка Артем. Взял и подарил внучке на День милиции карманное зеркальце. Отныне фразу «я старая» могли слышать не только домочадцы, но и незнакомые прохожие.

Когда Анфиса гуляла с родителями по городу, она останавливалась у витрин. Безликие манекены смотрели в неопределенность, как тени теней. Анфиса застывала на месте и жмякала козявку.

– Папа, а у этой тети, – показывала пальцем на манекен Анфиса, – нет души.

И сколько не пытался Михаил Донатович отвлечь вниманье дочери, Анфиса оставалась непреклонной. И лишь когда сумерки проглатывали город, девочка оживила, подбегала к папе, теребила его пиджак и просилась в зоопарк – посмотреть на обезьянок.

Конечно, ни о каком зоопарке уже не могло идти и речи. Тогда Михаил Донатович, дабы обезопасить себя от вида детских слёз, приседал и со звуками «Уууу! У-у-у-у! Ухy-хy!» начинал прыгать на кулаках по тротуару. Глаза Анфисы искрились. Она показывала на папу-обезьяну пальцем и называла его «бубукой», а сама смеялась, пока животу не становилось больно, а ногам – тяжело. Заметив усталость дочери, папа подхватывал Анфису на руки и нес домой. По дороге девочка засыпала и сквозь сон бормотала одну и ту же фразу – «я старая».

На разделочной дощечке блестит влажный дирижабль пекинской капусты. Анфиса накидывает передник, берет нож и проводит пальцем по лезвию. На коже остается алая полоска – острый. Из раскрытой форточки веет осенью. Яблоневый сад под окном потускнел. Стая жирных голубей разрезает воздух, устремляясь вниз, куда соседка тетя Женя выкинула хлебные горбушки.

Руки трясутся. Анфиса старается сконцентрироваться, но руки безумно трясутся. Она заносит нож над капустой – лезвие играет в воздухе. Еще один взмах и нож опускается на дощечку. Мизинец отскакивает в сторону, как кузнечик. Еще какое-то время Анфиса наблюдает, как палец извивается на столе дождевым червяком.

Болевой шок держит девочку в упряжке. Она смотрит на свои морщинистые, исписанные набухшими венами руки. Достает из нагрудного кармашка розового комбинезона зеркальце, которое ей подарил дедушка Артем. В зеркальце отражается тощая седая старуха с крючковатым носом.

– А тебе идет, – слышит Анфиса голос откуда-то слева.

На стуле сидит рыжий кот Вадим и лижет лапу.

– Ты находишь?

– Да, нахожу.

Трясущейся рукой старуха чешет кота за ухом. Открывает холодильник, достает банку молока и наливает Вадиму в блюдце.

– За Вас, мадам, – ехидно улыбается усатый кот.

Анфиса берет посиневший мизинец, заворачивает его в носовой платок и кладет в нагрудный карман комбинезона.

Решено. Сегодня вечером она обязательно пойдет в Дом ветеранов на «Вечер танго и ламбады».

## ПОЛЕЗНАЯ ЗАМЕТКА ДЛЯ ЖИТЕЛЕЙ ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ О РОБЕРТЕ МУГАБЕ

С утра не работал мобильник. На дисплее высвечивался незнакомый значок в форме наушников. Что бы это могло значить? Звонка совсем не слышно. Равно как и голоса звонящего.

Мобильник не работал дома, в маршрутке, на улице. После того, как я пришел на работу, со всех компов куда-то исчез интернет. Словно, испугавшись моего немолодого лица, сыбался в прекрасное далёко. Ага. Но, впрочем, ничего необычного. Так начинается каждое моё утро – обыкновенное утро президента Зимбабве Роберта Мугабе.

В 12 часов утра служанка Фёдор приносит в мои покои стакан тёплого молока. Мне нравится, как контрастирует белый цвет с шоколадной кожей Фёдора. Я улыбаюсь, прошу

служанку отпереть ставни и протягиваю ладонь к железной тумбочке, на которой вечером оставил свой мобильник. Мобильника на тумбочке нет. Удивительно, но каждый раз я нахожу его в абсолютно непредсказуемых местах: под подушкой, на веранде, в холодильнике. Однажды я даже извлёк мобильник из собственной гортани.

Это заговор!

Я живу в постоянном трепете, потому что знаю: против меня готовится заговор. Такая участь испокон веков была уготована всем правителям Зимбабве. Моего отца нашли мёртвым на мельнице крестьянина Муну в мешке с мукой. Когда отца доставали, я запомнил этот контраст – белая пыльца на чёрном. Может быть, именно поэтому мне так важно видеть по утрам стакан тёплого молока в шоколадной ладони Фёдора.

Заговор был раскрыт.

Мой двоюродный дядя Шита Мунгу сказал, что следующим президентом Зимбабве суждено быть мне. Но для этого я должен съесть сердце убийцы моего отца.

Это был 12-летний сын кузнеца Риспу – Хай. Мы были ровесниками. Поэтому, когда слуга моего дяди вонзил в шею мальчика мундштук и артерия откликнулась фонтаном бурой крови, мне захотелось на время просто исчезнуть с лица земли. Но таков был обряд, и я не имел права отступить. Сердце Хая билось в моей ладони. Несколькими минутами позже я узнал, какова жизнь на вкус...

Позавтракав и умывшись, я отправляюсь на работу. Я – Роберт Мугабе. Второй Президент Зимбабве. Моя работа заключается в том, чтобы национализировать заводы и предприятия Зимбабве и не дать возможности частному капиталу подорвать благосостояние Второго Президента Зимбабве – Роберта Мугабе.

На работу меня везёт маршрутка. Я не брезгую ездить вместе с моими людьми. Наоборот, езда в маршрутке – это своеобразный ритуал общения правителя с народом. Каждый день я высматриваю самого полного здорового пассажира и приказываю охране доставить вечером во дворец его горячее сердце. Вспоминаю ли я тебя, малыш Хай? Или просто жизнь пришлась мне по вкусу?

Мобильник вновь не работает. Я пропускаю важные государственные звонки, игнорирую послов Франции, Чехии, Китая. Да и пропади оно пропадом! Сегодня на работе нет интернета. А значит, я не разложу пасьянс и не побью собственный рекорд в «линиях».

Вечером сердце будет вновь биться в моей ладони. Я – президент Роберт Мугабе, сын убиенного Дайру Мугабе, повелитель земли черного солнца – Зимбабве.




## ГЕНЕТЫКА

Студэнт Пятроў гэтым зімовым вечарам быў у трывожным настроі. Бо хутка яму трэба будзе здаваць сесійныя іспыты, а ў бяздольнай змятай залікоўцы бракуе заліку па адным прадмеце. Вядома ж, як і ўсе прыстойныя студэнты, ён прапускаў частку заняткаў, ужываў алкаголь і часцяком блудадзеіў з дзяўчынамі. Балазе, процілеглага полу ў яго лінгвістычным універсітэце было звышдастаткова. Прычым не толькі сярод навучэнцаў, але і сярод паважанага выкладчыцкага складу. З адным з яго прадстаўнікоў студэнту Пятрову трэба было ўбачыцца акурат гэтым марозным вечарам, што завеяй, якая раптам пачалася, прадракаў Новы Год.

Пятроў сядзеў на задняй сядушцы раздзяўбанага тралейбуса, які курсаваў у адзін са спальных раёнаў Мінска – Серабранку. Там, у глыбіні шматпавярховых дамоў, яму трэба было знайсці трынаццаты дом па вуліцы Якубава і быць госцем выкладчыцы, якая з нейкіх прычынаў вырашыла перанесці здачу заліка з корпуса ўніверсітэта да сябе дамоў. Прозвішча гэтай загадкавай жанчыны было таксама Якубава, і студэнт Пятроў, спрабуючы хоць неяк адцягнуцца ад страху перад візітам, разважаў пра тое, ці не з'яўляюцца сваякамі выкладчык Якубава і той невядомы яму Якубаў, у гонар якога назвалі вуліцу.

Хаду яго няхітрых думак перапыніў голас з дынамікаў тралейбуса, які бадзёра апавясціў пра тое, што патрэбны прыпынак у прасторы дасягнуты.

Студэнт Пятроў няхочучы выбраўся з тралейбуса і перш за ўсё падышоў да захутанай у чорную хустку бабулі.

– Выбачайце, бабуля! – галантна звярнуўся да пажылой жанчыны студэнт Пятроў. – Ці не зробіце ласку падказаць, дзе тут Якубава, 13? – скончыўшы фразу, студэнт Пятроў выціснуў з сябе ўсмешку.

– Ідзі да д'ябла, вырадак чартоўскі! – нібы гадзюка, прашыпела бабка і, схапіўшы торбу, пабегла праз дарогу на чырвоны колер. На шчасце, у гэтыя секунды на фатальнай для чалавека адлегласці аўтамабіляў не апынулася.

Студэнт Пятроў, вядома ж, быў ашаломлены такім адказам на ягоны ветлівы зварот, але вырашыў не спыняцца на шляху да дасягнення мэты. Залік яму быў проста неабходны, інакш яму на паўтара года пагражала небяспека, што падкралася блізка як ніколі. Адразу пасля навагодніх святаў ягонай прафесіяй магла стаць абарона радзімы.

Паблукаўшы трохі каля дамоў, на якіх, як на злосць, не было шыльдачак, студэнт Пятроў ужо страціў надзею, але ў гэтае самае імгненне да яго прыйшло выратаванне.

– Вы нешта шукаеце, малады чалавек? – пачуў ён прыемны дзявочы голас за сваёй спінай. Замест таго, каб абярнуцца, Пятроў гучна прамовіў: "Шукаю!", а ўжо потым абярнуўся і ўбачыў на адлегласці некалькіх метраў цудоўную чалавечую істоту жаночага полу. Нават у цемры, гледзячы на аблічча гэтай панны, якая з'явілася наконадні каталіцкага раства, ён мог з поўнай упэўненасцю заявіць пра тое, што такіх прыгожых блакітных вачэй ён не бачыў ніколі. Замест таго, каб запытаць адрас патрэбнага дома, забіты натуральнай прыгажосцю, Пятроў прамовіў:

– Я пакораны вашым позіркам, юная ледзі. Дазвольце даведацца вашае імя? – Пятроў зняў шапку, каб выканаць перад дзяўчынай мініяцюрны паклон.

– Мяне назвалі Каталінай, – усміхнуўшыся, прамовіла дзяўчына. – А вы, такім чынам, вандроўнік?

– Так, мілая Каталіна. Скажыце мне, калі ласка, як знайсці дом трынаццаць па вуліцы, названай у гонар невядомага мне чалавека Якубава? – апрануўшы шапку, студэнт змоўк у чаканні адказу.

Дзяўчына паказала правай рукой на пяціпавярховы будынак з чырвонай цэглы. Угледзеўшы патрэбны дом, Пятроў ізноў звярнуўся да Каталіны:

– Дзякуй вам вялікі, Каталіна, вы апынуліся тут вельмі ў час! – вымавіў падзячную прамову студэнт Пятроў і дадаў: – Але як мне можна будзе знайсці вас у гэтым дзіўным горадзе, на фоне шэрасці якога вы падобныя да сонца?

Каталіна ў адказ толькі ўсміхнулася і, нічога не адказаўшы, пайшла прэч.

Чарговы нечаканы ўчынак сустрэчнага чалавека змяніў адчуванне незвычайнага ўзвышша на беспадстаўнае хваляванне. Змірыўшыся са сваёй адноснай няўдачай, малады чалавек паплёўся да чырвонага дома. Па дарозе ён:

А) Абыйшоў чатыры машыны з розных бакоў.

Б) Сустрэў дваровага сабаку невядомай пароды.

В) Звярнуў увагу на адкрытае ў адным з дамоў акно, дзе гарэла святло і адкуль даносілася гучная музыка.

Г) Перад патрэбным пад'ездам паслізнуўся і ледзь не зваліўся.

Нетры пад'езда былі ўтоеныя металічнымі дзвярамі, расчыніць якія можна было або пры дапамозе электроннага ключа, або знутры. Студэнт Пятроў набраў патрэбны нумар кватэры і пачуў характэрны звон, які даносіцца з дынаміка, схаванага ад вандалаў пад металічнымі пласцінамі.

– Я вас слухаю, – голас свайго выкладчыка, Юліі Уладзіслаўны Якубавай, быў распазнавальны нават прапушчаным праз правады і мембраны.

– Гэта студэнт Пятроў, шаноўная Юлія Уладзіслаўна, – у адказ раздаўся піск і дзверы пад'езда адчыніліся. На радасць Пятрова, патрэбны яму аб'ект пражываў на першым паверсе. А значыць, не трэба было ўздымацца па прыступках немаведама куды.

Пятроў падышоў да дзвярэй, абабітых карычневым дзерманцінам, і акуратна націснуў на маленькую чырвоную кнопку дзвернага званка. З таго боку пачуўся трэск. Дзверы імгненна адчынілася, і перад студэнтам у нефармальнай абстаноўцы паўстаў яго выкладчык. Юлія Уладзіслаўна была ўжо ва ўзросце, але, тым не менш, вяла лад жыцця, які дазваляў захоўваць

фігуру ў здавальняючым стане. Нецвярозыя мужчыны, абмяркоўваючы такіх жанчын у кампаніі, звычайна казалі: "Шчыльнага целаскладу". Твар яе, як здавалася Пятрову, не змяніўся з юнацтва, калі, вядома ж, не лічыць россып зморшчынак на бледнай скуры.

– Уваходзьце, Пятроў, – фанабэрыста прамовіла Юлія Уладзіславаўна, дазволіўшы студэнту пераступіць парог сваёй кватэры. Выцершы як след ногі аб палавік, Пятроў зрабіў некалькі крокаў наперад. Дзверы за ім зачыніліся.

– Ну што, Пятроў, вы гатовыя здаваць прадмет? – прамовіла Юлія Уладзіславаўна, строга паглядзеўшы ў зялёныя вочы маладога чалавека. На момант пытання Пятроў якраз паспеў зняць куртку і варыянтамі яго адказу былі:

А) Не.

Б) Так.

В) А што мне застаецца рабіць?

Г) Не ведаю.

– Так, – цвёрда адказаў Пятроў і разуўся. Твар яго быў як ніколі сур'ёзны, быццам Пятроў быў зусім не студэнтам, а камандзірам бронецягніка.

– Ну тады праходзьце ў залу, студэнт Пятроў, – ветліва прамовіла Юлія Уладзіславаўна і схавалася, верагодна, у ваннай ці прыбіральні.

Пятроў падышоў да драўляных дзвярэй, на якіх вісела таблічка "Зала". Затым ён узяўся за ручку і адчыніў дзверы. Тое, што выкладчык назвала "залай" мала адпавядала памяшканню для гасцей і іншых наведвальнікаў кватэры. Студэнт апынуўся ў пакоі, дзе па цэнтры стаяла бальнічная койка, справа ад яе знаходзілася прылада, чымсьці падобная да гарызантальнага халадзільніка. Падлога была выкладзена кафляй, якая стварала адчуванне мяккасці. Сцены і столь былі выбеленыя.

Падышоўшы да койкі, студэнт Пятроў звярнуў увагу на зусім не характэрнае для кватэр асвятленне. Яшчэ б: да столі была прыроблена люмінесцэнтная лямпа, якіх было шмат ва ўніверсітэтах, усялякіх офісах і бальніцах. Пятроў на імгненне падумаў пра прыгажосць мігцення падобных лямпаў, калі ртутныя пары ў іх выдыхаюцца.

Неўзабаве паказалася Юлія Уладзіславаўна. На ёй быў чырвоны халат, які выглядаў вельмі кантрастна на фоне ўсяго памяшкання. Пятроў абярнуўся, і яго адразу ж наведала думка пра тое, што халат быў адзінай надзетай на жанчыну рэччу. Прэлюдыяй да ўсяго наступнага з'явіўся дыялог:

– Вы не ставіце мне залік, таму што лічыце мяне самым дрэнным студэнтам?

– Не, Пятроў. Самым лепшым.

– А чаму тады не паставілі мне залік ва ўніверсітэце?

– Таму што мне патрэбна твая ДНК, – цвёрда прамовіла Юлія Уладзіславаўна.

Канчаткова пераканаўшыся ў намерах Юліі Уладзіславаўны, Пятроў распрануўся і лёг на бальнічную койку. Белая столь з самотнай люмінесцэнтнай лямпай у гэты момант здалася яму канцэптуальнай мастацкай задумкай. Гледзячы на яе, студэнт Пятроў нават не заўважыў лёгкага падзення халата дацэнта Якубавай на падлогу. Ён звярнуў увагу на жанчыну толькі пасля таго, як яна рукой прынялася масажаваць ягоны чэлес. Апошняму гэтыя дакрананні відавочна ўсмакаваліся, і ён аддзячыў дацэнту моцнай эрэкцыяй. Другая рука Юліі Уладзіславаўны наштосьці палезла пад матрац койкі. Адтуль яна выняла прэзерватыў у дзіўнай упакоўцы. Ненатуральнасць упакоўкі выяўлялася ў падазроным серабрыстым колеры і адсутнасці фірмовых найменняў. І таму толькі па абрысах можна было здагадацца пра тое, што менавіта закансервавана ў гэтай спецыфічнай абалонцы.

Насунуўшы прэзерватыў на дзетародны орган Пятрова, дацэнт Якубава забралася на яго зверху і прынялася рытмічна скакаць. Пятроў жа тым часам заплюшчыў вочы і спрабаваў скласці хаатычнае рыпанне бальнічнай койкі ў мелодыю. У яго гэта амаль атрымалася, але раптам выкладчык пачала выдаваць розныя выклічнікі і тым самым пахавала ў нетрах галаўнога мозгу будучы музычны шэдэўр. Пятроў скончыў даволі хутка. Ляжаўшы дагэтуль моўчкі, ён адмыслова злёгку "вухнуў", каб дацэнт Якубава спыніла вэрхал. Юлія Уладзіславаўна нібы па камандзе злезла са студэнта і акуратна зняла прэзерватыў. Затым яна ўважліва паглядзела на сабраны генетычны матэрыял і ўсміхнулася.

– Вам залік, студэнт Пятроў! – задаволеная прамовіла яна і адчыніла дзверы гарызантальнага халадзільніка. Цікаўны Пятроў паглядзеў у адчыненую схованку і ўбачыў у ёй мноства слоікаў. У кожнай з іх захоўваліся прэзервативы са спермай. Дацэнт Якубава ўзяла адмыслова падрыхтаваны пусты слоік і акуратна апусціла ў яго скарыстаны выраб. Затым, зачыніўшы дзверы халадзільніка, яна падняла з падлогі халат і, перад тым як схавацца за дзвярамі залы, прамовіла:

– Вы можаце сыходзіць, Пятроў. Залік заўтра будзе ў ведамасці, – пасля сказанага яна зачыніла за сабой дзверы. Пятроў устаў з койкі, прасцінай выцер пот з ілба і жывата, а затым у тэмпе прыняўся апранацца.

Шэраг трывожных думак аб адступленні з кватэры патрабавальнага выкладчыка раптам перапынілі дзіўныя галасы, якія даносіліся аднекуль з-пад зямлі. Быццам пад дыванам, які высцілалі прасторны калідор, знаходзіўся напоўнены заплаканымі целамі тунэль у іншы свет. Зашпіліўшы апошні гузік на кашулі, студэнт Пятроў лёг на падлогу і прыклаў вуха да дывана, прасякнутага пылам.

«Яна не выпусціць нас...», «нараджаць праз 3 месяцы», «што з намі будзе», «нічога, ёсць і іншыя светы», «прабач мне, божа», – даносіліся абрыўкі дыялогаў. Там, пад дыванам, напэўна быў люк, за якім Юлія Уладзіславаўна хавала таямнічыя стварэнні жаночага полу. Студэнт Пятроў ужо было хацеў прыбраць дыван і выпусціць гэтых падвальных фей у свет вялікага горада, але з пакоя пачуўся голас выкладчыка:

– Студэнт Пятроў, не шалите! – тут жа студэнт Пятроў падумаў, што цяпер прыйдзе яна і таксама ўпячэ яго ў якое-небудзь падзямелле без вады і святла.

Юлія Уладзіславаўна не выйшла праводзіць дарагога госця. Пятроў, не чакаючы праводзінаў з боку гаспадыні, моўчкі абуў чаравікі, надзеў куртку і пакінуў кватэру, паспрабаваўшы як мага цішэй зачыніць уваходныя дзверы.

На прыступках спінай да яго сядзела дзяўчына. Здзіўлены Пятроў жадаў спытаць, што робіць гэтае мілае стварэнне ў гэтым пад’ездзе, але дзяўчына апярэдзіла яго.

– Быць можа, мне прыйдзецца кахаць вас, Пятроў, сказала яна, павярнуўшыся ў профіль да збянтэжанага суразмоўцы. Разгублены студэнт пазнаў у ёй выпадковую сустрэчную, што паказала яму дом.

– Чаму вы гэта сказалі, Каталіна? – здзіўлена прамовіў малады чалавек.

– Ну, можа, яна захоча ад вас маё дзіця. Вашая ДНК цяпер ёсць у інкубатары? – неяк сумна задала рытарычнае пытанне Каталіна і апусціла галаву.

Пятроў тут жа падбег да дзяўчыны і, нахіліўшыся, паклаў сваю руку ёй на галаву. У наступную секунду ён пацалаваў сумную сурагатную маці ў вусны.

На момант пацалунку дзяўчына заплюшчыла вочы. А калі адкрыла, то з надзеяй глядзела на маладога чалавека, які адважыўся яе пацалаваць.

– Я буду сумаваць па табе! – шчыра сказала дзяўчына і паднялася на ногі. Прайшоўшы па лесвіцы на першы паверх, яна схавалася ў кватэры дацэнта Якубавай.

А Пятроў у гэтае імгненне падумаў пра тое, што таксама будзе сумаваць па Каталіне і калі-небудзь вернецца за ёй у гэты дзіўны дом.




## НЯБАЧНАЕ І ЯВА

*(фрагмэнты інтымнай аўтабіяграфіі )*

Вы зноў са мною, дарагія здані,
Зноў вабіце ў мінулае мой зрок,
Яно мне мроіцца, нібы ў тумане,-
Але ці здольны я на дзёрзкі крок?
*"Фаўст", Ё.В.Гётэ*

**Дзіцячая мазаіка: ад першага аргазму да "сусьветнага ананізму"**

Памяць у мяне даволі пасрэдная, а калі згадваць дзяцінства, то, можна сказаць, проста мазаічная. Вось, напрыклад, што я помню добра: *"Ich bin pionier. Ich bin zwëlf Jahre alt.... Взвей-цесь кастрамі сініе ночі, мы піонэры – дзеці рабочіх! Блізітся эра сьветлых гадоў, кліч піонэра... Заўжды ... Будзь здароў!?"* Напэўна, усё ж не зусім дакладна. Калісьці было ня так...

Часам дзяцінства называюць самай шчасьлівай парой. Думаю, гэта ідэалягічны штамп ці ненаўмыснае перабольшаньне. Праз фільтры нашай памяці адсейваюцца дзіцячыя страхі, сьлёзы, крыўды, хваробы, бясконцыя школьныя будні і іншыя непрыемнасьці. О, як цягнуліся тады гадзіны! Якім бязьмежным мог быць адзін толькі дзень хваробы ці канікулярнага марнаваньня часу. Канечне, зь дзяцінства, асабліва раньняга, забылася амаль усё. Напрыклад, ведаю толькі з

аповедаў маці, як бацька згубіў мяне зімой, калі вёз на санках зь дзіцячага садку. Або як я нацурболіў у кішэню пінжака дзядзьку-суседу ў пасажырскім цягніку. Затое добра помню іншы эксцэс, які здарыўся, праўда, гадоў у 9-10. Падчас нейкай хатняй гульні я штурхануў сваю сяброўку-суседку, і яна паваліліся на ложак. Я ж, нечакана нават для сябе, накінуўся на яе і, схапіўшы за плечы, стаў трэсьці-шкуматаць. Ня ведаю, што я імітаваў, але пры гэтым адчуў нейкае бурлівае, некантраляванае ўзрушэньне, а за ім раптоўны прыліў асалоды, якая хутка скончылася абыякавасьцю і супакаеньнем. Толькі праз колькі год я зразумеў, што гэта было перажываньне нявіннага дзіцячага аргазму. За ім прыйшло падазрэньне, што паміж мужчынамі і жанчынамі ня ўсё так “чыста”, што ёсьць нейкая тайна, пра якую дарослыя нам ня кажуць. І сапраўды, старэйшыя сябры-пяціклясьнікі расказвалі, што настаўніца фізкультуры часта зачыняецца з фізруком у габінэце, дзе яны быццам бы “ібутся”. Сэнс патаемнага слоўца толкам ніхто патлумачыць ня мог, і я доўга не даваў веры хлопцавым прыдумкам. Хіба гэта можа быць праўдай, калі ў нас дома пра такое ніколі не казалі?

Увогуле, для дзіцяці сьвет часта здаецца таямнічым і загадкавым, чым і вабіць наіўную душу ў шэрыя жыцьцёвыя далягляды. Дзіцячая фантазія ідзе далей за рэчаіснасьць і можа быць куды больш жорсткай за ўяўленьні дарослых. У мяне, напрыклад, быў пэўны перыяд, калі, наглядзеўшыся савецкіх фільмаў і наслухаўшыся прапаганды, я ўсур’ёз стаў падазраваць, што мае бацькі... амэрыканскія шпіёны. Відаць, гэта быў канец 60-х, разгар “халоднай вайны”, а я быў хлопчыкам уразьлівым, да таго ж цікавіўся “палітыкай”, гэта значыць, чытаў газэту “Известия”, якую бацька выпісваў усё жыцьцё. Я пачаў сачыць за бацькамі ўвечары, а калі-нікалі і ўначы, але, акрамя нядоўгай валтузьні пад коўдрай (што, як я ўжо здагадваўся, да шпіёнскай дзейнасьці дачыненьня ня мела), нічога падазронага не заўважаў. Паступова здаровыя глузды перамаглі “комплекс Паўліка Марозава”, але непрыемны сьлед і пачуцьцё віны ў нетрах душы засталіся надоўга.

Яшчэ адна рэч, якая выклікáла ў дзяцінстве (хутчэй ужо ў падлеткавым узросьце) пачуцьцё віны – гэта грэх Анона. Многія ведаюць показку пра тое, як настаўнік кажа вучням, што ў ананістаў на далонях вырастаюць валасы, і 9 хлапчукоў з 10 тут жа інстынктыўна глядзяць на свае далоні. Я б у падобнай сытуацыі застаўся “беззаганным адзіным”, але не з прычыны, што ўжо ведаў гэты псыхалягічны тэст. Рэч у тым, што я панічна баяўся прызнацца ў сваёй “хваробе”, і ніколі нікому не расказваў аб ёй. Я наіўна думаў, што гэтая напасьць апанавала аднаго мяне, а ў іншых хлопцаў такой заразы няма. І таму насіў сваю “бяду” і пачуцьцё віны глыбока ў душы, нават у страшным сьне не раскрыўшы “жахлівую” тайну. Сёньня гэта здаецца сьмешным, а тады нявінная хлапечая звычка здавалася нейкім праклёнам ці карай невядома за што.

Калі глянуць з вышыні нашага часу (ці з глыбіні сёньняшняга падзеньня?), то ананізм у шырокім сэньсе – нярэдкая зьява і ў дарослым жыцьці. Варта ўзгадаць шырока распаўсюджаны від інтэлектуальнай “мастурбацыі” – разгадваньне красвордаў, палітычны “ананізм” (беларускія выбары апошніх 15 гадоў), ня кажучы ўжо пра сэкс па тэлефоне ці віртуальныя інтэрнэт-любошчы. На маю думку, цывілізацыя зрабіла моцны мастурбацыйны ўхіл, бо віртуальна-кампутарны сьвет у значнай ступені ёсьць спасабам сацыяльнага ананізму, сурагатам натуральнага жыцьця ў ягоным “старым” разуменьні. Ніхто і ня думае змагацца з такім даўно не дзіцячым “грахом Анона”, што набыў маштабы ўсясьветнай пандэміі і нават пагражае выпхнуць “архаічную” натуру з цэнтральнай арэны гісторыі. Ды й сама гісторыя можа калісьці стаць віртуальнай і лёгка зьмясьціцца на экране любога манітора.

**Пра грэх адукацыі і праведную непісьменнасьць**

Калі ж казаць пра звычайныя, альбо “старасьвецкія” грахі, то ў дзяцінстве для мяне, як для сьвядомага піянэра і выдатніка атэістычнай школы, такой праблемы не існавала. Як ні пераконвала мая непісьменная бабуля, што піць ваду з конаўкі над вядром або рваць нясьпелыя даспасаўскія яблыкі – вялікі грэх, я ёй веры не даваў. Больш за тое, часта зацята спрачаўся і, ужываючы ўсе свае школьныя аргумэнты, даводзіў, што ніякага бога няма. Цяпер разумею: адданай верніцы бабе Дуні, для якой нядзельныя выправы ў царкву і “на мястэчка” былі сьвятарным рытуалам (а мо і адзінай радаснай падзеяй у манатонным жыцьці хатняй гаспадыні), мець апанентам-бязбожнікам роднага ўнука было горка і балюча. Але ж дзіцячы розум ня мог гэтага зразумець, а падлеткавы максымалізм не дазваляў саступаць у “тэалягічных” спрэчках непісьменнай бабулі,

што часам даводзіла яе да нэўрозу. Бацькі ж мае тады пазьбягалі падобных тэм. Бацька “выбіўся ў людзі” – быў камуністам і дробным начальнікам, хоць прыватна выказваўся даволі крытычна, амаль па-дысыдэнцку. Спадзяюся, у душы ён спачуваў сваёй “цёмнай” маці і нават быў салідарны зь ёй, бо, напрыклад, супраць майго таемнага хросту (ва ўзросьце 3 гадоў), ініцыяванага бабай Дуняй, ніяк ня выказаўся. Пэўна, беларуска-хрысьціянскія карані ў ягонай душы захоўваліся, хоць “дрэва старой веры” і было высечана ў пень.

**Юнацтва: ратавальнасьць сну і помста “халявы”**

Усё ж дзіцячыя праблемы ў жыцьці не самыя складаныя, бо зазвычай праходзяць самі... разам зь дзяцінствам. Маё дзяцінства скончылася позна, але хутка – з паступленьнем у інстытут. Насамрэч такія радыкальныя жыцьцёвыя павароты нясуць вялікую небясьпеку. З утульнага сямейнага кола ты раптам трапляеш у вэрхал інтэрнату, поўную побытава-фінансавую самастойнасьць і пад цяжар рэпрэсіўна-выкладчыцкай сыстэмы ВНУ. Для тых, хто ніколі ня жыў за межамі ўласнай хаты, гэта вялікае выпрабаваньне псыхікі і здароўя. Асабліва цяжка было перавесьці на новыя рэйкі харчовы рэжым ды навучыцца спаць у любы час сутак і пры любых абставінах – пад час бойкі ў калідоры, пры запаленым сьвятле, навакольным швэнданьні, п’янцы і паленьні ў пакоі. Аднак найгоршыя моманты я перажываў тады... калі выходзіў з кінатэатру. Кіно ў тыя часы было даступнай забаўкай і добрым спосабам рэлаксацыі: заэкранны сьвет даваў магчымасьць забыцца на ўласныя праблемы ды хоць часова пабываць у ролі героя ці шчасьлівага чалавека. Але калі на выхадзе з кіназалі раптам узгадваў, што мяне зноў чакаюць сьмярдзючая “абшчага”, нямыты посуд, нячытаныя ўрокі і беспрасьветнасьць наступнага дня, кантраст паміж “шчасьлівым” кінажыцьцём і ўласным існаваньнем узбуджаў жах і жаданьне схавацца куды-небудзь ад халоднага бязьлітаснага рэалізму. Выратоўвала, бадай, тое, што адносна лёгка давалася вучоба, быў нейкі прыродны (ці не гэнэтычны?) запас аптымізму і парадаксальная вера ў “сваю халяву”. Як ні дзіўна, “халява” амаль заўсёды спрацоўвала. Найбольш відавочна гэта было на экзаменах. Практычна на кожнае выпрабаваньне я ішоў, не пасьпеўшы прачытаць увесь матэрыял; часта гэта была ледзь не палова курса. Традыцыйна – не хапала аднога дня і ночы. Трэба заўважыць, што на лекцыі я хадзіў спраўна (быў старастам групы), толькі пісаў іх рэдка, часьцей слухаў, калі яны былі цікавымі. А вось да практычных заняткаў рыхтаваўся рэгулярна і ўдзельнічаў у іх актыўна. Таму абсалютна “стэрыльным” ніколі ня быў, на іспытах трымаўся спакойна і амаль па кожнай тэме мог нешта згадаць альбо з’імправізаваць. Толькі аднойчы сыстэма дала збой, і, атрымаўшы тройку, я цэлы семестр сядзеў без стыпендыі. Адваротны бок такой авантурнай здачы экзаменаў аказаўся нечаканым. Больш за дзесяць гадоў пасьля сканчэньня інстытута мяне часта наведваў адзін і той жа сон: іду на іспыт, зноў не пасьпеў усё прачытаць і (о жах!) перад дзьвярыма высьвятляю, што гэта нават не той экзамен, які павінен я быў здаваць. Так мінулае помсьціла за маю студэнцкую “халяву”.

Дарэчы, сон у маім жыцьці грае вялікую ролю. Што там утойваць, я заўсёды любіў добра паспаць. У сьне часта прыходзяць рашэньні задач, цікавыя ідэі, назвы артыкулаў. Здараюцца сны шматсэрыйныя, каляровыя, фантастычныя, эратычныя, загадкавыя. Увогуле, для мяне сон – натуральны псыхалягічны схоў, “начная ракаўка” для зацюканага днём чалавека. З галавой накрыўшыся коўдрай, сапраўды маеш адчуваньне ізаляванасьці ад сьвету і ягоных злыбедаў. Гэты пераход у “іншасферы” ёсьць някепскім спосабам для зьнясіленай душы хоць на некалькі гадзін забыцца і адпачыць ад будзёнай безвыходнасьці. Дарэчы, не ў апошнюю чаргу дзякуючы моцнаму сну я і перажыў той цяжкі першы год свайго юнацтва. Калі ж чалавека пазбавіць і гэтага апошняга псыхалягічнага прытулку, то можа здарыцца непапраўнае. Разумею тых хворых ці старых, хто пазбаўлены сну і начнога адхланьня. Спадзяюся, што мяне падобная злыбяда ўсё ж абыдзе.

**Эўтаназія – выбар ці безвыходнасьць?**

Аднак не ўсім на гэтым сьвеце шанцуе, не ўсіх абмінае лёс пакутніцтва і невядомага для іншых болю. Ма́ю перад вачыма прыклад свайго бацькі, які паміраў 15 месяцаў і ледзь не захапіў з сабой маю маці, маладзейшую ад яго на 10 гадоў. З пункту гледжаньня жыцьцё-

вага прагматызму і акадэмічнай навукі, ён памёр раней, яшчэ пад час інсульту, калі перастаў размаўляць, разумець мову і варушыць правымі рукой ды нагой. Фактычна ўжо тады не стала асобы і чалавека, якога мы ведалі ўсё жыцьцё. Засталася абалонка ў выглядзе доўгага жывога шкілета, абцягнутага смуглявай скурай. Адзінае, што ён мог рабіць – дыхаць, каўтаць ежу, рухаць галавой і левай паловай цела. Але ня гэтае расьліннае існаваньне было галоўнай праблемай, бядой стала тое, што цела мела голас. Крык, які вырываўся са, здавалася б, нямоглых грудзей, быў зьявай фэнамэнальнай. Напэўна, ён варты (і гэта не блюзьнерства) кнігі рэкордаў Гінэса. Бо крык не сьціхаў амаль напрацягу года. Гэта быў манатонны працяжны енк, бясконцы плач, вельмі падобны на гук маяка. Тым больш, што, як і маяк, ён не "выключаўся" ні ўдзень, ні ўначы. Гэты крык ня толькі зьнясільваў нас, сваякоў, але не даваў спакою і суседзям, а летам, пры адчыненых вокнах, і выпадковым мінакам. Самыя моцныя нэйралептыкі маглі яго прыглушыць, але не спыніць. І так напрацягу доўгіх месяцаў. Малазнаёмыя людзі, праходзячы пад вокнамі, пачыналі казаць: і калі ўжо Бог прыбярэ Аўраменку? А ён усё не здаваўся – енчыў, крычаў, скавытаў. І што азначаў той крык, было невядома: ці то боль, ці то страх, ці то злосьць і нянавісьць, ці то скарга і просьба спыніць гэтыя пакуты. Хутчэй за ўсё, там ужо не было і пачуцьцяў у звычайным разуменьні, то быў "гук дынаміка, у якога зламаўся выключальнік". Але пачуцьці заставаліся ў нас. Ад уласнага бясьсільля і немагчымасьці даць рады апускаліся рукі, а ў гадзіны начнога бяссоньня думкі пра эўтаназію ўжо не здаваліся якойсьці крамолай. Асабліва даставалася маці, якая пастаянна была побач і вынесла на сваіх нямоцных плячах гэткі крыж. Думаю, што падобнае "дзяжурства" працягласьцю 450 дзён і начэй пад сілу толькі жанчыне; мужчынская псыхіка такога б ня вытрывала. Праз гады маці прызналася, што ў часы начной самоты і невыноснага адчаю ў яе няраз узьнікалі думкі сысьці з гэтага сьвету, забраўшы з сабою бацьку. Але што ўтрымала яе ад апошняга кроку, ня ведае і сама. Толькі сёньня дзякуе Богу, што гэтага ня здарылася і што выпрабаваньне лёсу ня стала для яе і ейнае душы фатальным.

**Продкі: ці былі яны мацнейшыя за нас?**

Увогуле, думкі, якія наведваюць нашы галовы, бываюць самымі дзіўнымі, а часам настолькі страхалюднымі, што мы ніколі пра іх не наважымся сказаць уголас. Мо яно і правільна. Думка – яшчэ ня дзея. Хай ведаюць нас па нашых учынках, а ўжо як мы прыйшлі да іх, пра тое гісторыя змаўчыць. Хаця людзі – істоты непрадказальныя. Нават самыя цёмныя і неадукаваныя перажываюць пачуцьці гэткія ж супярэчлівыя, што ўласцівыя хіба паэтам ці высакалобым інтэлектуалам. Хіба толькі ім цяжка пра тое выказацца, бо не хапае патрэбных словаў, каб апісаць перажытае. А людзі, якія могуць добра распавесьці пра зазнанае ўласным пачуцьцём і досведам, – зьява рэдкая. Асабліва пры ўмове, што іх аповед мусіць быць усім зразумелым і ня вельмі цынічным. Сядаючы пісаць гэтыя ўспаміны, я адчуў сябе мэдыюмам свайго роду, "галасам" уласных продкаў, якія багата чаго бачылі і перажылі, але затаілі тое ў сабе, не пакінуўшы сьведчаньняў сваіх пошукаў і сумненьняў, страхаў і азарэньняў. Як мой спаралізаваны бацька, яны нема крычаць са свайго часу і ніхто ня ведае, што азначае іхні крык, што зашыфравана ў нячутных гуках іхніх галасоў. Я ж адчуваю, што павінен ператварыць у словы тое, што зьведалі мае дзяды і дзяды маіх дзядоў.

Зь дзяцінства мяне цікавіла: чаму на Беларусі так мала захавалася архітэктурных помнікаў ці проста значных гістарычных артэфактаў? Быццам бы не было тут тысячагадовай гісторыі, а ўсё пачалося з Кастрычніцкай рэвалюцыі ці нават з Другой сусьветнай вайны. Сёньня я ведаю адказ на гэтае пытаньне, але мяне турбуе іншае: чаму не захавалася прыкметаў сямейнай гісторыі, чаму так мала я ведаю пра свой род? Відаць, і тут віна ў нас саміх, бо кожнае пакаленьне беларусаў (у тым ліку і маё) цуралася сваёй спадчыны, адразала сябе ад мінулага, саромеючыся бацькоўскай мовы, дзедаўскай веры, бабуліных прымхаў. Кожны з наступных лічыў сябе лепшым за "цёмных" папярэднікаў, больш разумным, культурным, таленавітым, адукаваным. А ці так яно на самой справе? Мой продак з Чарнігаўшчыны, старшына казацкага войску, быў больш дасьведчаным палітыкам, чым мой бацька-камуніст ці я са сваім сьціплым бэнээфаўскім досьведам, бо пасля паразы "келейшчыны", нягледзячы на выгнаньне з радзімы і эміграцыю ў ВКЛ, выжыў і даў працяг роду Аўраменкаў. Прабабка-сялянка была больш выбітнай вандроўніцай,

бо двойчы была ў Сьвятой зямлі, куды я наўрад ці калі патраплю. Дзед Ліконздзер быў больш прынцыповым і адчайным, таму што, нягледзячы на камбедаўскія "наезды" і разбурэньне хаты напярэдадні зімы, не пайшоў у калгас, а, пакінуўшы зь сям'ёй свой хутар, абжыўся на новым месцы. Бацькаў брат Кірыла – не дурнейшы за мяне, бо пасля выключэння ў 1933 годзе як сына "кулака" з другога курса Кіеўскага ўнівэрсітэта здолеў атрымаць тэхнічную адукацыю ў Менску і яшчэ да вайны стаў галоўным сувязістам у раёне. Усе яны марылі, кахалі, спадзяваліся, верылі, як і мы, сёньняшнія "вумнікі", але ж і зрабілі нямала, прынамсі, для тых жорсткіх абставін, у якіх ім давялося жыць і працаваць. Дык чым я лепшы за іх? А нічым! Хіба толькі вымушаны зьдзейсьніць тое, да чаго маю здольнасьць – занатаваць думы-мары. І ня толькі свае, але, ёсьць надзея, і маіх негаваркіх паўзабытых продкаў.

Мо гэта толькі ілюзія і самаапраўданьне? Мо насамрэч няма ніякай місіі і пакліканьня, а ёсьць толькі пыха, самазванства? Аднак, ведаеце, калі за сьпінаю ёсьць падтрымка, то жыць значна лягчэй. Калі ты ня боўтаесься над прорваю часу адзін, а адчуваеш сябе часткай чагосьці большага, "сьцілом" роду, якім пішацца ягоная споведзь. Пошукі Бога ці вера ў яго маюць тую ж прыроду: чалавеку зручней жыць і тварыць, калі ён абапіраецца на нешта надзейнае, вечнае, калі стаіць на трывалым грунце веры і традыцый. Амаль пра тое казаў яшчэ Архімед: дайце мне кропку апоры, і я... Вось такую кропку мусіць мець кожны, хто зьбіраецца ў гэтым сьвеце нешта перавярнуць, а тым больш – збудаваць.

**Пра вялікую справу і "Чароўны Ўспамін"**

Так склалася маё жыцьцё, што зьнешнія праявы яго сталіся даволі банальнымі: садок, школа, інстытут, жаніцьба, сям'я, праца... ах, выбачайце, забыў: спачатку было нараджэньне! Што можа быць больш банальным, чым нараджэньне і... сьмерць. Апошняга, праўда, са мною пакуль ня здарылася, але ня трэба быць вялікім прарокам, каб гэта прадбачыць. Ну, ды гэты факт біяграфіі ўжо мала чаго дадасць, а проста будзе апошнім у зьнешнім ланцужку падзей. Але ёсьць і менш відавочны, інтымны бок, які часам здаецца мне цікавейшым за вонкавую храналёгію быцьця. У маёй "непараднай" біяграфіі была свая лёгіка, пэрыяды ўздымаў і застойнага "міжчасься". Быў час захапленьня маляваньнем і жывапісам, музыкай і вершамі, гісторыяй і публіцыстыкай. Але ёсьць адна старонка, якую б я вылучыў асобна, бо яна спалучыла зьнешнія абставіны жыцьця з духоўнымі патрэбамі. Гаворка ідзе пра клюб аматараў гісторыі і падарожжаў "Чароўны Ўспамін". Лічу, што для мяне ён стаў падарункам лёсу, бо нечакана ўвасобіў адну з маіх нязьдзейсьненых дзіцячых мар. Падлеткам я быў самотным летуценьнікам, гэткім пакаёвым рамантыкам, які, начытаўшыся кніжак і нагледзеўшыся фільмаў пра Цімура, яго каманду ды іншых савецкіх актывістаў, марыў пра сапраўдную "вялікую справу". Паколькі ж рэальныя будні такіх прыкладаў не давалі, а школа, рэчка ці футбол былі дужа банальнымі, то мне здавалася, што "вялікае жыцьцё" незваротна праходзіць міма, "галоўнае" адбываецца недзе ў іншых месцах, а я толькі губляю час і ніколі ўжо не прычынюся да "сапраўднай гісторыі".

І вось праз столькі год, ва ўзросьце Хрыста, у мяне зьявіліся сябры-паплечнікі, якія, праўда, не будавалі сьнежную крэпасьць, не калолі па начах дровы ветэранам, але мелі агульную мэту – цікавасьць да беларускай гісторыі і падарожжаў. Фактычна гэта таксама было будаўніцтвам, будаўніцтвам новай, нечаканай Беларусі, спачатку толькі ў нашых душах і сьвядомасьці нашых суайчыньнікаў. А потым, як ні дзіўна, і ў рэальным штодзённым жыцьці. Вось такім чынам зьдзейсьнілася мая падлеткавая мара: я стаў сябрам каманды, якая далучылася да вялікай справы, зрабіўся саўдзельнікам рэальнай гісторыі, хоць і пераменлівай, як хмары на беларускім небе, але датклівай і злабадзённай, як уласны боль.

**Віртуальныя вяршыні і наркатычныя рэаліі**

Сярод іншых непарадных старонак біяграфіі варта было б адзначыць і пэрыяд залежнасьці ад камп'ютарных гульняў. Гэта быў кароткі (на шчасьце), нешта каля году, прамежак амаль наркатычнага заглыбленьня ў сьвет віртуальных перажываньняў. Я ня маю схільнасьці да алькаголю і тытуню, яны не прыносяць мне ніякага задавальненьня (мяркую, прычына тут у спадчыне),

не лічу сябе дужа азартным чалавекам ці здольным гульцом (пазьбягаю любых лятарэй і гульнявых “лахатронаў”), аднак тут мяне “прабіла”. Было б сьмешна ў 50 год захапіцца стралялкамі-ганялкамі, а вось эканамічнымі і гістарычнымі стратэгіямі – рэч іншая. Ёсьць перадгісторыя, а мо і апраўданьне такой позняй “зьвіхнутасьці”. Яшчэ ў дзяцінстве мяне займалі гістарычныя рэмінісцэнцыіі – развагі пра тое, што было б, “каб Напалеон не пайшоў на Маскву, Аляксандр Македонскі не памёр маладым, а Пятра І стральцы забілі малым”... а таксама фантазіі на гэтыя ды іншыя тэмы. Я маляваў мапы неіснуючых дзяржаваў, схемы небывалых бітваў, пляны небудаваных гарадоў, выявы нябачаных ваяроў. Для мяне тады гэта быў найцікавейшы занятак, захапляльная творчая гульня, абмежаваная, праўда, маімі мастацкімі здольнасьцямі ды сьціплымі школьнамі ведамі. І вось раптам, праз шмат гадоў, замест самаробных карцінак і схем, маляваных простымі ці ў лепшым выпадку каляровымі алоўкамі, зьяўляецца гатовы віртуальны сьвет, набліжаны да рэальнага, з канкрэтнымі пэрсанажамі, гістарычнымі абставінамі і нечаканымі паваротамі сюжэту. І больш за тое, ты ня толькі ўдзельнік, але і гаспадар сытуацыі, бо можаш будаваць, гандляваць, ваяваць, рабіць сабе кар’еру ці ўласную імпэрыю. Для схільнага да канструяваньня і аналізу, маючага амбіцыі і патэнцыял славалюбцы (асабліва калі яны недасягальныя ў жыцьці будзённым) чалавека гэта – цудоўная магчымасьць для самарэалізацыі, глыбокая крыніца для атрыманьня асалоды. Залежнасьць ад кампутарных гульняў – рэч сапраўды жахлівая, бо спачатку гульня існуе як дадатак да жыцьця, як сродак яго разнастаіць. Але калі яна пачынае займаць 18-20 гадзін у суткі, то жыцьцё становіцца “лішнім”, яно ўспрымаецца як “падрыхтоўка” альбо ўвогуле “перашкода” для пасьпяховай гульні. Магу зразумець наркамана ці алькаголіка: рэальнасьць для іх таксама становіцца “ніжэйшай прыступкай” існаваньня, бо ня можа выклікаць тых адчуваньняў, якія дорыць заганная звычка, “радовішча найвышэйшых адкрыцьцяў і зьдзяйсьненьняў”. Гэта прыкладна тое, як перайсьці на сырое зерне і траву пасьля выкшталцонасьцяў францускай кухні. Але ж на самой справе банальнае жыцьцё і ёсьць падмуркам усіх задавальненьняў, мераю ўсіх вышыняў і глыбіняў (фізычных ці духоўных), крыніцай усіх адкрыцьцяў і вычварэнстваў. Акрамя гастранамічных, сэксуальных і эстэтычных радасьцяў існуюць ня менш моцныя, а, на мой погляд, і больш запамінальныя эмоцыі – перажываньне творчасьці, экстаз стварэньня. З эвалюцыйнага боку гэта, бадай, самыя высокія, “наймаладзейшыя” з чалавечых пачуцьцяў. Напэўна, нешта падобнае мог адчуваць і Бог, калі завяршаў сваю працу ды “...ўбачыў ён, што *гэта* хораша...”. Кожны мастак, земляроб, цясьляр ці будаўнік знаёмы з такім пачуцьцём. Гэтая найвышэйшая асалода блізкая да божага задавальненьня ад добра зробленай працы. Думаю, у зародкавым стане такое пачуцьцё закладзена ў звычайным аргазьме – таксама творчым акце, – але творчасьці (ці вытворчасьці?) несьвядомай, рэфлексыйнай.

Шматлікія спробы падоўжыць “аргазм”, штучна расьцягнуць яго на ўсё жыцьцё – марная справа. Творчы экстаз ці полавы аргазм – толькі вяршыня на жыцьцёвым шляху. На вяршыні ж, нават не Эвэрэста ці Манблана, а той жа невысокай карпацкай Гавэрлы, жыць немагчыма. На ёй можна толькі адчуць энэргію і холад космасу, а таксама каштоўнасьць таго, што ўзьняло цябе на гару, але само засталося ўнізе. А яшчэ на вяршыні можна памерці. І чым вышэйшая вяршыня, тым хутчэй і лягчэй гэта здараецца. Імкненьне наркаманаў ці іграманаў і ёсьць спробай “жыцьця на Эвэрэсьце”, спробай парушыць адвечны закон руху і раўнавагі: на вяршыні ўздымаюцца дзеля таго, каб вярнуцца ў даліну і жыць там па-новаму, з “касьмічным досьведам”, пачуцьцём уласнай “абранасьці” або... жаданьнем зноў узьняцца да няходжаных вышыняў.

**Пра карысьць сьмерці і жахі вечнага жыцьця**

Аднак ня толькі вяршыні, рэальныя і ўяўныя, вабяць нас, слабых і моцных. Ня меншая спакуса для чалавека – доўгае жыцьцё. Бо і простае застольнае пажаданьне “Сто год!”, і біблейскае абяцаньне “жыцьця вечнага” ёсьць старадаўняй людзкой марай, ідэяй-фікс усіх часоў і народаў. Праўда, тут вялікага выбару няма, вы пражывяце столькі, колькі адмерана вашай гэнэтычнай спадчынай і адрэзана лёсам ці шкоднымі звычкамі. Хрысьціянская тэорыя “жыцьця пасьля сьмерці” і практыка ягонага “дасягненьня” таксама могуць дапамагчы працягнуць зямное існаваньне, але толькі ў той частцы, што тычыцца здаровага ўстрыманьня

і пазьбяганьня шкодных празьмернасьцяў. Насамрэч галоўная мэта хрысьціянскага жыцьця “без граху” – падрыхтоўка да сьмерці. Асабіста мяне пытаньне сьмерці ўпершыню зацікавіла ў юнацтве, калі ўсё здавалася вялікім і захапляльным. Так, напэўна, і трэба: для таго, каб чалавек зь імпэтам пачаў свой шлях, прырода адорвае яго наіўнасьцю ды аптымізмам. Кожная зьява здаецца новай і цікавай, кожная падзея – унікальнай і таямнічай. Сьвет, банальны і празаічны, жывіцца цікаўнасьцю юных, грамадзтва рухаецца наперад энтузіязмам маладых. Сьмерць у гэтым узросьце – пытаньне неактуальнае, бо старасьць далёка, хваробы яшчэ не дапякаюць. Як кажуць, жыві і радуйся! Аднак на мяне паўплывала, відаць, хрысьціянская спадчына продкаў, і праз напластаваньні атэістычнага выхаваньня ўсплыла “дачасная” цікавасьць да сьмерці. Сёньня разумею, што тая цікавасьць была чыста тэарэтычнай ці, дакладней, рамантычна-дзіцячай, бо мой лекарскі досьвед паказаў, што сьмерць – зьява простая і будзённая, як узыход сонца. Яна адбываецца калі і дзе заўгодна, не зважаючы на страх ці сьмеласьць, падрыхтаванасьць ці поўную нечаканасьць надыходу. Напэўна, лепшы спосаб падрыхтавацца да сьмерці – забыцца пра яе або зрабіць выгляд, што яе няма. Хрысьціянская ж легенда пра “вечнае жыцьцё” і падрыхтоўка да яго насамрэч мае дачыненьне ня столькі да сьмерці, колькі да зямнога быцьця. Яна найперш парадкуе нашы зямныя справы і быццам бы супакойвае страхі перад непазьбежным канцом. Але рэальна толькі эксплуатуе той першабытны жах, павялічвае яго-ныя маштабы да гіганцкіх памераў. “Адмаўляючы” сьмерць, абяцаючы праведнікам жыцьцё вечнае, хрысьціянскае вучэньне ўзводзіць яе на галоўны п’едэстал зла, даводзячы да абсурду ідэю бясконцага існаваньня індывіда. На маю думку, “вечнае жыцьцё” куды большае зло, чым сьмерць. Уявіць сабе бясконцае і бязмэтнае існаваньне старога, нямоглага ці проста страціўшага цікавасьць да жыцьця чалавека – што можа быць жахлівей? Мо апраметная ў хрысьціянскім уяўленьні? Ды наўрад ці, бо штодзённы жах бессэнсоўнага, нікому не патрэбнага жыцьця горшы за экстрэмальныя жывапісаньні біблейскіх пакутаў. Відаць, сьмерць ня большае зло, чым нараджэньне ці жыцьцё. Суб’ектыўным злом яна можа быць для самога паміраючага (ды і то не заўсёды – глядзі пра эўтаназію), але ж дабром – для будучага ці новапрышлага, што заступае на месца аджыўшага сваё старога. Сьмерць як зьява біялягічная – неабходны элемент (разам з нараджэньнем) захаваньня папуляцыі, як фэномэн духоўны – найлепшы спосаб аднаўляць грамадзтва і разьвіваць цывілізацыю. Асабістая трагедыя сьмерці часьцей бывае пры раптоўным ці дачасным сконе чалавека, які не пасьпеў выканаць сваю гэнэтычную ці сацыяльную праграму. Безумоўна, з такой зьявай ніхто не пагодзіцца, і любы Homo Sapiens будзе пазьбягаць яе. Чаканая і своечасовая сьмерць для чалавека, зьняможанага жыцьцём – ніякае не зло, а заканамерны, натуральны ход падзей. Злом, на маю думку, трэба лічыць існаваньне пасьля сьмерці, хай то з дапамогай найноўшых біятэхналёгій, хай то з дапамогай віртуальных ці містычна-рэлігійных практык. Абяцаньне “другога”, “трэцяга” жыцьця або бясконцага “вандраваньня душы” зь цела ў цела ёсьць непатрэбным заблытваньнем праблемы. Жыцьцё тваё ці маё – рэч унікальная і непаўторная, выправіць ці перайначыць яго, як у кампутарнай гульні, не атрымаецца. “Выпраўляць” твае жыцьцёвыя памылкі давядзецца іншым, таму рабі яго як мае быць, без “чарнавікоў” і “эскізаў”.




## НА ЭТОМ ПОЕЗДЕ МЫ ВОРВЕМСЯ В НАШЕ СВЕТЛОЕ БУДУЩЕЕ

### I

*На этом поезде мы ворвемся в наше светлое будущее. Все те, кто не смог вписаться в систему. Красивые девушки, отказывающиеся рассматривать свою внешность как денежный капитал. Разбитые и одинокие сердца, в которых слишком много места для любви. Истеричные идиотки, не знающие, чего хотеть от жизни. Неугомонные натуры, жаждущие испытывать настоящие чувства. Те, кто не признает власть Золотого Тельца. Те, кого всю жизнь нечто настойчиво толкало куда-то. В бездну.*

1

Я познакомилась с А. в метро. С тех пор, как я вышла замуж, метро стало моим вторым домом. Я просыпаюсь, осуществляю все необходимые для *хорошей жены* ритуалы (сделать утренний минет, приготовить вкусный завтрак, чмокнуть в щечку, пожелать хорошего дня, хихикнуть в ответ на какую-то пошлось, прибраться, постирать), одеваюсь и спускаюсь – в метро. Квартира мужа в центре города, я оказываюсь на станции Купаловская, сажусь в поезд и еду до конечной станции, «Каменная Горка». Там я выхожу, пересаживаюсь на поезд, идущий в противоположном направлении, и снова еду – до конечной. И так весь день.

Я не беру с собой ни книгу, ни плейер. Я усаживаюсь, как правило, возле окошка слева, напротив двери, и смотрю в одну точку. Мерный ритм остановок меня успокаивает. Мозг и все мыслительные процессы погружаются в дрему. Я не вижу, кто входит, кто выходит. Я никак не отслеживаю смену своих соседей на сиденьях. Я вроде бы и есть, однако меня, мыслящей, определенно нету.

2

Я замужем три месяца, а моему роману с метро на пару недель меньше. Мы с мужем в глазах окружающих выглядим красивой и счастливой парой. Он – высокий широкоплечий красавец, сын директора международной корпорации, обеспеченный, расслабленный, обаятельный. Я ниже его сантиметров на десять, у меня высокая грудь, тонкая талия и крутые стройные бедра, правильные черты лица и густые светлые волосы. Вообще, чего уж там, с самого детства я знаю, что обладаю чем-то, что дано далеко не всем людям моего пола. Я всегда ладила с учителями-мужчинами, я никогда не оставалась одна на школьных дискотеках во время медленных композиций, на День Святого Валентина именно на моей парте можно было найти самое большое количество дурацких открыток-сердечек. В школе все было просто, я разбивала сердца направо и налево, ведь мне было абсолютно наплевать на этих странных существ с их потными ладонями и прыщавыми лбами.

Мама мной гордилась и говорила, что я очень красива. Мама, одна из тех несчастных женщин, чью жизнь так изуродовала *Перестройка*, привыкла пахать, чтобы обеспечить нас, меня и младшего брата, самым необходимым, пока отец увлеченно, с мазохистским страдальческим кайфом погружался в *болезнь*. Мама расчесывала мои длинные волосы и приговаривала, что такой красотой надо пользоваться. Она говорила, что я не должна совершать ее ошибок. Работать должен богатый муж из изначально обеспеченной семьи, а женщина пусть следит за домом и растит детей. Я слушала и верила, ведь мир, который мне, десятилетней, предлагала мама, был единственным возможным и реальным.

3

Поступив в университет, я поняла, что все 18 лет своей жизни провела в спячке: я влюбилась. Сердце колотилось, как бешеное, и единственное, что мне было нужно не то чтобы для счастья, но просто для жизни – это обнимать худощавое тело моего Н. и знать, что он меня тоже любит. Мы растворялись друг в друге так искренне и неистово, как это возможно только в чистой, невинной и не искореженной *реальностью* любви. Н. был из крайне простой семьи, сын уборщицы и слесаря, и я чувствовала, что это может стать в будущем проблемой. Однако кого волнуют такие вещи, если за окном весна, а кожа прямо-таки вибрирует от каждого прикосновения Н.? Я была счастлива, в первый и последний раз в своей жизни.

С Н. мы были вместе три года и создали из наших отношений мутанта, который держался на полном доверии друг к другу. Я могла встречаться со своими друзьями мужского пола и гулять с ними до ночи, а Н. просто волновался и часто звонил, удостоверяясь, что меня проводят. Он ревновал, конечно, но мне была необходима хотя бы такая мизерная степень свободы, и я ее себе отвоевала. Да и вообще, это же так очевидно: зачем строить отношения с кем-то, кому не доверяешь? Как можно думать, что у вас что-то серьезное, если боишься, что вторая половина в любой момент готова переспать с кем угодно в тайне от тебя? Наши знакомые и друзья не понимали, как так можно. Я могла путешествовать без Н. и отпускать его путешествовать без меня, и про любую интрижку друг друга мы всегда все знали. Было можно все – поцелуи, флирт, двусмысленности – все, кроме секса. В самом начале мы решили, что это недопустимо и невозможно.

4

И мы так действительно жили. Мы ругались, расставались на день-два, снова сходились и были счастливы. А потом Н. защитил дипломную работу и пустился в плаванье по тому, что

люди привыкли называть *реальным миром*. И потерял все ориентиры. Н. заносило то в журналистику, то в барменство, то в написание сценариев, то в выращивание комнатный растений. Он все чаще начал говорить о том, что деньги – это совсем не главное, что истина – она вне этих проклятых бумажек, а целью жизни должно стать не зарабатывание во имя приобретения все большего количества товаров, а поиск истины внутри себя. Я пыталась выяснить, как на практике он собирается искать истину, но вразумительного ответа получить так и не смогла. А потом Н. сделал мне предложение и начал все чаще заговаривать о том, что дети – это прекрасно, пора и нам задуматься о рождении парочки-другой.

Здесь начались проблемы. Одно дело – встречаться, любить и заниматься любовью с убежденным антикапиталистом, находящимся в перманентном "поиске себя", а другое – выходить за него замуж. Потому что это же очевидно – новобрачным надо где-то жить. Где? Негде.

Дальше – дети. Чтобы рожать детей, я должна быть уверена, что минимум на три месяца беременности и далее около двух лет декрета, когда меня вырвет из нормальной жизни орущий комок, порождение моего чрева, и мне, и комку будет что кушать, что носить и, снова, где жить. Чтобы все это было, нужны, как бы нам это не нравилось, мерзкие деньги. А чтобы они были, их нужно зарабатывать. А зарабатывать – это не искать себя, постоянно меняя сферы деятельности и получая в итоге гроши, а это, скорее, делать часто неприятную и неинтересную работу, потому что дома жена и ребенок и всем хочется кушать.

Я не хотела ни для себя, ни для своего будущего мужа такой участи. Я не хотела каждый вечер видеть несчастного и выжатого как лимон мужчину, у которого уже нет сил на то, чтобы приласкать ночью жену. Я вместе с ребенком не желала в итоге превратиться в ненавистных нахлебников, ради которых герой-мужчина идет на такие-то жертвы. А Н. хотел семью и моих доводов упорно не слышал. Мы стали ругаться все чаще и чаще.

5

Как раз тогда брат познакомил меня с Ромой. Вся семья, мама, папа, брат, намекали, сначала скромно, а потом – все более навязчиво, что Рома – отличная партия. Он из богатой *приличной* семьи, хорош собой до невозможности, и намеренья у него, вроде бы, самые серьезные по отношению ко мне.

Я плакала в жилетку Н. и уговаривала его вместе уехать куда-нибудь, прямо как героиня произведений, в которых девушек насильно выдают замуж за старых уродливых богачей. Но в моем случае Рома был далеко не старым и не уродливым, а насилие было скорее косвенным: у меня была слишком слабая воля, чтобы идти наперекор семье. Да и аргументы их были, как мне казалось, вполне здравыми: Н. окончил универсистет и уже два года "ищет себя", меняя работы каждый месяц-два, нет у него ни квартиры, ни машины, и неясно, когда будут и будут ли вообще. Рома же, напротив, уже имеет все и даже больше, и мое с ним будущее – это сказка, мечта любой девушки, самый разумный способ использовать мое главное богатство – красоту.

Н. отказывался уезжать и почему-то вел себя так, словно не верил в серьезность ситуации. Это неверие ему обернулось тем, что спустя год после знакомства с Ромой и его крайне настойчивых и отвратительно красивых ухаживаний я стала-таки его женой. Конечно, Н. мне этого не простил.

Мы полностью оборвали любую связь и лишь спустя месяц я узнала, что после моей свадьбы Н. уехал в Англию собирать клубнику и там и остался, вступив в фиктивный (фиктивный ли?) брак с некоей жительницей туманного Альбиона.

6

Но вернемся к вагону поезда метро и одетому в строгий деловой костюм молодому человеку, всегда сидящему напротив меня. Это А., еще одна неприкаянная душа, ищущая неизвестно что в метро. Мы познакомились на седьмой день совместных поездок. Когда каждое утро видишь одного и того же человека, который делает в точности то же, что и ты, – катается от конечной до конечной, – не заметить и не запомнить его невозможно.

А. сам подошел ко мне на перроне и предложил «выйти наверх», пообщаться. Я согласилась, мне самой было очень любопытно с ним поговорить. Мы смеялись, придумывая имя для таких, как мы – «дети подземелья». А. рассказал, что он так живет уже год.

А. не любил распространяться о своем прошлом, но кое-что мне удалось из него вытянуть наводящими вопросами. Опираясь на фрагментарные ответы А., я выстроила следующий нарратив его жизни. А. родился в семье успешного хирурга (первого, кто начал делать операции по пересадке чего-то там) и менее успешной, но довольно-таки профессионально состоявшейся юриста. Родители А. души в нем не чаяли и были готовы тратить любые деньги на любое развлечение или увлечение. Другой ребенок был бы счастлив, однако А. с самого детства хотел лишь одного: «чтобы его оставили в покое». Пугающая ирония жизни: не нуждающийся ни в каком усиленном развитии А. имел возможность развивать в себе что угодно, в то время как какой-нибудь дико талантливый мальчик из семьи, например, опустившихся алкоголиков имеет минимальные шансы свой талант взрастить и развить.

Равнодушие А. ко всему, что ему предлагает отец (я так поняла, именно он был самым инициативным в поисках увлечений для А., водя его то на футбол и большой теннис, то на уроки игры на гитаре и компьютерной анимации), привело к крайнему охлаждению отношений между А. и отцом, что, в свою очередь, стало причиной раскола в некогда гармоничной семье. Мама А. пыталась заставить мужа принять сына таким, какой он есть, отец же просто-напросто перестал обращать на него какое-либо внимание. Ком недовольств родителей друг другом становился все больше, кульминацией же этой истории стал развод. А. был уверен, что именно его «ничтожная натура» стала причиной всех семейных несчастий.

Бездарность А. абсолютно во всем и его нежелание учиться хоть чему-либо больно ударили по самолюбию отца, а развод добил его окончательно. Это привело к банальной развязке: отец спился. У отца А. была мечта – вырастить выдающегося сына. А. никак не мог стать этим выдающимся сыном, хотя он очень сильно любил и уважал отца. Кто-то должен был страдать. Страдали оба.

Удивительным для меня было то, что мы ни разу не заговорили с А. о причинах такого своего образа жизни. Казалось, что это совершенно нормально – полдня, а то и день тратить на бессмысленные поездки в метро. Если бы А. меня в лоб спросил, почему я была там, я бы растерялась. Я не знала, почему оказалась в метро один раз и оказываюсь там снова и снова, каждый рабочий день, но была уверена, что стоит мне лишить себя этого, и я немедленно сойду с ума. Думаю, мысли А. были этому в чем-то созвучны.

## II

### 1

– Ни у кого из нас не было в жизни таких трагедий, чтобы уходить в депрессию. Ты? Ты просто красивая девочка, выгодно себя продавшая. У тебя была любовь, но ты от нее сознательно отказалась. Ну и что? Брак – это не твое, ты это поняла. Ты же можешь развестись, начать все сначала, попытаться вернуть своего Н. Это же не конец света, что ты абсолютно равнодушна к своему мужу! Чуть-чуть желания, и ты разрушила бы шаткую конструкцию своей нынешней жизни одним движением! Но – ты этого не делаешь. И никогда не сделаешь. Ты оказалась в метро, потому что ты одна из нас. Слабое звено в цепочке эволюции. Безвольная, пассивная жертва. Но самое страшное – ты абсолютно равнодушна. Равнодушие – это смерть. Ты не хочешь бороться за жизнь.

Слова А. не звучали обидно. Разоблачая меня, он разоблачал и себя. Странные люди-тени. Ни целей, ни желаний, ни эмоций. А. был прав, прав во всем. Навряд ли я смогла бы так четко и кратко сформулировать причины своего бессмысленного времяпрепровождения в метро.

– Метро притягивает нас потому, что здесь можно просто сидеть на месте и в то же время тешиться иллюзией, что что-то происходит. Движение, остановки, свет платформ, тьма тоннелей… Люди заходят, люди выходят, поезд движется, движется, движется. И ты думаешь, что ты часть этого движения. Что твоя жизнь не стоит на месте. Что с тобой что-то происходит. Хотя бы в рамках тоннеля метро. Хотя бы в течение положенного часа от конечной до конечной. Тебя окружают люди, и ты выдумываешь, что все они как-то с тобой связаны. Тебе кажется,




что ты не одна. Черт, да мы все тут такие фантазеры! Нас же не существует ни для кого, понимаешь? В метро люди не смотрят друг на друга. Если ты доказываешь себе свою реальность, спускаясь каждый день в метро, то постепенно границы твоего «я» размываются, и ты медленно исчезаешь. Нас с тобой уже давно нет, ты можешь это понять?



Монолог А. прерывает голос в динамиках: «Магілёўская, канцавы прыпынак. Калі ласка, пакіньце вагоны».

Мы выходим на улицу и жмуримся от яркого света солнца, как вампиры.

2

А потом я начала рыдать но ночам. Первые раза три Рома трогательно пытался понять, что же со мной происходит, зачем-то вставал и подогревал молоко, обнимал и поглаживал спину. Это не помогало, я продолжала плакать и не прикасалась к стакану с молоком, и в четвертый раз муж просто вздохнул и повернулся на другой бок – спать. Я рыдала и не могла остановиться. Я сама не смогла бы объяснить, что заставляет мое тело, как по часам, каждую ночь в 3.30 извергать соленую жидкость из глаз. Что заставляет меня дрожать. Что заставляет меня страдать.

У меня не было никаких депрессивных мыслей. Мне не было жаль себя. Я не хотела умереть или покончить с собой. Но жить я тоже определенно не хотела.

Казалось, через эти ночные рыдания во мне пытается проснуться *нечто*, и этому *нечто* решительно не нравится мое равнодушие. Это нечто хочет жить. Испытывать чувства. Пробудить ту часть меня, которая, кажется, уже совсем забыла о том, каково это – хотеть чего-то. Нечто появлялось только ночами и снова скрывалось днем. Но я чувствовала, что это начало. Что скоро что-то должно случиться. Что пути назад в эмоциональное небытие уже нет.

Каким-то необъяснимым образом встреча и редкие беседы с А. запустили механизм жизни во мне. А. описывал все абсолютно так, как мне и самой представлялось, но слова его были беспощадны и жестоко обнажали ужас того, что происходит.

Ночные рыдания – первый звонок того, что жажда жизни возвращается ко мне. Но было в этом всем что-то угрожающее. В этой жажде определенно было что-то очень деструктивное.

3

Я начала искать Н. по социальным сетям. Я представляла его фотографии в обнимку с какой-нибудь англичанкой. Я представляла, как он делал ее счастливой по ночам. Как шептал ей ужасные пошлости, которые во мне всегда вызывали амбивалентность раздражения и желания.

Но нет, не было в сетях ни его, ни англичанки. Казалось, я навсегда потеряла Н. Единственную родную душу во всем этом пропащем мире. А кто бы мог подумать, что «удачное» по всем параметрам замужество (спросите моих родных!) может полностью лишить желания жизни.

Как-то я случайно столкнулась с одной знакомой из старой жизни, жизни, когда у нас с Н. была общая компания. Она рассказывала о новой работе и недавней стажировке в Лондоне, а еще невзначай упомянула, что встречала там Н. А теперь, внимание, новость: Н. снова в Минске, разошелся с англичанкой и вернулся.

На время я потеряла способность дышать.

4

Мне казалось, что мы обязательно должны столкнуться с Н. в метро. Я перестала плакать ночами, но Рома этого не заметил. Я чувствовала, что Н. рядом, как героиня фильма «Дисковиньи» чувствовала приближение своего возлюбленного. Я знала, что Н. найдет меня. И я начала надеяться, что все у меня еще будет хорошо.

А. заметил перемены во мне, но упорно не подавал виду. Я видела, что мое новоприобретенное желание жить его раздражало. Хоть он и был любителем поизобличать таких, как мы, сам он свое состояние обожал. Как писал один профессор из Вены, по ту сторону принципа удовольствия находится принцип наслаждения, тяга к смерти, и А. погрузился в это мазохист-

ское наслаждение слишком глубоко. Он не мог повернуть назад или, что важнее, уже *не мог захотеть* повернуть назад.

Я часто придумывала, как произойдет наша с Н. встреча. Что я ему скажу, чтобы он простил меня. Конечно, я пыталась ему звонить, но те номера были заблокированы навсегда. Я могла бы постараться найти его через старых знакомых, но тогда бы утратилась вся романтика. Нет, я ждала от судьбы подарка, случайной встречи, и сама представала в роли и главной героини, и зрительницы сего прекрасного и, я была уверена, ужасного события.

5

А потом я увидела его. Сначала подумала, что мне показалось, будто машинист одного из поездов метро похож на человека, любовь к которому все сильнее разрывает меня изнутри. Но нет, не показалось – это был он. В метро. Машинист. Мой Н.

В тот же день я ушла от Ромы. Это было несложно – никому не нужные красивые платья и туфли остались в шкафах роскошной квартиры. Я не оставила записки, потому что писать было нечего. Почему ушла? Куда ушла? Зачем ушла? Потому. В никуда. Затем.

Впервые за несколько месяцев я просто бродила по улицам города. Мне было страшно спускаться в метро – я знала, что там он, тот, кого я предала, тот, без кого я не могу жить. Я не знала, чего бояться больше – его возможной ненависти или равнодушия, но я была уверена: то, что мы по неосторожности друг в друге взрастили, так просто не проходит. Любовь не может погаснуть – настоящая любовь превращается во что-то настолько же сильное, скорее всего, в ненависть. Мне хотелось так думать, мне хотелось, чтобы он меня ненавидел, ведь это доказало бы истинность его любви.

Н. должен был стать моим спасителем от убожества, в которое я превратила свою жизнь. Ничего меньшего я от него не могла ожидать.

**III**

Я стою в самом начале платформы, там, где останавливается первый вагон. Чуть поодаль зачем-то находится А.

Поезд останавливается. В кабине машинист Н., он открывает мне дверь, и я вхожу. А. входит в вагон. Н. даже не смотрит на меня, он возвращается на свое место, нажимает кнопки закрытия дверей и включает запись с объявлением следующей станции, закрывает двери. Поезд начинает движение. Н. поворачивает голову и смотрит мне прямо в глаза, глубоко в душу. И вдруг на меня обрушивается БОЛЬ. Боль, от которой я убегала в метро. Боль, которую я тогда, после свадьбы, очень быстро вытеснила куда-то очень далеко. Боль, которая исчезла, прихватив с собой и мое желание жить. Боль от утраты единственного, что стоит жизни: любви. И тем мне больнее, чем явственнее я осознаю, что он-то все это *пережил*. Не засунул куда-то в черный чердак своего бессознательного, а *выстрадал*, долго, насыщенно, за двоих. И мне больно, потому что было больно ему. Потому что он все еще – часть меня. Живая, дышущая, истекающая кровью. Страдающая – часть.

– Ну что молчишь? Как ты? Как дела?

Его голос изменился. В интонациях появилось больше притворного спокойствия, но я все равно знаю, что на самом деле он сейчас все больше наполняется гневом: я читаю ненависть в его глазах, ненависть того, чью любовь предали, ненависть, которая по силе равна той нашей безграничной и невозможной любви. И это делает меня счастливой.

– Дела? Какие дела? Я в порядке… – я делаю паузу… – В порядке.

– В порядке, говоришь?

Новая остановка, люди выходят, объявление остановки, люди заходят.

– В порядке?!

Наконец-то: он почти срывается на крик. Как же мне хочется, чтобы он выместил на мне свой гнев! Как же я виновата, как же я ненавижу саму себя! Давай, накажи меня, давай, передай мне свою боль!

– Ты разрушила все, во что я верил. Я любил тебя, любил безмерно, сам не знал, насколько сильно, пока не потерял. Я сходил с ума в этом городе, где каждый закоулок, каждый кабак,

каждый кинотеатр, любое место, любое лицо – все только и кричало о том, какими счастливыми мы были. Я хотел убить тебя. Подкараулить и воткнуть нож в сердце. Зачем? Мне стало бы проще. Зная наверняка, что тебя больше нет, я бы мог спокойно жить дальше, не надеясь, что ты вернешься. Но как это – вернешься? Я бы тебя ни за что не простил, даже если бы ты приползла сама с извинениями! Ты перечеркнула все. Ты понимаешь, что у нас с тобой было ВСЕ?! – он наконец-то смотрит на меня, – ВСЕ, и даже БОЛЬШЕ! Ведь нет в жизни ничего хорошего, понимаешь, ничего лучше того, что было у нас – НЕТ!

Яркий свет, остановка, двери открываются, «наступны прыпынак – Фрунзенская».

– Я ненавижу тебя всем сердцем, – он смотрит мне в глаза. – Ты, дура, по глупости своей или там не знаю еще почему, ты уничтожила все. У тебя в жизни никогда не повторится того, что было у нас. Ты сама не подозревала, насколько была счастлива со мной. Так?

Я молчу. Я просто смотрю на него в упор, и слезы, проклятые слезы заполянют мои глаза так, что все расплывается. Я вспоминаю, каково это: жить. Я вспоминаю, каково это: любить. Хотеть. Желать. Одного человека, просто от нахождения рядом с которым сердце бьется в разы быстрее. Одного человека, который уникален во всем этом мире. Идеально заточенная под все мои очертания половинка. Как. Я. Могла. Все. Это. Потерять.

– Потом, когда жить в этом городе стало совсем невыносимо и я начал все чаще общаться сам с собой, я уехал. Пригород Лондона, плантации с клубникой. Там была Мэри, Мэри, с которой мы по пьяни переспали, а она так впечатлилалась, что предложила мне на ней жениться, чтобы остаться в Англии. Мне все было абсолютно пофигу в тот момент, я не хотел ни жизни, ни смерти, так что расписаться и остаться в Лондоне не казалось даже большим поступком. Мэри пыталась делать что-то, пыталась вернуть меня к жизни, и лишь потом я понял, что это тот самый тип девушек: им вечно надо кого-то спасать. Так что когда я стал приходить в себя и выходить из позы несчастного депрессивного нытика, ей стало неинтересно. И через неделю у нас в квартире появился Дэвид – еще одна жертва несправедливого мира. И я вернулся сюда. В Минск.

«Асцярожна, дзверы зачыняются. Наступны прыпынак – Маладзёжная”

Долгая пауза, кажется, он погрузился в воспоминания. Я не нарушаю молчания. Для меня сейчас важно сдержаться и не взять его за руку. Не обнять его. Как же сильно мое тело тянет к нему, я совсем забыла о том, что такое притяжение вообще бывает.

Ну а ты? Расскажи, рада ты своему выбору?

Я? Катаюсь целыми днями в метро.

Зачем?

Просто. Чтобы не жить.

“Наступны прыпынак – Пушкінская”

Ясно.

Я все-таки обнимаю его. Мы целуемся, и в этом поцелуе намного больше жестокости, чем чего бы то ни было. От разрывающих чувств у меня кружится голова, я снова стала полноценной, я снова могу дышать.

Поезд приходит на станцию «Спортивная», и, выпустив пассажиров, Н. говорит в динамик: «Уважаемые пассажиры, пожалуйста, покиньте вагон, по техническим причинам поезд дальше не идет».

Из поезда вышли все, кроме А. Мы начинаем движение. Н. смотрит мне в глаза и снова целует. Он причиняет мне боль, сжимая мои руки за спиной. Он грубо раздевает меня. Поезд движется очень быстро и без остановок, и я откуда-то знаю, что у нас осталось совсем мало времени. От удовольствия я почти теряю сознание. Мы превращаемся в одно целое, и на самом пике наслаждения Н. спрашивает у меня: «Ты знаешь, насколько ты виновата?», он до синяков сжимает кожу у меня на бедрах и спрашивает: «Ты знаешь, за что я сейчас наказываю нас обоих?», он стонет и говорит: «Мы убили все, что у нас было». А я шепчу, нет, уже кричу, ДА ДА ДА!!!...

В этот момент поезд врезается в стену тоннеля. В этот момент мы оказываемся там, где нам всегда было место – нигде.

В этот момент небытие принимает нас в свои сладкие объятья.

*27.06.2012*




## ПАЛАРОІД

*Як мага лепей. Толькі ад таго, што ніхто ня можа сабе гэта ўявіць,*
*я павінен спаліць Макса на Кудамэ, пры тым у другой палове дня.*
*Гюнтэр Грас*

Вось яны заходзяць і заходзяць! Ну што ім усім трэба. Заходзяць і заходзяць, а за сталы не садзяцца і гарбату не купляюць, а тым больш суп ці яшчэ якой еданіны ў непамерную вартасць. Заходзяць і вачамі так па баках водзяць ці ў пол глядзяць. Стаяць і чакаюць, ці перасоўваюцца з нагі на нагу. І так часта заходзяць, кожныя пяць хвілін, адзін за адным. Па чарзе пэўна. Стаяць і гаманец у руках круцяць. Чакаюць чагосці. Ага, зразумела каго. Убачаць афіцыянта, перазірнуцца з ім, падміргнуць адно адному. А потым у прыбіральню – шмыг. І выходзяць задаволеныя. Гаманец расчыняецца, і афіцыянту соценную даюць згорнутую. Афіцыянт яе паміж пальцаў заціснe, вока прымружыць і цыгарэты працягвае, усміхаецца. Афіцыянт малады такі, хударлявы і з татуяваннямі. А людзі бяруць цыгарэты і нават не глядзяць, што за яны, выходзяць і, балбочучы штосьці сабе пад нос, з падскокамі ўцякаюць.

А праз пяць хвілін ізноў хтосьці заходзіць, і ўся схема па крузе. Трэба праверыць, пайду я ў прыбіральню, пакуль новы ніхто не зайшоў. Там нешта не так. Сапраўды не так. Скурай адчуваю.

Аляксей Зьмітрыч – канспіратыўнае імя, канспіратыўная кватэра, канспіратыўныя сябры. Ці то праграміст, ці то кнігатай, ці то менеджэр па продажы апельсінаў альбо бульбачкі,

ну, увогуле, пяць дзён на тыдзень на працу з алавянымі вачыма, у метро з сагнанымі з паверхні белымі людзьмі – да шэрых, да нас з вамі. А там сталасць, тэлевізія і смерць шчаслівая, што на памінках, і здрыгануцца чаркамі супрацоўнікам ды сваякам не сорамна.

Але гэта ён кнігатай ці праграміст толькі з раніцы, ды і то пакуль дзверы працоўнага стойла за спіной не зачыняцца. А ў астатнія часы ужо не кнігатай, ці менеджэр, ці праграміст. А ў астатнія дні ён касмічны даследчык, ці канспіратыўны агент, ці яшчэ хто, гэта ў залежнасці, дзе ён знаходзіцца і што робіць.

У прыбіральні павіс вохкі пах цьмяных дымоў. Гэта ўсё фэншуй, мода, якая ўжо даўно знікла, але ложкі ды сталы дагэтуль перасоўваюць, не ўлічваючы, што метраж у хрушчоўках не роўны кітайскім палацам. Ходзяць ды аб вуглы з вушакамі дзвярнымі пальцы на нагах збіваюць, і фантанчык штучны ўвесь кут вадой заліў.

Вось і тут стаяць гэтыя пахучыя палкі ў кубку, на белай палічцы побач з рукамыніцай, і тонкімі бруямі дым у столь пускаюць, пах вызначаны распаўсюджваюць. Гэта сімвал такі, хто ведае, які гэта сімвал, той зразумее. Трэба ўсё праверыць, хутка праверыць – напрацягу пяці хвілін. Дзе ж яно можа быць? Трэба пад мыйнікам зірнуць і ў смецці пакапацца, а раптам там што? Навошта ўсе гэтыя людзі да прыбіральні па чарзе ходзяць. Толькі выгляд робяць, што цыгарэты набываюць.

Ну… пад мыйнікам нічога, у сметніку таксама паперкі ды сурвэткі. О! У бачку трэба паглядзець, вядома! І накрыўка дзіўна ссунута, зусім трохі, адразу і не заўважна. Толькі пад вызначаным пунктам погляду прыкметна. Дрэнна здымаецца, тады ссунуць трэба, ну, вось.

Мг, тут пакет, з чырвоным чымсьці, падобна да мяса, а побач да накрыўкі пакуначак прылеплены, маленькі зусім, з парашочкам. Яго трэба забраць! Але калі забяру, то мяне сцапаюць адразу, я ж апошні зайшоў. Вось блін, што рабіць?. Ага, “Дося”, сапраўды. На мыйніку стаіць, слоік металічны са сродкамі для забойства мікробаў, паўсюль і ўсіх, ды не толькі мікробаў. Можна і госцю нежаданаму ў суп намяшаць.

Прыдумаў! Значыць, змесціва пакуначка ў дваццатку загарнуць і ў кішэню, замест гэтага “Досю” насыпаць і да бачка прыляпіць. Так! Закрыць накрыўкай. Гатова.

Ну ўсё ж такі, навошта гэты пакунак з чырвоным мясам тут? Якая розніца! Да яго мне справа малая.

Пашумеў вадой. Выйшаў, адзенне схапіў, за гарбату разлічыўся, нават крыху больш пакінуў. Адной купюрай было. А тут ужо наступны кліент, дакладней наступная, з нагі на нагу пераступае, гаманец у руках цярэбіць, вусны пакусвае і вочкамі бегае. Праціснулася міма мяне і шмыг у прыбіральню.

На хаду паліто накінуў, трэба хутчэй бегчы. Іду вялізнымі крокамі, каб увагу не прыцягваць. Дваццатку ў кішэні ў кулак заціснуў і нават не азіраюся. А ў нутрах вярэдзіць, і пакунак той з чырвоным ў вачах стаіць. Навошта? Навошта ён там ляжыць, і хто яго туды паклаў?

Зразумеў! Афіцыянтка! Дакладна яна! Погляд у яе дзіўны, спадылба ўвесь, два вугры на пульхнай шчацэ, быццам укусы змяіныя, валасы ў хвосціку, цёмныя, пад вачыма сінь ды чарноцце. Ногці кароткія, не афарбаваныя, і кроў пасмаглая пад імі, вось так і заўважыў, калі яна гарбату прыносіла. Згушчэннямі засохла, кармазінавая. У понціку белым афіцыянтка, на абцасе, жмут валасоў прыліпліы.

Афіцыянтка не простая, гэта нават вышукваць у крымінальных зводках не трэба, таму што яе там няма, хітрая яна.

Пасля працы немаўлят крадзе і дзяўчынак гарэзных заваблівае цукеркамі да сябе ў цёмны закуток. Дакладна! Ведаеце, ружовых такіх, малочных немаўлят і дзяўчынак з бела-празрыстай скурай і блакітнымі вачыма. Заваблівае і крадзе! А потым у нялюдскасцях рэжа, здзекуецца, закочваючы вочы ў асалодзе. Добра ўладкавалася, аднак! Мяса, якое застаецца пасля гульняў з нажамі, сякерамі ды living рознымі прыспасобамі, сябрам аддае. Не, не, не! Прадае, ды вельмі танна, што б не патрапіць пад падазрон, маўляў, з працы, вось, прынесла. І ўсе ведаюць, што яна ў карчме працуе. Значыць і прынесці чаго добрага, для карчмы не патрэбнага, можа.

А з галовак маленькіх робіць фарш у блэндэры, у немаўлят храсткі яшчэ мяккія, дробна-дробна перамолвае і коткам ды сабачкам аддае. І бабулькі, якія поруч пад’езда за правільнасцю

свету сочаць, глядзяць і не нарадуюцца на гэтую афіцыянтку: “Ох, якая Лідачка, душа чалавек! Жывёліну так любіць, падкормлівае”.

Здараецца, часам, валяецца забулдыга смярдзючы ў лужыне, а яна яго падбярэ, адмые, адшаруе, накорміць, апране. Толькі яны ўсё адно на вуліцу вяртаюцца, не складаецца ў іх з Лідачкай чамусьці.

А афіцыянтка, яна ж таксама жанчына. А жанчыны, калі сабе не знойдуць кагосьці, такога, хто іх часам швабрай пастукваць будзе, то і шчаслівымі сябе зусім не адчуваюць, і бацвіння не гатуюць, аддана ў вочы не глядзяць і незадаволены ўвесь час. Кран цячэ ці паліцы няроўна вісяць. Далікатныя якія! Увогуле, няма шчасця жаночага ў Лідачкі.

Але ж хітрая гэтая афіцыянтка якая! Разумная! Нічога! Разумныя яны ў меру, у меру сваёй дурасці.

Наступным разам праверыць яе трэба! Задачку ёй загадаць і паглядзець, як адкажа. Хуценька ў яе запытаць, каб разгубілася: “А колькі трохлітровых слоікаў тушанкі выходзіць з аднаго чалавечага цела вагой у восемдзясят кіло? Калі ў цябе ёсць два сямілітровых жалезных таза, дзве газавыя фаеркі, ванна на трыста літраў і зашклёны гаўбец, сякера і бліскучы паляўнічы нож, га?”

Вось, сапраўды, не задумваючыся адкажа: “пяць” ці “сем”! А потым збянтэжыцца, зразумее, што сябе выдала. Вось тут я яе.… А можа і не адкажа, немаўля, яно ж менш важыць, значыць, умовы задачкі трэба змяніць. Сапраўды!

З гэтай думкай выкіраваў Аляксей Зьмітрыч з закутку на шырокую вуліцу, нацягнуў каптур і дахаты хутчэй накіраваўся, бо там яго ўжо зачакаліся калегі – таемныя агенты-выведнікі. Ужо колькі гадзін яны яму тэлефануюць, хвалююцца, бо інфармацыя пра аб’ект з кавярні ім вельмі патрэбная, і доказы ў выглядзе парашочка неабходны яшчэ больш, а Аляксея ўсё няма і няма.

Бо яно як адбываецца: прыходзіць Аляксей Зьмітрыч дахаты ў пятніцу, а там ужо і каманда на борт касьмічнага чоўна запрашае, усе ўжо запраўленыя, шаломамі махаюць з трапу. Ды гэта яшчэ што!

Адчыняе дзверы Аляксей Зьмітрыч, а там група навукоўцаў-ядзернікаў, яго калегі, апошні модуль на Адронны калайдэр усталёўваюць ды прыгаворваюць: “Цяпер мы масу тваю, Базончык Хіггса, вылічым, і масу чатырох астатніх базонаў у скрутак загарнем, ды як семечкі папстрыкаем, а ў нядзелю ўжо і сусвет на сподачку пабудуем”.

Аляксей Зьмітрыч адразу паліто здымае, праходзіць дэзінфекцыю ў модулі з блакінымі лямпамі, надзеўшы халат белы ды пальчаткі гумовыя, прымаецца за працу, без перапынкаў і перапалаў.

І ў суботу, з поўнай лабараторыяй калегаў-навукоўцаў, прэсай і спецслужбамі аглядае эвалюцыю на адной з планет створанага сусвету: і тэлевізія не патрэбная, і хадзіць нікуды не трэба.

А захоча – і перародзіцца на адной з гэтых планет створанага сусвету ў немаўля ці дзяўчынку з малочнай скурай і, – ведай сабе, бегай па завуголлях Анголы ці якой-небудзь постсавецкай рэспублікі, пыл босымі нагамі ўздымай.

І так яму гэтая ідэя спадабалася, што цела сваё, якое на працу цягаць трэба, мыць ды галіць штораніцы, Аляксей Зьмітрыч тут і пакінуў. А свядомасцю насіцца падскокамі па беразе фіялетавага акіяна ды жывёл з глыбінь водных з далоні корміць.

А цела ходзіць сабе па крамах, паліклініках і працах розных зусім несвядома. Дажывае гады адведзеныя ды час ад часу спрабуе наблізіць гадзіну распаду – алкаголем дужым, гарачым фастфудам, ціхім жыццём у марудным побыце, таўшчэзнай жонкай, новым аўтамабілем, кватэрай, ну, і ўсялякім розным, якія там яшчэ ёсць сродкі, каб забыцца на сваю чалавечую існасць?

Бяжыць Аляксей Зьмітрыч па пышным няісным горадзе, на бруку пыл ружовы ўздымаючы, ды на вадалівы і постаці мармуровыя на шырокіх пляцах, акружаных дамамі з вынаходніцтвамі архітэктуры, любуючыся.

Акіян з пагорка добра бачны, свеціцца сваёй фіялетавай глыбінёй і празрыстасцю, і сонцаў некалькі ў радок над гарызонтам вісіць. І час тут зусім па-іншаму цячэ, у адваротны бок, ці то ў бок левы, ці ў правы, незразумела. Людзі не сталеюць, наадварот амаладжваюцца. Калі сталы вонкава, то думкамі нованароджаны.

Аляксей Зьмітрыч, усё ж у гэтым свеце сталее, але пра гэта ведае толькі ён адзін і гэткая асаблівасць яго зусім не турбуе, захоча – і застанецца дзяўчынкай дзевяцігадовай назаўжды, вунь, колькі выбітнасцяў вакол, навошта галаву сабе сталеннем якімсьці тлумачыць.

Спыніўся Аляксей Зьмітрыч на птушак ды на расліны дзівосныя паглядзець і заўважыў жанчыну, твар у яе зусім знаёмы. З суседзямі поруч ля ўвахода ў пад'езд на зэдліку сядзіць. Дастае жанчына з кішэні цукеркі ды выкладае на сукенку, птушак рознакаляровых падкармлівае з далоні. "Ой, як цудоўна", – думае Аляксей Зьмітрыч і таксама пазычае ў жанчыны цукеркі і птушак з рук і корміць.

– Калі жадаеш, дзяўчынка, я табе яшчэ цукерак для птушачак прынясу, – кажа жанчына з цёмнымі валасамі, сабранымі ў хвосцік. – Толькі яны ў мяне ў хаце.

Падыходзіць і паказвае пальцам на гаўбец у кветках ды раслінах на другім паверсе. – Пойдзем, – кажа,– са мной, я табе крышачку адсыплю.

Усміхаецца Аляксей Зьмітрыч ды руку жанчыне працягвае. А пальцы ў яе цёплыя і мяккія, і ўсю яго маленькую далонь абвіваюць.

Цешыцца Аляксей Зьмітрыч, боўтае касічкамі, птушак уяўляе, якіх карміць будзе, а птушкі каляровымі рукамі пляскаць будуць ды на далоні цукеркі раскусваць і цалаваць у шчокі і ў-лю-люкаць смешнае штосьці, у валасы залазіць і вуха казытаць прыемна.

Аддаўся марам Аляксей Зьмітрыч, і толькі ў пакоі вялікім і свежым схамянуўся. Прыгадаў знаёмыя рысы гэтай мілай жанчыны з цёмнымі валасамі, з двума ўкусамі на шчацэ, як быццам змяінымі. І ўсё зразумеў тады Аляксей Зьмітрыч, аж пот ліпкі на ілбе выступіў. Пазнаў ён афіцыянтку, якая гарбату яму падавала і якой ён так і не паспеў загадаць задачку.



## ЛЯДОЎНЯ

У лядоўні накрапліваў дождж. Пры любой спробе дамовіцца, лядоўня рыгала ў твар смуродам багны, прапануючы круіз у свае нэтры. У маразілцы плавалі зьмельчаныя морква й пятрушка, ліліся, упрыгожваючы белую саколку памаранчава-зяленымі фарбамі лета – у такой толькі б і катаўся на роліках па пыльных, галавакружна зьнікаючых з-пад ног вуліцах.

Назіраючы вясну ў маразілцы, ён зьдзіўляўся, як гэта ў яго атрымалася даволі доўга, гады тры, з маладосьцю гуляць, утрымліваючы яе разнастайнымі хітрыкамі і прынадамі. Як песьню, выкананую ўжо не на гітарцы, а на сынтэзатары, у патроеным рытме, і ня дзеля цёмных завулкаў з цыгарэтай на трох, ліпкімі няпраўнымі абдымкамі й баўгарскім магнітафонам аднаклясьніка, а дзеля прыцемка ціхіх бараў, куды гультаявата ўрываюцца зь мянтолавай прахалоды Аўдзі і, раскіснушы ад кактэйлю, без энтузіязму аглядаюцца па баках, зрэшты, адразу забываючыся на падрабязнасьці.

Лёднік хмыкнуў і вывяргнуў сустрэчу на перакрыжаваньні Нікольскай і Веташнага з заплаканай Ланай. Да яе можна было заскочыць без папярэджаньня, калі надумаецца. Мокрымі кавалачкамі ільда ўсплылі яе пустэльная кватэра, шырокая канапа, вялікая чорная кававарка. Абдымаючы Ланіны мускулістыя рукі, цалуючы яе жылістыя лыткі з калючанькім шчаціньнем валаскоў, ён паслухмяна прыслухоўваўся да яе скаргаў на безграшоўе. Кава з чорнага кубка абпальвала яго пад працяглыя маналёгі аб яе галечы: безь сьняданку цэлы дзень кружылася ля станка ў абшмульганых пуантах. Пра сябе пасьмейваўся з заяваў кшталту: “Балет – мая праца,

я больш нічога ня ўмею й вучыцца не жадаю". Пасьля гэтага ён зазвычай пільна ўглядаўся ў неба за вакном, якое шэра паўзло некуды. І чакаў. І яна сапраўды пачынала кленчыць на канцэртны гарнітур, на кеды, на новыя джынсы, на каву… каб размантачыць усё зноўку на какаін. Калі доўгачаканая дакука аб грашах ламала цішыню, ён пра сябе ўсьміхаўся: "Ідзі ды паскачы".

Лёднік закашляўся й выплюнуў скрутак з прапановамі папрацаваць сакратаркай, павучыцца на курсах машынапісу, што нязьменна выклікала гістэрыку, і тады Лана зьбягала ў ванны пакой, замыкалася, плакала, шпурляла на падлогу пустыя цюбікі з-пад крэма. Ганарліва выходзіла, налівала сабе кавы, перастаўшы зьвяртаць на яго ўвагу – пройдзе год, ён застанецца гэткім жа, худым, старэючым хлопчам, а яе чакаюць тэатры ўсяго сьвету.

Лёднік, усхліпнуўшы, запляскаў па лінолюме капяжом з кісьлінай Ланінага выпускнога, які супаў зь першым яе танцам на шасьце, у танным стрып-бары, недзе па-за горадам. Праз тыдзень ён занёс яе тэлефонны нумар у чорны сьпіс і пачаў нерашуча сустракацца зь Лізай, ціхай нерухомай школьніцай. Неўзабаве ён сьпехам выдаліў усе ранейшыя смс-кі. Нясьмела падтрымліваў бледную руку худой, застылай дзяўчыны, каціў на роліках побач, дазваляючы ёй чырванець кожны раз, калі ён неспадзявана сутыкаўся свамі сьцягном зь яе.

Лёднік яшчэ крыху паплакаў, булькатнуў, нібыта яхта, якая патанае й забірае з сабою на дно сьпячыя целы сваіх уладальнікаў, уздыхнуў з крыўдаю пакінутага палюбоўніка й заглух, аднавіўшы ўва ўсёй кватэры сыраватую восеньскую цішыню.

З маразілкі выплыў і пацёк мэлянхоліяй той вечар зь Лізай у невялікім склепе з жывой музыкай і п'янымі задымленымі дзецьмі.

Ён стаяў, аглядаючы сваю кватэру – кухню, ванны пакой, прыбіральню, лажніцу ў адной агульнай зале зь пераплётам рознакаляровых цьмяных лямпачак уздоўж сьцен. Лёднік хмыкнуў, узгадаўшы, як ля блакітнага бідэ плёскалася яго былая нявеста, а заўжды гатовая да новых подзьвігаў, утульна замаскіраваная клецістай коўдрай, пругкая і ўстойлівая да скокаў двухспальная канапа цярпліва чакала, нібыта рынг, сваіх барацьбітаў.

Ён наведваў басэйн, масажыста і не зачыняў вокны ноччу – спалі ў холадзе, як эгіпецкія фараоны, якія марылі захаваць пэрсікавы пушок і мяккую салодкасьць шчокаў. Ён еў толькі натуральныя прадукты, у меру нашпігаваныя харчовымі дадаткамі. І замарожваў успаміны, не даваў ім зьмінаць пяшчотную скуру на твары й пігмэнтаваць ягоны дагледжаны эпідэрміс. Але цяпер ён разгублена назіраў, як ягоны адданы лёднік канчае свой век, адыходзіць у гай або апраметную электрапрылад, дзе яны жывуць, інваліды, вурчаць абясточанымі душамі, мараць аб былым і скардзяцца на яго адзін аднаму.

З маразілкі выплывае жудасны кавалак цялячай высечкі – той чорны год зь Лізай, яе выбрык падчас любоўнай гульні ў ванне, яе пасьпешны ўцёк у Эўропу – вучыцца, працаваць? У яе была дзіўная патрэба верыць у сваю абсалютную немач. Быццам яна статуэтка з паперы, якую вось-вось з храбусьценьнем скамячыш. Але паспрабуй скамяч. Ці чакай, пакуль яна ўпадзе. Хутка ён разгадаў яе неўтаймоўнае жаданьне здавацца ўразьлівай, бяскрыўднай. Як маленькія жоўтыя кветачкі курасьлепу – ад заружы не адрозьніць. Так і засталося незразумелым – ці гэта была зьнясільваючая форма барацьбы, акт пацыфізму, накіраваны супраць самое сябе, ці толькі фігура паляўнічага танца – я небяспекі не нясу, будзь побач. Сагрэцца ад цяпла тваіх грудзей, перш чым укусіць. Надта прыкметную радасьць дастаўляла ёй усьведамленьне ўласнай перавагі, нечаканы кідок з залогі і імгненная капітуляцыя ў мяккі пух: як ты мог падумаць, гэта твае фантазіі, мазахіст.

Ён сеў на ўскраек канапы. Галаву, нібыта вялікі мажны пляфон, апусьціў на рукі. І лёднік цёк сьлязьмі пакаяньня за тое, у чым, зразумела, ён ня быў вінаваты.

Засталося ўбачыць начное неба, поўнае смарагдаў, каратаў па сем кожны. І ён убачыў, што рабіць. Адпусьціў даўгія валасы, каб замест падлетка ці хлопчыка для інтэлектуальнага баўленьня часу яго прымалі хаця б за Ісуса Хрыста. Так увайшоў у ролю, што шчокі запалі, а скулы тырчэлі, нібыта каркасы намётаў пад тэнтам – нясьцерпна. Адпусьціў востры трохкутны пазногаць на мезенцы – каб, закаціўшы блакітныя вочы, перабіраць струны, манэрна цягнуць адну ноту, косячыся на постаці дзяўчат, якія сядзяць зь півам на падлозе, у цемры, перад сцэнай. Праславіўся паэтам у рэклямнай агенцыі, дзе працаваў кур'ерам, нават з кіраўніком размаўляў, нібыта дэклямаваў вершы Одэна.

Раскрыў фортку ў ноч, нядбайна адрываў кавалкі ад батона з аўстралійскай пякарні, дробкі рассыпаліся по падлозе, жаваў мяккі, саладкаваты, яшчэ гарачы хлеб і запіваў віном адразу з бутэлькі. А неба ў фортцы было чорным, у смарагдах, каратаў па сем кожны, нібыта нехта сабраў дробкі хлеба й шпурнуў за вакно. Ён ляжаў на канапе, у кедах, і варажыў, які цуд мацнейшы – хлеб з пустэчы ці смарагды, сапраўдныя, са жмені дробак. Пра што яшчэ заставалася думаць трыццацігадоваму хлопцу з азадкам, што нясцерпна балеў і ныў ад любога руху – ад спробы ўладкавацца пазручней у фатэлі ці калі, забыўшыся, з усяе моцы плюхнуўся на скураную канапку ў офісе. Так можа балець толькі адзінокая душа ці азадак, які скалолі сотняй голак, якія, нібыта дроцікі дартс, усё больш шалёна ўсаджвае мэдсястра. Кожны дзень – па тры ўколы ў розныя кропкі дзьвюх амаль плоскіх бялявых мішэняў. Ні яго былая нявеста, ні ў рэклямным агенстве, ні яго музыкі – клявішнік, басіст, бубнач – ня ведалі й не здагадваліся, што ў яго сухоты.

Праліўшы апошнія струменьчыкі сьлёз, лядоўня памерла.

## САБОР

Зіма прайшла ў гультаяватым чаканьні. Нельга сказаць, каб яно было безнадзейным. Часам, нечакана і вокамгненна, Міласьць зыходзіла. Раптоўна, у натоўпе людзей, якія нэрвова рухаліся туды-сюды па плятформе мэтро, я адчуваў салодкую прысутнасьць Міласьці, нечаканае, нічым ня спраўджанае сьвятло, цеплыня й наркатычная брыза надзеі. Міласьць адрывала мяне ад зямлі, рабіла лёгкім, ператварала ў пёрка. Я літаральна лётаў па тунэлях мэтро, па горадзе, задрапаваным у белае.

Міласьць гэтай зімою заўсёды ўзьнікала нечакана. Я спрабаваў хітрыць, драпежным зьверам вынюхваў, адкуль яна бярэцца. Асьцярожна й плаўна азірнуцца – убачыць яе набліжэньне за сьпінаю. З увагай старога прафэсара я імкнуўся вывучыць прыкметы прыхода Міласьці, чыньнікі яе зьнікненьня. Я паляваў на яе, ішоў па яе сьледзе, узброены мноствам хітрыкаў. А яшчэ заўважаў у натоўпе, у вагонах мэтро, у акварыюме тэлевізара людзей, якіх Міласьць час ад часу песьціць сваімі наведваньнямі.

Усе мае хітрыкі й выкрутасы не маглі быць пасьпяховымі – яна ніколі не прыходзіць, калі яе клічуць, і не застаецца, калі яе просяць. Часам, нечакана, на начной вуліцы, якую бесьперапынна пасыпае какосавай стружкай сьнег, у спустошаную душу, у пустую галаву, без папярэджаньня, бярэ й спускаецца.

Потым быў той вечар, і стужкі ценяў рухаліся па сьценах. Шпілька – сьляпы ліхтар, які роўна насупраць майго вакна ценем цямнеў ва ўзгалоўі. Галіны складалі сваёй сеткай хімэраў і птушак з чалавечымі галовамі. Здаецца, я сьніў, нібыта праглынуў чорнае пёрка ці пух з падушкі. Доўга надрыўна кашляў, басанож шлёпаў па паркеце – намачыў горла сьцюдзёнай вадой з мэталічным прысмакам, якая шыпела з-пад крана й сыпала на рукі пацеркамі калючых марозных кропляў.

Зранку ў грудзях шчымела, ціснулася нешта задушлівае, я рухаўся па кухні клышанога, з задышкай, мімаходзь убачыўшы ў люстэрцы кашлатага шэрага чалавека з гарбаватаю сьпінай. Ламаніна ўсярэдзіне катавала мяне ўсё мацней, выгнуўшы ламанай жа лініяй, пераплёўшы ногі ў касу, я скрыўлена сядзеў на стуле, усяляк намагаючыся не зваліцца. Рука ня мела моцы, каб паднесьці кубак да вуснаў, гарбата здавалася прэснай, трэба было каўтаць праз сілу. Кіслы, балючы камяк рос і набракаў у грудзях, перацягваў рэмнямі болю, нясьцерпна выкручваў рукі. Я не дапіў. Пальцы ўсё яшчэ спалі, нехаця рухаліся, нібыта лунацікі, пацяжэлыя й непаваротлівыя. Нататнік спарадзіў толькі дрыготку. 6 лютага, дробным шчаціньнем літар аброслы, расьпісаны па хвілінах дзень.

Калі ўважліва вывучаць нататнік, усё, што пашыралася і цягнула ў грудзях, прыпыніла няўмольны рост, бязьлітасна кальнула ўнутры горла, рэхам адгукнулася там, дзе сэрца. Ушчыкнула за правую лапатку, шаснула зьлева й тупым калом упёрлася ў грудзі, прымусіўшы мяне асесьці на канапу й застыгнуць.

Пульс выстукваў зь дзіўным выкрутам і прыпынкамі. Дробныя шпількі-прышчэпкі спрабавалі на зуб знутры, нібыта ўва мне акіян, поўны піраньняў. Цёмнае й важкае зноў працягнула расьці, мацнець, наліваецца волавам, застыгаць. І напрыканцы захінулася ў футра з граніту ў самай сярэдзіне грудзей. Стала нясьцерпна цяжка. Я даведаўся, што адчуваюць націнкі альпійскіх лугоў падчас абвалу, калі на іх кволыя жылкі падаюць камяні. Лісток 6 лютага прашапацеў, адлучыўся ад нататніка. Нават сьвежы ледзяны холад лютаўскага мянтолавага неба здаваўся дрэннай анастэзіяй, не пазбаўляў адчувальнасьці, не сунімаў занепакоенасьці.

У доктаркі спаўзалі на кончык носу антыкварныя акуляры. Яна мармытала, насупливалася, углядаючыся ў мой рэнтгенаўскі здымак. Кардыяграма прадэманстравала скокі шпіляў, няроўны частакол пульсу. Прыйшоў яе лысаваты калега, які прымаў у суседнім кабінэце. Дыягназ не абвясьцілі. Назначылі спакой і шпацыры ў сасновым лесе. Разабраўшы размашысты клінапіс у карце, я даведаўся, што ўва мне знайшлі гатычны сабор рэдкай архітэктуры, гэта ён разрастаецца, коліць і драпае мяне знутры.

Буйны прафэсар, прынамсі, у нашым горадзе лепшага няма, сказаў, што дастаць славутасьць будзе вельмі праблематычна, да таго ж пад пагрозаю цэласнасьць адзінага ў сваім родзе будынка. Усё ж помнік архітэктуры, абараняецца дзяржавай. Прафэсар лагодна зазірнуў мне ў вочы, зьлёгку крануў маё плячо. І прапанаваў мне бадзёрыцца. І параіў ня скардзіцца і чакаць Міласьць.

## ПУСТЭЧА ЗАБАРОНЕНЫХ ГУЛЬНЯЎ

Тое, што я не такі, як усе, я цьмяна прадбачыў яшчэ ў раньнім дзяцінстве. У раньнім дзяцінстве мы ўсе здаваліся сабе не такімі, як усе, дакладней, адзінымі ў сваім родзе. А потым прастора вакол нас вырастала з кубіка дзіцячага ложку да акварыюма пакою, расьцягвалася да асфальтаванай дарожкі, што атачала дом, пашыралася да каменных лябірынтаў, зьвязаных чорнымі ніткамі правадоў, і працягвае расьці да гэтага часу. І ў гэтае самае імгненьне таксама расьце.

І ўсё ж я цьмяна прадчуваў, што я іншы, няхай нават і імкнуўся сябраваць зь імі, вадзіў карагоды й бегаў у раўчучкі. Я адразу разьмежыў для сябе “яны” і “я”. Няхай гэта жорстка параніла, няхай ад гэтага скрозь мяне з рыкам і гудам праносілася адзінота. Тады я ніяк ня мог здагадацца, што гэта не выпадкова, бо нічога не адбываецца само па сабе і не сыходзіць у нікуды.

А яны ўсё часьцей адыходзілі ўбок, шапталіся, пераступаючы па клетках клясыкаў. А я думаў, што ж зрабіць, каб трапіць у іх кампанію, у іх маўклівую змову сябраваць. Мабыць, зрабіць які-небудзь унёсак, але ж на тым тыдні я двойчы частаваў іх печывам і садавіной, якія мама звычайна пакідае мне на стале ў вазачцы, накрытай ружовай сурвэткай ад мух. Я ж вынес ім свой падвячорак, і яны цягнуліся да яго мурзатымі ад пяску рукамі, яны адпіхвалі адзін аднаго, імкнучыся адламаць кавалачак кексу, вырваць палову эклера, і, атрымаўшы сваю здабычу, адбягалі падалей і там хуценька ўсё гэта заглыналі, як звычайна робяць крумкачы і галубы. Пачастунак зьмякчыў іх не надоўга, на паўгадзіны. Хутка яны забыліся на смак пэрсікаў і абрыкосаў, зьлізалі крэм з краёў вуснаў, адначасова страціўшы да мяне цікавасьць, пхаючы на самае няўдалае месца ў сярэдзіне кола, вадзіць, а потым усёй зграйкай адштурхнуліся – гуляць у хованкі на тым канцы двара.

Калі ж нехта зь іх выносіў з дому бутэрброды ці падталую чакалядку, гэта было падзеяй, і, хіба трэба казаць, са мною дзяліліся зрэдку. Была ў іх кампаніі худзенькая, слабенькая кнігаўка, якую яны ўвесь час пакалачвалі, выкручвалі ёй рукі, пужалі снапом іскраў, прымушалі кленчыць у бацькоў ежу. І яна крычэла, задраўшы галаву, пакуль маці ня скідвала з гаўбца закручаны ў поліэтылен скрутачак з цукеркамі ці жменяй скрошанага аўсянага печыва.

Як я імкнуўся на двор у той дзень. Чым больш мне хацелася вырвацца, тым мацней мяне трымала дома – маці зь яе вячэрай і праверкай хатняга заданьня, званок бабулі, нечаканы візыт суседкі зь яе трохгадовай дачкой. І вось, нарэшце, я ламануўся на двор, спатыкнуўся й ледзьве не распластаўся на лесьвіцы – так я сьпяшаўся. Яны стаялі гуртам каля лаўкі, ці то шапталіся, ці

то мармыталі лічылку для квача, ня ведаю. Я падбег, у той жа час распавядаючы, як было цяжка вырвацца на гадзінку-дзьве з дому. Я запытаўся ў кнігаўкі, што за гульня, – яна была ў той жа сукенцы ў дробны казялец, нягледзячы на верасень. Кнігаўка нічога не адказала і баязьліва адышла ўбок, каб схавацца сярод астатніх. Тады я, пераймаючы бацьку зь ягонымі сябрамі-рабацягамі, падышоў да Плюшкі, які быў на два гады старэйшы за мяне й якога ўсе баяліся, проста па-сяброўску пляснуў яго па сьпіне й запытаўся тое ж самае. Плюшка адхіліўся, змрочна скасавурыўся на мяне, апусьціў вочы і ціха прашыпеў астатнім: “Хлопцы, хадзем адсюль”. Я было сунуўся да ягонага малодшага брата – гэткага ж худзенькага, як я, у нас нават аднолькавыя фуболкі, – але ён адштурхнуў маю руку й моўчкі пайшоў за імі, цяжка цягнучы ногі, абутыя ў красоўкі брата, большыя памеры на два. І я ізноў застаўся адзін каля пад’езду, таму што мне самым строгім чынам забаранялі хадзіць на пустэчу.

Гэтая пустэча за гаражамі заўсёды выклікала сарамлівасьць, таму што там заўсёды гулялі ў што-небудзь забароненае. Напрыклад, аднойчы мы з кнігаўкай узялі і зрабілі там траўмапункт. Схаваўшыся за кустамі акацыі ад мінакоў, мы па чарзе ўтыкалі ў попкі адзін аднаму тоўстыя голкі глогу. Кнігаўка калола мяне асьцярожна і нерашуча, нясьмела сьціскаючы тоўсты карычневы шып дзвюма пальчыкамі, на адным зь якіх былі заўважныя рэшткі ярка-ружовага лака. Сама яна, задраўшы спадніцу, зьвягліва патрабавала, каб я калоў па-сапраўднаму, з размаху, балюча і глыбока, як коле мэдсястра хуткай дапамогі ўсіх цяжкахворых.

Карычневая голка не ўтыркалася, яе кончык ламаўся, рассыпаўся пэндзлем, не праткаючы скуру. Кнігаўка любіла прадчуваньне болю. Яна прыкрыквала, каб я калоў бязьлітасна, як гэта аднойчы рабілі санітары хуткай дапамогі, калі ў яе паднялася тэмпература. І, ужо выпрастаўшыся, папраўляючы курчавыя валасы, круцілася на пустэчы і, забыўшыся на ўсё, распавядала, як дзядзька мэдбрат рабіў ёй укол. І ў яго былі такія рудыя вусы, ад іх рабілася сорамна. А я, не разумеючы, што можа быць саромнага ў рудых вусах, паслухмяна ішоў да кустоў глогу за новым шыпам крыху таней, калоў яшчэ мацней, але шып ізноў ламаўся. Нашая гульня ў траўмапункт сышла з рук, засталася бяскарнай, дома нічога не даведаліся. Мяне толькі запыталіся, што гэта за гузак. А я адказаў: укусіў нехта. Напэўна, чмель. І з тых часоў пустэча была ахінутая прыемным халадком бяскарнасьці й незразумелай, прабягаючай ніжэй за калені, сутаргай сораму.

Сёньня яны зноў накіраваліся туды: гуляць у канцлягер, выкручваць рукі кнігаўцы, катаваць кульгавага сабаку з абцінкам хваста, крэсьліць галавешкай на лысым асфальце пустэчы свастыку, распальваць недакуркі, узрываць пулькі, падпальваць лупай жмуты паперы. А я чакаў іх на лаўцы ля пад’езда: праз гадзіну-дзьве, нагуляўшыся, вызваліўшыся, выліўшы сваю злосць, чарноцьце й боль, яны абавязкова вернуцца сюды. І я спадзяваўся, што пра іх выхадкі ніхто не даведаецца. І ў той жа час я вельмі баяўся, што хто-небудзь зь іх моцна атрымае, што сёньня ўвечары з вакна зноў будзе несьціся аглушальны крык каго-небудзь зь іх на ўвесь двор, на ўсе навакольныя двары.

***Пераклаў з расейскай мовы Максім Шапялевіч.***
***Паводле рукапісу аўтара.***




## ДЗЕНЬ І СМУТАК

*(на згадку пра майго сябра)*

“Найцяжэйшыя й найжахлівейшыя думкі ды адчуваньне мораку накідваюцца на нас ня ў мякка-мэлянхалічным сутоньні, не ў аксамітнай цішы ночы, а ў сьветлы, сонечны дзень – заўжды зьнячэўку, бязьлітасна, безнадзейна і незваротна”.

Так пачыналася калісьці апавяданьне “Дзень і смутак” аднаго майго даўняга сябра Правальскага. Апавяданьне, якога сёньня ўжо не існуе. Яго наагул ніколі не існавала ў звычайным, рэчыўным разуменьні. Правальскі ніколі не запісваў сваіх апавяданьняў, прыпавесьцяў ды эсэяў, але заўжды мог прачытаць з галавы любы свой твор – да апошняга слова, да апошняй літары. Неяк ён абмовіўся, што мабілка, якая не галосіць проста таму, што ніхто не тэлефануе, і мабілка, якая не галосіць, бо адключаная, – маўчаць па-рознаму. А як інакш, маўляў, можна ставіцца да словаў, калі кожнае зь іх – адзін з прамоўленых і пераадоленых калісьці пракаветных страхаў.

Правальскі ведаў, што свае словы нельга паказаваць нікому. Слова занемагае, блякне і чэзьне, калі яго хаця крыху пахваліць, ня кажучы ўжо пра шырокае ўхваленьне. І большыня мастакоў ведае пра гэта, але спакуса паказаць камусьці сваё напісанае зазвычай перамагае. Гэта, як нікому іншаму, добра было вядома і Правальскаму. Таму ён не давяраў свае словы нават паперы. Але блізкім сябрам сёе-тое зрэдку чытаў на памяць.

Аднаго разу сярод нешматлікіх слухачоў Правальскага выпадкова апынуўся чалавек, які прапанаваў яму паказаць ягоныя творы рэдактарам некаторых вядомых выданьняў, якія маглі б надрукаваць іх у сваіх альманахах ці нават дапамагчы ўкласьці невялікі зборнік. Маўляў, недаравальна насіць свае творчыя знаходкі ў сабе й цешыцца адно ўласным эстэцкім эгаізмам.

Дзеля ветлівасьці Правальскі далікатна паабяцаў падумаць і пасьля захінуў уласнае маўчаньне ў воблака цыгарэтнага дыму. Ад таго моманту, напэўна, і пачалася ягоная хвароба. Раптам Правальскі пачаў забывацца на ўсе свае творы. Ён па-ранейшаму мог прыгадаць назву, мог дакладна ўзнавіць першы сказ кожнага любога свайго апавяданьня ці эсэ. Але ні на каліва болей...

“К. ведаў: жыцьцём сапраўднага мужчыны жыве той, каго ранішняя эрэкцыя засьпявае ўжо ў дарозе і чые валасы першы раз за дзень прычэсваюць лапіны ялінаў, што густа зьвісаюць над ляснымі сьцежкамі”. Гэтае апавяданьне Правальскага, як і ўсе астатнія, цяпер абрывалася акурат на тым месцы, дзе аўтар паставіў калісьці першую кропку. І хто быў той К., і што зь ім урэшце сталася – назаўжды засталося загубленым ў таямнічых лябірынтах памяці майго сябра, было безнадзейна праглынута ягонай хваробаю.

Адзін з эсэяў Правальскага пачынаўся так: “У год, калі жалуды датрываюць на дубах да маразоў, на сьвет зьявіцца мая дачка”. Эсэй называўся “Дзень, калі падаюць жалуды”. Ягоны лёс нічым не адрозьніваўся ад лёсу астатніх страчаных твораў Правальскага. І цяпер мне здаецца, што новае нараджэньне ягоных твораў гэтак жа ніколі не магчымае, як ужо ніколі не магчымае нараджэньне ягонае малюпаткі Ганулькі, пра якую мой сябар марыў усё сваё ня надта доўгае жыцьцё. “Жалуды – ня лісьце, ім ніколі не датрываць да маразоў”, – адказаў мне аднойчы на нешта Правальскі. Але тады наўдачу хтосьці з нас усьведамляў, што гэтыя словы цяпер маглі б стацца найлепшым фіналам да старога эсэю.

Каб прыгадаць свае словы, Правальскі пачаў сыходзіць у працяглыя запоі, ён на тыдні зьязджаў на хутар дзесьці ў глыбі Наваградзкага ўзвышша. Пасьля яго звольнілі з працы, ад яго сышла жонка, зь якой яны так і не прычакалі дзетак.

Я добра памятаю той момант, калі, пасьледам за словамі Правальскага, усе мы, ягоныя сябры ды знаёмцы, згубілі й яго самога... Гэта здарылася ў невыносна сонечны дзень дзесьці напрыканцы сакавіка, калі я выпадкова сустрэў яго, прагульваючыся каля школьнага стадыёну. Тады Правальскі яшчэ пазнаў мяне, хаця (я добра памятаю тую ягоную ўсьмешку) ці то жартуючы, ці то кажучы найшчырэйшую праўду, прызнаўся мне, што можа прыгадаць толькі першую літару майго ймя…

“Калі кругляк зімовага сонца высьпявае настолькі, што здольны разьбіцца аб кволыя дзіды маладога асіньніку ды сплыць дарэшты ў ягонае рэшата, а паветра набрыньвае гострым і вусьцішным прадчуваньнем няўцямнага адкрыцьця, тады ўсе рэчы ў навакольлі страчваюць свае найменьні… І калі раптам дзесьці паблізу рака нясе свой спадзеўны шарос і напаўняе трубы трысьнягу сьпеўнымі зыкамі, а засьнежанае пнеўе бабровых парканаў стала сьцеражэ іх ад староньніх вушэй і вачэй, тады ўся нашая марнасьць асядае навокал шэраю цьвільлю… І калі густое сутоньне разьдзірае крык самотнае птушкі, які, выблытаўшыся зь сеціва хмызьняку, зьнясілена йрвецца ды, урэшце, спадае на дол спужаным сьнегам, тады ты пачынаеш адчуваць тут ува ўсім сябе…” Гэты свой сказ Правальскі працягваў бясконца і ўрэшце пайшоў, так і не разьвітаўшыся. У той сонечны сакавіцкі палудзён мой сябар назаўжды сыходзіў у надзвычай далікатны стан душэўнае кранутасьці, зь якога ён ніколі ўжо не вярнуўся. На добрую згадку пра майго сябра Правальскага і пра той дзень, калі я апошні раз бачыў яго, я назваў гэты свой опус ягонымі даўнімі, прызабытымі словамі – ДЗЕНЬ І СМУТАК.

## МУХА

*(досьвед аднаго разглядаваньня)*

У маім пакоі, на падлозе, каля вакна з фіранкамі, ляжыць муха. Я ўжо не магу дакладна прыгадаць, калі яна тут зьявілася. Я памятаю толькі, як гэтая муха ўпершыню адбілася ў маёй сьвядомасьці.

Гэта супала з тым момантам у маім жыцьці, калі я раптам выявіў уласную няздольнасьць адрозьніваць чалавечыя твары. Аднаго разу, ідучы па вуліцы, я зьвярнуў увагу на маладую пару. Наблізіўшыся да іх амаль усутыч, я са зьдзіўленьнем засьведчыў сабе, што іх твары бадай зусім аднолькавыя. Нібыта абодва гэтыя абліччы – рупліва складзеныя з утрамбаваных белых мухаў мазаікі, абцягнутыя тонкай скураю. І тыя мухі пад скураю ўтвараюць нейкае няспыннае, хаатычнае варушэньне. Мухі варушацца – і твары людзей міргаюць, усьміхаюцца, соваюць скіўцамі… Гэтая жывая мешаніна з лапак і крылцаў, куламеса выцьвілых мушыных цельцаў, уся гэтая какафонія рухаў – тое адзінае, што дазваляе халвічным чалавечым абліччам быць адрознымі на пэўнай адлегласьці.

Муха, што ляжыць цяпер у маім пакоі і, здаецца, пазірае на мяне, – такая ж белая. Перад гэтым яна, канешне ж, доўга білася аб шыбы і пабеленую столь, пакуль, сьсівелая ў сваіх марных намаганьнях, не звалілася долу. І, канешне ж, пасьля яна доўга пяклася на сонцы, якое пакрысе забірала моц, сок і калёр ейнага хіціну… Гэта было добра відаць нават адсюль, з маёй канапы, дзе стромкія стосы старых газэтаў увесь час імкнуцца дагнаць чараду пабляклых партрэтаў на шэрай сьцяне.




## І АПОШНІ ЯК ПЕРШЫ…

*(урывак з аповесці)*

1

…. Далей, далей вілася сцяжынка, ледзь прыкметная, а старонняму воку і зусім немагчыма было ўгледзець яе сярод лесу: не ўсякі ведае, якая траўка пад нагамі зможа расці, якая кветка будзе квітнець на прытаптанай зямлі. Перуноў дуб з рассечанай напалам вяршыняй адкрыўся нечакана – і павеяла, быццам у грудзі пхнула, чорным, чужым. Агапка прыпынілася, аддыхалася, хутка-хутка зашаптала словы, каб збіць хвалю чужой сілы.

Бабулю Дарэну тут знайшлі. Ля самага дуба ляжала яе сухенькае цела, абпаленае зверху ды пераламанае так, што мужыкі, знайшоўшы яго, адхінуліся ў жаху: чорны знак Жывы паўстаў перад імі і промнямі той свастыкі былі вывернутыя ногі і рукі Дарэны. Яе цела ляжала сярод густой зялёнай травы, такой свежай, быццам і не было тут ніякага гарэння, ці было так даўно, што паспела трава адрасці. Ды толькі ўсе ведалі: яшчэ раніцай Дарэна ў агародзе была, яшчэ і цяпер вось ад цела ідзе смурод гары. І ці то дымок уецца, ці то душа не жадае пакінуць цела, хоць і хрышчанае цераз сілу.

Пахавалі бабулю тры дні таму. Казалі, толькі зверху яна абгарэла. А кроў з цела быццам выкіпела… Ці то па ранах выцекла. Толькі шапнуў Прохар Агапцы (ведае, ведае стары), што тыя раны пад каленамі і пад локцямі не толькі затым былі зробленыя, каб цела ў знак Жывы

скруціць, – жылы з рук-ног выцягнулі. Ох, усё прадбачыла Дарэна, і сваю смерць бачыла праз светлы дзень.

– Ад Перуновага дуба на ўсход бяжы, не зварочвай… адчуеш сцяжынку пад нагамі, падкажу табе, як змагу. Цераз балота пройдзеш, на выспу выйдзеш. Там шукай Вялесаў камень. Толькі верхавіна яго бачная пакуль, расці камень будзе на змену загубленаму. Там усё знойдзеш… Да забітага Вялеса-вялікага не хадзі… Нельга табе туды…

Ды як жа туды не пойдзеш, да Вялеса-вялікага, калі Сава яе на тым будаўніцтве памагатым у самога Кузьмы? Хто ж яму абед прынясе? Вось лета адпрацуе, Кузьма яго ў майстры возьме. Сягоння шмат (ой, як шмат!) з каменя будуюць. То ўсё ж не на адной палосцы пяццю душамі сядзець, сягоння будаўнікам і плацяць шмат, жоўтай манетай плацяць.

Будуюць… На ўсе іхнія месцы звозяць камяні, капаюць зямлю. І дамы высачэзныя будуюць, а за тым будаўніцтвам наглядаюць чорныя людзі, у чорным адзенні, твары хаваюць. Усё менш паветра ім застаецца, усё глыбей у лес сыходзяць… У акрузе ўжо трэці Вялесаў камень пад зямлю закапалі…

Іхні камень, Вялес-вялікі, спачатку палілі. Цэлы тыдзень, а за гэты час шэсць бочак на дзвесце вёдраў прывезлі. Бочкі паднялі на насцілы, запоўнілі вадой. І калі напалілі добра Вялес-вялікі, тады і лінулі ваду з усіх бочак. Кажуць, такі разлік у чорнага манаха быў: ад полымя і вады камень расколецца на мноства аскепкаў, іх і ўкладуць у сцены кляштара.

Ды толькі ад Вялеса-вялікага ірвануўся ўверх слуп пары, нібы люта выдыхнуў раз’юшаны бог. Ды і не толькі выдыхнуў – плюнуў адным вялізным аскепкам, ды так, што семярых мужыкоў разам з перакуленай бочкай тым аскепкам знесла з насцілу далёка на пыльны пляц, а старэйшага дык і накрыла гарачым каменем, расплюшчыла.

Толькі адзін той аскепак і аддаў Вялес-вялікі. Пасля гэтага было вырашана капаць пад камень, каб ён сышоў у зямлю і стаў асновай пад кут кляштара.

… Агапка бегла па лесе, потым цераз балота, нібы трымалася за нябачную нітачку – не зманіла Дарэна, вяла скрозь гушчар. Вада ў балоце халаднечая, ды толькі нагам босым холадна – Агапцы горача. Пабачыла ўжо запаветны астравок, сэрцам адчула: ён гэта. Ступіла на цвёрдую зямлю – і зноў як абліло яе чым, адчула незвычайную хвалю магутнай сілы. Упала на калені, схіліла галаву. Так, на голых каленах, падабраўшы падол сукенкі, дайшла да замшэлага валуна. Асцярожна, як колкую ці гарачую, пагладзіла яго шурпатую верхавіну. Рука трымцела.

І адгукнуўся камень жывой цеплынёй і, здалося, лёгкай дрыготкай. Прызнаў… На камені ўбачыла валасяны шнурок і крыж на ім: вялікі, гліняны, з роўнымі кутамі, так зроблены, што нібыта гэта проста кружок быў з чатырма невялікімі прасечкамі. Ведала – няпросты крыж, у ім ад чужых вачэй схаваны пад абпаленай глінай знак Жывы. Начапіла на шыю, пачакала. Нічога не здарылася.

І заспяшалася той жа сцяжынкай назад.

Ужо калі адышла ад Перуновага дуба, раптам адчула: на яе глядзяць. Позірк злы, ліхі. Так звер не глядзіць. І чалавек просты не зможа так глядзець: каб нельга было пазнаць, з якога боку ідзе позірк. Толькі яны могуць так, толькі з Цемры… Скура Агапкі ўраз пакрылася дробнымі пухіркамі – уся як ёсць, і на галаве скура сцягнулася. Аднак успомніла словы Дарэны: “Толькі ты чуеш. Пакажаш ім, што чуеш – яны цябе будуць ведаць. А будуць ведаць – загубяць. Сягоння за імі сіла і ўлада”.

Сабрала ўсю сваю волю маладая жанчына, усміхнулася і пайшла бесклапотна па сцяжынцы, хоць той позірк лютасцю паліў патыліцу.

2

– Ах ты, сучын сын! Ізноў, ізноў яйкі тухлыя!

Кузьма страшны, калі ўзлуецца. А сярдуе ён часта, ды не столькі на вучняў, якія сярэдзіну сцяны выкладваюць, а больш на падсобнікаў: то раствор вадкі зробяць, то тухлых яек у яго наб’юць – хоць нос затыкай, робячы кладку.

Кузьма – мужык у плячах шырачэнны, росту ў ім на тры аршыны – схапіў жыда, які прывёз яйкі на фурманцы, узняў перад сабой. У таго вочы вылуплівацца сталі, налівацца крывёй...

– Адпусці.

Чорны манах, які цалюткі дзень стаіць у куце, распарадзіўся нягучна, а ў Кузьмы адразу аслаблі рукі.

Жыд выслізнуў і хутка апынуўся па другі бок фурманкі:

– Дзе тухлыя? Дзе тухлыя? Бабы тваім падсобнікам на абед тухлыя нясуць, а мае свежыя бяруць!

– Заб’ю нехрысця, – ціха прыстрашыў Кузьма і дадаў строга, ужо гучна: – Сам прасачу! Хоць адно са смуродам будзе – салам пысу намажу.

Зарагаталі рабочыя і падсобнікі. Разгрузілі лазовыя кашы з яйкамі, жыд крутануўся да манаха – атрымаць грошы. Той кінуў яму да ног кашалёк, сам не зварухнуўся, нават руху рукі з-пад складак адзення не было відаць.

Кузьма злы на працы, але за гэта на яго не крыўдуюць: адпачыць не дасць, але і заробак будзе добры. Бач, як сцяна хутка расце – ужо ў палову росту Савы паднялася. Сава стаіць побач з Кузьмой, але не падсобнікам – сам кладзе, хай і знутры пакуль. На вонкавым баку кладзе Кузьма і яго спадручнік Цімафей.

Цімафей з прышлых. Колькі гадоў таму спыніўся тут, пры замку князя, майстраваў, а вось распарадзіўся найяснейшы ставіць кляштар з касцёлам – апынуўся здольным муляром. Толькі пануры вельмі. Жонкі ў яго няма, абед з сабой бярэ сам, есць адзін убаку. А чаго цурацца, калі абед – самая вясёлая справа! Як толькі ў замку звон адаб’е, бабы прыходзяць з вярэнькамі. Збяруцца ўсе вакол, ядуць разам, як з аднаго стала.

Агапка прыбегла ўся запыханая, хустка нават збілася трошкі на бок.

– Ну, і чаго ж спяшалася так? – спагадліва спытаў Сава, любуючыся маладой жонкай.

Ды і як ёй не любавацца: сярод іншых яна адна ззяе вачыма, ніколі не хмурыцца, хада ў яе хуткая, але плаўная, і сукенка на ёй з адбеленага палатна без адзінай плямкі, быццам толькі мытае надзела.

– Ягадак па лесе шукала. Нібыта і час ужо, а ўсё яшчэ зялёныя, – адказала Агапка, ласкава зазірнула ў вочы, а потым трошкі збянтэжана раскрыла далонь – там свяцілася некалькі спелых суніцаў.

Сава захапіў вуснамі прахалодныя (вось дзівосна!) ягады з жончынай далонькі, расціснуў языком, каб смак па ўсім роце разліўся… І раптам адчуў, як здрыганулася далонь жонкі, як сама яна ў момант напялася.

– Ты чаго? – агаломшана спытаў Сава. – Я ж не кусаюся, – паспрабаваў пажартаваць.

А Агапка стаяла, замёршы, гледзячы ў адну кропку – на манаха. І той, нібы скамянеўшы, пазіраў на яе, а потым развярнуўся і пайшоў шырокай хадой ў бок касцёла – там сцены ўжо пад дах падвялі.

– Ты чаго, Агапка, – устрывожыўся Сава, бачачы чужы, такі дзіўны позірк жонкі.

– А… не, нічога, – нібы апамяталася яна. – Так, здалося, – адказала з вымучанай усмешкай.

Боль у галаве звінеў звонам, раздзірала віскі. “Пазнаў, пазнаў…” – білася думка, а крыж Дарэны на грудзях раптам стаў цёплым, потым – гарачым, і пацякла, пацякла ад яго па ўсім целе цеплыня, вяртаючы яму супакой і сілу.

3

– Расколіна!

Кузьма здрыгануўся, кінуўся на крык, адштурхнуў падсобніка. І застыў перад сцяной з цаглінай у адной руцэ, сціскаючы яе так моцна, нібы хацеў выціснуць ваду. Потым ашалела шпурнуў цагліну пад ногі.

Усе сабраліся вакол, глядзелі на расколіну, якая бегла ад самага нізу і так шырока ўверсе разыходзілася, што скрозь яе праглядаўся сад.

– Разбіраць трэба.

– Эх-х-х… – адчайна выдыхнуў Кузьма. – Ды як жа гэта? Я ж сам тут клаў!

– Чортаў камень дыхае, – выдыхнуў хтосьці з круга. – Імшу трэба.

– Свае крывыя рукі няма чаго на чорта перакладаць, – уладна прагучаў голас.

Перад манахам расступіліся.

– Мы ж сярод святога месца стаім, а ты чорта памінаеш! – адгыркнуўся на яго Кузьма.

Манах нічога не адказаў. Падышоў, крануў сценку, і тая раптам падалася – усе бачылі! Падалася пад яго рукой, варухнулася.

Адхіліліся ўсе ўраз.

– Развальвай, – загадаў манах.

Маркотна разбіралі сценку. Цімафей падышоў да Кузьмы і стаў казаць, гледзячы ў зямлю:

– Не дасць Чортаў камень сцяне стаяць. Жывы ён…

– Сам ведаю, – буркнуў Кузьма. – Казаў ужо, яшчэ як аскепкам нашых пабіла: мала будзе адной службы.

– Службай не дапаможаш.

– Дык што?

– Сам ведаеш. Ахвяра трэба… Як дзяды рабілі.

Кузьма замоўк, глядзеў, як разбіраюць сцяну.

– Пабачым. Можа, уляжацца камень…

З таго дня весялосці на будаўніцтве не стала. Хутка, зладжана працавалі ўсе, падганяць нікога не трэба было. Штораніцы спяшаліся ўсе сцены абысці, асабліва ўважліва Кузьма аглядаў той кут, пад якім ляжаў Чортаў камень. Сцяна трымалася. Вывелі ўжо да вокнаў, паставілі апалубку пад іх.

Чакалі князя – абяцаўся быць, асабіста пераканацца, што будаўніцтва пачатае, што вылучаныя грошы выдаткоўваюцца спраўна.

У тую раніцу сонца на ўсходзе скрозь аблокі крывавілася мутнай плямай, доўга не выходзіла. І потым свяціла нібы скрозь заслону.

Князь з’явіўся бліжэй да абеду.

Замерлі ўсе перад кляштарам, знялі шапкі. Князь са сваёй світай спачатку зазірнуў у касцёл, і, відаць, застаўся задаволены: выйшаў з усмешкай. Зверху, з горкі ад касцёла, агледзеў сцены кляштара. І раптам яго вочы звузіліся, ноздры сталі раздзімацца:

– А гэта што?!

Не паказаў нікуды, але ўсе галовы ўмомант павярнуліся да аднае кропкі – туды, да таго кута, што стаяў на Чортавым камені. Там дрыжала, хісталася каменная сцяна, быццам была з саломы.

І павалілася.

Князь у лютасці няспешна павярнуўся і працадзіў:

– На дыбу адпраўлю! Усіх! Усіх!

Калі пыл улёгся, увайшлі ўсярэдзіну кляштара.

– Разбірай, – загадаў Кузьма, а сам, убачыўшы знак, пацягнуў за сабой Цімафея: – Пайшлі, манах кліча.

Манах стаяў на горцы і, здаецца, нікуды не сыходзіў, нават калі князь тут быў.

– Што далей?

– Мы ведаем, што далей, – гледзячы на ногі манаха, загаварыў Цімафей. – Ты толькі нам не перашкаджай. Ахвяра будзе.

– Імшу трэба бы, – заўпарціўся Кузьма. – Гэта ж для вашага бога храм будуем, для служак яго… А потым ужо…

– А гэты бог – не твой? – раптам зладзеявата спытаў манах. – Калі служыць, я ведаю. Хай пакуль табе твой дапамагае. Рабіце па-свойму.

Кузьма здрыгануўся, адхіліўся ад манаха:

– Ды хрышчоны я, і бацька хрышчоны быў, і крыж на мне…

– Ведаю, ідзі, – загадаў манах, і Кузьма цяжка павярнуўся і пайшоў да рабочых.

Цімафей стаяў, не пачуўшы дазволу ісці. Манах працягнуў яму руку са складак рызы:

– Вазьмі.

У далонь Цімафея лёг невялікі нож з драўлянай ручкай. Лязо авальнае, з чорнага жалеза, кароткае зусім, шырокае і тоўстае. Але вострае на канцы. А ручка абвязаная тонкай дзіўнаватай аборкай. Цімафей узяўся за ручку і задрыжэў, нечакана зразумеўшы, што абор-

ка тая на ручцы – чалавечыя жылы, а нож зусім не просты. Захваляваўся – такі давер яму аказвалі ўпершыню.

– Узгадвай, чаму навучаны… Ідзі!

4

– А можа, гэта таму, што камень вялікі вельмі, ніяк не ўляжацца ў зямлі? Цяжкі ён вельмі, а там, пад ім, як капалі, – пясочак увесь беленькі, чысты-чысты і мяккі зусім, – нясмела казаў Сава Кузьме, калі пасля разбору разбуранай сцяны яны прыселі ўдвух.

Усе ўжо разышліся, каб назаўтра пачаць ізноў: велізарны пралом выглядаў выродліва ва ўжо ўзведзеных сценах кляштара.

– Не дасць Вялес з сябе здзекавацца, – задуменна адказаў Кузьма. – Ахвяры патрабуе.

– Які Вялес? – здзівіўся Сава. – Мы ж пра чортаў камень кажам, хіба не?

Кузьма спадылба зірнуў у той бок, дзе днём стаяў манах. Цяпер там нікога не было, і ён ціха загаварыў:

– Гэта для іх вось, для чужынцаў, камень – чортаў. А мне маці казала, што бог наш, свой, якога Вялесам клічуць, камяні гэтыя нам пакінуў. Пярун на яго за гэта пакрыўдзіўся, бо камяні гэтыя дапамогай нам былі, і сіла ў іх наша. А Вялес нас ад Перуна абараняў, вучыў хлеб гадаваць ды жывёлу разводзіць. Гэтыя, што нам пра Хрыста кажуць, яго чортам назвалі. Кажуць, што, па-іхняму, чорта гэтага таксама іх бог з неба скінуў. Дык няхай будзе чорт, толькі наш ён… Вынішчыць яны камяні хочуць, колькі я ўжо будую – усё на камянях Вялесавых намагаюцца свае храмы паставіць.

– Дык што, наш бог – гэта не гэты, ці што? – Сава асцярожна крануў нацельны крыжык на аборцы.

– Не ведаю я, – узлаваўся незразумела чаму Кузьма. – Мы вунь колькі гадоў са сваімі багамі жылі – і нічога, дажылі ж да гэтага дня.

– А якой ахвяры… Вялес гэты патрабуе? – асцярожна спытаў Сава.

– Заўтра і вырашым, – адказаў Кузьма, падняўся цяжка, азірнуўся на сцяну. – Хай ты ляснешся…

Работу пачалі, а манаха ніхто не ўбачыў. Усім гэта падалося добрым знакам. І адчувалі ўсе рабочыя і падсобнікі, што справа сёння будзе асаблівая – Кузьма не дае загаду ўзводзіць паваленую сценку, усё займае рабочых дробяззю: камяні чысцілі, цагліны перабіралі, пясок сеялі. Толькі адзін Цімафей працаваў ля той сценкі. Адзін, нікога не клікаў, адно камяні яму падносілі ды ля ног клалі, раствор мясілі. Цімафей працаваў хутка, ліхаманкава нават, выкладваў камяні і, здавалася, шаптаў нешта сам сабе, сплёўваючы ў сярэдзіну сцяны. Спыніўся, быццам зрабіў тое, што хацеў, падышоў да рабочых.

– Слухай сюды, – пачаў Цімафей, стаў у кола. – Чортаў камень не дасць сценцы стаяць. Таму што няправільна мы, не па-дзедаўску будаваць пачалі. Ахвяру не прынеслі. Таму ахвяру трэба. Вялікую. Віну загладзіць.

Усё адчулі незвычайнасць і важнасць таго, што казаў Цімафей, толькі адно было дзіўным: не Кузьма, а Цімафей стаў камандаваць.

– Тут трэба вала, казлом не абысціся, мабыць, – выказаў хтосьці думку ўслых.

Цімафей бліснуў вачамі:

– Пустымі словамі вушы не закладвай. Чалавечая ахвяра будзе.

Кола рабочых здрыганулася і заціхла. Чуць усе чулі і ведалі, што такая ахвяра бывае. Ды і між сабой гэтай раніцай шапталіся пра такую ахвяру. Як па камандзе павярнулі галавы да той сценкі і ўбачылі, што сценку Цімафей выклаў полай – акурат чалавеку легчы ў яе…

Кузьма маўчаў, глядзеў проста перад сабой і нічога не казаў. Калі прыглушаны шэпт рабочых сцішыўся, ён ступіў у кола і, зноў ні на каго і адначасова на ўсіх гледзячы, прагаварыў:

– Цімафей справу кажа. Чалавечую ахвяру трэба. Выпадак хай вырашае… Як некалі рабілі. Якая першая жанчына сюды за сцяну увойдзе – той і быць у Вялеса ў жонках.

Ні ў кога на твары не здрыганулася жылка: усе разумелі – трэба. Не стаяць сцяне без ахвяры.

– А цяпер – усе ў кут: адысці і сядзець там. Чакаць будзем! Ды глядзіце мне! Калі што не так – самога пакладу! – азвярэла раптам закрычаў Кузьма, і ад яго крыку адступіліся ў кут, насупраць таго, на Чортавым камені, прыселі.

Саву дробна трэсла, на душы стала холадна і пуста-пуста. Ён хацеў спытаць у Кузьмы, але маўчаў, як самы малодшы. Нядобра яму ў старэйшага ва усіх навідавоку пытацца пра такое. А так… так спытаў бы Сава: што жа гэта за бог такі, за памочнік, калі чалавечае жыццё, ды яшчэ жанчыны, патрабуе з-за нейкай каменнай сцяны?

У замку ўжо адбіў звон, а жанчын не было відаць. Кузьма нервова паглядваў на дзвярны праём у сцяне кляштара і не разумеў, чаму сёння позняцца жанчыны.

5

Ад раніцы было вусцішна і холадна. І сонейка свяціць не хацела, і адзежа не грэла. Агапку часам дробна трэсла, і яна прыпынялася тады, прыслухоўвалася да сабе. Усё валілася з рук, ніяк даць рады сабе не магла. Сабрала абед мужу і прысела на лаве: чакала звону з замка.

Стукнуў звон – лёгка падхапілася і тут жа прысела, войкнула: усярэдзіне варухнулася так выразна, так соладка.

Паднесла свае рукі да жывата, як да гарачага, прыціснула лёгка і замерла, у замілаванні чакаючы яшчэ хоць аднаго руху. Няўжо? Няўжо злітавалася Жыва пасля двух гадоў малення? Пачула багіня малітвы…

І ў жываце варухнулася, далікатна так, а затым амаль забілася, трывожна, настойліва, нібы дзіця, якое зарадзілася, ужо цяпер прасілася вонкі.

“Пачакай, пачакай, міленькі”, – ласкава прашаптала Агапка ў думках, а сэрца абвалакло шчасцем і незразумелай трывогай. Зірнула на вуліцу – ніхто з жанчын не спяшаўся да кляштара.

“Ды гэта ж я зазабілася сабой, прапусціла…”

Паднялася асцярожна і пайшла пустой вуліцай, заспяшалася: і наперадзе баб з вярэнькамі не відаць, што ж гэта яна так доўга праседзела, за жывот трымаючыся? Выйшла ў канец вуліцы, тут сустрэла задыханага хлопчыка.

– Куды бегаў, жэўжык, ці ўсюды паспеў? – спытала гарэзліва.

Той нечакана збянтэжыўся, апусціў вочы долу, мацней сціснуў свой кулачок, у якім, заўважыла Агапка, была манета, сапраўдная.

– Па справе бегаў, вось, – важна адказаў хлопчык. – Нельга табе казаць, па якой. Усім бабам можна, а табе нельга. Манах мне загадаў…

І пабег, адначасова поўны гонару ад выканання такога важнага задання, і шчаслівы ад атрыманых грошай, і з лёгкай прыкрасцю ад таго, што нельга было пахваліцца перад жанчынай, менавіта перад гэтай жанчынай, што ж яму загадаў манах.

Раптам ізноў дзіця варухнулася ў жываце. Нібы просячыся. Ці спыняючы яе, Агапку.

“Ну чаго ты, чаго ты, маленькі…” – казала Агапка, асцярожна пагладжваючы жывот, а сама жыла тым момантам, калі скажа Савушку, што яна панесла…

Вось і пагорак, з якога ў неба пакрысе ўздымаюцца сцены касцёла і кляштара.

– Агапушка!

Сава рвануўся, ды нечыя дужыя рукі схапілі яго, не далі падбегчы да жонкі, якая з’явілася ў праходзе.

І не хаваючы надта радасці – іх жанок абмінула такая доля – астатнія акружылі Агапку, схапілі за рукі.

І тут каля касцёла з’явіўся манах.

– Вядзі яе! – ліхаманкава бліскаючы вачамі, загадаў Цімафей, а ў яго руках апынулася тонкая вяроўка.

– Прабач, дзеванька… – ціха прашаптаў Агапцы Кузьма, трымаючы яе за локаць.

Агапка быццам змярцвела, толькі вочы яе свяціліся ліхаманкавым агнём, а твар стаў амаль шэрым. Ды дыхала часта і глыбока, быццам ёй не хапала паветра. Яна ўзняла павольна руку да шыі – Кузьма даў тое зрабіць – прасунула руку ў выраз сарочкі, стала церці грудзі. Калі потым яе рука бязвольна ўпала ўніз, Кузьма адчуў, як нешта гарачае каўзанулася міма яго нагі,

упала на пясок. Ён, падпарадкаваны незразумела адкуль узнікламу памкненню, наступіў на тое, нават не бачачы яго, адчуў нясцерпна гарачую цвёрдасць пад нагой, пасунуў далей, углыб пяску, хоць пякло нясцерпна – бо нешта казала яму, што гэта трэба схаваць, ад усіх і кожнага, схаваць абавязкова…

Сава біўся, а потым абвяў, асунуўся і моўчкі глядзеў, як вялі яго маладую жонку да сцяны.

6

Ля пралому Цімафей з сілай заламаў Агапцы рукі назад і звязаў іх. Потым прысеў, выскаліўся і, знізу ўверх гледзячы на застылы твар жанчыны, звязаў ёй і ногі.

– Не крычы толькі, бо кляп засуну… – І ўладна загадаў астатнім: – Адыдзіце!

Усё адбеглі ад Цімафея, ад звязанай Агапкі, незразумела чаму выціраючы рукі. Цімафей лёгка падхапіў жанчыну на рукі, падняў і, шэпчучы нешта хутка-хутка, паклаў у прыгатаваную для яе каменную нішу.

І спешна запрацаваў рукамі, укладваючы камяні.

Агапка не прамовіла ні гуку.

Перад тым, як укласці апошнія вялікія камяні, якія б закрылі навек ад Божага святла твар жанчыны, Цімафей зладзеявата азірнуўся на рабочых – за ім ніхто не назіраў, скасіў вочы на манаха – і той нібыта не глядзеў у яго бок. Цімафей выцягнуў з-за пояса нож з чорным лязом, прасунуў руку ў нішу, крануўся грудзей жанчыны. І не стрымаўся, выцягнуў нож, перахапіў яго левай рукой, а правай стаў таропка хапаць, шчыпаць, ціскаць пругкія дзявочыя грудзі. Яго вялікі крывы рот расцягнуўся ў звыродлівым юрлівым выскале. З цяжкасцю прымусіў сябе спыніцца, узяў нож і, як вучыў яго напярэдадні манах з заплюшчанымі вачыма, так цяпер, не бачачы, упэўнена стаў вадзіць вострым чорным лязом па голых грудзях, малюючы незразумелы яму знак, накшталт простага крыжа з загнутымі канцамі. Асцярожна націскаў, каб нож толькі надразаў скуру, каб плаўна і роўна ішоў...

– Не ўстаць табе, не падняцца, Малуша!

І толькі цяпер Агапка коратка тузанулася і застыла: яе сапраўднага, радавога імя ніхто не павінен быў ведаць, нельга было прамаўляць яго ўслых. Ведала, ведала бабка Дарэна, што смерць Малушына тут, ля Вялеса-вялікага, ды як жа яе пазбегнуць было, як схавацца ад Цемры, калі паўсюль яна ставіць свае крыжы!

Цімафей выняў з нішы руку з нажом, ужо за каменем пацягнуўся, зіркаючы спадылба на манаха, што застыў ля касцёла, і раптам апамятаўся, замітусіўся, ізноў руку саўгануў да дзявоцкіх грудзей, мацаў там, хлюпаючы ў крыві, скроб каравымі пальцамі вакол шыі, засоўваў руку далёка наперад, да жывата і ўнізе пад шыяй мацаў. Не знайшоў нічога, роспачна зірнуў на манаха і, адгадаўшы толькі яму вядомы знак, прычыніў каменем твар Агапкі.

– Павек табе не спаць, Малуша, наш дом пільнаваць…

І стаў класці цагліны і камяні хутка, нервуючыся, нібы баяўся, што вось устане Малуша, камяні раскідаюцца і паляцяць уніз, разам з Цімафеем, і ўнізе яны яго пахаваюць...

Нечакана для ўсіх чорны манах спусціўся ад касцёла да рабочых і сцісла загадаў:

– Пайшлі прэч усе. Хопіць на сёння.

Кінуліся ўсе да выхаду, подбегам. Толькі Кузьма марудна пацягнуў за сабой абмяклага Саву.

Калі і яны вышлі за сцены, манах пачакаў, пакуль падыдзе Цімафей, працягнуў руку відавочна за нажом:

– На ўлонні напісаў?

Цімафей раптоўна змяк, зваліўся на калені, працягваючы чорны нож манаху:

– Не ўгнявіся, запамятаваў, першы ж раз, клянуся, зусім запамятаваў…

– Дурніца! Бабскія вабноты розум аднялі… Крыж не ўпільнаваў, аб улонні, якое дзіця носіць, забыўся!

І раптоўна, без усякага размаху, шмаргануў сваім кароткім нажом пад барадой Цімафея. Калі той зваліўся тварам да зямлі, храпучы і сціскаючы сваё горла, адкуль біла фантанам цёмная кроў, манах пераступіў яго, падышоў да сцяны, дзе ў нішы была замураваная Малуша.

– І апошні ўпадзе як першы! Чуеш, дзеўка! Упадзе!



## АСІНАЯ ФАБРЫКА

*(Працяг, пачатак у Макулатуры 2)*

**4: Бомбавае Колца**

Часта я думаў пра сябе як пра дзяржаву, краіну ці, прынамсі, горад. Мне здавалася, што, калі я часам выкарыстоўваў розныя падыходы да ідэй, учынкаў і да таго падобнага, гэта было падобна да палітычных настрояў, якія зьмяняюць адзін аднаго ў краіне. Я заўсёды лічыў, што людзі галасуюць за новы ўрад не таму, што на самой справе згодныя зь яго палітыкай, а таму, што хочуць пераменаў. Яны чамусьці думаюць, што пры новым урадзе ўсё будзе лепей. Так, людзі дурныя, але іх меркаваньне заснавана хутчэй на настроі, прыхамаці й атмасфэры, чым на старанна прадуманых аргумэнтах. Я адчуваю падобныя працэсы ва ўласнай галаве. Іншы раз думкі й пачуцьці, якія ў мяне ўзьнікалі, не супадалі адно з адным, і я вырашыў, што ўнутры майго мозга сядзіць шмат розных людзей.

Напрыклад, частка мяне заўсёды пакутавала праз забойства Блайта, Пола й Эсмэральды. Цяпер тая ж частка адчувае віну за помсту нявінным трусам праз аднаго самца-мярзотніка. Але я параўноўваю гэтую частку мяне з апазыцыяй у парлямэнце альбо з крытычна настроенымі газэтамі: дзейнічаюць як сумленьне й тормаз, але ня маюць улады й малаверагодна, што калі-небудзь яе атрымаюць. Другая частка мяне – расіст, верагодна, таму, што я амаль не сустракаў каляровых і мае веды пра іх грунтуюцца на газэтах і тэлебачаньні, дзе пра чорных заўсёды

кажуць у множным ліку й яны вінаватыя датуль, пакуль не даказана адваротнае. Гэтая частка мяне па-ранейшаму даволі моцная, хаця, вядома ж, я ведаю пра адсутнасьць лягічнага тлумачэньня расавай нянавісьці. Калі я сустракаю каляровых у Портнэйле, якія купляюць сувэніры ці спыніліся перакусіць, я спадзяюся, што яны спытаюцца ў мяне пра што-небудзь, і я змагу праявіць усю сваю ветлівасьць, даказаць перавагу свайго інтэлекту над грубымі інстынктамі й пладамі выхаваньня.

Зрэшты, гэта лішні раз пацьвярджае, што помсьціць трусам не было неабходнасьці. Яе ніколі няма, нават у вялікім сьвеце. Па-мойму, помста людзям, якія толькі ўскосна ці ў сілу абставінаў зьвязаныя са злыднямі, скіравана толькі на тое, каб прынесьці радасьць мсьціўцу. Тое ж і са сьмяротным пакараньнем: справа ж ня ў тым, каб іншым непанадна было, ці таму падобны нонсэнс, – а ў тым, каб атрымаць задавальненьне самому.

Ва ўсялякім разе, трусы ня будуць ведаць, што гэта Фрэнк Колдхэйм зрабіў зь імі тое, што ён зрабіў; у людзей жа ўсё інакш, яны добра разумеюць, што стварылі зь імі злодзеі, і ў выніку помста мае эфэкт, строга адваротны чаканаму: яна ня столькі падаўляе супраціў, колькі яго стымулюе. У скрайнім выпадку, я прызнаю, што ўсё гэта было зроблена дзеля падтрымкі майго эга, аднаўленьня гонару й атрыманьня задавальненьня, а не каб ўратаваць краіну, аднавіць справядлівасьць ці ўшанаваць памерлых.

Такім чынам, нейкая частка мяне глядзела на цырамонію прысваеньня імені катапульце са зьдзіўленьнем і нават пагардай. Інтэлектуалы краіны ўнутры маёй галавы нібыта іранічна пасьмейваліся над рэлігіяй, але не маглі адмаўляць таго ўплыву, які яна мела на народныя масы. У ходзе цырамоніі я размазаў серку з вушэй, соплі, кроў, мачу, пух з пупка й пазногцевы тваражок па мэтале, гуме ды плястыку новай катапульты, затым правёў яе баявое хрышчэньне халастым стрэлам па бяскрылай асе, якая поўзала па цыферблаце Фабрыкі, і напрыканцы стрэліў сабе ў босую нагу, пасадзіўшы сіняк.

Нейкія часткі мяне лічылі, што ўсё гэта ня мае сэнсу, але яны былі ў абсалютнай меншасьці. Большасьць жа была ўпэўнена – гэта працуе. Так я чарпаю сілы, зьліваюся з тым, што мне належыць і дзе я знаходжуся. Праз гэта я адчуваю сябе выдатна.

У адным з альбомаў, якія я трымаю на гарышчы, я адшукаў фатаграфію Пола ў дзяцінстве й пасля цырамоніі напісаў імя новай катапульты на адваротным баку фатаграфіі, абгарнуў яе вакол жалязякі й замацаваў кавалачкам ізастужкі, потым спусьціўся з паддашка ды выйшаў з хаты ў халодную імжу новага дня.

Я рушыў да патрэсканага канца стапеля на паўночным канцы выспы. Расьцягнуў гуму катапульты амаль да максымуму й паслаў снарад з фатаграфіяй над морам. Усплёску я не пачуў.

Катапульце нішто не пагражае, пакуль ніхто ня ведае яе імя. Канешне, Чорнаму Разбуральніку гэта не дапамагло, але ён памёр праз маю памылку, а мая моц настолькі вялікая, што, калі я памыляюся (такое рэдка, але ўсё ж здараецца), нават рэчы, якім я забясьпечыў самую магутную абарону, становяцца ўразьлівымі. І зноўку ў маёй галаве-дзяржаве ўзьнялося гнеўнае абурэньне з нагоды памылкі й рашучасьць прадухіліць яе паўтарэньне. Гэта як пакараць альбо расстраляць генэрала, які прайграў бітву ці адступіў з важнай тэрыторыі.

Карацей, я зрабіў для абароны катапульты ўсё, што мог, і хаця мне й было шкада, што здарэньне на Трусіных Угодзьдзях каштавала мне зброі, якой я давяраў, якая пабывала са мной у шматлікіх бітвах (ня кажучы ўжо пра значную суму зь Бюджэту Абароны), я вырашыў, мо яно й да лепшага. Частка мяне, якая дапусьціла памылку з трусам, дазволіўшы яму на імгненьне атрымаць нада мной верх, можа па-ранейшаму быць недзе блізка, нават калі падрабязны самааналіз не знайшоў яе. Некампэтэнтны ці няздатны генэрал быў адпраўлены ў адстаўку. Вяртаньне Эрыка можа запатрабаваць ад мяне максымальнай эфэктыўнасьці, рэакцыі й сілы.

Было яшчэ вельмі рана, і хаця туман ды імжа павінны былі прымусіць мяне адчуць сябе разьмяклым, пасьля цырамоніі я быў у добрым настроі, упэўнены ў сабе.

Мне хацелася Прабежкі, таму я пакінуў швэдар каля Слупа, ля якога я быў, калі Дыгз прынёс навіны, шчыльна заткнуў катапульту між штанамі й рэмнем. Туга завязаў чаравікі, праверыўшы перад гэтым, ці не пакамечаныя шкарпэткі, потым павольна патрухаў па ўчастку цьвёрдага пяску між лініямі багавіньня, пакінутага прылівам. Маленькі дождж пачынаўся

й спыняўся, чырвоны й невыразны дыск сонца часам быў бачны скрозь туман ды аблокі. Я павярнуў у напрамку слабога паўночнага ветру. Спакваля паскараўся, уваходзіў у рытм лёгкага бегу з шырокім крокам, які прымусіў мае лёгкія правільна працаваць і падрыхтаваў мае ногі да больш сур'ёзнай нагрузкі. Мае рукі са сьціснутымі кулакамі рухаліся ў плаўным рытме, пасылаючы наперад спачатку кулак, потым супрацьлеглае яму плячо. Я глыбока ўцягваў паветра, адштурхоўваючыся ад пяску. Дабегшы да ўчастка, дзе рака распадалася на дробныя рукавы й струменілася па пяску, я зьмяніў рытм бегу, каб лёгка пераскочыць цераз асобныя рукавы. Адолеўшы апошні, я апусьціў галаву й павялічыў хуткасьць. Мая галава ды кулакі таранілі паветра, ногі згіналіся, ляцелі, абапіраючыся й адштурхоўваючыся.

Паветра хвастала, рэдкія парывы кропель дажджу паколвалі, разьбіваючыся аб мяне. Лёгкія разьдзімаліся, сьціскаліся, разьдзімаліся, сьціскаліся; фантаны мокрага пяску ляцелі з-пад падэшваў, паднімаючыся й падаючы на ранейшае месца, а я працягваў бегчы. Я падняў твар і закінуў галаву назад, падставіўшы шыю ветру – як палюбоўнік, дажджу – як ахвяра. Дыханьне вырывалася са сьвістам, лёгкае галавакружэньне, якое я пачаў адчуваць празь лішкі кіслароду ў крыві, прайшло, калі мае мускулы ўзялі з крыві дадатковую сілу. Я павялічыў тэмп, зламаная лінія гнілога багавіньня, плаўніка, пустых бутэлек і бляшанак замільгала яшчэ хутчэй; я адчуваў сябе пацеркай на нітцы, якую цягнуць па паветры, так мяне нястрымна цягнулі горла, лёгкія й ногі, суцэльны згустак энэргіі. Я працягваў паскарэньне, пакуль мог; калі адчуў, што больш не магу, расслабіўся й вярнуўся да звычайнага хуткага бегу.

Я ірвануў цераз пяскі, выдмы зьлева ад мяне праплывалі міма, як трыбуны на іпадроме. Наперадзе было відаць Бомбавае Колца, дзе я спынюся або павярну. Я зноў нагнуў галаву й дадаў ходу, у думках лямантуючы нямым голасам, і бязгучны крык быў, нібы прэс, які няўмольна апускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, каб выцiснуць з маіх ног апошнія высілкі. Я ляцеў над пяском, корпус нахілены пад неймаверным вуглом, лёгкія гатовы разарвацца, ногі нібыта поршні.

Яшчэ імгненьне, і я рэзка сьцішыў ходу, пабег трушком, наблізіўся да Бомбавага Колца, паваліўся на пясок і замёр сярод камянёў, раскінуўшы рукі-ногі, цяжка дыхаючы, гледзячы ў шэрае неба й нябачную імжу. Мае грудзі ўздымаліся й ападалі, сэрца калацілася ўнутры сваёй клеткі. У вушах быў глухі роў, і ўсё маё цела паколвала ды гуло. Мускулы ног былі ў нейкай зьдзіўленай, дрыготкай напрузе. Я схіліў галаву набок, прытуліўся шчакою да прахалоднага мокрага пяску.

Цікава, як сябе адчувае прысьмертнік.

Бомбавае Колца, кульгавая нага майго бацькі й ягоны кій, верагодна, ягонае нежаданьне купіць мне матацыкл, сьвечкі ў чэрапе, легіёны мёртвых мышэй і хамякоў – усё гэта віна Агнэс, другой жонкі майго бацькі й маёй маці.

Маці сваёй я ня памятаю, таму што калі б і памятаў, я б ненавідзеў яе. А так я ненавіджу яе імя, саму думку аб ёй. Яна дазволіла Стоўвам забраць Эрыка ў Бэлфаст, падалей ад выспы, ад усяго, што ён ведаў. Яны меркавалі, што бацька – дрэнны выхавальнік, бо ён апранаў Эрыка ў дзявочую сукенку й ні ў чым яго не абмяжоўваў, а мая маці дазволіла ім зьвезьці яго, таму што не любіла дзяцей увогуле ды Эрыка ў прыватнасьці; яна лічыла, што ён нейкім чынам пагана ўплывае на ейную карму. Магчыма, тая ж нелюбоў да дзяцей падштурхнула яе пакінуць мяне адразу ж пасля нараджэньня й прымусіла вярнуцца ў той адзіны раз, калі адбылася фатальная падзея; калі яна, прынамсі часткова, стала віноўніцай маёй маленькай трагедыі. Ды й наогул, думаю, што ў мяне ёсьць сур'ёзная падстава ненавідзець яе. Я ляжаў тут, у Бомбавым Колцы, дзе забіў яе другога сына, і спадзяваўся, што яна таксама мёртвая.

Назад я бег лёгкім трухам, поўны энэргіі, і адчуваў сябе нават лепш, чым на пачатку Прабежкі. Я ўжо прадчуваў, як выберуся ўвечары ў горад – прапушчу піўка, пагутару з маім сябрам Джэймі, адцягнуся ў «Колдхэйм-армз» пад што-небудзь аглушальнае. Я зрабіў кароткі рывок, проста каб пакруціць галавой і вытрасьці з валасоў пясок, пасьля расслабіўся й перайшоў на павольны бег.

Камяні Бомбавага Колца звычайна наводзяць мяне на разважаньні, і гэты раз ня стаў выключэньнем, асабліва калі ўспомніць, як я ляжаў у позе раскрыжаванага Хрыста, адкрыты небу, летуценячы аб сьмерці. Ну, Пол памёр так хутка, як толькі магчыма; у той раз я бясспрэчна быў

гуманны. У Блайта было дастаткова часу зразумець, што адбываецца, пакуль ён скакаў па пяску Парка Зьмей, крычучы, як буйна памяшаны, а разьюшаная зьмяя бесперапынна кусала яго куксу; ды і маленькая Эсмэрэльда павінна была падазраваць, што зь ёй будзе, пакуль яе павольна зносіла ветрам.

Майму брату Полу было пяць гадоў, калі я яго забіў. Мне было восем. Пасьля таго як з дапамогай гадзюкі я пазбавіўся ад Блайта, прайшло два гады, перш чым надарыўся зручны выпадак супакоіць і Пола. Ня тое каб у мяне былі да яго прэтэнзіі, проста я ведаў – ён не павінен жыць. Я ніколі ня змог бы вызваліцца ад сабакі, пакуль Пол ня зьнік (Эрык, бедны, добры, кемлівы, але недасьведчаны Эрык думае, што я не вызваліўся ад яго дагэтуль, а я нават не магу яму расказаць, чаму ўпэўнены ў адваротным).

Пол і я йшлі ў паўночным напрамку ўздоўж узьбярэжжа ў ціхі, ясны восеньскі дзень, які ўсталяваўся пасьля лютага шторму мінулай ночы. Шторм сарваў кускі шыферу з даху нашага дома, вырваў некалькі дрэў ля старога авечніка й нават парваў адзін з кабеляў падвеснага моста. Бацька прыцягнуў Эрыка дапамагаць у рамонце, а я сышоў з Полам, каб не блытацца пад нагамі.

Мы заўсёды добра ладзілі з Полам. Магчыма, таму, што я з раньняга ўзросту ведаў: ён ненадоўга ў гэтым сьвеце, і таму стараўся па магчымасьці прыаздобіць адпушчаны яму час, ставіўся да яго значна лепш, чым большасьць хлапчукоў ставяцца да сваіх малодшых братоў.

Мы ўбачылі вялікія зьмены, зробленыя штормам, як толькі дайшлі да ракі, што пазначала канец выспы, – рака надзвычай раздулася, прарыўшы ў пяску велізарныя канавы, карычневыя струмені вады працягвалі вырываць кускі зь берагоў ды выносіць іх. Нам з Полам прыйшлося дайсьці амаль да мора пры адліве, перш чым мы здолелі перабрацца. Мы рушылі далей, я трымаў Пола за руку і ў душы маёй не было злачынных намераў. Пол сьпяваў сабе пад нос і задаваў пытаньні кшталту тых, якія звычайна задаюць дзеці, напрыклад, чаму ўсіх птушак ня зьнесла падчас шторму ды чаму мора не напоўнілася вадой да краёў, калі рака цячэ так хутка.

Мы нетаропка йшлі па пяску, спыняючыся паглядзець на цікавыя штукі, якія вымыла зь пяску; так паступова скончыўся пляж. Там, дзе раней пясок няспыннай залатой лініяй цягнуўся да гарызонту, зараз пачыналі праглядваць камяні, іх станавілася болей і болей, пакуль за выдмамі не адкрыўся суцэльны каменны бераг. За ноч штормам змыла ўвесь пясок ад ракі й далей мясьцін, назвы якіх я ведаў, далей тых, дзе я калі-небудзь быў. Выглядала гэта ўсё ўражліва, я спачатку нават трохі спалохаўся, надта ўжо вялікая зьмена ў выглядзе выспы. Але я ўзгадаў, як бацька расказваў, што ў мінулым такое ўжо здаралася, пясок заўсёды вяртаецца назад за некалькі тыдняў ці месяцаў.

Пол радасна бегаў, скакаў з каменя на камень і кідаў гальку ў лужыны паміж камянямі. Азярцы сярод каменьня былі для яго ў навіну. Мы рухаліся па спустошаным пляжы, знаходзячы цікавыя кавалкі плаўніка і ў рэшце рэшт прыйшлі да заржавелай штуковіны, якую здалёк я прыняў за цыстэрну для вады або напаўзасыпанае каноэ. Яна крыва тырчала зь пяску, узвышаючыся метра на паўтара. Пол спрабаваў злавіць рыбку ў лужыне, а я разглядаў знаходку.

Я зацікаўлена дакрануўся да тонкага цыліндра, адчуваючы ў ім нешта вельмі спакойнае й моцнае, хоць і ня ведаючы чаму. Потым я адступіў назад і зноў агледзеў цыліндр. Ягоная форма стала мне зразумелай, і я змог груба прыкінуць, якая частка цыліндра яшчэ пахавана ў пяску. Гэта была стаячая на хвасьце бомба.

Я асьцярожна вярнуўся да бомбы, стаў яе мякка пагладжваць, шэпчучы заспакойвальныя гукі. Яна была чырвоная ад іржы і чорная ад разлажэньня, пахла сырасьцю й адкідала конусападобную цень. Я пайшоў уздоўж лініі цені па пяску, праз камяні, ды ўткнуўся позіркам у малютку Пола – той шчасьліва плёскаўся ў лужыне й дубасіў па вадзе вялікім плоскім кавалкам дрэва памерам амаль зь яго самога. Я ўсьміхнуўся й паклікаў яго.

– Бачыш гэта? – спытаў я. Гэта было рытарычнае пытаньне. Пол кіўнуў, утаропіўшыся на мяне вялікімі вачыма. – Гэта звон. Такі, як у гарадзкой царкве. Гук, які мы чуем па нядзелях, ведаеш?

– Так. Адлазу пасьля сьняданку, Флэнк?

– Што?

– Звон адлазу пасьля нядзельнага сьняданку, Флэнк, – Пол зьлёгку ўдарыў мяне па калене сваёй пухлай ручкай.

– Правільна, – кіўнуў я. – Гэта званы б'юць. Такія вялікія пустыя ўнутры кускі мэталу, а ў іх сядзяць званы, і іх выпускаюць кожную нядзелю пасьля сьняданку. Вось што гэта такое.

– Сьняданак? – Пол паглядзеў на мяне зьнізу ўверх, моцна ссунуўшы бровы. Я цярпліва пахітаў галавой.

– Не, звон.

– З – гэта звон, – спакойна сказаў Пол, ківаючы, і ўтаропіўся на іржавы цыліндр, верагодна, згадаўшы старую азбуку. Пол быў кемлівым хлопчыкам; бацька зьбіраўся аддаць яго ў школу, калі прыйдзе час, і ўжо пачаў вучыць зь ім альфабэт.

– Правільна. Ну, мусіць, гэты звон зваліўся з карабля ці яго прынесла паводкай. Я ведаю, што мы зробім: я ўзьлезу на выдму, а ты ўдарыш па звону сваёй дзеравякай, і мы паглядзім, ці змагу я пачуць яго. Зробім так? Хочаш? Звон будзе вельмі гучны, і ты можаш спалохацца, – я нагнуўся, каб мой твар быў на адным узроўні з тварам Пола. Ён злосна патрос галавой і задраў нос.

– Не! Не спузаюся! – выкрыкнуў ён. – Я ... – ён ужо сабраўся абысьці мяне й бацнуць па бомбе кавалкам дрэва, ужо падняў яго над галавой і замахнуўся, калі я выцягнуў руку і абхапіў яго за талію.

– Не цяпер, – сказаў я. – Пачакай, пакуль я адыду далей. Гэта стары звон, і ў ім мог застацца толькі адзін добры гук. Ты ж ня хочаш патраціць яго марна?

Пол выкручваўся, выраз ягонага твару, здавалася, сьведчыў: ён ня супраць патраціць марна што заўгодна, калі пры гэтым ён ударыць звон сваім кавалкам дрэва.

– Добла, – сказаў ён і перастаў вырывацца. Я яго адпусьціў. – А мозна я стукну з усёй сілы?

– З усёй, з усёй – як толькі я махну вунь з той выдмы. Дамовіліся?

– Мозна мне патлэнілавацца?

– Трэніруйся на пяску.

– А на лузынах?

– Можна й на лужынах. Добрая думка.

– І на гэтай? – Ён паказаў дзеравякай на круглае азярцо вакол бомбы.

Я пакруціў галавой.

– Не, звон можа раззлавацца.

Ён нахмурыўся:

– Званы ўмеюць злавацца?

– А як жа. Усё, я пайшоў. Бі з усяе моцы, а я буду слухаць з усяе моцы, добра?

– Добла, Флэнк.

– Толькі ня бі, пакуль я не махну, абяцаеш?

– Абяцаю, – кіўнуў ён.

– Файна. Я мігам, – я павярнуўся й памалу пабег да выдмы. У сьпіне неяк дзіўна сьвярбела. На бягу я пэрыядычна азіраўся, ці няма каго паблізу. Нікога не было, толькі некалькі чаек кружыліся ў небе на фоне рэдкіх ускудлачаных аблокаў.

Калі я павярнуўся й зірнуў цераз плячо, я ўбачыў Пола. Ён усё яшчэ стаяў ля бомбы, трымаў палку абедзьвюма рукамі й што ёсьць моцы пляскаў ёю па пяску, падскокваючы й крычучы. Я паскорыў тэмп, пераскокваючы цераз камяні на цьвёрды пясок, церазь лінію прыліва – на сухі залацісты пясок, потым на траву бліжэйшай выдмы. Я ўскараскаўся на ейную верхавіну й зірнуў туды, дзе стаяў Пол, маленькая постаць на фоне люстэркаў лужын і вільготнага пяску, у цені нахіленага мэталічнага корпуса. Я пастаяў, пачакаў, пакуль ён заўважыць мяне, агледзеўся напрыканцы, памахаў высока паднятымі над галавой рукамі й упаў ніц.

Пакуль я ляжаў там і чакаў, да мяне раптам дайшло, што я не сказаў Полу, у якім месцы трэба біць па бомбе. Нічога не адбывалася, і багна адчаю засмоктвала мяне ўсё глыбей і глыбей. Я ўздыхнуў і прыўзьняў галаву.

Пол выглядаў, як маленечкая марыянетка, якая тузалася, скакала й размахвала рукамі, настойліва ляскаючы па баку бомбы. Скрозь шоргат ветру ў траве да мяне даносіўся яго радасны лямант. "Чорт", – сказаў я й падпёр рукой падбародзьдзе, і раптам Пол, мімаходам зірнуўшы ў мой бок, пачаў апрацоўваць насавую частку бомбы. Ён гакнуў па бомбе, я прыбраў руку з-пад падбародзьдзя, хацеў было прыгнуцца, калі Пол, бомба, маленькае азярцо вакол яе ды ўсё навокал мэтраў на дваццаць раптам зьнікла ўнутры растучай калоны пяску, пары й каменных аскепкаў,




Уладзімір Габідулін

на імгненьне, на асьляпляльна кароткую першую сэкунду, асьветленую знутры выбліскам здэтанаванай выбухоўкі.

Калі фантан бруду й аскепкаў стаў ападаць, ударная хваля калыхнула выдму пада мной. Я цьмяна адчуў сухі шоргат пяску, што пасыпаўся па схілах суседніх выдмаў. Гукавая хваля пайшла далей, падобная да трэску і грымотаў. Я глядзеў на паступовае пашырэньне ад цэнтра выбуху круга ўсплёскаў на лужынах, калі падняты пясок вярнуўся на зямлю. Слуп газу й пылу, зачарніўшы пясок пад сабою, быў разьвеяны ветрам, а пад самім слупом утварылася туманная смуга – як пад навальнічнай хмарай, гатовай вось-вось праліцца дажджом. Нарэшце стаў бачны кратэр.

Я зьбег па схіле выдмы. Спыніўся прыблізна ў пяцідзесяці мэтрах ад усё яшчэ дымлівай варонкі. Я ня стаў уважліва разглядаць рэштki, якія валяліся вакол яе, касавурачыся на іх краем вока, жадаючы й не жадаючы ўбачыць крывавае мяса альбо шматкі адзежы. Гук выбуху вярнуўся смутным рэхам, адбіўшыся ад пагоркаў за горадам. Кратэр аблямоўвалі гіганцкія аскепкі каменьня, выдраныя са схаванай пад пяском скальнай асновы; яны стаялі вакол варонкі, як зламаныя зубы, якія ўказвалі ў неба ці накрывіліся. Я бачыў, як далёкае воблака, народжанае выбухам, зьнікаючы, плыло па ветры над залівам, потым я павярнуўся й пабег дахаты з такой хуткасьцю, на якую толькі быў здольны.

Цяпер я ўжо ведаю, што гэта была нямецкая пяцісоткілаграмовая бомба, скінутая падбітым “Хейнкэлем 111”, які спрабаваў вярнуцца на нарвэскі аэрадром пасьля няўдалай атакі на базу гідрапланаў, якія разьмяшчаліся на беразе заліва. Мне падабаецца думаць, што зэнітная гармата з майго бункера трапіла ў самалёт і прымусіла пілота адступіць, скінуўшы бомбы.

Верхнія краі тых вялікіх абломкаў скальных камлыгаў па-ранейшаму высоўваліся з даўно апалага пяску, яны й складаюць Бомбавае Колца – самы ўдалы манумэнт мёртваму небараку Полу: богазьняважлівы каменны круг, дзе гуляюць цені.

Мне зноўку пашэнціла. Ніхто нічога ня бачыў, ды й нікому б у галаву не прыйшло мяне западозрыць. На гэты раз я быў раздушаны горам, пакутаваў пачуцьцём віны, Эрыку прыйшлося стала назіраць за мной, так бездакорна я гуляў сваю ролю (хаця гэта толькі маё меркаваньне). Мне не падабалася падманваць Эрыка, але я ведаў – гэта неабходна: я ня мог сказаць яму, што натварыў, ён жа ніколі не зразумеў бы, навошта я гэта зрабіў. Ён бы жахнуўся, і, вельмі верагодна, мы ніколі больш не былі б сябрамі. Таму мне прыйшлося іграць забітае горам дзіця, якое ва ўсім вінаваціць аднаго сябе, а Эрык павінен быў мяне суцяшаць, пакуль бацька аддаваўся змрочным роздумам.

Насамрэч мне не спадабалася, як Дыгз распытваў мяне аб тым, што здарылася, я нават падумаў, што ён мог і здагадацца, але здаецца, мае адказы яго задаволілі. Справа не палягчалася тым, што я павінен быў называць майго бацьку “дзядзькам”, а Эрыка й Пола “кузэнамі”; так бацька хацеў зьбіць з панталыку паліцэйскага адносна майго паходжаньня на выпадак, калі Дыгз вырашыць навесьці даведкі й высьветліць, што я не існую афіцыйна. Легенда казала, што я – сіраціна, сын даўно загінулага малодшага брата бацькі, і на высьпе бываю працяглымі наездамі, а наогул я пераходжу ад сваяка да сваяка, пакуль вырашаецца мой далейшы лёс.

У любым выпадку, я перажыў цяжкі перыяд, і нават мора нарэшце падыграла мне, прыйшоўшы адразу пасьля выбуху й змыўшы ўсе сьляды, якія я мог пакінуць, за гадзіну да таго, як з гораду прыбыў Дыгз на агляд месца здарэньня.

Калі я вярнуўся дадому, там была місіс Клэмп, яна разгружала велізарную плеценую кашолку на багажніку ейнага старога ровара, прыстаўленага да кухоннага стала. Яна запаўняла нашыя шафкі, лядоўню й маразільнік прывезенай з гораду ежай.

– Добрай раніцы, місіс Клэмп, – ветліва сказаў я, калі зайшоў на кухню.

Яна павярнулася й паглядзела на мяне. Місіс Клэмп вельмі старая й надзвычай маленькая. Яна агледзела мяне з галавы да ног.

– О, дык гэта ты? – сказала яна й павярнулася назад да кашолкі на ровары, пачала рыцца ў глыбіні абедзьвюма рукамі й выцягнула на паверхню доўгія пакеты, загорнутыя ў газэту. Яна праклыпала да маразілкі, улезла на зэдлічак, разгарнула пакеты, адкуль паказаліся пакаваньні

замарожаных гамбургераў і выгрузіла іх, прыгэтым амаль цалкам залезшы ў маразілку. Мяне ўдарыла думка, зь якой лёгкасьцю было б... – я выкінуў з галавы дурную ідэю. Усеўся за стол і пачаў назіраць, як працуе місіс Клэмп.

– Як маецеся, місіс Клэмп? – спытаў я.

– Ох, ну досыць нядрэнна, – сказала місіс Клэмп, трасучы галавой, спусьцілася з зэдлічка, узяла яшчэ бургераў й вярнулася да маразілкі. Я задумаўся, ці атрымлівала яна калі-небудзь абмаражэньні; я дакладна бачыў крышталікі лёду, якія блішчалі на ейных ледзь прыкметных вусіках.

– Аднак колькі ўсяго Вы сёньня нам прывезьлі, дзіўна, як гэта Вы ня ўпалі па дарозе.

– Ну не, ты майго падзеньня ня ўбачыш, – місіс Клэмп патрэсла галавой яшчэ раз, падышла да ракавіны, пацягнулася ўверх і наперад, стоячы на дыбачках, адкрыла гарачую ваду, спаласнула рукі, выцерла іх аб свой нэйлёнавы, у блакітную клетку працоўны фартух і ўзяла з кашолкі пакунак сыру.

– Ці не жадаеце кубачак чаго-небудзь, місіс Клэмп?

– Я? Не-не, – сказала місіс Клэмп, круцячы галавой унутры лядоўні, крыху ніжэй за аддзяленьне для замарозкі лёду.

– Ну, тады й я ня буду.

Яна яшчэ раз апаласнула рукі, а калі пачала аддзяляць салату-латук ад шпінату, я выйшаў з кухні й падняўся ў свой пакой.

У нас быў звычайны суботні ленч: рыба з бульбай, вырашчанай на нашым гародзе. Місіс Клэмп сядзела на маім месцы, насупраць бацькі, і гэта таксама ўвайшло ў традыцыю. Я сядзеў збоку, сьпінаю да ракавіны, раскладваючы рыбіны косткі на талерцы ў выглядзе поўных сэнсу ўзораў, а бацька й місіс Клэмп абменьваліся фармальнымі, амаль рытуальнымі камплімэнтамі. Я зрабіў чалавечы шкілецік з костак мёртвай рыбы ды наліў вакол яго трохі кечупа для большай натуральнасьці.

– Яшчэ гарбаты, містар Колдхэйм? – прапанавала місіс Клэмп.

– Не, місіс Клэмп, дзякуй, – адказаў бацька.

– Фрэнсіс? – зьвярнулася яна да мяне.

– Не, дзякуй, – сказаў я.

Гарошына сышла б за зялёны чэрап для шкілета. Я зьмясьціў яе там. Бацька й місіс Клэмп гулі пра сёе-тое.

– Чула, канстэбль быў тут некалькі дзён таму, прабачце, што кажу пра гэта, – сказала місіс Клэмп і далікатна кашлянула.

– Няўжо? – сказаў бацька й закінуў у рот столькі ежы, што прынамсі на хвіліну быў вымушаны ўстрымацца ад гутаркі.

Місіс Клэмп кіўнула сваёй перасоленай рыбе і адпіла гарбаты. Я замурлыкаў сабе пад нос, і бацька кінуў на мяне гнеўны погляд, варочаючы сківіцамі, падобнымі да двух барцоў-цяжкавагавікоў.

На гэтым тэма была закрытая.

Суботнім вечарам я, як звычайна, стаяў ля дальняй сьценкі ў «Колдхэйм-армз», у набітым, перапоўненым цыгарэтным дымам пакоі – стаяў, зьлёгку расставіўшы ногі й падпіраючы сьпінай абклееную шпалерамі калёну, у маёй руцэ быў плястыкавы стакан лагера, а на плячах сядзеў Джэймі-карузьлік, які час ад часу ставіў мне на макаўку сваю пінту цёмнага, калі захапляўся гутаркай.

– Чым займаўся, Фрэнкі?

– Нічым асаблівым. Забіў некалькі трусаў пару дзён таму, Эрык усё дастае сваімі шалёнымі званкамі, бадай што ўсё. Што ў цябе?

– Ды ўсё тое ж... А як гэта Эрык табе тэлефанаваў?

– Ты што, ня ведаеш? – сказаў я, паглядзеўшы ўверх, на яго. Джэймі нахіліўся й утаропіўся на мяне. Перавернутыя твары выглядаюць пацешна. – А, ён зьбег.

– Зьбег?

– Т-с-с. Калі людзі ня ведаюць, ня трэба й казаць ім. Так, ён уцёк. Тэлефанаваў дадому некалькі разоў, кажа, што йдзе сюды. Прыходзіў Дыгз і сказаў нам у той жа дзень, калі брат уцёк.

– Ісусе. Яны яго шукаюць?

– Так сказаў Энгус. Няўжо ў навінах нічога не было? Я думаў, мо ты чуў што-небудзь.

– Не-а. Ну піпец, думаеш, яны апавясьцяць народ у горадзе, калі ня зловяць яго?

– Ня ведаю, – тут мне належыла паціснуць плячыма.

– А што калі ён усё яшчэ падпальвае сабак? Вось гаўно. І чарвякі, якімі ён спрабаваў накарміць дзяцей. Мясцовыя наўпрост звар'яцеюць, – я адчуў, як ён патрос галавой.

– Здаецца, яны хочуць гэтую справу замаўчаць. Магчыма, спадзяюцца яго хутка зловіць.

– Думаеш, зловяць?

– Хо. Ня ведаю. Ён, можа, і чокнуты, але ня дурань. Інакш як бы ён зьбег? І калі ён тэлефануе, ён кажа лягічна. Лягічна, але як зьвіхнуты.

– Па табе ня бачна, што ты хвалюесься.

– Я спадзяюся, у яго атрымаецца. Хацелася б яго пабачыць. Ды й наогул даведацца, як ён пройдзе ўвесь шлях сюды, таму што... проста таму што, – я зрабіў глыток.

– Чорт. Спадзяюся, ён не агрэсіўны.

– Гэта адзінае, аб чым я турбуюся. Здаецца, ён да гэтага часу ня вельмі любіць сабак. Дзецям, думаю, нічога не пагражае, але ўсё роўна...

– Як ён перасоўваецца? Ён не сказаў, як зьбіраецца сюды дабрацца? Грошы ў яго ёсьць?

– Колькі-небудзь, напэўна, ёсьць, на тэлефонныя званкі, але большай часткай ён крадзе.

– Божа. Ну, прынамсі, за ўцёкі з вар'ятні тэрмін не дададуць.

– Ага, – сказаў я.

Тут на сцэне зьявіўся гурт – чатыры панкі зь Інвернэса, назва "Ваніты". Вакаліст быў зь «іракезам» на галаве, увесь абвешаны ланцугамі й маланкамі. Ён схапіў мікрафон і, калі астатнія трое пачалі калашмаціць па сваіх інструмэнтах, заенчыў:

*Дзяўчына кінула мяне,*
*Знаходжуся, нібы ў сраццы,*
*Яшчэ мяне пагналі з працы,*
*І вось я кончыць не магу...*

Я шчыльней уціснуўся сьпінаю ў калёну й цягнуў патроху піва з куфля, а Джэймі дубасіў нагамі мне па грудзях, і прасякнутае потам памяшканьне вібравала ў такт равучай зубаскрышальнай музыкі. Ці то яшчэ будзе!

На перапынку, калі адзін з бармэнаў вынес на запляваную падлогу перад сцэнай швабру й вядро з вадой, я падышоў да бара ўзяць яшчэ піва.

– Як звычайна? – спытаў з-за стойкі Дункан.

Джэймі кіўнуў.

– Як справы, Фрэнк? – пацікавіўся Дункан, падаючы лагер і цёмнае.

– Добра, – адказаў я. – Як твае?

– Змагаюся, змагаюся. Табе бутэлькі яшчэ патрэбныя?

– Дзякуй, ня трэба. Цяпер у мяне іх дастаткова для майго самаробнага піва.

– Але ты ўсё роўна заходзь. Зойдзеш?

– Ну, вядома, – сказаў я.

Дункан падаў Джэймі ягоную пінту, а я ўзяў сваю, адначасова выклаўшы грошы.

– На здароўе, хлопцы, – сказаў Дункан, калі мы павярнуліся й пайшлі назад да калёны.

Празь некалькі пінт "Ваніты" выконвалі сваю першую песьню на біс, а мы з Джэймі танцавалі й прыгалі, Джэмі крычаў і пляскаў у далоні, прытанцоўваючы ў мяне на плячах. Я ня супраць танцаў зь дзеўкамі, калі гэта дзеля Джэймі; аднойчы, праўда, ён запрасіў мяне выйсьці на вуліцу з адной бамбізай, каб ён мог зь ёю пацалавацца. Думка аб яе грудзях, прыціснутых да

майго твару, амаль давяла мяне да ірвоты, мне прыйшлося яго расчараваць. У любым выпадку, большасьць дзяўчынак-панкаў ня пахнуць парфумай, толькі некаторыя носяць спадніцы, ды й тыя звычайна скураныя. Нас з Джэймі раз-пораз штурхалі, пару разоў мы ледзьве ня падалі, але дацягнулі-такі да канца вечарыны бяз траўмаў. На жаль, Джэймі завёў гутарку зь нейкай жанчынай, але я быў занадта заняты, спрабуючы глыбока дыхаць і трымаць процілеглую сьцяну нерухомай, так што мне было не да іх.

– Так, вось зьбіраюся купляць матацыкл. Два пяцьдзясят, – казаў Джэймі.

Я слухаў у паўвуха. Не зьбіраўся ён купляць ніякі матацыкл, таму што не дастаў бы да пэдаляў, але я б нічога не сказаў, нават калі б мог, бо ніхто й не чакае, што людзі будуць гаварыць праўду жанчынам, ну й акрамя таго, я ж сябар Джэймі. Дзяўчына, калі я яе разглядзеў, аказалася гадоў дваццаці, зьлёгку грубаватая, і вакол яе вачэй было столькі слаёў фарбы, колькі ў "Ролс-Ройса" на дзьвярах. Яна паліла жудасную францускую цыгарэту.

– У маёй сяброўкі ёсьць матацыкл – у Сью. "Судзукі 185ГТ", раней яе брат на ім ганяў, а цяпер яна зьбірае на "Голд Уінг".

Зэдлікі ўжо складалі на сталы, зьмяталі ў кучу сьмецьце, трэснутыя плястыкавыя шклянкі, абмяклыя пакецікі з-пад чыпсаў, а мяне па-ранейшаму каламуціла. Чым больш я слухаў дзяўчыну, тым жудасьней яна здавалася. У яе быў страшэнны акцэнт заходняга ўзьбярэжжа; не зьдзіўлюся, калі яна з Глазга.

– Не, я б не хацеў мець такі. Занадта цяжкі. Мне даспадобы пяцісоты. Яшчэ прышпільны "Мота Гуззі", але ня ўпэўнены ў ручным кіраваньні.

Божа, мяне ледзьве не званітавала на куртку гэтай дзеўкі, я б мог напоўніць ейныя кішэні праз зламаныя й заржавелыя маланкі й запусьціць Джэймі так, што ён праляцеў бы праз увесь пакой акурат у бочкі зь півам пад стэлажамі з калёнкамі – а гэтыя двое абменьваліся недарэчнымі байкерскімі фантазіямі.

– Закурым? – спытала дзявіца, сунуўшы пачак побач з маім носам у бок Джэймі.

Мне яшчэ доўга бачыліся хвастатыя зоркі на сінім фоне пачака, нават пасьля таго, як яна схавала яго ў кішэню. Джэймі, мусіць, узяў цыгарэту (хоць я ведаў, што ён ня паліць), і я ўбачыў, як уверх узьнялася запальніца, якая ўспыхнула перад маімі вачыма дажджом іскраў, падобных да фаервэрку. Я амаль адчуў, як плавіцца мая патыліца. Паспрабаваў зрабіць Джэймі якую-небудзь трапную заўвагу аб затрымцы ягонага росту, але ўсе лініі сувязі ў мазгах былі забітыя тэрміновымі сыгналамі вантробаў. Я адчуваў жудасную буркатню ў жываце, але ня мог зрушыцца зь месца. Нешта ў маёй нутробе відавочна заварвалася й прасілася вонкі, бяз розьніцы, празь якое выйсьце, але я ня мог паварушыцца. Затрымаўся ля калёны, як атлянт, а Джэймі працягваў плявузгаць зь дзеўчынай пра гук, які выдае "Трыюмф", і як ён ганяў ноччу ўздоўж берага Лох-Ломанда.

– Дык ты тут на вакацыях?

– Ага, я й мае сябры, у мяне ёсьць бойфрэнд, алё ен зараз на буравой.

– А, ну зразумела.

Я працягваў глыбока дыхаць, спрабуючы прачысьціць мазгі кіслародам. Не разумею я Джэймі: ён удвая ніжэй за мяне, важыць у два разы менш, калі ня ў тры, але, колькі б мы зь ім ні пілі, здавалася, яму ні ў вуха вада. Ён дакладна цішком не выліваў свае пінты на падлогу, інакш я б даўно прамок. Тут я зразумеў, што дзяўчына нарэшце мяне заўважыла. Яна ткнула мяне рукой у плячо – і, падазраю, ужо не ў першы раз.

– Гэй, – сказала яна.

– Што? – я змагаўся, як мог.

– Ты ў парадку?

– Ага, – я павольна кіўнуў, спадзеючыся, што яна адчэпіцца, потым паглядзеў уверх і ўбок, як быццам толькі што знайшоў на стале нешта цікавае й надзвычай важнае. Джэймі тыцнуў мяне нагой.

– Што? – паўтарыў я, нават не спрабуючы да яго павярнуцца.

– Ты тут начаваць сабраўся?

– Чаго?.. Не. Ты як... гатовы? Добра.

Я намацаў за сьпінай калёну, адштурхнуўся й выпрастаўся, у надзеі, што не пакаўзнуся на залітай півам падлозе.

– Мо, ты мяне лепей паставіш, Фрэнкі, – сказаў Джэймі, ударыўшы мяне мацней.

Я зноў паглядзеў уверх і ўбок, быццам бы на яго, і кіўнуў. Я сасьлізгваў сьпінай па калёне, пакуль практычна ня сеў на падлогу. Дзяўчына дапамагла Джэймі саскочыць. Яго рыжыя валасы ды яе белыя раптам паказаліся мне нечакана яркімі ў добра асьветленым пакоі. Дункан набліжаўся да нас са швабрай і вялікім вядром, высыпаючы ў яго недапалкі з папяльніцаў ды выціраючы сталы. Я спрабаваў узняцца, потым Джэймі зь дзяўчынай узялі мяне пад рукі й дапамаглі ўстаць. Пачало траіцца ў вачах, і я дзівіўся, як такое можа быць, калі ў мяне два вока. Я ня быў упэўнены, размаўлялі яны са мной ці не.

– Угу, – на ўсялякі выпадак сказаў я й тут зразумеў, што мяне вывелі на сьвежае паветра праз пажарны выхад. Мне трэ было ў прыбіральню, і кожны крок аддаваўся ў кішках новымі спазмамі. Уласнае цела раптам з жахлівай яснасьцю ўявілася мне ў выглядзе дзьвюх аднолькавых ёмістасьцяў: адна запоўненая мачою, а другая – неператрававаным півам, віскі, чыпсамі, арахісам, сьлінай, саплямі, жоўцю й дзвюма кавалкамі рыбы з бульбай. Пэўны хворы ўчастак майго мозгу раптам падумаў пра яечню, атачаную перакручанымі палоскамі смажанага бэкону з лужынкамі астылага тлушчу на сальнай талерцы. Я перасіліў жудасны пазыў да ванітаў, што ўздымаўся са страўніка. Я спрабаваў думаць аб прыемных рэчах, а калі не ўзгадаў аніводнай, вырашыў засярodзіцца на тым, што адбываецца вакол мяне. Мы выйшлі з “Армз”, ішлі па тратуары міма Банка, Джэймі трымаў мяне пад адну руку, дзяўчына – пад другую. Ноч была воблачная й прахалодная, ліхтары жоўтыя. Пах паба застаўся ззаду, і я прагна ўдыхаў чыстае паветра. Я ведаў, што спатыкаюся, часам я натыкаўся на Джэймі ці дзяўчыну, але амаль нічога ня мог з гэтым зрабіць; я нагадваў сабе аднаго з тых дыназаўраў, такіх велізарных, што іх заднія ногі фактычна кантраляваліся асобным мозгам. У мяне ж, здавалася, быў асобны мозг для кожнай канечнасьці, але ўсе яны разарвалі дыпляматычныя стасункі паміж сабой. Я гайдаўся й хістаўся, спадзеючыся на ўдачу й дзвух чалавек побач са мной. Шчыра кажучы, я ня надта давяраў ніводнаму зь іх: Джэймі быў занадта маленькага росту, каб утрымаць мяне, калі б я пачаў сур’ёзна валіцца, а дзяўчынка – гэта дзяўчынка. Хутчэй за ўсё, таксама слабая, але нават калі й не, падазраю, яна будзе толькі рада, калі я раскраю сабе чэрап аб брук, паколькі жанчыны любяць глядзець на бездапаможных мужчын.

– Вы што, заўсёды так? – пацікавілася дзявуля.

– Як? – перапытаў Джэймі зь недастатковым, на мой погляд, абурэньнем у голасе.

– Ты ў яго на плячах сядзіш?

– Ды не, гэта проста каб лепей бачыць гурт.

– Ну, дзякуй Богу. Я думала, вы і ў сральнік гэтак ходзіце.

– Канешне! Заходзім у кабінку ды сцым дуэтам: Фрэнкі ва ўнітаз, а я – у бачок.

– Прыкалваецеся?!

– Ага, – сказаў Джэймі голасам, скажоным ухмылкай.

Я йшоў побач зь імі настолькі роўна, наколькі мог, слухаючы іхнюю лухту. Я зьлёгку раззлаваўся на Джэймі, бо ён, няхай і жартам, сказаў пра мяне ў прыбіральні: ён жа ведае, наколькі я чульлівы ў гэтым пытаньні. Толькі адзін ці два разы ён дражніў мяне прывабнай прапановай пайсьці ў прыбіральню ў “Колдхэйм-Армз” (або дзесьці яшчэ) паганяць струменем мачы размоклыя недапалкі ў пісуары.

Прызнаю, я бачыў, як Джэймі робіць гэта, і я быў пад уражаньнем. Сарцір у “Колдхэйм-Армз” выдатна абсталяваны для гэтага віду спорту – вялікі пісуар-жолаб цягнецца ўздоўж адной сьцяны да паловы другой з адзінай зліўной адтулінай. Паводле Джэймі, сэнс гульні ў тым, каб прыгнаць размоклы недапалак да зьліву, разьбіўшы яго па дарозе на максымальна магчымую колькасьць частак. Балы налічваюцца па колькасьці кафляных плітак, якія праміне недапалак, перш чым стане нетранспартабэльным (плюс дадатковыя балы, калі заганяеш яго ў зьліўную адтуліну ці гоніш ад далёкага краю жолаба), па ступені нанесенай шкоды – бо вельмі складана размачыць абгарэлы конус на кончыку недапалка, – а таксама па агульнай колькасьці недапалкаў, зь якімі ты расправіўся за вечар.

У скарочанай форме гульня можа адбывацца ў звычайных маленькіх пісуарах, якія цяпер у модзе, але Джэймі ніколі гэтага не спрабаваў, паколькі, каб скарыстацца такім пісуарам, яму трэба адысьці на мэтар і страляць навесам.

У любым выпадку, гульня робіць спраўленьне малой патрэбы значна больш цікавым, але гэта не для мяне – дзякуй жорсткаму лёсу.

– Ён твой брат, ці як?

– Не-а, сябар.

– І заўсёды ён у зюзю?

– Ды кожную суботу.

Вядома, гэта была страшэнная хлусьня. Я рэдка набубеньваюся да ступені, калі не даю рады йсьці роўна або гаварыць. Я б адказаў Джэймі як сьлед, калі б быў здольны размаўляць і ня быў бы настолькі заняты сваім апорна-рухальным апаратам. Цяпер я ня быў упэўнены, што мяне абавязкова вырве, але нейкая безадказная, схільная да разбурэньня частка майго мозгу – верагодна, усяго толькі некалькі нэйронаў, але думаю, яны ёсьць у кожным мозгу й дастаткова нават нешматлікага хуліганскага элемэнта, каб запляміць сумленнае імя астатніх – працягвала думаць пра яечню й бэкон на халоднай талерцы, і кожны раз мяне ледзь не выварочвала. Спатрэбілася намаганьне волі, каб уявіць халодныя вятры на вяршынях пагоркаў альбо хвалістае пясчанае дно на мелкаводзьдзі, – тое, пра што я заўсёды думаў як пра ўвасабленьне чысьціні й сьвежасьці, што заўсёды адцягвала ўвагу майго мозгу ад разважаньняў аб зьмесьціве майго страўніка.

Зрэшты, да гэтага часу мне стала зусім невыносна. Джэймі й дзяўчынка былі літаральна ў некалькіх цалях, трымалі мяне пад рукі, я часта на іх натыкаўся, але маё ап’яненьне дасягнула такой стадыі (па меры таго, як дзьве хутка выпітыя пінты перамяжоўваючыся зь віскі, дагналі мой крывацёк), калі здавалася, што дакрычацца зусім бяз шанцаў, з тым жа посьпехам я мог быць на іншай плянэце. Яны йшлі абапал мяне й размаўлялі адзін з адным, неслі поўную бязглузьдзіцу з такім выглядам, быццам абмяркоўвалі нешта вельмі важнае, а я, у якога было значна больш мазгоў, чым у іх, разам узятых, маючы жыцьцёва важнае паведамленьне, ня мог вымавіць ані слова.

Павінен быў існаваць нейкі спосаб. Я паспрабаваў вытрасьці сьмецьце з галавы ды зрабіць некалькі глыбокіх удыхаў. Пайшоў цьвёрдай хадою. Дасканала абдумаў словы і тое, як яны прамаўляюцца. Праверыў язык і горла. Трэба ўзяць сябе ў рукі. Наладзіць кантакт. Я паглядзеў вакол, калі мы перасякалі дарогу, і ўбачыў шыльду “Юніён-стрыт”, прыбітую да нізкай сьцяны. Я павярнуўся да Джэймі, затым да дзяўчыны, адкашляўся й даволі ясна сказаў:

– Я ня ведаю, ці прытрымліваліся вы, а мо й да гэтага часу прытрымліваецеся меркаваньня, – так, прынамсі, вы двое, паколькі вы можаце выключыць вашага пакорнага слугу – меркаваньня, якое аднойчы наведала й мяне адносна слова “юніён” у найменьні вуліцы, якое несумненна асацыюецца з прафэсійным саюзам, аб’ядноўваючым працоўную клясу: на працягу нейкага, даволі значнага прамежку часу мне здавалася, што гэта досыць сацыялістычная ідэя для айцоў горада – так назваць вуліцу; мне здавалася, быццам яшчэ ня ўсё страчана ў сэнсе далейшай пэрспэктывы магчымага міру ці, прынамсі, спыненьня клясавай барацьбы, калі прызнаньне карысьці прафэсійных саюзаў змагло знайсьці шлях на такую ганаровую й істотную шыльдачку, але я павінен прызнаць, я быў расчараваны ў дадзеным ілжыва-аптымістычным меркаваньні, калі бацька – Божа, будзь літасьцівы да ягонага пачуцьця гумару – аднойчы праінфармаваў мяне: маецца на ўвазе нядаўна пацьверджаны саюз ангельскага й шатляндзкага Парлямэнтаў, які мясцовыя айцы горада, а таксама мясцовыя ўлады сотняў іншых гарадоў па ўсёй да нядаўняга часу адміністрацыйна незалежнай тэрыторыі – сьвяткавалі з такой помпай, безумоўна, спадзеючыся на ўсе магчымыя ільготы.

Дзяўчына зірнула на Джэймі:

– Ён нешта сказаў?

– Ён проста пракашляўся, – сказаў Джэймі.

– Я думала, ён сказаў штосьці пра бананы.

– Бананы? – недаўменна перапытаў Джэймі, зірнуўшы на дзяўчыну.

– Ну, – пацьвердзіла яна, гледзячы на мяне й ківаючы. – Менавіта.

Вось і пагаварылі, падумаў я. Відавочна, абодва яны так накідалася, што не разумеюць правільнай гутарковай ангельскай мовы. Я цяжка ўздыхнуў, паглядзеў спачатку на аднаго, потым на другую, пакуль мы павалу йшлі па цэнтральнай вуліцы ўздоўж “Вулварта”

і сьветлафораў. Я глядзеў перад сабой і спрабаваў прадумаць плян дзеяньняў. Яны дапамаглі мне перайсьці наступнае скрыжаваньне, прычым я ледзьве ня ўпаў, пераступаючы бардзюр. Раптам я ўсьвядоміў уразьлівасьць свайго носа й пярэдніх зубоў пры сутыкненьні з гранітнымі портнэйльскімі ходнікамі на хуткасьці, колькі-небудзь перавышаючай мэтар у сэкунду.

– А неяк мы з адным дружбаком ганялі па каляінах, пракладзеных лясьнікамі на ўзгорках, міль пад пяцьдзясят нарэзвалі, а то й хутчэй, расьсякалі, нібы на аўтабане.

– Ды ну!

А божухна, яны ўсё яшчэ размаўлялі аб матацыклах.

– І куды мы яго цягнем?

– Да маёй маці. Калі яна яшчэ ня сьпіць, напоіць нас гарбатай.

– Да маці?!

– Ага.

– Ууу...

Раптам да мяне дайшло. Гэта было настолькі відавочна, што я ня мог зразумець, чаму ня бачыў гэтага раней. Я ведаў, нельга губляць час і няма сэнсу марудзіць – выбухну ды ўсё тут – так што я вызваліўся ад Джэймі й ад дзяўчыны ды, прыгнуўшы галаву, кінуўся бегчы ўніз па вуліцы. Хацелася ўцячы, як гэта зрабіў Эрык, знайсьці прыемнае ціхае месца й спакойна пасцаць.

– Фрэнк!

– Срань Гасподня, што адбываецца?

Брук па-ранейшаму быў у мяне пад нагамі, і яны рухаліся больш ці менш так, як павінны былі. Я чуў, як Джэймі зь дзяўчынай беглі за мной і крычалі, але я ўжо прабег праз старую краму, помнік загінуўлым салдатам і працягваў набіраць хуткасьць. Мой перапоўнены мачавы пухір бегчы не дапамагаў, але й не настолькі перашкаджаў, як я баяўся.

– Фрэнк! Вярніся! Стой, Фрэнк! Ды што здарылася? Фрэнк, псыхаваны ты пашавэлак, шыю сабе скруціш!

– Ды няхай бяжыць, на халеру ён табе здаўся?

– Не, ён мой сябар! Фрэнк!!!

Я збочыў за рог на Бэнк-стрыт, ледзь ня зьнёс два ліхтарных слупа й вільнуў налева, на вуліцу Адама Сьміта, да гаража Макгарві. Прасьлізнуў у двор і забег за бэнзакалёнку, хапаючы паветра ротам, ікаючы й адчуваючы, як пульсуе ў скронях. Я скінуў штаны, сеў на кукішкі і, цяжка дыхаючы, прыхіліўся да «пяцізоркавай» калёнкі, а лужына дымлівых сцакаў зьбіралася на грубым, як кара, цэмэньце. Пачуўся тупат, і справа ад мяне зьявіўся цень. Я павярнуўся ды ўбачыў Джэймі.

– Ух-ф-ф... – выдыхнуў ён, паклаўшы руку на другую калёнку, каб ураўнаважыць сябе, крыху сагнуўся й паглядзеў на свае ногі, другой рукой абапёрся аб калена, грудзі яго цяжка ўздымаліся. – Вось ты дзе... кхе... кхе... Ффух...

Ён сеў на бэтонны падмурак і ўтаропіўся ў цёмнае шкло вокнаў офіса. Я таксама сеў, абвяўшы ля калёнкі, і выпусьціў апошнія кроплі. Страціў раўнавагу й прыклаўся задам да бэтону, потым няцьвёрда падняўся ды нацягнуў штаны.

– Што на цябе найшло? – спытаў Джэймі, па-ранейшаму цяжка дыхаючы.

Я махнуў рукой, спрабуючы зашпіліць рэмень. Ізноў накацілі прыступы моташнасьці, калі я ўдыхнуў пахі паба, што ўздымаліся ад майго адзеньня.

– Выба... – я пачаў гаварыць “выбачай”, але слова перайшло ў ваніты. Антыграмадзкая частка майго мозга раптам прыгадала сальную яечню з бэконам, і са страўніка пырснуў фантан. Я перагнуўся напалам, пакутуючы ад спазмаў, мае вантробы міжвольна скручваліся – так, напэўна, адчувае сябе жанчына зь дзіцём ва ўлоньні. У горле адразу ж засадніла, настолькі рэактыўным было выплюхваньне. Джэймі схапіў мяне, калі я амаль упаў. Я стаяў, нібы напаўадкрыты сьцізорык, шумна заблёўваючы пляцоўку. Джэймі засунуў адну руку за рэмень маіх штаноў, каб я ня ўпаў тварам наперад, а другую паклаў мне на лоб, нешта сабе мармычучы. Мяне працягвала выварочваць, у жываце ўзнікла рэзь; вочы напоўніліся слязьмі, з носа цякло й галава была, як сасьпелы памідор, гатовы лопнуць. Я спрабаваў удыхнуць паміж пазывамі, выціраючы рот, кашляючы й сплёўваючы адначасова. Я слухаў гэтыя кашмарныя гукі, так падобныя да тых, што вырабляў па тэлефоне Эрык, і спадзяваўся, што ніхто ня пройдзе ды ня

ўбачыць мяне ў такім бездапаможным, нявартым выглядзе. Я заціх, адчуў сябе лепш, затым пачаў зноўку й адчуў сябе шматкроць горш. Зрушыўся пры дапамозе Джэймі ўбок і стаў на карачкі на параўнальна чыстым участку бэтону, дзе бэнзінавыя плямы выглядалі не такімі сьвежымі. Сплюнуў, адкашляўся, некалькі разоў падавіўся, потым перавёў дыханьне ды паваліўся на рукі Джэймі, падцягнуўшы калені да падбародзьдзя, каб суняць боль у цяглiцах жывата.

– Цяпер лепей? – спытаў Джэймі.

Я кіўнуў, нахіліўся наперад, каб абаперціся азадкам і ступнямі ў зямлю, апусьціў галаву на калені. Джэймі паляпаў мяне па плячы.

– Хвілінку, Фрэнкі, – ён адышоў на некалькі сэкунд, вярнуўся ды прынёс шурпатыя папяровыя сурвэткі з аўтамата, адной зь іх выцер мой рот, а другой – твар. Нават не паленаваўся выкінуць потым у сьметнік.

Хоць ап’яненьне па-ранейшаму адчувалася, страўнік балеў, у горле быццам вожыкі драліся, я ўсё-ткі адчуваў сябе значна лепей.

– Дзякуй, – змог сказаць я й паспрабаваў устаць.

Джэймі дапамог мне падняцца.

– Божа, да чаго ты сябе давёў, Фрэнк.

– Ага, – сказаў я, выціраючы вочы рукавом, і азірнуўся паглядзець, ці мы ўсё яшчэ адны. Я паляпаў Джэймі па плячы, і мы скіраваліся да вуліцы.

Вакол было бязьлюдна, я цяжка дыхаў, а Джэймі падтрымліваў мяне пад локаць. Відавочна, дзяўчына сышла, але я аб гэтым не шкадаваў.

– Чаму ты ўцёк?

– Трэба было, – я патрос галавой.

– Што? – засьмяяўся Джэймі. – Чаму проста не сказаў?

– Ня мог.

– Празь дзяўчыну?

– Не, – сказаў я ды закашляўся. – Ня мог гаварыць. Занадта п’яны.

– Што? – засьмяяўся Джэймі.

– Угу, – кіўнуў я.

Ён зноў рагатнуў ды паківаў галавою. Мы пайшлі далей.

Маці Джэймі яшчэ не спала й заварыла нам гарбаты. Яна жанчына буйная, заўсёды, калі я бачу яе па вечарах пасьля паба, у зялёным халаце, мы – яе сын і я – у рэшце рэшт аказваемся ў яе доме. Яна не такая ўжо непрыемная, хоць і прыкідваецца, што я падабаюся ёй больш, чым гэта ёсьць на самой справе.

– Ох, малец, ты ня ў лепшай форме. Сядай, я налью табе гарбаты. Ох, ягнятка.

Мяне пасадзілі ў фатэль у куце гасьцінай муніцыпальнага дома, а Джэймі тым часам вешаў нашыя курткі. Я чуў, як ён скакаў у пярэднім пакоі.

– Дзякуй, – прахрыпеў я сухім горлам.

– Трымай, малец. Хочаш, уключу табе абагравальнік? Мо табе халодна?

Я пакруціў галавой, а яна ўсьміхнулася, кіўнула, паляпала мяне па плячы й патупала на кухню. Увайшоў Джэймі й сеў на канапу побач з маім фатэлем. Джэймі паглядзеў на мяне, усьміхнуўся й пахітаў галавою.

– Вось дык справы. Вось дык справы! – ён пляснуў у далоні й хістануўся на канапе, выцягнуўшы ногі наперад. Я закаціў вочы й адвёў позірк.

– Не зьвяртай увагі, Фрэнкі. Пара кубачкаў гарбаты й будзеш як новенькі.

– Ох, – выдыхнуў я й здрыгануўся.

Я сышоў адтуль каля гадзіны ночы, цьвярозы й наліты гарбатай. Страўнік і горла былі амаль у норме, хаця голас гучаў сіпата. Я пажадаў Джэймі й яго маці добрай ночы і рушыў ускрайкам да дарогі, што вяла на выспу, перасоўваючыся ў цемры, часам выкарыстоўваючы ліхтарык, пакуль не дабраўся да моста й дома.

Гэта быў спакойны шпацыр праз балота, выдмы й купінаватую пашу. Акрамя гукаў свайго руху, я чуў толькі далёкі пошум цяжкіх грузавікоў на дарозе, што йшла праз горад.

Аблокі закрывалі большую частку неба, месяц амаль не даваў сьвятла, а проста па курсе – увогуле не даваў.

Я ўзгадаў, як два гады таму ў сярэдзіне лета вяртаўся ў прыцемках сьцежкай, пасьля таго як цэлы дзень лазіў па ўзгорках за горадам, і ўбачыў у густой цемры далёка над выспай дзіўныя рухомыя агні. Сьвятло пералівалася ў небе над і далёка за выспай. Яно хадзіла хвалямі й рухалася, нібы чароўнае палотнішча, бліскаючы й пераліваючыся, гаручы, як нешта цяжкае й цьвёрдае, так нішто не магло паводзіць сябе ў паветры. Я навёў на іх бінокаль і ўбачыў, як час ад часу вакол рухомых хваляў сьвятла зьяўляліся й зьнікалі нейкія канструкцыі. Мяне праняла дрыгота, мозг ліхаманкава спрабаваў знайсьці тлумачэньне ўбачанаму. Пакруціў галавой у змроку ды зноў утаропіўся на гэтыя далёкія, зусім бязгучныя слупы мігатлівага полымя. Яны віселі ў небе, нібы вогненныя абліччы, што назіралі за выспай, быццам у чаканьні.

Потым мяне ахінула й я празерыў.

Гэта была мроя, адлюстраваньне мора ў паветры. Я бачыў газавыя факелы сьвідравых плятформаў, якія маглі быць у сотнях кілямэтраў адсюль, у Паўночным моры. Прыгледзеўшыся да няясных сылюэтаў, што атачалі полымя, я пераканаўся, што гэта сапраўды вышкі, якія эпізадычна высьвечваліся ўласнымі газавымі водбліскамі. Я пайшоў далей шчасьлівы – нават шчасьлівейшы, чым быў да таго, як убачыў дзіўныя агні – і мне прыйшло ў галаву, што любы чалавек зь менш разьвітымі лёгікай і фантазіяй тут жа вырашыў бы, што гэта НЛА.

Нарэшце я дабраўся да выспы. У доме было цёмна. Я ўглядаўся ў цемру, адчуваючы чорную масу дома ў слабым няроўным сьвятле месяца, і падумаў, што зараз ён выглядае нават большым, чым на самой справе, нібы галава каменнага волата: велізарны чэрап, поўны прывідаў ды ўспамінаў, бялее ў месяцовых промнях і глядзіць ў мора, увенчваючы вялікае моцнае цела, пахаванае пад пяском і камянямі, гатовае вызваліцца й вылезьці з-пад зямлі па нейкім невядомым загадзе або знаку.

Дом углядаўся ў мора, у цемру, і я ўвайшоў унутр.

**5: Букет красак**

Я забіў маленькую Эсмэральду, таму што адчуваў – гэта мой абавязак перад самім сабой ды й перад сьветам. У рэшце рэшт, я расквітаўся з двума дзецьмі мужчынскага полу, аказаўшы тым самым жаночай палове чалавецтва свайго роду статыстычную паслугу. Калі я сапраўды хачу жыць у адпаведнасьці з уласнымі перакананьнямі, разважыў я, то павінен хоць трошкі выправіць балянс. Мая стрыечная сястра проста ўяўляла сабой самую лёгкую й найбольш відавочную мэту.

Зноў жа, асабіста супраць яе я нічога ня меў. Дзеці – не сапраўдныя людзі, у тым сэнсе, што яны не маленькія мужчыны і жанчыны, а асобны від, які (верагодна) вырасьце ў тых ці іншых у свой час. Зусім маляты, якія не пасьпелі яшчэ паддацца атрутнаму ўплыву грамадзтва й бацькоў, бясполыя, і таму падабаюцца ўсім. Мне падабалася Эсмэральда (хаця, вядома, імя ў яе вельмі ж сьлінявае), і я шмат гуляў зь ёй, калі яна прыязджала ў госьці. Яна была дачкой Хармсворта й Мораг Стоўв, маіх зводных дзядзькі й цёткі з боку першай жонкі бацькі; гэта яны даглядалі за Эрыкам два гады – з трох да пяці. Часам яны прыязджалі летам з Бэлфаста; бацька нядрэнна ладзіў з Хармсвортам, а паколькі я прыглядаў за Эсмэральдай, усе маглі адпачываць у сваё задавальненьне. Здаецца, місіс Стоўв крыху нэрвавалася, давяраючы мне сваю дачку тым летам, бо гэта было праз год пасьля таго, як я згубіў Пола ў росквіце гадоў, але ў свае дзевяць я быў несумненна шчасьлівым і добра прыстасаваным да жыцьця, адказным ды красамоўным, і дэманстраваў шчыры смутак, калі заходзіла гаворка аб сумным лёсе майго малодшага брата. Перакананы, што толькі маё крыштальна чыстае сумленьне дазволіла запэўніць дарослых у маёй поўнай невінаватасьці. Я нават ажыцьцявіў двайны блеф, выглядаючы зьлёгку вінаватым без прычыны, дарослыя нават казалі мне, што я не павінен сябе абвінавачваць праз няздольнасьць своечасова папярэдзіць Пола. Я проста бажыў.

Я вырашыў паспрабаваць забіць Эсмэральду яшчэ да прыезду Стоўваў на адпачынак. Эрык адпраўляўся са сваёй клясай у турпаход, такім чынам мы зь ёй заставаліся ўдваіх. Было

рызыкоўна спрабаваць зрабіць гэта адразу пасьля сьмерці Пола, але я павінен быў аднавіць раўнавагу. Я адчуваў гэта вантробамі, косткамі – я павінен быў. Гэта было як сьверб, я ня мог супраціўляцца, накшталт таго, як я йду па бруку ў Портнэйле й выпадкова кранаю абцасам камень. Я павінен стукнуць і другі абцас прыкладна з гэткай жа сілай, каб ізноў адчуць сябе нармальна. Альбо калі закрану адной рукой сьцяну ці слуп, я павінен неўзабаве закрануць нешта другой рукой, ці, прынамсі, паскрэбці яе. Так я спрабую падтрымліваць раўнавагу, хоць і ня ведаю, навошта. Гэта проста нешта, што павінна быць зроблена; так што я павінен быў расправіцца зь якой-небудзь жанчынай, кіўнуць шалі ў іншы бок.

У той год я заняўся канструяваньнем паветраных зьмеяў. Здаецца, гэта быў 1973. Якія толькі матэрыялы я не выкарыстоўваў: кансэрвавыя бляшанкі й заклёпкі, мэталічныя вешалкі для вопраткі ды алюміневыя мацаваньні для палатак, паперу й поліэтылен, сьмецьцевыя мяшкі, нэйлёнавыя вяроўкі й усялякія завязкі, шматкі тканіны ды эластычныя бінты, кавалкі дроту й шпількі, шрубкі й цьвічкі, дэталі, адарваныя ад мадэляў яхт і цацак. Я зрабіў ручную лябёдку з падвойнай дзяржальняй, тормазам і барабанам, на які можна было навіць паўкілямэтра шнура; я рабіў розныя тыпы хвастоў для зьмеяў, канструкцыя якіх прадугледжвала хвост, пабудаваў тузін вялікіх і маленькіх зьмеяў. Я захоўваў іх у хляве і, калі калекцыя стала занадта вялікай, вымушаны быў паставіць ровары звонку, накрыўшы іх брэзэнтам.

Тым летам я шмат разоў браў Эсмэральду з сабою запускаць зьмеяў. Я дазволіў ёй гуляць з маленькім, на адной нітцы, паветраным зьмеем, а сам запускаў велізарны. Я пасылаў яго над і пад зьмеем Эсмэральды, прымушаў яго даваць нырца да зямлі, і, стоячы на вяршыні выдмы, я выводзіў зьмея на брыючы палёт, зразаў спэцыяльна пабудаваныя вежы зь пяску ды зноў вёў яго ўгору, і за ім цягнуўся пяшчаны шлейф ад падаючых вежаў. А аднойчы, хоць гэта запатрабавала доўгіх трэніровак і пары аварый, я нават абрынуў пры дапамозе зьмея дамбу. Раз-пораз я выводзіў яго на такую траекторыю, каб прачарціць вуглом рамы разору ўпоперак грэбеня плаціны, і нарэшце паглыбіў разору настолькі, што стала прасочвацца вада й хутка лінула патокам, змыўшы ўсю дамбу разам зь пясчанай вёскай.

І вось стаяў я аднаго разу на вяршыні выдмы, змагаючыся зь цягай ветру ў зьмеі, учапіўшыся й прыцягваючы, накіроўваючы й паварочваючы, як раптам шнур абвіўся вакол шыі Эсмэральды, і ў мяне зьявілася думка. Выкарыстаць паветранага зьмея.

Я спакойна ўсё абдумаў, робячы выгляд, што наўме ў мяне па-ранейшаму разьлік рухаў зьмея, і вырашыў, што плян цалкам рэальны. Падчас абдумваньня першапачатковая ідэя ўвасобілася плоцьцю, зайграла цяглімі й прыняла канчатковы выгляд Нэмэзыды маёй стрыечнай сястры. Памніцца, тады я ўсьміхнуўся ды апусьціў свайго зьмея, хутка й рашуча правёў яго над травой і вадой, пяском і залівам, лавіруючы ўпоперак ветру. Зьмей здрыгануўся, наляцеў ды зачапіў дзяўчынку, якая сядзела на верхавіне выдмы й сутаргава патузвала нітачку, што злучала яе з небам. Эсмэральда павярнулася, расплылася ва ўсьмешцы й радасна завішчала, жмурачыся ад сонца. Я таксама засьмяяўся, аднолькава добра кантралюючы рэч у нябёсах і думку ўнутры сябе.

Я пабудаваў вялікага паветранага зьмея.

Ён быў такі вялікі, што не зьмясьціўся ў хляве. Я зрабіў яго з алюміневых калкоў ад старых намётаў, пэўную колькасьць зь якіх даўно знайшоў на гарышчы, астатняе – з гарадзкога сьметніку. Спачатку я думаў абцягнуць каркас чорнымі поліэтыленавымі мяшкамі, але пазьней замяніў іх тканінай ад намёта з гарышча.

У якасьці ланцужка выкарыстаў тоўстую памаранчавую рыбалоўную лёску, намотаў яе на адмысловы барабан шпулькі, якую ўмацаваў ды абсталяваў тормазам. Хвост зьмея быў са складзеных гармонікам старонак часопіса “Зброя і амуніцыя”, які я рэгулярна купляў у той час. Чырвонай фарбай на брэзэнце я намаляваў вялікую сабачую галаву (тады я яшчэ ня ведаў, што я не Сабака). Бацька даўным-даўно казаў мне, што я нарадзіўся пад знакам Сабакі, паколькі Сырыюс быў у зэніце. Так ці інакш, галава была толькі сымбалем.

Аднаго разу я выйшаў з хаты пазаранкам: адразу пасьля таго, як сонца толькі-толькі паднялося, й задоўга да таго, як астатнія прачнуліся. Схадзіў у хлеў, узяў зьмея, адправіўся далёка ў выдмы, сабраў яго, забіў у зямлю калок ад намёта, прывязаў да яго нэйлёнавую лёску, потым запусьціў зьмея на кароткім павадку. Я пацеў і ўтрымліваў яго насілу, нават пры адносна лёгкім

ветры, мае рукі нагрэліся, нягледзячы на тоўстыя зварачныя рукавіцы. Спрацуе, вырашыў я і апусьціў яго на зямлю.

У другой палове дня вецер узмацніўся, але гэтак жа дзьмуў у бок мора, і мы з Эсмэральдай адправіліся на традыцыйны шпацыр, прыхапіўшы з хлява разабранага зьмея. Эсмэральда дапамагла аднесьці яго далёка ў выдмы, аддана прыціснуўшы да плоскіх грудзей шпульку зь лёскай, пстрыкаючы пераключальнікам барабана. Я спыніў выбар на выдме, якую не было відаць з вокнаў дома й якая нагадвала галаву волата: спусьцісты лоб скіраваны да Даніі ці Нарвэгіі, шапаткая трава – як вожык валасоў.

Пакуль я з належнай жалобнай марудлівасьцю зьбіраў зьмея, Эсмэральда зьбірала краскі. Помніцца, яна размаўляла зь імі, нібыта спрабуючы ўгаварыць іх здацца, дазволіць сябе знайсьці, быць сарванымі ды сабранымі ў букет. Вецер разьдзімаў яе белыя валасы перад тварам, калі яна бегала, прысядала, поўзала й нешта лепятала, а я працягваў зборку.

Нарэшце зьмей быў завершаны, цалкам сабраны й ляжаў нібы развалены намёт на траве – зялёнае на зялёным. Расьцягнутая матэрыя дрыжэла ды пляскала ў парывах ветру, здавалася жывой, а сабачая пыса на ёй – злосна ашчэранай. Я разабраў памаранчавыя нэйлёнавыя ніткі, разблытаў віткі ды вузлы.

Я паклікаў Эсмэральду. Яна трымала ў кулачку краскі, і я цярпліва чакаў, пакуль яна ўсе іх пералічыць, выдумляючы уласную назву ў тым выпадку, калі забылася ці ніколі ня ведала сапраўдную. Я ўзяў маргарытку, якую яна мне грацыёзна падала, і ўставіў яе ў пятліцу левай нагруднай кішэні майго жакета. Я паведаміў ёй, што сабраў новага паветранага зьмея і што яна можа дапамагчы мне выпрабаваць яго. Эсмэральда была ў захапленьні й хацела патрымаць шпульку. Я сказаў, што ў яе будзе магчымасьць, але ўсё роўна я буду цалкам яе кантраляваць. Яна хацела трымаць таксама й краскі, і я адказаў, маўляў, чаму б і не.

Эсмэральда войкала ды ахала праз памеры зьмея й злоснага сабачкі, намаляванага на ім. Зьмей ляжаў на шапаткой траве, нібы нецярплівы гіганцкі скат, і дрыжэў дробнай дрыготкай. Я намацаў галоўныя кіравальныя тросы ды ўручыў Эсмэральдзе, паказаўшы, як іх трымаць і дзе. Зрабіў петлі зь лёскі ды накінуў ёй на запясьці, патлумачыўшы, што так яна ня страціць зьмея. Эсмэральда прасунула рукі ў вітыя нэйлёнавыя колцы й моцна сьціснула левую лёску, а ў правым кулачку яна трымала лёску й букецік. Я зматаў сваю частку кіравальных тросаў ды наблізіўся да зьмея. Эсмэральда скакала ад захапленьня й сказала, каб я пасьпяшаўся ды прымусіў нарэшце зьмея паляцець. Я ў апошні раз агледзеўся, а потым толькі злёгку штурхнуў пярэдні край зьмея, як ён падняўся ў паветра. Я бег за маёй стрыечнай сястрой, гледзячы, як абвіслая нэйлёнавая нітка паміж ёю й зьмеем паступова нацягвалася.

Зьмей узьвіўся ў паветра, як нешта дзікае, віляючы хвастом, з гукам, нібыта рвецца кардон. Ён матляўся й трышчэў у паветры. Ён віляў і напружваў свае полыя косткі. Я падышоў да Эсмэральды ўшчыльную й трымаў тросы адразу за яе маленькімі рабаціністымі лакцямі, чакаючы рыўка. Лёска нацягнулася. Мне прыйшлося закапацца абцасамі ў зямлю, каб выстаяць. Я натыркнуўся на Эсмэральду, і яна завішчала. Калі першы рэзкі рывок нацягнуў нэйлён, яна выпусьціла тросы ды стаяла, то азіраючыся на мяне, то гледзячы ў неба, пакуль я спрабаваў саўладаць з моцай над намі. Эсмэральда па-ранейшаму сьціскала букецік, і ад маіх маніпуляцый рукі яе тузаліся ў петлях, як у марыянэткі. Шпулька ўпіралася мне ў грудзі, тросы злёгку правісалі між ёй і маімі рукамі. Эсмэральда ў апошні раз паглядзела на мяне, хіхікаючы, і я засьмяяўся ў адказ. Потым я адпусьціў лёску.

Шпулька ўдарыла дзяўчынку па паясніцы, тая ўскрыкнула. Пасьля петлі на яе запясьцях зацягнуліся, тузанулі яе наперад і зьбілі з ног. Я хіснуўся назад, часткова каб усё выглядала натуральна ў малаверагодным выпадку, калі хтосьці за наміназіраў, а часткова з-за шпулькі, адпусьціўшы якую, я страціў раўнавагу. Я ўпаў на зямлю, якую Эсмэральда пакінула ўжо назаўжды. Зьмей працягваў шчоўкаць і пляскаць, пляскаць і шчоўкаць, ён падняў дзяўчынку ў паветра разам са шпулькай. Сэкунду я ляжаў на сьпіне й назіраў за зьмеем, потым падняўся ды пабег за ім з усяе моцы, ізноў жа, паколькі ведаў – злавіць Эсмэральду я ня дам рады. Эсмэральда лямантавала й адчайна перабірала ножкамі, але жорсткія нэйлёнавыя петлі трымалі яе за запясьці, зьмей быў заціснуты ў пашчы ветру, і яна ўжо была па-за дасяжнасьцю, нават калі б я й хацеў яе злавіць.

Я бег і бег, саскокваў з выдмаў, каціўся па іх пакатых, павернутых да мора схілах і глядзеў, як зьмей адносіць маленечкую фігурку ўсё далей і далей. Я ледзь чуў яе віск і лямант, тонкае выцьцё разносілася ветрам. Яна плыла над пяском і камянямі ў бок мора, а я бег унізе, падбадзёраны, і глядзеў, як пагойдваецца шпулька пад яе нагамі. Сукенка ўздымалася вакол яе.

Яна ўзьнімалася вышэй і вышэй, а я працягваў бегчы, адстаючы ад ветру й зьмея. Я імчаў цераз пакрытыя рабізной лужыны ля самага мора, забег па калена ў марскую ваду. І ў гэты самы момант нешта, што спачатку здавалася цьвёрдым, а потым разьдзялілася й растварылася ў паветры, аддзялілася ад Эсмеральды. Я было падумаў, што яна памачылася, але тут перада мной зь неба пападалі кветкі, усеяўшы ваду дзіўным дажджом. Я дабрыў да іх па плыткаводзьдзі, сабраў тыя, што змог, затым адарваўся ад свайго ўраджаю і ўскінуў галаву – Эсмэральду й зьмея адносіла ў Паўночнае мора. Мне раптам падумалася, што, калі вецер пратрымаецца, яна цалкам верагодна можа дасягнуць супрацьлеглага берага і ўпасьці ўжо там, але вырашыў, што нават пры такім зыходзе я зрабіў усё, што мог, і ганар быў задаволены.

Я назіраў, як фігурка ўсе памяншалася й памяншалася, потым павярнуўся й рушыў да берага.

Тры сьмерці цягам чатырох гадоў у маёй непасрэднай блізкасьці павінны былі выглядаць падазрона, і я загадзя дасканала спланаваў сваю рэакцыю. Я не пайшоў дадому, а вярнуўся ў выдмы й сеў там, сьціскаючы кветкі. Я сьпяваў самому сабе песьні, распавядаў гісторыі, прагаладаўся, паваляўся крыху ў пяску, уцёр трошкі яго ў вочы ды ўвогуле пастараўся давесьці сябе да жудаснага стану. У пачатку вечара я па-ранейшаму сядзеў там, утаропіўшыся ў мора, калі малады рабочы зь лясьніцтва знайшоў мяне.

Ён быў членам пошукавай каманды, арганізаванай Дыгзам пасьля таго, як бацька ды сваякі не змаглі нас знайсьці і патэлефанавалі ў паліцыю. Хлопец выйшаў з-за грэбня выдмы, пасьвістваючы й абыякава лупячы палкай па камяках трысьнягу й травы.

Я ніяк на яго не адрэагаваў. Працягваў глядзець на мора, дрыжэць ды сьціскаць кветкі. Бацька з Дыгзам прыйшлі пасьля таго, як рабочы перадаў вестку пра мяне па ланцужку людзей, якія прачэсвалі выдмы, але й на гэтых дваіх я не зьвярнуў увагі. Нарэшце вакол мяне сабраліся дзясяткі людзей, яны разглядалі мяне, сыпалі пытаньнямі, чухалі патыліцы, касіліся на гадзіньнік і пільна аглядаліся па баках. Я іх не заўважаў. Яны аднавілі ланцужок і пачалі шукаць Эсмэральду, а мяне аднеслі ў дом. Мне прапанавалі суп – да болю жаданы, але праігнараваны мной – і зноў задавалі пытаньні, на якія я адказваў нямым ступарам і нерухомым позіркам. Мае дзядзька й цётка трэслі мяне, іх твары былі чырвоныя, а вочы вільготныя, але я іх не заўважаў. Нарэшце бацька аднёс мяне ў мой пакой, разьдзеў ды паклаў у ложак.

У маім пакоі ўсю ноч нехта дзяжурыў, і быў гэта бацька, Дыгз ці хто-небудзь яшчэ, я не даваў заснуць ні сабе, ні ім цягам усёй ночы. Некаторы час ціха ляжаў, сымулюючы сон, потым роў на ўсе жылы, падаў з ложка й біўся на падлозе ў сутаргах. Кожны раз мяне падымалі, люлялі на руках і ўкладвалі зноў. Кожны раз я рабіў выгляд, нібыта заснуў, а праз некалькі хвілін імітаваў прыпадак. Калі хтосьці зь іх размаўляў са мной, я ляжаў ды калаціўся ў ложку, утаропіўшыся на іх, маўклівы й глухі.

Так працягвалася да сьвітаньня, калі пошукавая каманда вярнулася без Эсмэральды, тады я дазволіў сабе заснуць.

Мне спатрэбіўся тыдзень, каб прыйсьці ў сябе, і гэта быў лепшы тыдзень у маім жыцьці. Эрык вярнуўся са сваёй школьнай экскурсіі, і, неўзабаве пасьля гэтага, я пачаў крыху размаўляць: спачатку нёс суцэльную бязглузьдзіцу, потым паасобныя намёкі на тое, што здарылася, затым абавязковыя крыкі ды кататонія.

Дзесьці ў сярэдзіне тыдня, пасьля таго як Дыгз адмяніў распараджэньне майго бацькі, паводле якога не дазвалялася нікому, акрамя яго, мяне аглядаць, доктару Макленану дазволілі пагаварыць са мной. Але й тады бацька застаўся ў пакоі, абураны й падазроны, кантралюючы, каб агляд не перайшоў пэўныя рамкі; я быў рады, што доктару не дазволілі мяне распрануць, і ў адказ пачаў пакрысе прыходзіць у сябе.

Напрыканцы тыдня я яшчэ працягваў зрэдку разыгрываць начныя кашмары, сымуляваць раптоўны ступар й дрыготку, але еў я больш-менш нармальна й на большасьць пытаньняў адказваў даволі складна. Размовы аб Эсмэральдзе й яе лёсе па-ранейшаму даводзілі мяне да міні-прыпадкаў, крыкаў ды поўнага сыходу ў сябе, але пасьля доўгіх цярплівых роспытаў я паведаміў бацьку й Дыгзу падрыхтаваную для іх вэрсію: вялікі паветраны зьмей; Эсмеральда заблытваецца ў тросах; я спрабую дапамагчы ёй – і шпулька высьлізгвае з маіх пальцаў; адчайны бег; далей – прабел.

Я расказаў ім пра страх, што мне не дае спакою злы рок, з-за якога я нясу сьмерць і няшчасьце сваякам ды блізкім; казаў, што баюся трапіць у турму, бо людзі ж напэўна падумаюць, што гэта я забіў Эсмэральду. Я плакаў ды абдымаў свайго бацьку й нават абняў Дыгза, зарыўся носам у цьвёрдую цёмна-блакітную тканіну яго мундзіра, і амаль адчуў, як ён падабрэў і паверыў мне. Я папрасіў яго пайсьці ў хлеў, узяць усіх маіх зьмеяў ды спаліць іх. Ён належным чынам зрабіў гэта ў лагчыне, якая цяпер завецца Лагчына Крэмацыі Паветраных Зьмеяў. Мне было шкада зьмеяў, і я разумеў, для большай пераканаўчасьці павінен буду назаўсёды адмовіцца ад гэтай забавы, але яно было варта таго. Эсмэральду так і не знайшлі; я быў апошнім, хто бачыў яе, мяркуючы па тым, што ніводны з запытаў Дыгза на сьвідравыя плятформы, траўлеры й гэтак далей, вынікаў ня даў.

Так я размачыў лік і атрымаў выдатны, хоць і вымотвальны тыдзень вясёлага спэктаклю. Краскі, якія я ўсё яшчэ сьціскаў, калі мяне прынесьлі дадому, вынялі з маіх пальцаў і пакінулі ў поліэтыленавым пакеце на лядоўні. Там я іх і знайшоў праз два тыдні – завялыя й мёртвыя, забытыя й непатрэбныя. Аднойчы ўночы я аднёс іх у паддашкавую сьвятыню, дзе й захоўваю да гэтага часу, – маленькія карычневыя завіткі ў шкляной бутэльцы, засохлыя й перакручаныя, падобныя да старой ізастужкі. Іншы раз я падумваю аб тым, дзе скончыла свой палёт мая кузына: на дне мора, альбо на пустэльным скалістым беразе, куды яе выкінула хвалямі, ці высока ў гарах, зьдзяўбаная арламі ды чайкамі...

Мне даспадобы думка, быццам яна памерла, паланёная гіганцкім зьмеем, аблятаючы вакол зямлі, уздымаючыся вышэй і вышэй, паміраючы ад голаду й абязводжваньня, становячыся ўсё лягчэй, і ў рэшце рэшт ператварылася ў шкілецік, дрэйфуючы ў паветраных струменях плянэты, – гэтакая Лятучая Галяндка. Аднак сумняваюся ў магчымасьці ўвасабленьня гэтай рамантычнай карціны ў рэальнасьці.

Большую частку нядзелі я правёў у ложку. Пасьля гулянкі мінулай ноччу я хацеў супакою, паболей вадкасьці й крыху ежы, каб хутчэй прайшло пахмельле. Я хацеў было тут жа даць сабе зарок ніколі больш не напівацца, але потым вырашыў, што ў маім юным узросьце гэта, мабыць, ня вельмі рэальна, і тады зарокся не напівацца да такой ступені.

Калі я не спусьціўся сьнедаць, прыйшоў бацька й стаў грукатаць у дзьверы майго пакоя.

– Я, мабыць, павінен спытаць, што з табой здарылася?

– Нічога, – прахрыпеў я ў бок дзвярэй.

– Выдатна, – саркастычна сказаў бацька. – І колькі ж собіла табе выпіць учора?

– Трахец.

– Ггы, – сказаў ён.

– Хутка спушчуся, – сказаў я й пачаў гойдацца на ложку, як быццам ужо ўстаю.

– Гэта ты ўчора тэлефанаваў?

– Што? – спытаў я ў дзьвярэй, перастаўшы раскачвацца.

– Дык ты ці не? Я думаў, гэта быў ты – толькі чамусьці спрабаваў сказіць голас. Нашто тэлефанаваць у такі час?

– Эээ... ня памятаю званка, тат, праўда, – асьцярожна адказаў я.

– Ггы. Хлопец, дык ты дурань, – сказаў ён і пашоргаў па лесьвіцы ўніз.

Я ляжаў і думаў. Абсалютна дакладна, я не тэлефанаваў дадому мінулай ноччу. Я быў у пабе разам з Джэймі, потым мы выйшлі зь дзяўчынай на вуліцу, пасьля я рвануў у забег, затым зноў з Джэймі, потым у яго мамы, а дадому я йшоў амаль цьвярозы. Правалаў у памяці не было. Я палічыў, што гэта быў Эрык. Бацька, мусіць, гаварыў зь ім нядоўга, інакш пазнаў бы

голас свайго сына. Я зноў лёг у ложак, спадзеючыся, што Эрык быў на волі й рухаўся ў нашым кірунку, а таксама што мая галава й кішкі перастануць мне нагадваць пра тое, як няўтульна яны сябе адчуваюць.

– Паглядзі на сябе, – сказаў бацька, калі я нарэшце спусьціўся ў халаце глядзець па тэліку стары фільм. – Нябось, ганарысься сабой. Нябось, думаеш, быццам падобныя адчуваньні робяць цябе мужчынам, – бацька пачамкаў губамі й паківаў галавой, пасьля вярнуўся да чытаньня “Саентыфік Амэрыкан”. Я асьцярожна апусьціўся ў адно зь вялікіх мяккіх фатэляў.

– Ладна, тата, я сапраўды трахец перабраў учора, прызнаю. Калі цябе гэта непакоіць, выбачаюся, але запэўніваю цябе – мне самому хранова.

– Ну, спадзяюся, ты атрымаў ўрок. Уяўляеш сабе, колькі нэрвовых клетак ты, верагодна, прыкончыў учора?

– Добрых пару тысяч, – сказаў я пасьля кароткай паўзы для падліку.

– Па меншай меры, – натхнёна заківаў бацька.

– Ну, надалей паспрабую ўстрымлівацца.

– Х-х-х.

– Бррр-ап! – гучна сказала мая какаўка, зьдзівіўшы як мяне, так і бацьку.

Ён адклаў часопіс і пачаў углядацца ў прастору над маёй галавой, мудра усьміхаючыся, а я кашлянуў ды павёў крысом халата, зрабіўшы выгляд, што нічога не здарылася. Тата драпежна павёў носам, яго ноздры задрыжэлі.

– Лагер і віскі, га? – канстатаваў ён, ківаючы, і зноў узяў часопіс.

Я пачырванеў й заскрыгатаў зубамі, радуючыся, што ён схаваўся за глянцавымі старонкамі. І як гэта ў яго выходзіць? Я зрабіў выгляд, быццам нічога не адбылося.

– О. Між іншым, – сказаў я. – Спадзяюся, ты ня супраць, я сказаў Джэймі, што Эрык зьбег.

Бацька зірнуў на мяне паверх часопіса, паківаў галавою ды працягнуў чытаньне.

– Ідыёт, – сказаў ён.

Увечары, пасьля таго, як я хутчэй перакусіў, чым паеў, я падняўся на гарышча й агледзеў выспу ў тэлескоп, пераканаўшыся, што зь ёю нічога не адбылося за час майго адпачынку. Усё выглядала спакойна. Я зьлёгку прагуляўся ў пахмурнай прахалодзе ўздоўж пляжа да паўднёвай ускраіны выспы й зваротна, пасьля сядзеў дома й глядзеў тэлік; неўзабаве хлынуў прынесены ветрам лівень і змрочна зашамацеў за вакном.

Я ўжо лёг спаць, калі зазваніў тэлефон. Хутка выскачыў з ложка, бо сну не было яшчэ ні ў адным воку, ды ірвануў уніз, каб апярэдзіць бацьку. Я ня ведаў, лёг ён ужо ці не.

– Так? – прамовіў я, затаіўшы дыханьне, запіхваючы піжамную кашулю ў штаны.

Характэрныя гудкі, затым цяжкі ўздых на іншым канцы провада:

– Не.

– Што? – насупіўся я.

– Не, – сказаў голас.

– Га? – спытаў я.

Я ўсё яшчэ ня быў упэўнены, Эрык гэта ці не.

– Ты сказаў “так”, я сказаў “не”.

– Што б ты хацеў пачуць?

– Портнэйл, 531.

– Ладна. Портнэйл, 531. Алё?

– Ладна. Пакуль.

Хіхіканьне, адбой. Я асуджальна паглядзеў на слухаўку, паклаў яе на рычаг і нерашуча замёр. Тэлефон зноў зазваніў. Я схапіў слухаўку на сярэдзіне першага званка.

– Так... – пачаў я, але мяне заглушылі гудкі. Перачакаў іх і прамовіў: – Портнэйл, 531.

– Портнэйл, 531, – сказаў Эрык. То бок, я думаў, гэта быў Эрык.

– Так, – сказаў я.

– Што “так”?

– Так, гэта Портнэйл, 531.

– Але я думаў, гэта Портнэйл, 531.

– Гэта тут. А хто гаворыць? Гэта ты...?

– Гэта я. А гэта Портнэйл, 531?

– Так! – закрычаў я.

– А гэта хто?

– Фрэнк Колдхэйм, – стараючыся трымаць сябе ў руках, сказаў я. – Хто гэта?

– Фрэнк Колдхэйм, – адказаў Эрык.

Я паглядзеў уверх і ўніз па лесьвіцы, але бацькі не было.

– Здароў, Эрык, – сказаў я з усьмешкай, паабяцаўшы сабе, што, як бы ні склалася гутарка, ня стану яго злаваць. Лепей пакладу слухаўку, чым ляпну штосьці ня тое, інакш ён як піць даць раскалашмаціць чарговую тэлефонную будку, уласнасьць Пошты.

– Я толькі што сказаў табе – мяне клічуць Фрэнк. Чаму ты завеш мяне Эрык?

– О, не прыкідвайся, Эрык, я пазнаў твой голас.

– Я – Фрэнк. Годзе называць мяне Эрыкам.

– Ладна. Ладна. Буду называць цябе Фрэнк.

– А ты хто?

Я задумаўся на імгненьне.

– Эрык? – нерашуча спытаў я.

– Ты ж толькі што сказаў, што ты Фрэнк.

– Ну, – уздыхнуў я, абапёршыся аб сьцяну адной рукой і гадаючы аб тым, што б сказаць. – Гэта было... Гэта быў жарт. О, Божа, ня ведаю, – я панура ўтаропіўся на тэлефон, чакаючы, пакуль Эрык што-небудзь скажа.

– Ладна, Эрык, – сказаў Эрык. – Што новенькага?

– Ох, ды нічога асаблівага. Учора ўвечары выбіраўся ў паб. Ты тэлефанаваў учора?

– Я? Не.

– Ох. Бацька казаў, хтосьці тэлефанаваў. Я падумаў, гэта мог быць ты.

– З чаго б мне тэлефанаваць?

– Ну, ня ведаю, – я паціснуў плячыма, – з той жа нагоды, зь якой ты тэлефануеш сёньня. Ды зь якой заўгодна.

– Ну, а як па-твойму, чаму я тэлефаную сёньня?

– Паняцьця не маю.

– Госпадзе Ісусе, ты ня ведаеш, чаму я тэлефаную, ня ўпэўнены ва ўласным імені ды ў маім блытаесься. Крыху не ў сабе, га?

– Божа літасьцівы, – сказаў я больш для сябе, чым для Эрыка.

Адчувалася, што гутарка паварочвала кудысьці не туды.

– Ня хочаш спытаць, як я маюся?

– Канешне, канешне, – сказаў я. – Як маесься?

– Жудасна. А ты як?

– Нармуль. А чаму жудасна?

– Хіба табе не напляваць?

– Вядома ж, не. Што здарылася?

– Табе гэта ўсё роўна не цікава. Спытай аб чымсьці іншым, напрыклад, аб надвор'і ці дзе я, – карацей, што-небудзь у гэтым родзе. Я ведаю, табе насраць, як я сябе адчуваю.

– Ды не насраць мне. Ты жа мой брат. Мне не ўсё роўна, – запратэставаў я.

У тую ж сэкунду я пачуў, як адчыніліся дзьверы кухні, сэкундай пазьней ля падножжа лесьвіцы зьявіўся бацька і, узяўшыся за вялікі драўляны шар на вяршыні парэнчаў першага пралёту, стаяў ды ўглядаўся ў мяне. Ён зьлёгку нахіліў галаву да пляча, каб лепш чуць. Я прапусьціў пачатак адказу Эрыка, пачуў толькі:

– ...як я сябе адчуваю. Кожны раз, калі я тэлефаную, адно й тое ж. “Дзе ты цяпер?” Толькі гэта цябе й хвалюе – дзе маё цела. А на галаву напляваць. Ня ведаю нават, навошта я з табой тут час губляю. Праўда, ня ведаю. Мог бы наогул не тэлефанаваць.

– Хм. Ну. Вось, уласна кажучы... – працягнуў я, паглядзеў на бацьку ды ўсьміхнуўся. Той стаяў моўчкі й нерухома.

– Бачыш? Усё, што ты можаш сказаць: “Дзе ты цяпер?” Ахуенны табе дзякуй. Вось і ўвесь твой клопат.

– Ня ўвесь. Зусім наадварот, – сказаў я, потым крыху адсунуў трубку ад рота й закрычаў майму бацьку. – Гэта зноў Джэймі, тат!

– ...чаму я спрабую, ня ведаю, насамрэч... – Эрык балбатаў у слухаўцы, відавочна абыякавы да сказанага мной. Бацька таксама мяне праігнараваў, застаўшыся ў той жа пазыцыі – галава да пляча.

Я аблізаў вусны й сказаў:

– Ну дык вось, Джэймі...

– Што?.. Вось бачыш! Зноў забыўся, як мяне завуць. Ну й які тады сэнс? Вось што цікава! Сэнс які, га? Ён мяне ня любіць. Але вось ты ж любіш, праўда? – Голас яго стаў цішэй і ў той жа час больш глухім, быццам ён казаў ня ў слухаўку, а камусьці, хто быў зь ім у будцы.

– Вядома ж, Джэймі, вядома, – я кіўнуў бацьку, усьміхнуўся й сунуў далонь пад паху, намагаючыся выглядаць максімальна натуральным.

– Ты ж мяне любіш, мой салодкі, праўда? Ажно згараеш ад пачуцьцяў, сэрцайка вунь так і палае... – бубніў зводдаль Эрык.

Я праглынуў ды зноў ўсьміхнуўся бацьку.

– Нічога не папішаш, Джэймі. Гэтак я й таце сёньня раніцай сказаў; а вось, дарэчы, і ён.

Я махнуў бацьку.

– Сэрцайка так і згарае ад любові да мяне, га, малыш?

Маё сэрца й страўнік, здавалася, сутыкнуліся, калі скрозь мармытаньне Эрыка данеслася нечае частае пыхканьне. Я чуў ціхае скуголеньне й прыцмокваньне ды памалу пакрываўся гусінай скурай. Мяне калаціла. У галаве паплыло, як пасьля добрага глытка самага моцнага віскі. Пыхканьне – скуголеньне, пыхканьне – скуголеньне... Эрык працягваў бубніць нейкія словы суцяшэньня. Божа ты мой, ды зь ім там сабака! Ох, толькі ня гэта.

– Ды ладна табе! Слухай! Слухай, Джэймі! Што скажаш? – усклікнуў я ў адчаі. Цікава, мільганула ў мяне ў галаве, ці бачыць бацька знізу маю гусіную скуру. І вылупленыя вочы. Але тут ужо я нічога ня мог зрабіць, трэ было ліхаманкава цяміць, як адцягнуць увагу Эрыка. – Я проста... проста я думаў, што трэба... трэ было б яшчэ разок напружыць Вілі зь яго калымагай; ну ты ведаеш, тая “Міні”, на якой ён часам гойсае ўверх ды ўніз па пясках? Здорава тады расьсякалі ў выдмах, памятаеш? – я пачаў сычэць, у горле перасохла.

– Што? Пра што гэта ты? – раптоўна прагрымеў голас Эрыка, цяпер ён зноў казаў у трубку.

Я зглынуў ды зноўку ўсьміхнуўся бацьку – вочы яго нібыта зьлёгку звузіліся.

– Ды ну, Джэймі, памятаеш жа? Клёвая ў Вілі “Міні”! Варта было б угаварыць бацьку, пакуль ён тут, – (гэтыя словы я прашыпеў), – каб купіў якую-небудзь старую калымагу, я б ганяў ў пясках.

– Ды што за хуйня. Ніколі я не вадзіў ніякай машыны ў пясках. Ты зноў забыўся, хто я, – сказаў Эрык, да якога ніяк не даходзіла.

Я адвярнуўся ад бацькі, утаропіўся ў кут і, цяжка ўздыхнуўшы, шапнуў убок ад слухаўкі: “Божа ты мой!”

– Так, так, правільна, Джэймі, – безнадзейна працягваў я. – Браце мой усё яшчэ ва ўцёках, – мабыць, сюды накіроўваецца. Мы тут з татам спадзяемся, што ўсё ў яго ў парадку.

– Ты дробны вырадак! Гаворыш так, нібыта мяне тут няма. Божа, як я гэта ненавіджу! Ты ж са мной так не паступіш, га, мая старая любоў?

Яго голас зноў аддаліўся, і да мяне данеслася сабачае цяўканьне – нават, хутчэй, шчанячае. Мяне праняў пот.

Унізе пачуліся крокі, шчоўкнуў кухонны выключальнік. Зноў крокі, цяпер па лесьвіцы. Я хутка павярнуўся, усьміхнуўшыся бацьку.

– Джэймі, зноў ты за сваё! – усклікнуў я ў сэрцах і вычарпаўся мэтафарычна, з горлам, перасохлым літаральна.

– Паменш бы на тэлефоне вісеў, – кінуў на хаду бацька й працягнуў падымацца па лесьвіцы.

– Добра, тата, – весела закрычаў я, пачынаючы адчуваць боль у раёне мачавога пухіра, яна заўсёды зьяўляецца ў мяне, калі сытуацыя становіцца асабліва паганай і выйсьця не знайсьці.

– Аааууу!

Я адсунуў трубку ад вуха й зьдзіўлена ўтаропіў вочы на яе. Я ня мог зразумець, Эрык ці сабака выдаў гэты енк.

– Алё? Алё? – ліхаманкава зашаптаў я, глянуўшы ўверх і ўбачыўшы, як цень майго бацькі споўз са сьцяны паверхам вышэй.

– Хааааоовввааааоооовв! – пачуўся крык са слухаўкі. Я задрыжаў ды скалануўся. Божа ты мой, што ён там вычварае з жывёлінай? Потым пачуў пстрычку й крык, быццам бы праклён, і зноў грукат слухаўкі аб сьцяну.

– Дробны пашавэлак! Ух! Блядзь! Чорт! Вярніся, ты нікчэмны...

– Алё! Эрык! У сэнсе Фрэнк! У сэнсе... Алё! Што здарылася? – сыкнуў я, зірнуўшы ўверх, прысеўшы на кукішкі ля тэлефона й прыкрываючы рот вольнай рукой. – Алё?

Бразгатаньне, выкрык у самую слухаўку: «Гэта ўсё ты вінаваты!» – затым грукат. Я чуў невыразныя гукі, але як я ні напружваў слых – так і не разабраў, што гэта было; мо проста перашкоды сувязі. Я разважаў, ці не пакласьці слухаўку, ды ўжо амаль гэта зрабіў, калі зноў пачуў голас Эрыка, ён штосьці мармытаў, але я не мог нічога разабраць.

– Алё? Што? – спытаў я.

– Ты яшчэ тут? Дробны вырадак уцёк. Усе праз цябе. Ісусе, ды якая ад цябе карысьць?

– Прабач, – шчыра сказаў я.

– Занадта позна. Ён укусіў мяне, бля. Але я яго злаўлю. Вырадак, – загучалі гудкі. Я пачуў, як ён кінуў яшчэ манету. – А ты, напэўна, і рады, га?

– Чаму рады?

– Таму, што чортава псіна ўцякла, прыдурак.

– Што? Я? – запнуўся я.

– Ня хочаш жа ты сказаць, што шкадуеш, што яна ўцякла, га?

– Ох...

– Ты наўмысна гэта зрабіў! – залямантаваў Эрык. – Наўмысна! Ты хацеў, каб ён зьбег! Табе шкада, калі я зь ім пагуляю? Няхай лепш сабака будзе шчаслівы сам з сабой, а не са мной! Гаўнюк! Мудзіла паршывы!

– Ха-ха, – няўпэўнена зарагатаў я. – Дзяк за званок... э... Фрэнк. Пакуль, – я кінуў трубку й сэкунду пастаяў, віншуючы сябе з тым, як добра я выкруціўся, улічваючы ўсе акалічнасьці. Я выцер трохі спатнелы лоб і глянуў уверх напрыканцы, ценяў на сьцяне не было.

Я пахітаў галавой і павалокся ўверх па лесьвіцы. Дайшоў да верхняй прыступкі, і тут зноўку зазваніў тэлефон. Я скамянеў.

Калі я адкажу... Але калі не адкажу, тады бацька...

Я зьбег уніз, падняў слухаўку, пачуў звон падаючых манет, потым: “Мудзіла!”, некалькі аглушальных удараў плястыка аб мэтал і шкло. Я заплюшчыў вочы й слухаў гром удараў, пакуль адзін асабліва гучны ня скончыўся нізкім гудзеньнем, якое звычайна не выдаюць тэлефоны. Я зноў паклаў слухаўку, павярнуўся, паглядзеў уверх і стомлена паклыпаў у свой пакой.

Я ляжу ў ложку. Хутка мне прыйдзецца разабрацца з праблемай. Гэта адзінае выйсьце. Я павінен паўплываць на сытуацыю непасрэдна праз першапрычыну ўсяго – Старога Сола. Патрабуецца моцнадзейсны сродак, пакуль Эрык асабіста не разьнёс усю Шатляндзкую тэлефонную сетку ды не разрэдзіў папуляцыю сабак. Зрэшты, спачатку трэ будзе параіцца з Фабрыкай.

Па сутнасьці, маёй віны тут няма, але я ўцягнуты ў гэтую справу цалкам, у маіх сілах усё выправіць з дапамогай Фабрыкі, чэрапа старога сабакі, ну й, вядома, удачы. Наколькі мой брат будзе ўспрымальны да любых флюідаў, якія я пашлю, – гэта вялікае пытаньне, аб якім я намагаўся ня думаць, улічваючы стан яго мазгоў, але я павінен быў нешта зрабіць.

Спадзяюся, шчанё ўсё-ткі змагло ўцячы далёка. Халера ясная, я ж не вінавачу ўсіх сабак у тым, што здарылася. Стары Сол быў бандзюга, Стары Сол увайшоў у сямейную гісторыю й

маю ўласную міталёгію як Кастратар, але, дзякуючы маленькім грызунам, што пераляталі цераз заліў, цяпер ён быў пад маёй уладай.

Эрык – сапраўдны вар'ят, нягледзячы на тое, што ён мне й брат. Яму пашанцавала, у яго ёсьць хтосьці нармальны, хто яго любіць.

**6: Зямля Чэрапа**

Калі Агнэс Колдхэйм, на восьмым з паловай месяцы цяжарнасьці, прыехала на сваім “BSA-500” з загнутым назад рулём і чырвоным вокам Саўрона на бэнзабаку, бацька, па зразумелых прычынах, ад шчасьця ледзь не ашалеў. Яна сышла ад яго амаль адразу пасьля майго нараджэньня, пакінуўшы зь немаўлём, які нястрымна вішчаў, у яго на руках. Зьнікнуць на тры гады, без тэлефоннага званка ці паштоўкі, а потым уварвацца праз мост, ледзь не чапляючыся гумовымі ручкамі за стойкі апоры, зь нечым дзіцём ці дзецьмі й чакаць, што бацька прытуліць, накорміць, абагрэе й прыме роды, было даволі саманадзейна.

Мне тады было тры гады, і я амаль нічога ня памятаю. На самай справе я нічога й ня памятаю – гэтаксама як і ні аб чым іншым да трохгадовага ўзросту. Але ў мяне на гэта ёсьць свае слушныя падставы. З урыўкаў, якія я змог сабраць, калі бацька вырашаў падзяліцца інфармацыяй, я аднавіў, як мне здаецца, больш-менш пераканаўчую карціну здарэньня. Калі-нікалі місіс Клэмп таксама дадавала сякія-такія дэталі, хаця, напэўна, верыць ёй можна ня больш, чым аповедам бацькі.

Эрыка тады не было, ён жыў у Бэлфасьце ў Стоўваў.

Агнэс, загарэлая, вялізная, уся ў каралях і яркім каптане, поўная рашучасьці нарадзіць у паставе лотаса (у якой, сцвярджала яна, і было засьнітана немаўля), мармычучы “Ом”, адмовілася адказваць на пытаньні майго бацькі пра тое, дзе яна была тры гады і з кім. Яна параіла яму ня быць уласьнікам у дачыненьні да яе й ейнага цела. Яна адчувае сябе добра й цяжарная; вось і ўсё, што яму трэба ведаць.

Нягледзячы на пратэсты бацькі, Агнэс разьмясьцілася ў іх былой спальні. Магчыма, у глыбіні душы ён быў рады, што яна вярнулася, і нават песьціў вар'яцкую надзею, што яна застанецца, – не магу сказаць. Ня ўпэўнены, што ён на самой справе такая ўжо моцная асоба, хоць і напускае на сябе змрочную задуменнасьць, калі хоча зрабіць уражаньне. Падазраю, рашучага характару маёй маці аказалася дастаткова, каб падпарадкаваць яго. У любым выпадку, яна свайго дамаглася й правяла два тыдні ў пяшчоце й раскошы – тым безразважным летам любові, міру й да таго падобнага.

У майго бацькі тады было ўсё ў парадку з абедзьвюма нагамі, і ён задзейнічаў іх па поўнай праграме, снуючы ўверх і ўніз з кухні ці залі ў спальню й зваротна, калі Агнэс зьвінела званочкамі, прымацаванымі да расклёшанай калашыны джынсаў, перакінутых цераз сьпінку фатэля каля ложка. У дадатак бацька павінен быў даглядаць мяне.

Я ўсюды саваў свой нос і гарэзаваў, як кожнае нармальнае, здаровае трохгадовае хлапчанё. Як я ўжо сказаў, сам нічога ня памятаю, але, кажуць, я любіў дражніць Старога Сола – старога нязграбнага белага бульдога, якога бацька нібыта таму й трымаў, што той быў такі брыдкі ды не любіў жанчын. Матацыклаў ён таксама не любіў і, калі прыехала Агнэс, разьюшыўся не на жарт – рыкаў ды накідваўся. Агнэс адфутболіла сабаку так, што ён праляцеў праз увесь сад, скуголячы, уцёк у выдмы й не зьяўляўся, пакуль яна не затрымалася ў спальні ўсур'ёз і надоўга. Місіс Клэмп сьцьвярджае, быццам бацька павінен быў усыпіць сабаку за некалькі гадоў да таго, што здарылася, але я думаю, што сьлінявы, жаўтавокі, падслепаваты, прапахлы рыбай стары сабака быў сымпатычны бацьку менавіта сваёй пачварнасьцю.

Агнэс пачала нараджаць апоўдні, у гарачы, нерухомы дзень, пацеючы й мармычучы “Омм”, бацька кіпяціў ваду ды розныя патрэбныя рэчы, Місіс Клэмп выцірала лоб Агнэс і, напэўна, распавядала аб усіх знаёмых жанчынах, якія памерлі падчас родаў. Я гуляў на падворку, бегаў у шортах і – мяркую – быў толькі рады яе цяжарнасьці, паколькі атрымаў свабоду рабіць што душы заўгодна ў садзе ды ў доме, вызваліўшыся ад нагляду бацькі.

Чым я так раззлаваў Старога Сола – ці ён ад сьпякоты так здурнеў, ці мо Агнэс у дзень прыезду сапраўды пхнула яго ў галаву, як сьцьвярджае місіс Клэмп, – паняцьця ня маю. Але такое спрытнае, ускудлачанае, мурзатае, жвавае дзіця, як я, суцэль магло зрабіць якое-небудзь свавольле з сабакам.

Здарылася гэта ў садзе, на ўчастку, дзе пазьней бацька пасадзіў гародніну, калі захапіўся здаровай ежай. Мама на ўсю моц пыхкала й пялася – дзесьці за гадзіну да зьяўленьня немаўля, – тата й місіс Клэмп былі пры ёй, калі ўсе трое (ці прынамсі двое: Агнэс, напэўна, было не да таго) пачулі з саду шалёны брэх і доўгі пранізьлівы енк.

Бацька кінуўся да вакна, выглянуў у сад і з крыкам выскачыў з пакоя, пакінуўшы Місіс Клэмп з вытарашчанымі вачыма.

Ён выбег у сад і падхапіў мяне на рукі. Кінуўся ў дом, крыкнуў Місіс Клэмп, паклаў мяне на кухонны стол і паспрабаваў спыніць крывяцёк ручнікамі. Місіс Клэмп, нічога не разумеючы й абураючыся, прынесла лекі, запатрабаваныя бацькам, пасьля чаго амаль страціла прытомнасьць, убачыўшы месіва паміж маіх ног. Бацька ўзяў у яе аптэчку й загадаў вярнуцца наверх да маёй маці.

Я прыйшоў у прытомнасьць праз гадзіну, лежачы ў ложку, напампаваны лекамі, зьнясілены стратай крыві, а бацька пайшоў са стрэльбай, якая ў яго тады яшчэ была, шукаць Старога Сола.

Знайшоў ён яго праз пару хвілін, нават не выходзячы з хаты. Стары сабака хаваўся ля дзьвярэй падвалу, у прахалоднай цені пад лесьвіцай. Сол скуголіў ды дрыжэў, мая маладая кроў на яго сьлінявых сьмярдзючых сківіцах зьмешвалася з жоўтай сьлізьзю з куткоў вачэй, ён зароў і, дрыжучы ды молячы, паглядзеў уверх на майго бацьку, які выцягнуў яго з хованкі й задушыў.

У рэшце рэшт мне ўдалося выцягнуць з бацькі гэтую гісторыю – і, паводле ягоных словаў, у той самы момант, калі Стары Сол выдаў апошні ўздых, пачуўся іншы крык, на гэты раз зьверху, з дома, – нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Полам. Якая вычварная думка наведала бацьку, што ён абраў для дзіцяці такое імя, я нават не бяруся ўявіць, але менавіта яго Энгус абраў для свайго новага сына. Ён мусіў выбіраць яго самастойна, паколькі Агнэс надоўга ў нас не затрымалася. Два дні яна ачуньвала, выказала шок і жах з нагоды таго, што здарылася са мной, потым засядлала матацыкл ды рванула прэч. Бацька спрабаваў спыніць яе, устаўшы на шляху матацыкла, але яна зьбіла яго на пад'езьдзе да моста, кепскім чынам зламаўшы яму нагу.

Так і атрымалася, што місіс Клэмп прыйшлося выходжваць бацьку, у той час як ён спрабаваў выходжваць мяне. Ён упарта не дазваляў місіс Клэмп выклікаць якіх бы то ні было дактароў ды сам загіпсаваў сабе нагу – зусім не ідэальна, адсюль і кульгавасьць. На наступны дзень пасьля мамінага ад'езду місіс Клэмп была вымушана аддаць нованароджанага ў бліжэйшы мясцовы шпіталь. Бацька спрабаваў пярэчыць, але місіс Клэмп слушна заявіла, што ёй досыць валтузьні й з двума інвалідамі ў хаце – не хапала яшчэ немаўля, якому неабходны пастаянны догляд.

Гэта быў апошні візіт маёй маці, больш яна ні разу не зьяўлялася ані ў доме, ані на высьпе. Вынікі візыту: адна сьмерць, адно нараджэньне, двое на ўсё жыцьцё калекі (у тым ці іншым сэньсе). Няблага для двух тыдняў у клёвае лета ачмуральнай псыхадэлічнай любові, міру ды ўсеагульнай дабрадзейнасьці.

Старога Сола закапалі на адхоне за домам, пазьней я назваў тое месца Зямлёй Чэрапа. Бацька сьцьвярджае, быццам ён успароў бруха сабаку й знайшоў мае маленечкія геніталіі ў страўніку, але так і не прызнаўся, што зь імі зрабіў.

Пол, зразумела, быў Солам. Такі вораг быў – павінен быў быць – досыць вёрткім для пасьпяховага перасяленьня ў хлопчыка. Вось чаму бацька выбраў гэтае імя для майго малодшага брата. Мне проста пашанцавала своечасова заўважыць і выправіць яго ў юным узросьце, а не тое Бог ведае, кім бы стала дзіця, апантанае душой Старога Сола. Аднак удача, бура ды я ў суме далі Бомбу, і яго песенька была сьпета.

Што тычыцца жывёлін – пясчанак, белых мышэй і хамякоў, – яны павінны былі памерці сваёй бруднай сьмерцю, каб я змог дастаць чэрап Старога Сола. Я страляў грызунамі цераз заліў у прыбярэжны глей для таго, каб можна было арганізаваць пахаваньне. Інакш бацька ніколі б не дазволіў мне перакапаць нашыя магілкі хатніх жывёл – вось і прыйшлося грызунам памерці ў блазенскіх касьцюмах з паловы валана для бадмінтону. Я купляў валаны ў спартыўнай краме й адразаў ад іх гумовы наканечнік, потым уціскваў абураную марскую сьвінку (я выкарыстаў адну дзеля прынцыпу, але як правіла яны былі занадта вялікія й дарагія) у плястыкавую варонку, пакуль яна не сядзела вакол стана зьвера, як сукенка. Падрыхтаваўшы грызуноў да палёту, я страляў імі над бруднай вадой на дальні бераг, дзе яны й знаходзілі сваю задушлівую сьмерць; потым я іх хаваў, выкарыстоўваючы ў якасьці трунаў вялікія запалкавыя скрынкі, якія мы заўсёды трымалі ля газавай пліты і якія я шмат гадоў зьбіраў, захоўваючы ў іх цацачных салдацікаў, будуючы зь іх мадэлі дамоў й гэтак далей.

Я сказаў бацьку, што спрабую перакінуць грызуноў на Вялікую Зямлю, а тыя, якіх я хаваў, тыя, якія не даляцелі, – гэта ахвяры навуковага экспэрымэнту. Хаця можна было, мабыць, абысьціся й без апраўданьня: бацька ніколі ня быў занепакоены пакутамі ніжэйшых формаў жыцьця, нягледзячы на сваё хіпоўскае мінулае, мабыць, дзякуючы сваёй мэдычнай адукацыі.

Канешне ж, я вёў улік, так што ў мяне зафіксавана: спатрэбілася 37 іспытных палётаў, перш чым мая верная рыдлёўка з доўгай ручкай, угрызаючыся ў скуру Зямлі Чэрапа, натыркнулася на нешта больш цьвёрдае за пясчаную глебу, і я нарэшце даведаўся, дзе ляжалі косьці сабакі.

Было б цудоўна, калі б я выкапаў чэрап роўна праз дзесяць гадоў пасьля сьмерці сабакі, але насамрэч гэта адбылося на некалькі месяцаў пазьней. Тым ня менш, Год Чэрапа скончыўся тым, што стары вораг апынуўся ў маіх руках; касьцяны гаршэчак быў вырваны зь зямлі, нібы вельмі гнілы зуб, у адну адпаведную цёмную ноч пры сьвятле ліхтарыка ў прысутнасьці рыдлёўкі Моцны Ўдар, пакуль бацька спаў, як належыла й мне, і нябёсы ўздрыгвалі ад грому, ветру й дажджу.

Калі я прынёс чэрап у бункер, я дрыжэў, запалохаўшы сябе да паўсьмерці параноідальнымі фантазіямі, але я здолеў; прынёс туды брудны чэрап, ачысьціў яго ды ўставіў у яго сьвечку, атачыў моцнай магіяй, важнымі рэчамі, а потым, азяблы й прамоклы, шчасна вярнуўся ў сваю цёплую пасьцелю.

Так што, з улікам усіх абставінаў, справіўся я, мабыць, нядрэнна, вырашыў сваю праблему ў той ступені, у якой яе ўвогуле можна было вырашыць. Вораг мой памёр двойчы – і ўсё роўна знаходзіцца ў маёй уладзе. Я не мужчына, і нішто ня можа гэтага зьмяніць; але я – гэта я, што можна лічыць суцэль вартай кампэнсацыяй.

А падпальваць сабак – поўнае трызьненьне.

***Пераклаў з ангельскае мовы Віталь Латыш.***
***Паводле выданьня THE WASP FACTORY***
***Iain Banks, Abacus, 1987, ISBN 0349102145***